УДК 821.161.3-3
ББК 84(4Беи)
Д64

**Доля, З.**

Д64 Акно ў замежжа : кніга прозы / Зоя Доля. — Мінск : Кнігазбор, 2015. — 276 с.

ISBN 978-985-7144-15-0.

Дэбютная кніга Зоі Долі распавядае пра жыццё сучасных беларусаў. Аўтарка ўмее знаходзіць незвычайнае ў звычайным і стварае мноства яскравых вобразаў.

**УДК 821.161.3-3**
**ББК 84(4Беи)**

**ISBN 978-985-7144-15-0**



# ВЕРА

1

Яе звалі Вера. Ёй было крыху за трыццаць. Яна нарадзілася і вырасла ў Мінску. Той рэліктавы, рэдкі тып карэннай мінчанкі, бацькі і дзяды каторай заўсёды жылі ў Мінску, у старым Мінску, ад якога амаль не засталося следу. Падчас Другой сусветнай вайны Мінск быў бязлітасна разбураны. Сярод руінаў, бітай цэглы, заваленых друзам вуліц узвышаліся рэдкія ацалелыя будынкі. У горадзе, на аскепках былога даваеннага жыцця, заставалася некалькі дзясяткаў тысяч ацалелых жыхароў. Мінула крыху больш за паўстагоддзя, і горад ператварыўся ў двухмільённую новазбудаваную сталіцу. Мінск — горад «панаехаўшых». Сталіца ўсмоктвала ў сябе правінцыю, жывілася ёй, перарабляла, перакручвала на свой капыл. Сям'я Веры тым часам пражывала ціхае жыццё карэнных мінчанаў, згубленых сярод напорыстых «панаехаўшых» і іх нашчадкаў, падпарадкоўваючыся лёсу і абставінам, перажываючы разам з горадам усё, што выпала на яго долю як цяпер, так і ў былыя часы.

— А ты ведаеш… мая родная бабка загінула ў засценках КДБ, а можа, у лагеры ў Сібіры… Ёй далі дзесяць гадоў без права перапіскі. Уляпілі па поўнай праграме, — нечакана сказала Вера.

Дзве маладыя жанчыны сядзелі на адкрытай тэрасе кафэ з відам на Нямігу. Адна з іх — Вера, другую звалі Ліда. Яны не былі блізкімі сяброўкамі, хутчэй прыяцелькамі. Зрэдку сустракаліся пабалбатаць. Непадалёку ад тэрасы доўгая лесвіца з вуліцы Багдановіча падымалася на гару. Уверх і ўніз па лесвіцы няспынна ішлі людзі. На другі бок вуліцы, запруджанай машынамі і аўтобусамі, віднелася царква, невялікая, з высокімі вузкімі стрэльчатымі вокнамі і купаламі, нібыта згубленая ў часе сярод гаму і тлуму сучаснага горада.

Прыяцелькі елі марожанае са шкляных, на высокіх ножках крэманак. Яны толькі што адабедалі за бутэлькай віна, падчас абеду вялі свецкія размовы пра новыя тэндэнцыі сусветнай моды: тканіны і сілуэты, колеры і аксесуары, выбітныя калекцыі адзення на еўрапейскіх подыумах. Абедзве былі мадэльерамі паводле адукацыі.

Вера задуменна патупіла позірк у шкляную крэманку. Рудыя стрыжаныя хвалістыя валасы, закладзеныя за вушы, адкрывалі твар з прыемным мяккім авалам. Доўгая грыўка, зачасаная над ілбом на правы бок, была прышпілена да валасоў заколкай, аздобленай дробнымі каменьчыкамі празрыстага шклярусу. Вера паматляла металічнай лыжачкай над марожаным і кінжалам уторкнула яе ў белую халодную масу.

— Дзесяць гадоў без права перапіскі, — глуха паўтарыла яна сказанае.

Прыяцелька паёжылася. Яна была шакавана. Чужая таямніца навалілася на яе і бянтэжыла. Так нечакана, здаецца, ні з таго ні з сяго.

— Навошта ты мне пра гэта гаворыш? Я б ніколі нічога падобнага не магла падумаць. Ты б не сказала, я б і не ведала.

— А я хачу расказаць. Мне трэба з кімсьці падзяліцца. Я ведаю, што ўсё застанецца між намі, ты нікому не скажаш, — упэўнена сказала Вера і, холадна зачапіўшы позіркам лыжку ў марозіве, выдыхнула, — А калі на тое пайшло, то мне наогул пляваць. Я ўсё адно з’язджаю ў Канаду.

— Вера, я ў шоку! Столькі навін запар! — Ліда разгублена глядзела на прыяцельку.

— Вось так атрымалася, дарагая мая. Я не хвалілася пра Канаду, бо і сама была не ўпэўнена — спраўдзіцца ці не. Мы выйгралі грынкарту, так што з’язджаем усёй сям’ёй: я, муж і дачка.

— Ды пачакай ты з Канадай. Давай па парадку. Раз пачала пра бабку сваю, то расказвай. Як гэта магло здарыцца?

Вера хмыкнула, без злосці, толькі з нейкай неадольнай тугой.

— Як магло здарыцца?… А вельмі проста. Прыехалі ноччу і забралі… Яна мадысткай была. Бадай як мы з табой, толькі без дыплома. Мадысткай, разумееш? Гучыць, праўда?… Так раней

швачак называлі, каторыя файна шылі. Бабуля мая абшывала жонак вышэйшага афіцэрскага складу… Яе выклікалі ў КДБ і прапанавалі пісаць даносы на афіцэраў і іхніх жонак.

— А яна?

Ліда, не міргаючы, неадрыўна глядзела на Веру.

— А яна адмовілася… Працяг ты ведаеш… А маладая ж зусім была, прыблізна майго ўзросту, — Вера пакратала лыжкай абмяклае марожанае, зірнула на другі бок вуліцы на царкву і перарывіста ўздыхнула. — А я б хацела мець бабулю, каб яна са мной забаўлялася, у парк вадзіла, на каруселі… Не прыйшлося… Яе больш ніхто ніколі не бачыў. Дзед напісаў пакаяннае пісьмо, што нічога супольнага з ёй мець не хоча… Каб дзяцей уратаваць. Трое было: мая маці і яшчэ дзве старэйшыя сястры. Самай большай — сем гадоў, а маёй маці — усяго год. Дзед баяўся — калі яго забяруць, што з імі будзе? Раскідаюць па дзетдамах.

— Я не ведаю, што табе і сказаць.

— А што тут гаварыць?.. Ладна, праехалі. Але, між іншым, цяпер у нас галоснасць, можна пра ўсё разважаць. Рэабілітацыі арганізоўваць.

Толькі каму ад іх цёпла?… Ты ўяві, мне ж самой пра бабку сказалі зусім нядаўна… Цётка прызналася. Гэта была таямніца за сям'ю пячацямі. Усе маўчалі. У сям'і пра гэта ніколі не ўзгадвалі. Прыдумалі казку, маўляў, пайшла з дому і не вярнулася, прапала без вестак… А я верыла ў тую казку.. і не толькі… да ўсяго шчырай камсамолкай была, верыла ў савецкі строй, самы справядлівы на свеце.

На двары быў канец дзевяностых. Шмат змянілася. Мінулае, развенчанае і аголенае, бязлітасна паўставала перад людзьмі з тэлевізійных эфіраў, газетных старонак, а для кагосьці з прызнанняў сваякоў, паўставала ў іншым святле, непрывабнае і жорсткае. Пра тое, пра што раней бацькі баяліся і рот раскрыць, дзеці цяпер смела разважалі.

— Усе мы ў нешта верылі… — філасофскі заўважыла Ліда і ўспомніла сябе камсамолкай: белая блузка, а на грудзях — камсамольскі значок з выявай Ільіча, правадыра савецкага народа.

— Мы верылі, а насамрэч вунь што адбывалася.

— Лес сякуць — шчэпкі ляцяць… — расхожая фраза са старога савецкага фільма неяк сама сабой вылецела з Лідзіных вуснаў. Ліда абапёрлася локцямі аб стол і, прымружыўшы вочы, ацэньваючы глянула на горад, на Нямігу. — У нас на Беларусі насеклі дык насеклі… Прайшліся па краіне войнамі чужыя салдаты… і свае дамарошчаныя будаўнікі камунізму, рэвалюцыянеры з атэістамі рукі прыклалі. Ты паглядзі, што з горадам зрабілі: ўсё ўшчэнт размалацілі. Ад старога горада амаль нічога не засталося. Я гляджу на цэркаўку і дзіўлюся, як яна ацалела?

— І я таксама… Яна мяне чапляе, здаецца самотнай, заціснутай сярод сучасных пабудоў, — журботна і ціха прамаўляла словы Вера.

У пачатку дваццатага стагоддзя Мінск выглядаў зусім па-іншаму. На месцы сучасных высотных гмахаў стаялі ўтульныя будынкі старадаўняй архітэктуры. Было больш за сотню культавых пабудоў: цэрквы, касцёлы, сінагогі, мячэці. З успамінаў нямецкага афіцэра падчас Першай сусветнай вайны: «1917 год… Мы спыніліся ў полі. Наперадзе віднеўся вялікі горад, увесь усыпаны купаламі цэркваў, што пераліваліся і зіхацелі ў промнях узыходзячага сонца. Горад ціхі і спакойны ў ранішні час. Гэта быў Мінск». Няма таго, што раньш было.

— А бабка з дзедам твае дзе жылі? — падбадзёрваючым тонам запытала Вера.

— У іх быў свой дом недзе паблізу Камароўкі. Ад прадзеда застаўся. Мае продкі заўсёды жылі ў Мінску… А я цяпер нават і не ведаю, у якім месцы стаяў іх дом… Уяўляеш? Жыву побач і не ведаю… ні знаку не засталося, ні ўспаміну.

Вочы Веры сталі вільготнымі.

— Паслухай, хопіць табе кіснуць. Мінулае усё адно не зменіш, а жыццё працягваецца.

— Так, жыццё працягваецца, — ва ўнісон журботна прамовіла Вера.

Лідзе было няўтульна ад Верыных прызнанняў. Чужая таямніца. Што цяпер з ёй рабіць? «Буду маўчаць, не мая гэта справа», — падумала Ліда.

Яна зірнула на жоўты асляпляльны круг сонца, паморшчылася ад сыпануўшага ў вочы святла. Самы разгар чэрвеня. Горад напаляўся спёкай, усмоктваў у сябе гарачыню дня. Праязджаўшыя аўтобусы лавілі ў расчыненыя форткі струмені свежага паветра. Душна. Гарадскія дрэвы змарнелі, стаміліся ад спёкі. Пабляклае пад вулічным копатным пылам лісце пакорліва чакала дажджу.

— І наогул, калі хочаш ведаць… шчырасць за шчырасць… калі хочаш ведаць, я таксама атрымала порцыю г… на дарагой радзіме, — са стрыманай гаркотай сказала Ліда.

Ліда менавіта так і прамовіла — «порцыю г…». Вымавіць поўнасцю гэта слова не выпадала. Ну як жа? Яны амаль свецкія мінскія дамы. Замежнае віно, кафэ, марожанае. І потым, адукацыя абавязвала. Вывучалі гісторыю выяўленчага мастацтва, жывапіс, графіку, вытанчаныя стылі барока, ракако, готыку… Перадавы атрад інтэлігенцыі. Некранутае марожанае раставала ў крэманках, аплываючы з круглых рыхлых марозных круглякоў. Ліда дакранулася рукой да слізкага шкла крэманкі, пальцы працяў вільготны холад. Прамым паглядам яна зазірнула Веры ў вочы і прадоўжыла:

— Ты думаеш, мне лёгка было, калі я ў пятнаццаць гадоў з вёскі прыехала вучыцца ў Мінск, а тут усё — па-руску?.. Яны раскалолі мой свет на «да» і «пасля». Я жыла сабе ў вёсцы, вучылася на беларускай мове, усё навокал было беларускае, а потым паехала ў Мінск… заўваж, я не ў Канаду паехала, а ў родную сталіцу… і на табе — я не магу быць сама сабой, я не магу вучыцца на беларускай мове… І цяпер у мяне два сусветы: адзін з мамай у вёсцы — беларускі, а другі з табой вось тут з марожаным ў кафэ — мінска-рускі…. І хто гэта прыдумаў, што ў Мінску павінна ўсё быць па-руску? Напэўна тыя, хто тваю бабку ў турму адправілі. У іх наогул было шмат «геніяльных» ідэй.

Вера з непадробным здзіўленнем сапраўднай гараджанкі, якая бачыла вёску выключна па тэлевізары, утаропілася на Ліду. Яна нічога не ведала пра вясковых жыхароў, пра іх жаданні, памкненні і цяжкасці. Тое, што яна чула ад Ліды, было для яе адкрыццём іншага сусвету.

— Мне ніколі не прыходзіла ў галаву, што табе было ў Мінску дрэнна… М-м-м… у сэнсе, тады, калі ты прыехала з вёскі. Я не падазравала аб гэтым нават… я не ведала.

— Цяпер будзеш ведаць, — жарсткавата падвяла рысу Ліда.

— Мне здавалася, што для вас, вясковых, жыць у Мінску проста, што няма ніякіх праблем… Узяць хоць бы нашых сакурсніц з вёскі… успомні, дарэчы, Таньку Кунцэвіч і Олю Пятроўскую, яны заўсёды выглядалі баявымі, вясёлымі.

— А што ж нам — плакаць? Можа хто пашкадуе?.. Раз прыехалі ў Мінск — кулдайцеся як хочаце… За пару гадоў дасканала вывучылі рускую мову і размаўляем з вамі, гараджанамі, каб вам зручна было… Узяўся за гуж, не кажы, што не дуж, — упляла ў маналог беларускую прымаўку Ліда і, сочачы за Верай, іранічна выбачылася. — Ты прабач, што я па-вясковаму выражаюся.

Вера няёмка замільгала вейкамі і ніякавата ўсміхнулася ў адказ на выказванні пра нейкі незразумелы вясковы «гуж». Перад ёй сядзела Ліда, упэўненая і нават самаўпэўненая, прыхільніца лаканічных ліній і сілуэтаў. Трыкатажная кофта без рукавоў колеру марской хвалі статычна аблягала Лідзіну зграбную фігуру. На запясці дагледжаных рук з манікюрам элегантна пабліскваў вузкі срэбраны бранзалет. Валасы — зачасаныя назад, сонечныя акуляры над ілбом. Нічога, што б нагадвала Лідзіна вясковае паходжанне, у абліччы прыяцелькі Вера не знаходзіла. Ліда выглядала як гараджанка і замужам — за мінчанінам. У Веры было адчуванне, нібыта зазірнула на другі бок Месяца. А Ліда, адчуўшы смак шчырай размовы, працягвала раскручваць сюжэт мінскага жыцця вясковых дзяўчат.

— Ты, Вера, пра Таньку Кунцэвіч узгадала. А ведаеш, як яе Лена Іванова перавыхоўвала? Іванова наша, каза, прыехала з расійскай глыбінкі ў Мінск вучыцца. Есці ў іх там на шырокіх вялічэсцвенных прасторах не было чаго, масла сметанковага па сем кілаграм дамоў на канікулы ў глыбокую глыбінку вазіла, а ўсё туды ж… вучыць Кунцэвіч: «Таня, почему ты неправильно говоришь по-руски? Ты должна слово “говорить” произносить правильно. Букву “г” нужно выговаривать звонко, а не так глухо, как ты». І гэдак яшчэ вусны адтапырыць і дэманструе дыкцыю:

«Г… г…г…». А Кунцэвіч ёй у адказ з глухім «г» і беларускім маўленнем: «А я гаварыла, гавару і гаварыць буду!»… Уяўляеш сабе? Іванова яшчэ тая расіянка, дзелавая каўбаса, масла нашага паела і нас павучае. А сама і пару слоў па-беларуску не вывучыла за чатыры гады. У яе, дарэчы, перад навагоднімі канікуламі сумку з маслам скралі. Яна за акном у інтэрнаце павесіла, а сумачку з маселкам і спёрлі. Во яна бедавала, тут было ёй не да курсаў рускай мовы.

Прыяцелькі засмяяліся.

— О, я табе зараз раскажу, выпадак быў ў нас у інтэрнаце…

Ліда іскрамётна апавядала пра прыгоды інтэрнацкага жыцця. Вера заўважна павесялела. Смутак растаў у гарачым чэрвеньскім дні. Жыццё працягваецца…

— А прэпада памятаеш, фізрука нашага з вусікамі, — ажыўлена апавядала Ліда. — Памятаеш, група наша — зімой на лыжах, трыццаць амаль непрытомных мамзелей ледзь-ледзь ногі па снезе цягнуць. А ён адзін бадзёра палкамі размахвае: «Дзевачкі, давайце яшчэ адзін кружок!»

Вера падсунула бліжэй крэманку, падхапіла лыжачкай абмяклае марожанае і няёмка, крутнуўшы ўзнятую лыжку, заляпала марожаным эксклюзіўную, створаную сваімі рукамі блузку. Прапала выбітная блузка…

## 2

Веры падабалася ўсё прыгожае. Яна любіла эфектна апранацца. Шыючы сабе адзенне, абавязкова ўстаўляла незвычайны элемент, касую какетку, ці шырокі манжэт да локця з безліччу дробных гузікаў. Прозвішча мела падыходзячае — Краўцова. У нейкім сэнсе яна была нават манерная. Гэта ішло знутры, нязмушана, нявычурна, арганічна. Невядома адкуль браліся вытанчаныя манеры. Вера вырасла ў беднай сям'і. Маці адна гадавала іх з братам. Бацьку яна не памятала, ён рана пайшоў з жыцця. Расла Вера ў дрэнна абстаўленай маленькай двухпакаёўцы. У студэнцкія гады апраналася сціпла, насіла таннае паліто. Але з першай стыпендыі купіла сабе белыя пальчаткі, бо гэта

прыгожа: белая лайкавая скура, тонкая, прыемная навобмацак, урачыстая. Пальчаткі файна пасавалі да белай берэткі. Пальчаткі хутка страцілі лоск, пацямнелі, зрабіліся брудна-шэрымі, іх давялося выкінуць. Але момант сустрэчы з чароўным адбыўся… Здаралася, мімаходзь Вера набывала ў камерцыйнай краме на апошнія грошы дарагі заварнік з роспісам і дзіўным носікам, бо заварнік незвычайны і стварае асаблівы настрой, калі п’еш гарбату… А потым піла голую гарбату, таму што на піражок грошай не засталося.

Вера рана выйшла замуж, у дзевятнаццаць гадоў. Незадоўга да гэтага яны з малодшым братам страцілі маці, засталіся ўдваіх сам-насам з жыццём. Ім дапамагала цётка не вельмі вялікімі грашыма, часу займацца пляменнікамі ў яе не ставала. Вера ледзь зводзіла канцы з канцамі. Ліда неяк заскочыла да Веры ў госці, з інтэрнатаўскага галоднага бардаку ў гарадскую кватэру. Не нашмат там было лепей. Вера частавала сакурсніцу аладкамі на кефіры. Пачак мукі, алей у шкляной бутэльцы з ліпкай падранай налепкай і бутэлька кефіру — усе прадукты, што былі ў доме. А ў пакоі на засланай старым пацёртым дыванам канапе ляжалі скруткі дарагіх шыкоўных махеравых нітак бэзавага колеру, купленых на зэканомленыя грошы. Вера вязала сабе шалік, бо гэта неверагодна прыгожа — бэзавы шалік.

Калі Вера выпадкова ў познім зімовым з заінелымі шыбамі трамваі сустрэла Яго, на Верынай шыі прывабна пухнаціўся бэзавы шалік. І Ён падышоў пазнаёміцца. Ад лёсу не ўцячэш.

Будучы Верын муж Леанід на спатканнях трымаўся самавіта. Веры паблажліва дазваляў ласкава называць сябе Лёнчыкам. Высокі, з гордай асанкай, нецярплівы і рэзкаваты ў выразах. Вера лічыла гэта мужнасцю і незалежнасцю, а было то звычайнай распешчанасцю. Адзіны сын у завадской працоўнай сям’і. Мама гадавала яго па прынцыпе: усё — для любімага дзіцяці. Мы, бацькі, пражылі жыццё, нічога добрага не бачылі, няхай хоць сынок пажыве. Рана не будзіць, гуляць не забараняць, рэчы купляць якія пажадае. Джынсы? Купім фірмовыя джынсы, коштам на цэлую маміну зарплату, а маме і ў старым паліто нядрэнна. Колькі ёй там трэба? Гадзіннік дарагі сыну спадабаўся? Абавязкова купім,

ёсць у мамы прыхаваная капейка… Бацька Лёнчыка тым часам вечарамі ў ціхай самоце папіваў на кухні таннае віно…

Вера закахалася. Лёнчык быў нібы распісны заварнік з дзіўным носікам, занадта дарагі для яе кашалька, але ж так прыемна піць гарбату. Вера верыла, што ўсё будзе добра і іх з Лёнчыкам чакае цудоўнае жыццё. Тое, што Лёнчык больш часу праводзіць не з ёй, а з сябрамі на пагулянках, то — дробязі. Пажэняцца і ён зменіцца, абавязкова зменіцца… Не змяніўся. Вера выйшла замуж, нарадзіла дачку, але сям'і не займела. Лёнчык не разумеў, што аб жонцы і дачцэ трэба клапаціцца, што сям'ю трэба ўтрымліваць. Яго раздражнялі абавязкі і плач малога дзіцяці. Грошы ад яго з'яўляліся ў доме рэдка і ў абрэз. Вера зарабляла сама, як магла.

Па суседстве на адной з Верай лесвічнай пляцоўцы жыла халасцячка Эма. Фанабэрыстая, самалюбівая кабета, пра якіх кажуць, што ім трыццаць с хвосцікам, пра памер хвосціка ніхто не ўдакладняе. Старой дзевай называць Эму не выпадала, бо цнатлівасць яна не берагла, яна нават і не памятала часы цнатлівасці. «Я стаю у рэстарана, замуж позна, здохнуць рана» — таксама не пра яе. Эма замуж не збіралася. Філасофія Эмінага жыцця палягала ў тым, што жыць трэба выключна дзеля сябе і пажадана за кошт багатых палюбоўнікаў. Сям'я, муж, дзеці саплівыя — падобныя турботы былі ёй зусім непатрэбныя. Эма давала Веры магчымасць падзарабіць. То ёй спатрэбілася падкараціць спадніцу, то завузіць сукенку. Эма запрашала да сябе ў кватэру бедную, гаротную суседку, якая сядзела з дзіцём у дэкрэце і лічыла кожную капейку, велічна адчыняла перад Верай шафу з убраннем. Шафа ламілася ад вопраткі, і Эма, абвёўшы гардэроб паглядам, казала: «Дам табе сёння вось гэту сукенку… адрубіўся падол, яго трэба падшыць. Аксаміт — дарагая тканіна, ты глядзі старайся акуратна зрабіць. Та-а-акс… А ў гэтай сукенцы трэба перарабіць каўнер, ён мне не падабаецца». Вера марыла ствараць калекцыі адзення і дэманстраваць іх на подыуме, а ёй прапаноўвалі падрубіць падол. Але яна была і гэтаму рада, — падпрацоўка ў дэкрэце. Дзякуй Эме, па-суседску падкідвае працу і заўсёды з ёй мілая, размаўляе як з сяброўкай… Кінуўшы рэчы

на мяккую канапу, Эма запрашала Веру чаго-небудзь выпіць і адкрывала перад ёй бар у чэшскай мэблевай секцыі. Бар поўніўся дарагімі напоямі: марачныя каньякі, віскі, лікёры, віно ў незвычайных бутэльках. Вера ў захапленні шырока раскрытымі зялёнымі вачамі глядзела на Эму. Эма, утульна захінуўшыся ў атласны халат, падобны на японскае кімано, падсаджвалася ля Веры і з робленай абыякавасцю апавядала, як Георгій Тадэвушавіч яе песціць: кветкі, цукеркі, нядаўна пярсцёнак падараваў. Эма карцінна ўздымала руку перад Верыным тварам, паказвала залаты фігурны пярсцёнак з каменьчыкам. «А дарагія напоі ў бары ён прыносіць для сябе. Георгій Тадэвушавіч абы-што не ўжывае», — расказвала Эма. Эма мела статуснага палюбоўніка. Каханак займаў пасаду ў райвыканкаме, выступаў за справядлівасць і моцную сям'ю, найгалоўнейшую ячэйку грамадства. Гэта акалічнасць зусім не замінала яму пад покрывам ночы хадзіць ад жонкі налева. Для Веры Эма заўсёды называла яго Георгіем Тадэвушавічам, каб надаць вагі. А ў інтымных абставінах, калі ў кватэры згасала святло, ён ператвараўся ў Жоржыка, у гудучага чмяля. Жоржык насіў перад сабой ладны пузень. Пяты год — на сёмым месяцы. Эма падсаджвалася да яго на калені, клубам упіралася ў пуза. Жоржык пажадліва запускаў тоўстыя пальцы пад атласны халат з малюнкам японскага кімано і мацаў Эміны вабноты. Жоржык наведваў яе па графіку. Астатнія вольныя вечары яна бавіла як пажадае. Ад няма чаго рабіць запрашала Веру. Перад ёй пахвалялася заможнасцю, а заадно вешала на суседку дробны рамонт рэчаў. Хадзіць у атэлье Эма ленавалася.

Дома, расклаўшы палавінку паліраванага даўнішняга сталакнігі, купленага па вялікім блаце ў незапамятныя часы Верынай мамай, уссунуўшы напарстак на палец, Вера садзілася за шыццё. На стале рассцілалася аксамітная Эміна сукенка. Паслініўшы нітку і спрытна заправіўшы яе ў іголку, Вера бралася за падшыўку падала. Заўтра яна аддасць гатовую сукенку Эме і атрымае за працу.

Вера пахудзела, стала падобнай на былінку трыснягу, і толькі зялёныя вочы свяціліся нязменным бляскам. Яна сама цягала з пятага паверха ўніз дзіцячы вазок, а ў другой руцэ прыхінулую,

абхапіўшую яе за шыю добра пацяжэлую дачку. Вера клапацілася, каб Насцёна пагуляла на вуліцы, падыхала паветрам. Лёнчык заўсёды быў дзесьці заняты незразумелымі бясконцымі справамі. Ён пачаў знікаць вечарамі, не прыходзіў начаваць.

Аднойчы Вера забылася на кухоннай пліце боршч, не прыняла ў халадзільнік. Боршч скіс. Лёнчык вярнуўся пад раніцу. За акном шарэў восеньскі позні світанак. Адразу з пярэдняй Лёнчык па-гаспадарску зайшоў на кухню, разагрэў у рондалі боршч. Вера ціха ляжала на канапе ў пакоі, падцягнуўшы коўдру пад падбародак. Крыўда і адчуванне нявытлумачанай адзіноты працінала кожны кавалачак яе цела. Ёй стала холадна пад коўдрай. У дзіцячым ложку, прысунутым да сцяны, цёплым малым камячком салодка сапла гадавалая дачка.

— Бляха! Ну і гаспадыня! — Лёнчык выплюнуў кіслы боршч у талерку і прашыпеў: — У маёй мамы боршч ні разу не скіс.

Вера маўчала і толькі шчыльней захінулася ў коўдру. Лёнчык злосна шпурнуў лыжку на стол, нервова пахадзіў па кухні, чартыхаючыся выйшаў у пярэднюю, мітусліва пачаў шастаць па тумбачках і рэчах. Праз некалькі напружаных, напятых як струна хвілін Вера пачула гучны бразгат уваходных дзвярэй. Лёнчык сышоў з дому. Яна адкінула бераг коўдры і асцярожна, каб не пабудзіць дзіця, паднялася з канапы. Старая канапа скрыпнула, але дачка не зварухнулася, яна моцна спала. Босая, у начной сарочцы, з мутнымі ад бяссоннай ночы вачамі, разгубленая, Вера зайшла на кухню. Пацёрханы лінолеум шмаргаў пад нагамі. Неўладкаванасцю глядзелі кухонныя шафкі з абламанымі ручкамі. Па сталу плямамі распоўзся расплюханы боршч. Побач з міскай валяўся надкусаны кавалак жытняга хлеба. Вера механічна прыбрала са стала. Прысела на хісткую табурэтку і абхапіла галаву рукамі… Галава зрабілася цяжкая, чыгунная ад бяссоння, ад выслізгваючых, блытаных думак. Вера ніяк не магла сабраць думкі ў паслядоўнасць, упарадкаваць. То ўспамінала першыя сустрэчы з Лёнчыкам, то непаразуменне, адчужанасць апошніх месяцаў. Думкі раіліся, уцякалі і зноў бязладна вярталіся. «Трэба купіць дзіцяці малака… так, так, абавязкова… трэба ж купіць дзіцяці малака», — шчоўкнула недзе глыбока ў падсвядомасці,

і клопат пра дачку вывеў яе са здранцвеласці. Нясцерпна пякло ў сярэдзіне. Яна ж верыла Лёнчыку… Як ён так можа. Як ён можа так з ёй абыходзіцца… «Трэба купіць дзіцяці малака… трэба… пакуль спіць, схаджу ў краму, больш няма каму».

Вера змучана выйшла ў пярэднюю, абыякава глядзела перад сабой. Вочы зачапіліся за сумку. Коса прыхіліўшыся да сцяны, Верына сумка бокам завалілася на тумбе пад люстэркам. Незашпіленая зашчапка сумачнага замка ўстрывожыла. Вера добра памятала, што зашпіляла сумку і ставіла яе ў іншым месцы. Сэрца ў грудзях застукала хутчэй. Вера дрыготкімі пальцамі адкінула накрыўку сумкі, выхапіла кашалёк. Так і ёсць! Лёнчык забраў усе грошы да капейкі. Ён іх абрабаваў, яе і дачку. Як ім цяпер жыць, за што купіць дзіцяці малака?! Веру біла ліхаманка… Як так можна? Чаму ён так… Яна ж яму верыла…

Вечарам прыйшоў брат. Выдзеліў ёй грошы колькі змог, асабліва ні аб чым не распытваў, застаўся пасядзець з дачкой. Вера апатычна апранула плашч, доўга не магла патрапіць рукой у вузкі рукаў, нарэшце ўсунула, завязала пояс на таліі. У кароткім светлым плашчы яна стала зусім былінкай. Вера пайшла ў краму. На душы было пагана. Як жыць далей? Пульсавала думка навязлівая, неадрыўная. Трэба нешта вырашаць. Што вырашаць… як? Дзіця малое, сама не працуе, сядзіць у дэкрэце.

У краме Вера ашчадна купіла прадукты, самае неабходнае, галоўнае — для дзіцяці. «А мне… мне трэба пачак цыгарэт, можа стане лягчэй». Вера раней не курыла. Спрабавала пару разоў за кампанію, але — не спадабалася. Цяпер яе неадольна пацягнула купіць пачак цыгарэт. Яна пайшла ў віна-гарэлачны аддзел, там прадаваліся цыгарэты, і папрасіла прадавачку падаць ёй пачак з фільтрам. На прылавак паляцеў сіні пачак «Космасу». Амаль усе пальцы рук прадавачкі былі ўнізаны залатымі пярсцёнкамі, манікюр даўно аблез, пад пазногцямі цямнелі палоскі бруду. Вера ўзняла вочы і ўбачыла перад сабой нахабны твар, увенчаны высокім начасаным стогам белых валасоў, перапаленых перакісам, тлустая ружовая памада неахайна распаўзлася па краю вуснаў. Прадавачка ва ўпор разглядвала Веру. Вера механічна засунула цыгарэты ў кішэнь, разлічылася за пакупку. Нецярплі-

ва сціскаючы пачак рукой, яна пайшла ў стары закінуты сквер. У скверы стаптаная, шчарбатая плітка шырокімі квадратамі няроўна высцілала сцежку. Даўно не фарбаваныя аблезлыя лаўкі прыкрываў паўзмрок напаўзаючай ночы. Непрыветныя дрэвы з жаўцеючым лісцем, як вартавыя, бязгучна стаялі над лаўкамі. Золка і вільготна. Вера стомлена прысела на край лаўкі. Вострымі вугламі вытыркнуліся з-пад краю плашча сціснутыя худыя калені. Чыркнула запалка. Асвятліўшы зыбкім полымем бледны змораны твар, Вера прыкурыла цыгарэту. Дрыготка ўцягнула горкі дым раз, другі… потым яшчэ. У паўзмроку бліскучай кропкай засвяціўся цыгарэтны аганёк. Нахіліўшы галаву ўніз, Вера адсутна глядзела перад сабой, рука з цыгарэтай застыла, абапёршыся аб лаўку.

— Ах ты курва!

Злосны, гартанны вокліч працяў цёмнае паветра, і нешта цвёрдае і жорсткае лупянула па Верынай астылай руцэ. Цыгарэта паляцела на вышчарбленую плітку. Са змроку, нібы прывід, вырас раз'юшаны дзед, худы, згорблены, з перакошаным нянавісцю тварам. Сціснуўшы сківіцы, ашалела трос перад Верай палкай-кульбай.

— Курыць яна!.. Курва… Я цябе адвучу курыць! Няма на вас таварыша Сталіна!.. распусціліся!.. — шыпеў і пырскаў слінай згорблены шаленец.

— Госпадзі, за што мне ўсё гэта?

Вера цяжка паднялася з лаўкі, ногі зрабіліся ватнымі, руку працінаў нясцерпны боль. Яна памкнулася назваць дзеда старым крэцінам, але ў яе не хапіла моцы. Узняла з лаўкі пакет з прадуктамі, з малаком для дачкі і моўчкі пайшла на старога. Ён саступіў з дарогі… Бязгучныя слёзы цяклі па Верыных шчоках.

З Лёнчыкам Вера разышлася. Ён не пярэчыў, лёгка даў развод, іраваўся на свабоду. Гадавалую дачку Вера аддала ў садок, выйшла на працу. Уладкавалася на фірму па вырабе і здачы ў пракат вясельных сукенак.

Новая месца працы знаходзілася ў цэнтры горада, паблізу галоўнага праспекту. Гаспадыня фірмы добра пралічыла выгоды.

Ад нявест, што хацелі пафарсіць у белай шлюбнай сукенцы, не было адбою. Вера днямі карпела над эскізамі, над кроем. Збылася мара. Яна стварала мадэлі адзення. Адухоўленая, часам балюча калола пальцы іголкай, падшываючы белы пеністы вэлюм да карсажнай стужкі. Высмоктвала з пальца набеглыя чырвоныя кроплі крыві і працягвала гнуць спіну над белымі карункамі вясельных сукенак. Сукенкі здаваліся ў пракат. З дзясятак нявест праходзіла праз адну сукенку. Канвеер вясельнага шчасця. Прызнацца, Вера не бачыла ў гэтым нічога дрэннага. Насамрэч, навошта плаціць за гатовую сукенку шалёныя грошы, можа хутка давядзецца разысціся з сённяшнім жаніхом. Цяперашнія вяселлі — проба пяра для сямейных пар. Гэта раней выходзілі замуж раз і назаўсёды. Дзядулі і бабулі былі старамоднымі. У век прагрэсу жыць трэба прасцей, жыць трэба лягчэй. Лепш узяць сукенку напракат, пакрасавацца перад гасцямі, танней абыдзецца… Праца Веры падабалася, яна адчувала сябе аўтарам і выканаўцам шчасця для нявесты. Заробкі былі не вельмі вялікія, прыбытак заграбала гаспадыня вясельнага салона, але Веры хапала і на сябе і на дачку. Пасля жабрацкага жыцця ў дэкрэце яна пачувалася багачкай. Купіла новае гарчычнага колеру паліто з фарбаваным футравым пухнатым каўняром, боты-батфорты, дзве пары класічных туфель-лодачак, пашыла сукенак, спаднічак, накупляла дзіцячых рэчаў для дачкі. У старой шафе ў Верынай цеснай кватэры павесялела ад новага ўбрання. А на акне замест цёмных паліняялых старамодных штор з’явіліся сонечна-жоўтыя. Вера пачынала новае жыццё. У мітусні будзённых спраў яна забывалася аб няўдалым сямейным шчасці. Але ноччу… яна часам гадзінамі не магла заснуць, пракручвала ў галаве навязлівыя думкі, што можна было нешта зрабіць па-іншаму, штосьці перамяніць, і адчувала бясконцую самоту…

Вера верыла ў сяброўства. У яе было шмат сяброў. Прыветлівая і спагадлівая, яна прываблівала да сябе людзей. Каб заглушыць горыч разрыву з мужам і адзіноту, яна стала часцей запрашаць знаёмых і сяброў да сябе ў госці. І яны прыходзілі, весела бавілі час, звычайна — з пустымі рукамі. Вера накорміць. Беспардонна лазілі ў халадзільнік. Яны ж сябры, сябрам можна.

Шукалі, што там смачнага прызапашана. А Вера не шкадавала. Для сяброў нічога не шкада. Некаторым так спадабалася Верына гасціннасць, што і нанач заставаліся, і пажыць на некалькі дзён. Вера і камізэлька, каб паплакацца, паліць кракадзілавы слёзы пра няшчасную долю, Вера і запасны аэрадром: «Вяруня, выручай! Трэба хата. Дай ключы, пакуль ты на працы, мы заскочым на кватэру з маім хлопцам». «Ой! Вяруня! А давай гулянку ў цябе зладзім. Павесялімся!» Сябры яе не пакідалі адну ні на хвіліну. Цяпер яна не ведала, як іх выперці.

Вера патэлефанавала Лідзе сама, запрасіла:

— Прыязджай, у мяне кампанія збіраецца, даўно з табой не бачыліся. Чакаю.

У нядзелю пасля палудня Ліда прыехала з тортам і шампанскім строга ў дамоўлены час. У кватэры ўжо галдзела астаграмленая разняволеная тусоўка, хто калі захацеў — тады і прыпёрся.

З пярэдняй праз расчыненыя дзверы Ліда ўбачыла ў пакоі край застаўленага закускамі стала і Лёнчыка. Лёнчык ссутулены сядзеў на канапе ля дачкі, нязграбна заціснуўшы далоні між каленяў, быццам прыгавораны. Дачка — дакладная бацькава копія, гэткі ж востры нос і высокі лоб, зачаравана разглядала новенькую ляльку з белымі бліскучымі валасамі, клапатліва гладзіла ляльчыны косы з уплеценымі ружовымі стужкамі.

Ліда прайшла на кухню. Кухонны стол быў застаўлены талеркамі. У рондалі на дне барвавелі рэшткі вінегрэту. З краю стала ўзвышаўся пачаты трохлітровы слоік марынаваных агуркоў. Агуркі адгадаваны да велічэзных памераў, закінутыя у сярэдзіну шэсць-сем доўбняў запаўнялі ўвесь няхітры шкляны сасуд. Made in Belarus. Горла слоіка прыкрывала пагнутая адкрывалкай бляшаная накрыўка. Ліда адсунула талеркі і на вызваленым месцы прыладзіла шампанскае з тортам. Следам з пярэдняй увайшла Вера і прычыніла за сабой дзверы.

— Ты што, з Лёнчыкам памірылася? — спытала Ліда.

— З чаго ты ўзяла?

— Я бачыла яго ў зале, сядзеў з дачкой на канапе.

— Ладна, так і быць, табе раскажу. Я яго наўмысна запрасіла, каб Насця тату пабачыла. Ляльку сама купіла, яму дала ў рукі,

каб падарыў і сказаў, што ад яго… Разумееш, дзіцяці патрэбен тата. Я сама без бацькі вырасла. Ты ж ведаеш… А менавіта сёння яго запрасіла, таму што кампанія сабралася, сам насам я з ім не магу. Ён мяне раздражняе.

— Ой, Вера. Думаеш, з гэтага будзе нейкі толк? — скептычна зірнула Ліда і склала вусны ўхмылкай.

— Ды які толк? Нічога з гэтага не будзе. Проста зрабіла дзіцяці радасць. А ён мне абыякавы.

Ліда ўзяла за горла бутэльку шампанскага і кінуўшы кароткае: — Пайшлі, — выйшла з кухні, Вера — следам.

У зале гаманіла занятая сабой тусоўка.

Лёнчык пасядзеў гадзіну, чужы і нікому не цікавы. Выканаўшы місію добрага таты, што дорыць дочкам лялькі, незаўважна змыўся…

Вечарам Ліда адыходзіла дадому. Вера правяла яе ў пярэднюю:

— А народ разгуляўся, — са скрухай сказала Ліда, зашпіляючы маланку на ботах. — Паглядзі якая весялуха! Дамоў не збіраюцца. Дзіця спаць хоча, а ім хоць бы хны.

— Я, па шчырасці, і не ведаю, як іх выперці. Я стамілася… А сябры мае так любяць сябраваць, што проста гатовыя жыць застацца ў маёй кватэры, — паўшэптам прамовіла Вера і ціха ўздыхнула.

З пакоя далятаў вясёлы рогат, падпітыя галасы. Брынькнула гітарная струна… звон бакалаў раздаваўся.

— Гаспада, плясніце мне шампанскага, — п’яна цягнуў дзявочы голас з застолля.

«Гаспада» загыгыкалі, шампанскае палілося ў бакал і, узняўшыся пенай, з шыпам выкацілася праз край на абрус.

— Ва-аў, стол залілі! — весяліўся дзявочы голас.

— Трэба табе, Вера, паціху культурна кампанію выпіраць, — параіла Ліда.

Вера згодна кіўнула галавой. Яны ніколі не былі занадта блізкімі сяброўкамі, хутчэй прыяцелькі, але выдатна разумелі адна адну.

— Буду выпіраць, — шапнула Вера.

## 3

Мінула некалькі гадоў. Прытупіліся старыя крыўды, пабляклі ўспаміны аб няўдалым першым каханні… Вера сышлася з Віктарам. Ён быў на тры гады за яе старэйшы, самастойны і ўпэўнены ў сабе. Раман іх склаўся хуткаплынна: захапіла, закруціла, панесла. Віктар прапанаваў Веры жыць разам на наёмнай кватэры. Яна нічога не губляла, акрамя адзіноты. У нейкі момант ёй нават здалося, што Віктор яе кахае. Вера ахвотна згадзілася і пераехала разам з дачкой да Віктора. Яна называла яго Віктарам на замежны манер з націскам на літару «О». Рыхлы з буйным млявым целам офіснага планктону, з глыбокімі лобнымі залысінамі над невыразнымі брывамі, ён глядзеў на людзей непрыемнымі вачамі гандляра-ацэншчыка. Віктор працаваў у сферы прыватнага бізнесу. Схема бізнесу была нескладаная: як мага танней купіць і як мага даражэй прадаць. Віктор разам з кампаньёнам Сашам перапрадаваў невялікія партыі прадуктаў. За вышэйшы пілатаж лічылася ўцюхаць спажыўцам партыю падпсаванага пратэрмінаванага беларускага сыру па завышаным кошце. А потым гулліва перакідвацца з кампаньёнам фразачкамі:

— Сырочак добра зайшоў па дарагой цане.

— Дык ён жа аналаг французскага, з плесняй.

Віктор наняў кватэру і Вера з дачкой пераехала да яго. Разлік гандляра быў просты як пяць капеек: жанчына з «прычэпам» нікуды ад яго не дзенецца, будзе паслухмянай і стараннай, куды ёй з дзіцём рыпацца, а яму зручна.

«Памыць, прыбраць, есці згатаваць — не мужыцкая гэта справа. Вера займецца хатняй гаспадаркай. А то сучасныя цёлкі на выданні лёгка давядуць да шаленства, — разважаў Віктор. — Усё чакаюць, каб мужыкі да іх з букетам на балкон лазілі ды дэманстравалі незгасаючую жарсць, а самі кабеняцца, маўляў, заваюй мяне, я ўся такая недасяжная і такая рамантычная. Рамантычныя, узвышаныя… а посуд памыць няма каму». У Віктора на любоўныя жарсці не хапала ні часу, ні жадання. Трэба было тэрмінова ўцюхваць чарговую партыю прадуктаў. Дамовы, транспартныя

накладныя, справаздачы ў падатковай замудохалі, ажно скіvіцы зводзіць. А Вера, Вера яго разумее. І выглядае файна. Модніца. Не сорамна сябрам паказаць такую ляльку. І для душы паразмаўляць адно задавальненне, і для цела… у гэтым сэнсе Віктора асабліва ахінала пяшчота… Жаніцца ён не збіраўся.

Кватэру Віктор наняў далёка ад цэнтра у мікрараёне Уручча і не першай свежасці, пацёрханую, але поўнасцю абсталяваную. Усё неабходнае, акрамя пральнай машыны. На гэты конт Віктор не парыўся — Вера памые бялізну рукамі. Кватэрная гаспадыня забяспечыла нават посудам. На кухоннай пліце стаялі рондалі, у верхняй шуфлядзе — лыжкі і відэльцы. У відэльцах трапляліся гнутыя зубы. Талерак хапала з каптуром. Частка прымасцілася ў шафцы для сушкі посуду, пастаўленая разнавялікімі дыскамі на рабро, астатнія — стосам на паліцы. Вера гэта не задаволіла, яна цягнулася да эстэтыкі і прытарабаніла з сабой на здымную кватэру французскі посуд. Шэсць шырокіх талерак з паўпразрыстага ружаватага шкла. Яны занялі месца ў сушцы, прэтэнцыёзна адсунуўшы ў кут гаспадарскія незамысловатыя талеркі, упрыгожаныя дробнымі сціплымі кветкамі. Вера хутка асвоілася на новым месцы. Рэчы з чамадана разляцеліся ў шафу на плечыкі і паліцы, тапкі — у пярэднюю. Пасцельная бялізна — на коўдры і падушкі. Бліжэй да вечара Вера ўзялася за бліны. Віктор неяк мімаходзь у размове паведаміў, што любіць блінчыкаў паесці. Вера запомніла. Сёння яна шчыравала з блінамі. Каханне мужчыны праходзіць праз страўнік. У рондаль з надрэзанай дзіркі ў вуглу малочнага пакета струменем палілося малако, Вера пацiснула пакет, падганяючы струмень. Услед плюхнулася з разбітай шкарлупіны жоўтым вокам яйка і патанула ў малацэ, зверху белым пылам пасыпалася мука вышэйшага гатунку, соль, цукар — на смак. Вера замалаціла лыжкай у цесце, разбівала камякі, яны па-здрадніцку ўцякалі з-пад лыжкі, Вера даганяла і раструшчвала іх аб сценкі рондаля. Размалаціўшы камякі, пусціла з узнятай лыжкі вадкае цеста ў рондаль, яно палілося роўна. Прыспешвала разагрэтая патэльня, накаленая на агні газавай канфоркі. Кінуты відэльцам кавалак сметанковага масла зашыпеў і расплыўся, змазваючы дно па-

тэльні. З чарпака палілося цеста. Адзін за адным падрумяненыя бліны саскоквалі з патэльні, клаліся на французскую талерку. Блінны водар, лунаючы ў паветры, з кухні паляцеў па кватэры. У зале перад тэлевізарам, па-барску разваліўшыся на канапе, у махровым халаце пасля душа сядзеў Віктор. Ён глядзеў перадачу пра развіццё эканомікі краіны: новыя шляхі і магчымасці, крокі наперад, сумленнасць усіх суб'ектаў гаспадарання перад дзяржавай. Карацей — заплаці падаткі і жыві спакойна. «Фіг вам!.. Вам колькі ні заплаці — усё мала!» — рэзонна выказаўся Віктор па сутнасці пытання, і ў той жа момант яго нос адчуў прыемны водар. Пах бліноў з кухні адарваў яго ад прагляду тэлеперадачы і пацвердзіў дакладнасць Віктаравых разлікаў — на Веру можна павесіць хатнюю гаспадарку.

— Віктор, Насця, ідзіце вячэраць, — зазыўна прыляцеў з кухні Верын голас.

Віктор выключыў тэлевізар і, мацней падперазаўшы пояс на махровым халаце, уразвалачку пайшоў на кухню. У дзіцячым пакоі Насця ў разгорнутым альбоме спяшаючыся дамалёўвала сонца ў небе над домам.

Віктор бачыў Насцю з пярэдняй, але не сказаў, каб яна скончала маляваць і ішла вячэраць. Ён быў раўнадушны да дзяцей увогуле, а тым больш да чужых. Верына дачка, — няхай Вера сама і займаецца выхаваннем, яму галаўны боль зусім не патрэбны.

На кухні Віктор вальяжна ўсеўся на табурэтку. Па баках стала ружавелі французскія талеркі, ў сярэдзіне ўзвышаўся стос бліноў і дзве кісюшкі. У адной бялела смятана, а другая чырванела варэннем з працёртых клубніц. Вера з паслужлівасцю клапатлівай жонкі паклала Віктору ў талерку пару блінцоў і, павярнуўшы галаву да дзвярэй, гукнула:

— Насця, дзе ты згубілася, хуценька кідай свае малюнкі. Гарбата стыне…

Жыццё пайшло сваім парадкам. Віктор ездзіў кожны дзень у офіс, Вера — на працу ў вясельны салон. Дабірацца было нязручна. З перасадкамі яна губляла на дарогу амаль гадзіну. Дачка вучылася ў школе у другім класе. Дні цяклі за днямі. У якасці каго Вера пражывала пад адным дахам з Віктарам, яна пытання

не задавала. Мужчына сам павінен прапанаваць выйсці замуж. Яна ж навязвацца не збіралася…

Справы гандлёвага бізнесу ў Віктора ішлі нядрэнна. Ён спрытна ўцюхваў партыі тавараў і абмываў з сябрамі ўдалыя буйныя здзелкі ў рэстаране. Здаралася, для разнастайнасці яны гудзелі ў лазні. Рагаталі як коні ў парылцы, начапіўшы каўпакі на галаву, хвасталіся бярозавымі венікамі. Пасля працэдуры амавення браліся за чарку і ішлі ў адрыў. Прыпаўзаў за поўнач добра наклюканы. На наступны дзень прачухваўся да вечара. Часам пасля чарговага начнога загула, пакутуючы пад гнётам рэшткаў сумлення, але не падаючы выгляду, прачухаўшыся, з апухлымі вачамі ён па-барску падзываў Веру, прызыўна махаючы кручкаватым пальцам. Вера пасміхалася пра сябе, гледзячы на падпухлага, пакамечанага выгляду «барына». Віктор, палазіўшы ў партманеце, выцягваў долары і са словамі:

— Купі сабе што-небудзь… залаты кулончык ці ланцужок, — запіхваў ёй грошы ў станік. Вера моршчылася, але прымала гульню — ідэальных мужчын не бывае. Урэшце, ён не забірае, як Лёнчык, а дае. Вера трывожна цярпела загулы, хвалявалася, каб чаго не здарылася. Яна па-свойму кахала Віктора, без юнацкай жарсці, спакойным каханнем пасталелай, памудрэлай жанчыны. Радавалася, што буйныя здзелкі здараліся не вельмі часта. У астатнія дні Віктор алкаголь ужываў умерана…

У кватэры затарахцеў тэлефон. Грымеў стары тэлефонны апарат кватэрнай гаспадыні, з дырчатым дыскам на баку, пад кожнай дзіркай намаляваныя лічбы 1, 2, 3, 4… Зверху ўпоперак ляжала тэлефонная трубка. Вера ўзняла трубку і прыклала да вуха.

— Вера, добры дзень. Гэта Рыта.

Званіла кватэрная гаспадыня. Між сабой з Віктарам яны называлі яе Марго.

— Добры дзень, Рыта, добра, што вы пазванілі. Я сёння сама збіралася вам званіць. Вы ж павінны былі ўчора прыехаць па грошы.

Учора надышоў дзень аплаты, а Марго не з’явілася. Падрыхтаваныя грошы чакалі ў шкатулцы. Яны ляжалі паверх Verынай

біжутэрыі, прыхлопнутыя накрыўкай у скарбонцы сціплых каштоўнасцяў.

— Нешта я заматалася. Няма часу вырвацца, — нібыта сама здзіўляючыся гэтай акалічнасці, прамовіла Марго. — Я прышлю па грошы Цёму. Ён зможа прыехаць к чатыром гадзінам. Як наконт чатырох? Атрымаецца ў цябе, будзеш дома?

Марго была жанчына пунктуальная. Паўгода кожны месяц прыязджала ў адзін і той жа дзень да кватарантаў па грошы. Але ж усякае здараецца.

— Добра, добра. Мне якраз гэты час падыходзіць. У чатыры буду дома, — пацвердзіла Вера.

— Цудоўна. Дамовіліся. Цёма пад'едзе.

Вера паклала трубку. Яна часта чула ад Марго пра Цёму. Цімафей — старэйшы сын Маргарыты Паўлаўны. Так гучала імя і імя па-бацьку кватэрнай гаспадыні. Але яе так ніколі ніхто не называў. «Якія мае гады», — любіла паўтараць саракагадовая Марго. Яе сыну было каля шаснаццаці гадоў. Вучыўся ў старэйшых класах. «Цёма тое, Цёма гэта… Цёмка мне дапамагае, Цёмка любіць малодшую сястру. Цёма ў краму збегае і кватэру прыбярэ», — сын Цёма не сыходзіў з языка Марго. Вера завочна палюбіла Цімафея. Залатое дзіцця.

Без пяці хвілін чатыры ў дзверы пазванілі. Вера адклала шыццё і, шморгаючы тапкамі па падлозе, выйшла ў пярэднюю. У дзвярное вочка яна не зірнула, ведала, павінен прыйсці Цімафей па грошы. Вера расчыніла дзверы. На пляцоўцы перад ёй паўстаў цемнаскуры, кучаравы мулат, у чорнай куртцы. Чорныя, вугальныя зрэнкі з яркіх бялкоў спакойна глядзелі на Веру. Некалькі імгненняў яны моўчкі стаялі насупраць.

— Вы кагосьці шукаеце?.. Я магу вам дапамагчы? — расцягваючы і выяўна вымаўляючы словы для замежніка, што дрэнна разумее сказанае, вылузвалася Вера перад незнаёмцам.

— Я Цімафей! — адрэзаў мулат.

— Цёма?! — высокай нотай вырвалася ў Веры, яе вочы зрабіліся пулятымі зенкамі.

— Я па грошы прыйшоў. Мама сказала забраць.

— Так, так… канечне… — разгублена тарахцела Вера. — Марго тэлефанавала, казала, што ты прыйдзеш, ой… — Вера спахапілася, што назвала гаспадыню патаемным іменем Марго, і няўдала выправілася. — Маргарыта Паўлаўна… гэта… я хацела, хацела сказаць… Рыта.

— Я магу зайсці? — насуплена спытаў Цімафей.

Ён мужна зносіў непрыемную сцэну, быццам ён іншапланетнік. Не першы раз трапляў у падобную сітуацыю.

— Канечне, Цімафей, праходзьце калі ласка, — Вера разгублена звярталася да падлетка на «вы».

Цімафей зайшоў у пярэднюю. Вера адводзіла вочы, каб схаваць у іх здзіўленне. Цімафей глядзеў насуплена, але ўпэўнена. Ён не губляўся ў краіне белых людзей. У яго была надзейная апора — мама Рыта. Але ледзь улоўны смутак залёг ў глыбіні вугальных вачэй. Ён тут чужы.

— Можа быць, гарбаты? — прапанавала ўпалым голасам Вера. Яна не ведала, як рэабілітавацца за свае дурацкія паводзіны. Зладзіла сцэну з пулятымі вачамі: «Цё-ё-ма?!»

— Не, дзякуй. Мне трэба ехаць дамоў, сястру з садка забіраць, — буркнуў Цёма.

— Я зараз… хвілінку пачакай, — паспешліва прамовіла Вера і панеслася да шкатулкі, ляпнула адкінутай накрыўкай, ухапіла долары і электравенікам вярнулася да Цімафея, працягнула яму грошы. — Тут падлічана… якраз колькі я павінна заплаціць, без рэшты. І вось што, Цімафей, — нарэшце Вера саўладала з разгубленасцю і пацвярдзелым голасам дала даручэнне сыну кватэрнай гаспадыні: — Перадай, калі ласка, маме, што прыходзілі з ЖЭСа. Нешта там падпісаць трэба, няхай ім патэлефануе.

— Я перадам, — бліскануўшы з-пад смуглявага ілба бялкамі вачэй, паабяцаў Цімафей.

Ён узяў грошы ў шырокую далонь, паспешліва развітаўся і, крутнуўшыся ў пярэдняй, хутка знік за дзвярамі. Узрушаная, Вера пайшла ў залу.

«Я сапраўдная клуня. Трэба ж было беднага хлопца ў такую няёмкую сітуацыю паставіць. — Злуючы на сябе, яна плюхнулася ў крэсла. — Мулат… і што цяпер? Яму ж непрыемна, калі на

яго пуляюць вочы як на дзіва… — упікнула сябе Вера. — А ён сімпатычны, напэўна дзяўчатам падабаецца», — на вусны набегла прыемная ўсмешка…

Здараецца, беларускі нараджаюць дзяцей ад чарнаскурых афрыканцаў, студэнтаў, што прыязджаюць у Беларусь за адукацыяй. Маладосць, каханне, жарсць — і на свет з'яўляецца цемнаскурае немаўля.

Дзеці-мулаты растуць, вучацца ў школе, сталеюць. Іх выхоўваюць беларускія мамы і бабулі. Ім незнаёмы афрыканскае пякучае сонца, традыцыі і жарсці гарачага кантынента. Яны дзеці беларускай восеньскай смугі, туманаў і дажджоў, зімовага холаду і белай завірухі. Яны выраслі на беларускай глебе, склаліся як пазл з мясцовых звычак і адметнасцяў. Па сутнасці яны — беларусы. Але ім няўтульна на радзіме. Стаўшы дарослымі, яны знікаюць. Напэўна, з'язджаюць туды, дзе на колер іх скуры ніхто не зверне ўвагі. І дзесьці там за мяжой жывуць мулаты з беларускай душой…

4

Мінаў час, аднастайна адлічваючы месяц за месяцам. Сумеснае жыццё з Віктарам перайшло паўгадавы рубеж. Але кардынальна нічога не змянілася. Тая ж нявызначанасць. Віктара, здаецца, усё задавальняла. Ён прызвычаіўся да прыгатаваных у час вячэраў, адпрасаваных сарочак. Успрымаў клопат аб сабе як належнае. Веры даводзілася паспяваць на працы і дома. Усё б было нічога, каб не далёкія паездкі на працу. Гадзіну яна дабіралася ў адзін бок раніцай, перасядаючы з аднаго перапоўненага аўтобуса ў другі, гадзіна — назад вечарам дамоў. Вера выматалася тымі бясконцымі пераездамі і вырашыла звольніцца. Яна нічога не губляла, магла працаваць дома, браць замовы на вячэрнія сукенкі. У шафе ў кутку затулілася, чакаючы свайго часу, фірмовая швейная машынка ў чамадане, пераносная. Вера купіла яе з пераплатай у часы суцэльнага дэфіцыту — машынка яе мары з бясконцай колькасцю аперацый, фігурныя строчкі, зігзагі. У пластыкавым шэрым карабку-пенале захоўваліся ме-

талічныя лапкі розных канфігурацый, аб прызначэнні некаторых нават Вера, па прафесіі мадэльер, не мела ўяўлення, не кажучы пра звычайных гаспадынь, што маглі прастрачыць выключна адну строчку, і тую крывую. З такой машынкай ёй была па плячу любая замова на самую складаную мадэль сукенкі. Віктор падтрымаў Верына рашэнне хутка, без абмеркавання. Ён наогул не вельмі цікавіўся яе справамі. І Вера засела за шыццё дома. Графік свабоднага прадпрымальніка ёй спадабаўся. Пад настрой шыла некалькі замоваў за тыдзень, а потым магла тыдзень пагуляць без працы.

У стомлены ад зімовых халадоў горад прыйшла доўгачаканая вясна. Няспешна ўбіралася ў сілу, доўгі час было зябка і дажджліва, і раптам пацяплела, цэлы тыдзень дзень за днём без перапынку свяціла сонца, парыла, угравала зямлю. Хутка на шэрых галінах дрэў павыстрэльвала яскрава-салатавае маладое лісце. Клумбу ля пад'езда нізкім покрывам заслалі рассыпаныя купкамі фіялкавага колеру дробныя кветкі. Працінаючы напоеную вільгаццю глебу, узніманіся свежыя парасткі цюльпанаў і касачоў. Ціўкалі птушкі. Вера пачала заўважаць, як абуджаецца прырода. Раней у яе не было на тое часу. Кожны дзень на бягу.

Надышоў выходны дзень. Субота. Выходны для Віктора. Вера ж цяпер сама планавала, калі зрабіць сабе адгул. У гэту суботу Віктор з самага рання паехаў да бацькоў. Яны рабілі рамонт у кватэры. Паехаў на цэлы дзень, дапамагаць, выконваць сыноўні абавязак. Вера засталася дома. Яна ніводнага разу не была ў бацькоў Віктора. Не запрашалі. Віктор рабіў выгляд, быццам так і трэба, і ніколькі не імкнуўся знаёміць Веру з бацькамі. Вера прыняла тыя абставіны, як належнае. «Не хоча і не трэба — менш праблем», — харахорылася яна. Але дзесьці ў патаемных кутках душы пашкрэбвала крыўда на Віктора: паводзіць сябе, нібыта яна патаемная палюбоўніца.

Віктор з'ехаў. У кватэры царавала нязвыклая для суботы цішыня. Звычайна выходным днём Вера пякла бліны, грымела рондалямі і патэльняй на кухні. Гэтым разам блінцамі Віктора накормяць у бацькоўскім доме. Дачка Насця гуляла з сяброўкамі на вуліцы. Вера расчыніла шафу. У кутку, прыціснутая Віктора-

вым пінжаком, вісела недашытая замова. Вера адсунула пінжак і сумна агледзела васільковую сукенку. На ліфе шпількай быў прымацаваны крой каўняра з белымі ніцянымі рыскамі фастрыгоўкі, неадпрасаваныя бакавыя швы сукенкі загіналіся ў сярэдзіну. Шыць зусім не хацелася. У нейкай кнізе, у якой Вера і сама не памятала, яна напаткала выказванне старой графіні, якая цярпець не магла, каб пры ёй шылі. Графіня сказала: «Шыць могуць толькі зняволеныя пад прымусам». Графіня мела рацыю. Сёння Веры зусім не было жадання шыць, сядзець у чатырох сценах і карпець з напарсткам над васільковым шоўкам. Сонечны дзень за акном выманьваў на вуліцу пашпацыраваць у парку, паназіраць, як абуджаецца прырода… «І чаму я не графіня?» — ўздыхнула Вера і зняла сукенку з плечыкаў — трэба брацца за працу, настырная кліентка прыспешвала з замовай. Рэзка шаргануўшы вешалкай, яна адправіла пінжак на старое месца. З-пад навісаючага адзення з нетраў шафы выцягнула перанасную ў чамаданчыку фірмовую швейную машынку «Зінгер» і павольна прычыніла дзверы. Машынку прыладзіла на пісьмовым стале, мінула некалькі хвілін і яна застракатала прыглушаным мяккім гукам. З-пад лапкі беглі адстрочаныя сукеначныя швы. Скончыўшы строчку, Вера выцягвала непатрэбныя цяпер ніткі фастрыгоўкі і кідала іх на падлогу. На канапе раскіданы крой рукавоў і дробных фальбон вахлаціўся сыпучымі краямі, чакаў свайго часу.

Апоўдні ў дзверы пазванілі. Вера ўзнялася з-за машынкі, прыхінула руку да паясніцы, выгнуўшыся назад, размяла зацёкшую спіну і папляласся да дзвярэй. Зірнула ў дзвярное вочка. Перад вочкам намаляваўся твар Віктора.

— Х-м-м, нешта рана вярнуўся, — здзіўлена прамармытала Вера, шчоўкнула дзвярным замком і, падпіхнуўшы рукой, расчыніла дзверы. — Віктор, я думала, ты з’явішся бліжэй да вечара, што здарылася? — заклапочана спытала яна.

— Мама, праходзь, — прамовіў Віктор, адступіў пару крокаў назад, і перад ім, прыплыўшы аднекуль збоку, узнікла невялікая жанчына-кадушка з падвоеным падбародкам і дробнай хімзавіўкай на валасах. — Пазнаёмся, Вера, — гэта мая мама, Валянціна Іванаўна, — роблена ўрачыста адрэкамендаваў Віктор.

— Вельмі прыемна, праходзьце, калі ласка, — павялічана ветліва мямліла, сустракаючы неспадзяваную госцю, Вера.

«Гад, мог бы папярэдзіць… я хоць бы падрыхтавалася… не, я калі-небудзь заеду яму патэльняй!» — віравала ў Верынай душы патаемнае абурэнне, перамешанае з разгубленасцю ад нечаканай сустрэчы з магчымай свякроўкай.

Кадушка не сказала, што ёй таксама прыемна, не любіла і не лічыла патрэбным маніць. Ганарыста пераступіла парог кароткімі нагамі, зняла пантофлі, вызваліўшы са скуранай няволі кароткія і шырокія, нібы ласты, ступні.

— Я зараз вам дам тапкі, хвіліну пачакайце, — мітусліва рылася Вера ў скрыні для абутку.

Адшукала новыя тапкі Віктора, разлічыўшы, што яе тапкі трыццаць шостага памеру на тыя ласты наўрад ці ўзлезуць. Валянціна Іванаўна ўсунула ногі ў тапкі і гугнява прамовіла:

— Як вы тут жывяце?

— Нармальна жывём, мама. Я табе казаў, што ўсё ў нас у парадку.

— У парадку? — Валянціна Іванаўна праццяла сына паглядам рэвізора.

— Праходзьце, калі ласка. Будзьце як дома… а я… я хуценька чайнік пастаўлю, — сказала Вера.

Яна марыла хутчэй уцячы з пярэдняй, каб перавесці дух. Пакінуўшы Віктора абіхаджваць маму, руплівай гаспадыняй змылася на кухню.

Валянціна Іванаўна праводзіла рэвізію памяшканняў. Першнаперш зазірнула ў залу. Абрыўкі нітак валяліся на падлозе, недашытая васільковая сукенка і кавалкі крою — на канапе.

— Парадак, — з’едліва склала вусны ў крывыя складкі Валянціна Іванаўна і няўхвальна захістала галавой.

Сын стаяў у яе за спінай, маўчаў і пакутліва зводзіў вочы да пераноσся. Зрэнкі з’ехаліся адна да адной, а як мама павярнулася і глянула на Віктора, спрытна вярнуліся на свае месцы.

— Мама, пойдзем, пап’ем гарбаты.

— Што ты мяне падганяеш? Я хачу паглядзець, як жыве мой сын.

— Нармальна жыву, мама.

Вера грукала кубкамі на кухні. На пліце шыпеў чайнік. А Валянціна Іванаўна няўёмна шастала па пакоях. У спальні яна затрымалася, уважліва разгледзела двухспальны ложак, дзе яе сын спаў з гэтай… Валянціне Іванаўне захацелася падысці і пакратаць, праверыць пругкасць спружын, ці добры ў сына матрац для начнога адпачынку. Не памацала, перадумала. Накіравалася ў дзіцячы пакой. Сын хадзіў следам, закатваючы вочы, ён зусім бы скасавурыўся, але з кухні прагучаў ратавальны свісток. Працяглы, спачатку невыяўна шыпучы, ён разгойдваўся, наліваўся і ўзрастаў, набраўшы моцы, залівіста завішчаў на ўсю кватэру. Свісток на носе чайніка клікаў піць гарбату.

— Так, мама, хопіць, прагучаў фінальны свісток. Агляд скончаны, пайшлі на кухню, — загадаў Віктор.

Вера сустрэла маму Віктора лісліва-ветлівай усмешкай, падсунула ёй табурэтку.

— Сядайце, калі ласка, — запрасіла госцю і, павярнуўшыся да Віктора, пачала яго ўшчуваць: — Віктор, чаму ты мяне не папярэдзіў, я б торт купіла.

— Так атрымалася, — абыякава адбрыкнуўся Віктор.

— Частуйцеся, калі ласка, — працягвала абіхаджваць Валянціну Іванаўну Вера і падсунула да яе вазу з пячэннем.

— Ды не мітусіся ты… сядзь… Пап'ём гарбаты ды паедзем. Мама спяшаецца.

Віктор крануў Веру за плячо. Яна адчула хоць нейкую падтрымку і паспакайнелая села на табурэтку, адпіла глыток гарбаты.

— Яшчэ безліч спраў трэба зрабіць, хутка паедзем… Мы з мамай заязджалі на Уручынскі рынак купіць шпалеры. Вось яна захацела на хвіліну да нас заскочыць, паглядзець, як мы жывём, — бадзёра трындзеў Віктор.

Валянціна Іванаўна хруснула зубамі сухое квадратнае пячэнне. Вера аж здрыганулася. А госця пад пячэнне гучна сербанула з кубка гарачага напою.

— Валянціна Іванаўна, а якія вы купілі шпалеры? — старанна вырабляючы на твары зацікаўленасць, спытала Вера.

Яна хацела паразмаўляць пра колеры і малюнкі, гэта была Верына стыхія, тым больш размова ні аб чым, можна доўга мусоліць — такія кветачкі, гэтакая фактура.

— Вытворчасць Францыя, пятнаццаць долараў трубка, — адчаканіла Валянціна Іванаўна, каб было зразумела гэтай… абы-што яна не купляе, і жорстка хрумкнула пячэннем.

— Пэўна, добрыя шпалеры. У французаў выдатны густ. Яны надаюць шмат увагі модным кірункам, выкарыстоўваюць цікавыя фарбы і структура пакрыцця незвычайная. Я звяртала ўвагу… цяпер з'явіліся новыя калекцыі з шаўкаграфіяй…

Валянціна Іванаўна з-пад хімічна завітых, з перапаленымі канцамі, нізка спадаючых на лоб валасоў знішчальна зірнула на Веру.

— Па пятнаццаць долараў за трубку ерунду не прадаюць, — адрэзала яна.

— Безумоўна, я з вамі згодна. Якаснае заўсёды каштуе нятанна, — сакатала перад ёй Вера.

Валянціна Іванаўна да размовы цікаўнасці не выявіла і прадоўжыла моўчкі цягнуць гарбату з кубка, поглядам рэвізора прамацвала кухню. Вера коўзала вачамі ўслед за паглядам Валянціны Іванаўны. У куце пад столлю звісала павуцінка, з мыйкі тырчаў непамыты рондаль. Жах!…

Віктор выратаваў становішча, завёў з мамай размову пра надвор'е і іншыя дробязі.

— Дзякуй за гарбату, — сказала Валянціна Іванаўна і адсунула ад сябе кубак з рэштай астыўшага напою. — Віця, нам трэба ехаць, бацька недзе прачакаўся.

— Едзем, мама!

Віктор ускочыў з табурэткі, зіхоткі ад задавальнення, што мама адчальвае. Яго напружвала вязкая нацягнутая размова двух жанчын за сталом, а ён між імі накшталт перадаючага прыстасавання.

Валянціна Іванаўна паднялася з-за стала і самавіта пакрочыла да выхаду, з гонарам несучы кубічнае цела.

«Дзе рабіць талію?.. Сукенку на Валянціну Іванаўну сшыць няпроста», — прафесійна прыкінула Вера, агледзеўшы госцю са спіны.

Віктор на развітанне, пакуль мама не бачыць, паслаў Веры паветраны суцяшальны пацалунак. «Забаўна яму», — злавалася Вера. Яна чула, як прагудзеў ліфт, звозячы Валянціну Іванаўну. У кватэры аднавілася цішыня. Вера зайшла ў залу, прысела на кукішкі і запознена пачала збіраць ніткі на падлозе.

— Хоць бы папярэдзіў… я б кватэру прыбрала.

Віктор з мамай выйшаў з пад'езда. Валянціна Іванаўна спынілася пад уваходным казырком і, учэпіста трымаючыся рукой за сына, нахіліла складанасагнутае цела ўніз, паправіла на назе пантофлю на ўстойлівым шырокім абцасе. Выпрасталася, засапла носам і, не дачакаўшыся, пакуль сядуць у машыну, гугнява выдала вердыкт па выніках праверкі.

— Віця, я табе дзіўлюся. Нашто табе гэта Вера?.. Ды яшчэ з дзіцём… Я думала, хоць відная з сябе, а яна… так сабе, нічога асаблівага… а манерная, спінка роўненькая, трыма пальцамі кубачак трымае… не інакш з граф'ёў паходзіць… — язвіла Валянціна Іванаўна, — Курыца, пачала квахтаць пра шпалеры… пакрыццё шаўкагра-фі-ка нейкая.

— Шаўкаграфія, мама, — паправіў Віктор.

— Шаўкаграфія, ага… канечне, добра, што ты маму паправіў, мама ў цябе неадукаваная… я трыццаць гадоў эканамістам працавала! А гэтая… у шаўкаграфіях яна добра разбіраецца, а дома парадку няма. Адразу відаць бесталкоўшчына… Ой, сын, не ведаю… Ды на цябе ж любая дзяўчына загледзіцца. Ты і бізнесам займаешся, і так з сябе мужчына відны.

Валянціна Іванаўна ўзняла цёплы пагляд уверх на сына, вышэйшага за яе на галаву. Яе агарнула замілаванне ад сынавай, як ёй здавалася, пекнаты. Віктор важна, з самазадаволенасцю, падмацаванай мамінымі дыфірамбамі, пераступіў з нагі на нагу, вальяжна пагуляў у руцэ ключамі ад машыны. Сутулы, адно плячо вышэй за другое. Залысіны на Віктаравай галаве распаўсюджваліся ўглыб, паступова знішчаючы бляклыя шэрыя валасы. Невялікія, блізка пасаджаныя к пераноссю вочы і доўгі кручкаваты нос дапаўнялі партрэт віднага з сябе мужчыны. Мама не магла на яго налюбавацца.

— Так, мама, пайшлі ў машыну, няма часу. Іншым разам пагаворым, — загадаў Віктор.

Мама кароткімі нагамі, падобнымі на перавернутыя ўніз горлам бутэлькі, адбіваючы ўпэўнены крок, пашыбавала да аўто сына-бізнесмена.

5

Прамінуў месяц. Мама Віктора на кватэры не з'яўлялася. Гэтыя абставіны пасля знаёмства з Валянцінай Іванаўнай Веру больш не засмучалі. Віктор з галавой сышоў у справы бізнесу. Адна за адной пасыпаліся замовы на прадуктовыя пастаўкі. Ён днямі праседжваў у офісе. Дадому прыходзіў позна вечарам, стомлены і негаваркі…

У адзін з пагодлівых веснавых дзён Вера паехала ў горад купляць шпулькі нітак. Новая замова на сукенку, пакроеная і змётаная, вісела ў шафе. Вера з кавалачкам тканіны ад рэшткаў крою выправілася ў ЦУМ, каб падабраць швейныя ніткі патрэбнага адцення. У аддзеле фурнітуры, як вавёрка ў коле, круцілася прадавачка. Розных формаў і памераў гузікі, замкі-маланкі, цясёмкі, ніткі, карсажныя стужкі і іншыя дробязі праходзілі праз яе рукі. Вера спынілася ля вітрыны, паклала на шкляны прылавак каснікі ад крою і, углядаючыся ў катушкі пад шклом, папрасіла прадавачку:

— Пакажыце мне, калі ласка, другую катушку ў верхнім шэрагу.

Прадавачка падала невялікую, роўна зматаную на кардонны стрыжань катушку. Вера прыклала ніткі да тканіны і сумнеўна надзьмула вусны.

— Не падыходзіць. Давайце цямнейшую, тую, што побач.

Прадавачка падала чарговую.

— І гэта, на жаль, не падыходзіць. Што там яшчэ? — напружана ўглядалася Вера ў шкляны прылавак, шукаючы ідэальнае адценне да тканіны.

Прадавачка дастала пяць катушак рознакаляровых нітак, дэманстратыўна расклала перад Верай і разважліва сказала:

— Я думаю, гэта надоўга. Выбірайце. А мяне пакупнікі чакаюць.

Прадавачка маланкава і беспамылкова вызначыла ў Веры даставучую асобу ў падборы адценняў, аматарку дасканаласці. Вера памусоліла ў руках няроўны тканевы каснік, уражаная, наколькі іншыя ніткі не пасуюць па колеры. Узяла катушку, тую першую, што агледзела з самага пачатку, і пайшла да касы. Аплачаныя ніткі перакачавалі з прылаўка ў сумачку і згубіліся сярод мілых жаночых дробязяў: памады «Маргарэт Астор», бліскучых заколак, авальнага люстэрка-пудраніцы і бог ведае чаго яшчэ, што можна адшукаць у жаночай сумачцы. Задаволеная пакупкай, Вера збегла па прыступках на першы паверх ЦУМа і паспяшалася ў метро.

У гулкім вагоне, заныраючым у перагоны метро, праімчала па рэйках да станцыі «Усход». На выхадзе ледзь не атрымала па ілбе. Шкляныя тугія дзверы піхнула перад сабой тоўстая цётка, вынесла сваё грузнае цела ў пераход і адпусціла дзверы ў вольны палёт. Яны з разгону панесліся назад на Веру. Вера ліхаманкава выставіла перад сабой рукі і, захістаўшыся, як камыш пад ветрам, перахапіла прыляцеўшыя дзверы. Сонечныя акуляры, прыгожа і модна ўладкаваныя над ілбом, плюхнуліся на нос і, з’ехаўшы па пераноссі, затрымаліся на самай піпцы. А цётка, нібы крэйсер, шыбавала наперад. Вера натужна выціснула дзверы ад сябе наперад, сумленна іх прытрымала, каб не заехалі ў наступнага наведвальніка метро. Апынуўшыся ў пешаходным пераходзе, яна паправіла сонечныя акуляры, устойліва замацавала два чорныя авалы на пераноссі. На лоб не ставіла, асцерагалася, раптам зваляцца пад ногі, а цёткі-крэйсеры раструшчаць і вокам не міргнуць. Лятучай хадой Вера выпырхнула з перахода. Подбегам імканула да гандлёвага ларка, адвярнуўшыся да мінакоў спінай, падфарбавала чырвонай памадай вусны, агледзела твар у маленькае люстэрка з пудраніцы. Кіназорка. Шчоўкнула накрыўкай пудраніцы і зашпурнула яе ў сумачку. Крутнулася на тонкіх абцасах і пайшла да прыпынку. Апошнім часам Вера пахарашэла. Незаўважна з худзенькай дзяўчыны яна ператварылася ў статную відную маладзіцу, асаністую, з акруглымі тачонымі формамі. Мама Віктора не мела рацыі, калі называла яе курыцай.

Набліжаўся аўтобус. Вера прапусціла перад сабой пасажыраў, прагнучых як мага хутчэй трапіць у транспарт, быццам напаўпусты аўтобус апошні ў гэтым сезоне. Вера не спяшалася. Грацыёзна зайшла на заднюю пляцоўку і прыладзілася ля шырокага аўтобуснага акна. Праз чорныя авалы сонечных акуляраў пазірала на вуліцу. Аўтобус крануўся і павольна ад'ехаў ад прыпынку. Вера ўхапілася рукой за поручань. Праз момант па яе руцэ шарганула шурпатая далонь і знікла. Вера азірнулася. На пляцоўцы пахістваўся пад рух аўтобуса і шырока ёй усміхаўся сухарлявы малады мужчына ў наколках. Рукі пад кароткімі рукавамі сарочкі сінелі роспісам кшталту «накалі мне купала». У шырокай усмешцы не хапала двух зубоў.

— Мадам, не сказаць, каб вы былі прыгажуня, але ж чартоўскі сімпатычная! — лісліва выдаў ён камплімент Веры.

«Кажуць, што ў нас у транспарце ніхто не знаёміцца. Хлусня. Паглядзіце які спрытны: ірве падмёткі на ляту. Чым гэта я яго прычаравала?» — гадала Вера і абалдзела пазірала на кавалера праз сонечныя акуляры. Не знайшоўшы, што яму адказаць, і ўвогуле не ведаючы як сябе паводзіць., яна паспешліва адвярнулася і ўторкнулася поглядам у акно, быццам нічога цікавейшага ў жыцці, чым газуючыя па вуліцы машыны, не бачыла. Уладальнік усмешкі без двух зубоў дэманстратыўна прыстроіўся побач з Верай і сачыў за ёй. Яна адчувала яго пякучы пагляд.

Ва Уруччы на прыпынку Вера хутка шмарганула з аўтобуса. Кавалер выскачыў услед. Вера паскорыла хаду. Сухарлявы шырокімі крокамі на раз-два дагнаў яе.

— Мадам, а скажыце, вы вучыцеся ці працуеце?

— Я працую, — адказала Вера, стараючыся быць ветлівай і стрыманай.

— Цудоўна, мадам. Выходзіць, свае ўніверсітэты вы ўжо скончылі. І я… я таксама скончыў свае ўніверсітэты.

— Вы таксама скончылі ўніверсітэт? А дзе вы вучыліся?

Вера рабіла выгляд, што насамрэч думае, быццам у яе спадарожніка вышэйшая адукацыя. Кавалер з распіснымі рукамі шматзначна і гулліва прамовіў:

— Ха-ха. Мой універсітэт знаходзіўся не ў Мінску. Вы, мадам, тыя мясціны не ведаеце… — і цэпкім апаслівым паглядам, агледзеўшыся навокал, дадаў: — А мог быць і ў Мінску.

«Мабыць, на “Валадарцы”», — ледзь не ляпнула Вера ўслых, прыгадаўшы, што чула такую назву мінскай турмы на вуліцы Валадарскага. Калі глядзець ад тэатра рускай драматургіі — там Вера была на спектаклі — то на другім баку вуліцы за высокай мураванай агароджай з калючым дротам паверху добра праглядаюцца вежы тых «універсітэтаў». Сабраўшыся з думкамі, сказала першае, што раптоўна прыйшло ў галаву:

— «Мы все учились понемногу чему-нибудь и как-нибудь»… Здаецца, так казаў паэт?

Адчувала яна сябе не вельмі, таемна аблізвала з вуснаў чырвоную памаду, каб страціць чартоўскую сімпатычнасць.

— Мадам, вы не толькі чартоўскі сімпатычная, а яшчэ і чартоўскі разумная.

Кавалер не збіраўся пакідаць Веру ў адзіноце. Ён ішоў з ёй нага ў нагу, пругкай прытанцоўваючай хадой. Не хапала хіба што песні: «Не жди меня, мама, хорошего сына. Твой сын не такой, как был вчера. Меня засосала опасная трясина, и жизнь моя вечная игра».

«Чорт, прыляпіўся ж… Як ад яго адчапіцца?» — думала Вера.

— Ой! Мне ж у краму трэба! — радасна ўскрыкнула яна, убачыўшы шыльду з надпісам «Універсам». — Да пабачэння! Усяго добрага!

Вера прыпусціла да дзвярэй універсама. Уладальнік усмешкі без двух зубоў спыніўся і на развітанне яшчэ раз шырока ўсміхнуўся.

Перачакаўшы ва універсаме, Вера, перш чым выйсці на вуліцу, праз шкляныя дзверы прасачыла, ці вольны шлях. Кавалера не было. Сышоў шукаць наступную чартоўскі сімпатычную…

Да Веры на прымерку прыйшла кліентка. Лілія. А ў маёй Ліліі як у каровы талія. Мажная жанчына, высокая, поўная, узростам гадоў пад пяцьдзесят. Тыдзень таму Лілія замовіла святочную сукенку: у пляменніка намячалася вяселле, збяруцца

кагалам сваякі, родныя, стрыечныя і сёмая вада на кісялі, чалавек семдзесят. Лілія — цётка жаніха, павінна бліскануць перад гасцямі новай сукенкай. Перш чым зрабіць замову, Лілія гадзіну мусоліла часопісы моды, ніяк не магла вызначыцца з фасонам. З палаючымі вачамі гартала слізкія лашчоныя старонкі і замірала, загледзеўшыся на худую, плоскую як жэрдка манекеншчыцу, абкручаную драпіроўкай з тканіны.

— Хачу вось такі фасон, — пісталетнай руляй настаўляла Лілія ўказальны палец на юную мадэльку ў дзявочай сукенцы.

— На жаль, гэта мадэль вам не падыдзе, трэба пашукаць штосьці іншае, — як мага мякчэй прамаўляла Вера.

— Тады, можа, гэты варыянт?.. — здзекавалася над часопісам Лілія.

Веры з цяжкасцю ўдалося адгаварыць Лілію ад рукава кімано і драпіроўкі на грудзях. Спыніліся на простай элегантнай мадэлі. Лілія праявіла фантазію і на свой густ запатрабавала ўпрыгожыць сукенку бантам.

Сёння на прымерцы яна стаяла перад люстрам з касым тварам. На грудзях пры канцы глыбокага выраза дыбіўся завязаны бант.

— Яго трэба прыбраць, — пацерабіла Лілія банцік. — Нешта не тое.

Вера адпарола ніткі фастрыгоўкі і з палёгкай скінула недарэчны элемент на падлогу.

— Канечне, бант лішні, — паслужліва закруцілася яна ля «мадэлі».

— Неяк праставата, — дакучліва ныла Лілія і мацала выраз вакол мятай друзлай шыі. — Можа, што-небудзь іншае прыдумаць… вясёленькае… рушы зрабіць, напрыклад?..

Вера адвяла ўбок абураны пагляд. Праз імгненне яна зноў ялейна глядзела на кліентку і вытрымана, пяшчотна тлумачыла:

— Лілія, давайце не будзем перагружаць мадэль непатрэбнымі элементамі. Я параіла б вам дапоўніць сукенку аксесуарамі. Нітка белых караляў ці залаты ланцужок з бурштынавым кулонам — будзе нашмат эфектней і элегантней. А вось рукаўчык мы паправім.

Лілія манументам застыла перад вялікім люстрам у трохстворчатай шафе. Сукенку прымяралі ў спальні ў вузкім праходзе між двухспальным ложкам і шафай. Прасунуўшыся між Ліліяй і шафай, Вера дабралася да прымётанага рукава, паправіла паралонавае падплечыка і перакалола рукаў, скарачаючы шырыню магутнага пляча.

— Бачыце, так будзе больш статычна.

Тонкая і гнуткая Вера завіхалася ля «манумента».

— Можа, лепш рушы зрабіць? — занудна цягнула Лілія, разглядаючы свой буйны адбітак у люстры.

«Што людзі з сабой робяць, колькі ж трэба булак з'есці, каб дасягнуць такіх аб'ёмаў?» — праслізнула ў Верынай галаве.

— З рушамі будзе той жа эфект, што і з бантам, — цярпліва патлумачыла Вера. — Не варта іх рабіць. Я зраблю па выразу вузкай палоскай гіпюравую аздобу і рукавы гіпюравыя. Дастаткова. Колер сукенкі насычаны, глыбокі, гаворыць сам за сябе.

— Добра, — нехаця пагадзілася Лілія, вельмі хацелася ўляпіць рушы.

Сагнуўшыся, Вера чаравала вакол рэшткаў таліі ў Ліліі, спрабавала нешта вымудрыць з плаўнымі лініямі, падколвала згібы тканіны шпількамі. Прысела на кукішкі і зрабіла фастрыгоўку даўжыні сукенкі на падале.

«Манумент» узняўся на дыбачкі, уяўляючы сябе на абцасах. Прынцыпова нічога не змянілася.

Пасля прымеркі Вера вяртала ў шафу недашытую сукенку. Намулены паслужлівай усмешкай твар стомлена хмурыўся. Складаней усяго пашываць чахлы для машыны.

Тым часам Віктор і яго кампаньён Саша зайшлі ў двор дома ў цэнтры Мінска. Абодва ў пінжаках. Бізнесмены. Віктору пінжакі не вельмі пасавалі, сядзелі няёмка. Але Вера ўпарта чапляла на яго гэты атрыбут паспяховасці. Правая кішэня пінжака адтапыравалася ўкінутымі ў нутро ключамі ад машыны. Віктор любіў вадзіць машыну. Саша заўсёды ездзіў пасажырам. Грошы на машыну ў яго былі, а жадання купляць аўта і пароцца ў мазутных дэталях — не. У сумеснай з Віктарам фірме ён таксама быў накшталт пасажыра, заўсёды побач, але руліў Віктор. Саша быў

невысокага росту, непрыкметны, драбнаваты, з невыразнымі рысамі твару, у кампенсацыю прырода шчодра ўзнагародзіла яго густой шавялюрай светлых валасоў. Кампаньёны накіраваліся да альтанкі.

Драўляная альтанка, зробленая васьміграннікам, стаяла ў засені дрэў. Адным бокам яна прыхінулася да камля клёна, зверху над драўляным дахам альтанкі шапталіся зялёныя востраканечныя кляновыя лісты. Па баках альтанкі былі зроблены лаўкі, а па цэнтры — драўляны стол. Дошкі на лаўках і стале пакрыліся шэрасцю, патрэскаліся ад часу. Віктор грунтоўна ўсеўся на лаўку ў глыбіні альтанкі і звыкла шырока раскінуў ногі. Саша прымасціўся ля ўвахода, дастаў пачак цыгарэт «Мальбара» і, чыркнуўшы дарагой запальніцай з гравіроўкай на корпусе, прыкурыў цыгарэту. Цыгарэтны дым паплыў белым ручайком у паветра. Кампаньёны толькі што адабедалі ў рэстаране. На днях яны заключылі паспяховую здзелку: уцюхалі партыю зялёнага гарошку спажыўцам у Расію. Цяпер былі ў прыўзнятым настроі. Пасля абеду ў рэстаране Саша захацеў пакурыць на ўлонні прыроды. Ён курыў адзін. Віктор да цыгарэт быў абыякавы, у альтанку пайшоў за кампанію.

— Піць хачу, — прамовіў Віктор і аблізнуў вусны. — Смажаніну ў рэстаране повар добра перасаліў.

— Няма дзе табе ўзяць папіць. Цярпенне, мой сябра, — адказаў Саша і салодка зацягнуўся цыгарэтай.

Па сцежцы нацянькі ад дома ў глыбіні двара ішоў хлопчык гадоў дванаццаці. Ахайны, у сарочцы з доўгімі рукавамі, зашпілены на ўсе гузікі.

— Чуеш ты, пацан, хадзі сюды! — уладна паклікаў Віктор хлопца і паманіў кручкавата сагнутым указальным пальца

Хлопчык паслухмяна саступіў са сцежкі і павольна падышоў да альтанкі. Празрыстымі шчырымі вачамі вучня-выдатніка ён глядзеў на Віктора.

— Тут камерцыйны ларок паблізу ёсць? — нецярпліва спытаў Віктор.

Хлопчык сцвярджальна матнуў бялявай галавой зверху ўніз.

— Малы, зганяй у ларок, купі бутэльку кока-колы… літровую… Піць хачу… Дык што, збегаеш?

Хлопчык згодна матнуў галавой, лыпнуў вейкамі празрыстых вачэй. Віктор па-барску дастаў з нагруднай кішэні тоўсты партманет, паказальна расхінуў перад хлапцом, выняў хрусткую новую купюру беларускіх грошай і, трымаючы між двума пальцамі, вялікім і ўказальным, працягнуў грашовую банкноту школьніку. Хлопчык паслухмяна ўзяў.

— Так, давай хуценька, адна нага — тут, другая — там. Рэшту возьмеш сабе, — па-гаспадарску распарадзіўся Віктор.

Хлопчык згодна матнуў галавой зверху ўніз, развярнуўся і нетаропка, з той жа хуткасцю, што і да сустрэчы з Віктарам, пайшоў ад альтанкі ў бок вуліцы. У руцэ ён трымаў грошы.

— Ты паглядзі… ледзь ходзіць, дагнаць бы ды даць пендаля пад зад, — нецярпліва бубніў Віктор. — Піць хачу!

Віктор абагаўляў кока-колу. З салодкіх напояў ужываў выключна яе. Нешта ў гэтым напоі адчувалася амерыканскае, прасунутае, перадавое.

— Ды пачакай крыху, зараз прынясе, — абыякава супакойваў кампаньёна Саша.

Час ішоў. Віктор паглядаў на гадзіннік, аблізваючы сасмяглыя вусны. Прайшло больш за дваццаць хвілін. Хлопчык з кока-колай не вярнуўся.

— Ён не прыйдзе, — сказаў Саша. — Не ўбачыць табе ні грошы, ні кока-колы… стопудова.

Сашу разбіраў смех.

— Во гадзёныш! — кіпеў Віктор. — А вочкі бачыў? З яго б святых пісаць.

— Н-д-а-а, дзе-е-ткі пайшлі, — цягнуў Саша і глядзеў на праход між дамамі, дзе знік школьнік з грашамі.

— Куды глядзіць школа?!

— А ведаеш, пацан, як вырасце, абавязкова павінен адкрыць гандлёвую фірму. У гэтым бізнесе яго чакае вялікая будучыня! — смеючыся, захоплена падсумаваў Саша.

Не дачакаўшыся кока-колы, кампаньёны на старым Віктаравым «Пежо» паехалі ў офіс. У офісе Віктор таропка наліў

з пластыкавай бутэлькі поўны стакан звычайнай вады і вялікімі глыткамі высмактаў да дна. Палягчэла. Усеўся за стол, завалены паперамі.

Офіс Віктора і Сашы знаходзіўся ў паўпадвале. Некалькі прыступак спускаліся ўніз да цяжкіх металічных дзвярэй. Зверху над прыступкамі навісаў самаробны казырок з барвовай металачарапіцы. Над казырком замацаваліся разнастайныя і разнавялікія шыльды з гучнымі назвамі паўпадвальных прадпрыемстваў: МП «Сатурн», Мартынюк і К ( пад літарай К хаваўся намёк, што нехта Мартынюк валодае цэлай кампаніяй), ЗАО «Высокае неба». Да неба адсюль было далёка, затое арэнда каштавала танна. Офіс уяўляў сабой пакой метраў пятнаццаць з трыма сталамі, прыціснутымі груваскімі камп'ютарамі, закладзенымі паперамі. Накладныя, бланкі дамоў, рахункі-фактуры, каталогі коштаў грувасціліся стосамі. Два сталы належалі Віктору і Сашу, трэці бухгалтарцы. Бухгалтарка, маладая, замужняя жанчына, што заўсёды і ўсюды спазнялася, ніколі не магла толкам звесці дэбет з крэдытам. То ў яе губляліся рахункі-фактуры, то забывалася ўнесці звесткі аб продажах, то яшчэ нейкая трасца. Нахмурыўшы лоб, яна ўвесь час засяроджана і дзелавіта шчоўкала па калькулятары, збіваючы лічбы, замазвала белай замазкай з дробнай бутэлечкі напісанае ў паперах і ўносіла новыя паказчыкі, праз некаторы час замазвала замазанае і зноў выпраўляла. Віктор у здзелкі закладаў добры кавалак навару, а частку ўгод праводзіў наогул без папер за наяўныя грошы, перададзеныя ў кустах. Каб не Віктарава сквапнасць, з бухгалтаркай Клавай яны б даўно вылецелі ў трубу. Бухгалтарка Клава насіла рэдкае імя, і яно вельмі ёй пасавала. Клаўдзію трэба было звольніць, але на яе месца прыйдзе такая ж самая. Добрага бухгалтара днём з агнём не адшукаць. Сам Віктор з паперамі і калькуляцыямі не вельмі сябраваў, яны наганялі на яго тугу. Аднак за справамі ён сачыў пільна і імгненна адчуваў, калі што пайшло не так. Віктор меў нядрэнны нюх на грошы.

Сёння Клава з'ехала ў падатковую. Віктор і Саша па вяртанні ў офіс бухгалтаркі не заспелі і апынуліся ў пакоі адны. Офіс. Так гучна называўся цесны пакой з двума малымі акенцамі пад

столлю. Праз акенцы часам бачыліся ногі жыхароў дома, насяляўшых пяць паверхаў над падвалам. Саша, чалавек нежанаты, любіў глядзець на ногі пад кароткімі спадніцамі, тоўсценькія і худыя запалкі, са скразнячком і літарай Х. Ён маляўніча ўяўляў, як можа выглядаць уладальніца ўбачаных ног.

У офісе быў зроблены еўрарамонт. Еўрапейскімі выяўляліся матэрыялы, а рукі, што рабілі рамонт, былі мясцовага паходжання, рукі шабашнікаў-хаўтуршчыкаў. Брыгады, прагнучы падзарабіць, смела і рашуча называлі сябе будаўнікамі і браліся за справу рамонту. «Падумаеш, рамонт, — развважалі чальцы брыгад, — любы і кожны можа к сцяне шпалеры прыляпіць і плінтус прыцвікаваць, і мы гэта здзейснім у найкарацейшы тэрмін». Вось гэты любы і кожны ў рамонце офіса асабіста пашчыраваў. Дарагія імпартныя шпалеры, коса прылепленыя да сцяны, месцамі разышліся па швах. Пенапластавы плінтус пад столлю ў кутках адклеіўся і правісаў краямі. Ля стала бухгалтаркі прадраўся лінолеум. Будаўнікі-хаўтуршчыкі пакінулі пад ім у падлозе дзірку, паленаваліся заканапаціць, а Клаўдзія прасадзіла лінолеум шпількамі абцасаў.

Саша перагледзеў паперы, склаў іх у стос і пацягнуўся за пачкам цыгарэт. Пачак быў амаль пусты, засталося тры цыгарэты.

— Трэба матануцца да Мітрафанаўны, закупіць тытуню. Вазьму адразу пару блокаў «Мальбара». Давай зараз з’ездім, — папрасіў Саша, круцячы ў руках апусцелы цыгарэтны пачак.

— Паехалі, — пагадзіўся Віктар.

## 6

Мітрафанаўна, жвавая хударлявая бабуля, стаяла ў падземным пераходзе ля Камароўскага рынка з палатнянай пацёганай торбай у руцэ. У торбе, прыкрытыя вязанай кофтай, хаваліся пачкі імпартных цыгарэт: кантрабандны тавар, нелегальна ўвезены з-за мяжы. Мітрафанаўна знаходзілася ў шчыльнай сувязі з буйнымі кантрабандыстамі. Яна брала на рэалізацыю цыгарэты і займалася падпольным дробным гандлем. Сёння да Мітрафанаўны далучылася новая кампаньёнка-пенсіянерка. Яна

не проста самастойна прыйшла і стала гандляваць, яна была ўведзена ў падпольную сетку па рэкамендацыі кантрабанднымі сувязнымі. Новую гандлярку цыгарэтамі «Мальбара», «Кент» і «Кэмел» з вярблюдам на пачку звалі Кацярына Львоўна. Некалі яна працавала выкладчыцай ва ўніверсітэце. З глыбокім веданнем справы выкладала палітэканомію і нават напісала кандыдацкую дысертацыю. Цяпер мінулы выкладчыцкі вопыт і статус ніякім чынам не мог ёй спатрэбіцца, бо яны зраўняліся ў падземным пераходзе ля Камароўскага рынка з пралетаркай, былой працаўніцай завода Галінай Мітрафанаўнай. Зраўняла іх аднолькавая жабрацкая пенсія. Поспех прыходзіць і сыходзіць, а есці хочацца заўсёды. Былая выкладчыца Кацярына Львоўна ў першы дзень кантрабанднай працы на працоўнае месца з’явілася пры парадзе: адпрасаваныя штаны і кофта з белым каўняром. Тонкія бяскроўныя старэчыя вусны яна паднавіла някідкай памадай. Фарбаваныя валасы пасля накруткі на бігудзі дыбіліся на галаве буйнымі локанамі. На носе невялікія круглыя акуляры шкельцамі прыкрывалі падслепаватыя вочы. У плецёную плоскую кашолку пад шоўкавую ў сіні гарошак касынку Кацярына Львоўна склала кантрабандныя тытунёвыя вырабы.

Да Мітрафанаўны па першасці яна звярнулася карэктна і на «Вы». Прадставілася.

— Мяне завуць Кацярына Львоўна. А Вас, здаецца, як мне казалі, Галіна Мітрафанаўна… Галіна Мітрафанаўна, любезная, Вы мне, калі ласка, растлумачце, якія тут правілы паводзінаў і парадкі. Я буду Вам вельмі ўдзячная.

Мітрафанаўна скептычна агледзела новую нягеглую гандлярку і пра сябе ахрысціла яе прафесаршай.

— Якая я табе Галіна Мітрафанаўна, мы ж, лічы, равесніцы. Заві мяне проста Галя. Пры жаданні можна, канечне, і па бацьку, ніхто не забараняе. Але мы тут з дзяўчатамі адна адну па імені называем, няма калі расшаркваца.

Пасівелыя «дзяўчаты» з торбамі, запоўненымі цыгарэтамі, апанавалі ўсе чатыры ўваходы ў падземны пераход і ціхімі галасамі затоена паведамлялі мінакам:

— «Мальбара», «Кент»… нядорага, за блок — зніжка.

Кацярына Львоўна пакрысе ўваходзіла ў курс кантрабанднай справы. Яна клапатліва папраўіла шоўкавую касынку ў кашолцы, запіхнула краі за цыгарэты.

— Калі вы дазваляеце, я з задавальненнем буду звяртацца да вас на «ты», — прафесарша крыху памялася, рыхтуючыся да сяброўскага пераходу ў адносінах, і прамовіла: — Галя, скажы, якія ў мяне могуць узнікнуць праблемы вось з гэтым, — паказала яна вольнай рукой на кашолку.

— Ніякіх праблем не будзе. Прадавай ды бяры грошы. Акрамя таго, што міліцыя можа загрэбці ў пастарунак. То трэба ўцякаць. Цябе ж напэўна папярэдзілі?

— Безумоўна, папярэдзілі. Але мне нейк боязна.

— Ой, Каця… кінь дурное… няма чаго асабліва баяцца. Міліцыянеры на нас, на старых, не надта злосныя. Некаторыя шкадуюць часам, разумеюць, што не ад добрага жыцця мы ў пераход гандляваць пайшлі… Але ўсё адно ім лепш на вочы не трапляцца… а ты добра зрабіла, што ў штанах прыйшла. Спрытней будзе бегчы.

Мітрафанаўна крутнулася да мінакоў і прагаварыла як мантру:

— «Кэмел», «Мальбара», нядорага.

Падземны пераход нагадваў вялікі мурашнік. Людзі ад аўтобусных прыпынкаў і бліжэйшых вуліц спяшаліся на рынак. Снавалі валютчыкі, моцныя хлопцы ў красоўках і спартыўных касцюмах з залатымі ланцугамі на шыі. Дачнікі гандлявалі кветкамі, прытуліўшыся ўздоўж сцен, ставілі ля ног рознакаляровыя пластмасавыя вёдры з букетамі.

Прафесарша нясмела ўзялася за працу і пайшла ў народ.

— «Кэ-мел», — слаба выціснула яна з сябе і пастукала па плеценай кашолцы.

— Пішчыць як кацяня, — ціха прабурчала пра прафесаршу Мітрафанаўна, — а бацьку ейнага звалі Леў… Цар звяроў… Прыдумаюць жа людзі імёны… Леў… Не, каб па-чалавечы назваць Мікалаем ці хоць бы Мітрафанам, як майго бацьку.

Ля прафесаршы спыніўся малады хлопец, па ўсяму відаць студэнт, лядашчы і галавасты. Прафесарша без малейшых згрызот сумлення загнала студэнту пачак цыгарэт.

— О, размачыла. Гэта добра, цяпер гандаль пойдзе, — пахваліла навенькую бывалая Мітрафанаўна.

Гандаль пайшоў. Бабулі сноўдалі па пераходзе і пакрысе распрадавалі тытунь. Прафесарша хутка стамілася без звычкі. Жвавая Мітрафанаўна хадзіла нібы завадная і паспявала сачыць за абстаноўкай. Бакавым зрокам наверсе на плошчы перад падземным уваходам Мітрафанаўна злавіла варушэнне. Хутка ўзбегла па прыступках, агледзела плошчу ля рынка. Ад Дома Мэблі рухаўся міліцэйскі патруль. Мітрафанаўна маланкай пранеслася ўніз па прыступках і гукнула да кантрабандыстак:

— Дзеўкі, мянты!..

Ад нечаканасці прафесарша з кашолкай аслупянела.

— Што здранцвела? — піхнула яе пад локаць Мітрафанаўна. — Каця, не стой як слуп. Пабеглі да «кукурузы», — загадала прафесаршы, і яны прыпусцілі на другі бок пераходу да выхаду з падзямелля.

Мітрафанаўна на ўсіх ветразях абганяла прафесаршу. Кацярына Львоўна перарывіста дыхаючы, выяўляла небывалы спрыт і старалася не адставаць.

Двое мужчын спыніліся і назіралі за бабулямі. Адзін прамовіў:

— Паглядзі, што старушэнцыі твораць! Навыперадкі панесліся! А ў паліклініцы стогнуць: ціск у іх, суставы хворыя. Сюды б участковага ўрача, каб палюбаваўся на пацыентак.

— А тая, каторая худзейшая, — кіўнуў другі на Мітрафанаўну, — якраз мая цешча.

Мітрафанаўна і прафесарша вынырнулі з падземнага пераходу на вуліцу і, змяніўшы подбег на хуткую хаду, аддыхваючыся, пашыбавалі да высокага дома з белымі паўкруглымі балконамі, падобнага на кукурузны пачатак, празванага ў народзе «кукурузай».

Саша з машыны заўважыў знаёмую бабулю. У Мітрафанаўны ён заўсёды купляў цыгарэты. Віктор прытармазіў ля ўзбочыны. Саша адкруціў аўтамабільнае шкло і гукнуў:

— Мітрафанаўна!

Мітрафанаўна асцярожна азірнулася, убачыла Сашу ў акне машыны.

— Каця, ты хавайся ў двары за «кукурузай», а да мяне кліент прыехаў… пасля пабачымся, — імгненна развіталася Мітрафанаўна з прафесаршай і ўвішна пабегла да аўта.

Прафесарша спынілася. Сківіца на яе твары ад здзіўлення паехала ўніз, прыадкрыўшы рот. Напярэдадні прафесарша глядзела французскі фільм. У адным з эпізодаў у парыжскім квартале чырвоных ліхтароў жанчыны лёгкіх паводзін падсаджваліся ў машыны да кліентаў, аднак яны былі значна маладзейшыя за Мітрафанаўну.

Мітрафанаўна расчыніла дзверы «Пежо», зашпурнула ў сярэдзіну пацёганую торбу, прыўзняла падол квяцістай спадніцы і спрытна заскочыла на задняе сядзенне.

— Чаго стаіш? Уцякай! — гукнула прафесаршы з машыны Мітрафанаўна і гучна пляснула дзвярыма.

— Віктор, гані! — весела азваўся Саша. — Мітрафанаўна сыходзіць ад пагоні.

Віктор націснуў на газ, і машына, шаргануўшы жорсткай гумай шын па сухім асфальце, ірванула з месца.

Прафесарша паімчалася хавацца за «кукурузу». Над кашолкай, саслізнуўшы з цыгарэтных пачкаў, вылез край шоўкавай касынкі і абсыпаным гарошкам хвастом матляўся на бягу.

Імклівa праляцеўшы па вуліцы, патрыманае «Пежо» Віктора даехала да скрыжавання, павярнула направа, яшчэ раз направа і праз арку ў дзевяціпавярховіку, пракулдыкаўшы на выбаінах, заехала ў двор дома. спынілася. Віктор заглушыў рухавік. Тут яны былі ў бяспецы.

— Мітрафанаўна, ганяе вас міліцыя, — сцвярджальна сказаў Саша, павярнуўшыся бокам з пярэдняга сядзення да Мітрафанаўны.

— Ганяе, Санечка… ганяе. Што зробіш, праца ў іх такая. Яны нас ганяюць, а мы ўцякаем, — адказала Мітрафанаўна з заўзятай маладцаватасцю, нікольні не засмуціўшыся сваімі ўцёкамі.

— І яно вам трэба — бегаць па горадзе? Адпачывалі б дома, на пенсіі.

— На пенсіі… Хіба ж пражывеш на маю пенсію? Слёзы, а не пенсія… Ат, няма пра што гаварыць, — махнула рукой Мітрафанаўна. — Але я, Санечка, не бядую. Пакуль здароўе ёсць, выкручуся, зараблю. І не такое перажывалі. Пасля вайны голыя і галодныя былі.

— Калі тое было, Мітрафанаўна? Успомнілі… — цягнуў Саша.

Віктор нахіліўся на стырно і слухаў, як за спінай бадзёра рапартуе Мітрафанаўна.

— От здаецца і даўно было, а я як удумаюся — быццам учора… Маладая была, апрануцца хацелася, з ватоўкі вылезці, хоць якое паліто купіць, сукенку. Каб зарабіць, цягала на спіне цэглу і на чацвёрты паверх, і на пяты. Козлікі адмысловыя драўляныя пад цэглу ускладуць на цябе, нагрузяць і панесла да муляроў. Тады ж кранаў пад'ёмных не было, усю працу ручкамі ды плечкамі рабілі. А горад жа разбураны, суцэльныя руіны. Трэба ж было будавацца.

Мітрафанаўна належала да пасляваеннага пакалення, цягавітага і ўпартага, пакалення бязбацькаўшчыны. Іх бацькі загінулі на вайне. Ім не было на каго спадзявацца, акрамя сябе саміх. І яны працавалі і ўдзень, і ноччу, і ў холад, і ў спёку. Працавалі з энтузіязмам, з верай у цудоўную будучыню.

— Мітрафанаўна, дык вы на будоўлі працавалі?

— Спачатку, Санечка, на будоўлі, а пасля — на заводзе, на шарыкападшыпніках… Грошы на заводзе большыя плацілі. У мяне на сённяшні дзень — сорак гадоў бесперапыннага стажу, — пахвалілася Мітрафанаўна.

— Ого! Мітрафанаўна, адпрацавалі вы як мае быць. А навошта столькі працоўнага стажу?

— А як жа, Санечка, чым большы стаж, тым большая пенсія. Так нам абяцала дзяржава. І я верыла… От думала, напрацую стаж і будзе ў мяне вялікая пенсія.

— І як, спраўдзілася вера, вялікую пенсію атрымліваеце? — дзеля праформы пытаўся ў Мітрафанаўны Саша, ведаючы, якая ў пенсіянераў насамрэч пенсія.

— Кукіш з маслам, а не пенсія… З цыгарэт нагандлюю, тады можна жыць. І дачцэ дапамагаю, унучку малодшую ў інстытуце трэба вывучыць… Ох, задурыла я вам, хлопцы, галаву, люблю пагаварыць… Санечка, ты ж па «Мальбара» прыехаў?

Мітрафанаўна палезла ў торбу.

— Два блокі вазьму адразу, — зрабіў замову Саша.

— Прадала, прадала… «Мальбара» адзін блок застаўся і два пачкі.

— Давайце што ёсць.

— От, Санечка, з табой добра працаваць. Бярэш оптам. Люблю такіх кліентаў, а то цыркаюцца па пачку… Прадам табе ды паеду дамоў. Хопіць на сёння, набегалася.

Мітрафанаўна прасунула між крэсламі доўгую папяровую ўпакоўку з цыгарэтамі і два асобныя пачкі ў дадатак. Саша ў аплату адправіў да Мітрафанаўны беларускія грошы, празваныя «зайцамі». На грашах пасяліліся розныя звяры: вавёркі, бабры, рагатыя ласі. А на купюру ў адзін рубель заскочыў заяц-русак. Гэты малюнак вушастага зайца і даў назву нацыянальнай валюце. Насельнікі лясоў упрыгожвалі беларускія грошы. Было ў гэтым нешта сімвалічнае. Інфляцыя скакала па краіне. Заўтра Мітрафанаўна пойдзе да знаёмага валютчыка — памяняе пачак «зайцаў» на зялёнага «Джорджа Вашынгтона».

Віктор завёў машыну. Мітрафанаўна надзіва лёгка для сваіх гадоў выбралася з машыны, цягнучы за сабой торбу з рэшткамі цыгарэт «Кемэл».

— Да наступнага разу, Мітрафанаўна. Я ваш навекі, рыхтуйце цыгарэты.

— Санечка, для цябе ў першую чаргу, у любы час дня і ночы, — вочы Мітрафынаўны ўсміхаліся. — Бывайце, хлопчыкі.

Мітрафанаўна зачыніла дзверы машыны і праз двор уздоўж пад'езда пашыбавала да аўтобуснага прыпынку.

— Вось табе і старушэнцыя. Не кожны малады здолее гэдак пакруціцца, — прамовіў Віктар, гледзячы ўслед Мітрафанаўне. — Каб маладая была, узяў бы да нас трэцяй кампаньёнкай па бізнесе ці бухгалтаркай замест Клавы.

— Давай сёння не будзем пра Клаву. Яна там нешта напарола з квартальнай справаздачай. Лепш не ўспамінаць… Так, цыгарэты я купіў, і мне таксама трэба рухаць дадому.

— Паехалі да мяне, — прапанаваў Віктар. — Вера вячэру згатавала. Піўка купім. Што табе аднаму дома сядзець?

— А паехалі, — ахвотна згадзіўся Саша.

Віктараў кампаньён Саша некалькі месяцаў жыў самотным халасцяцкім жыццём. З'ехаў ад бацькоў на здымную кватэру. Яны наўмысна выправілі сына з бацькоўскага дома, мяркуючы, што калі той будзе жыць адзін, то хутчэй з'явіцца ў яго якая кабета, а там глядзі і жэніцца. Саша іх хітрыя планы не падзяляў і звязваць сябе вузамі Гіменея не імкнуўся. Марш Мендэльсона яму падабалася слухаць выключна на чужых вяселлях. Спачувальна глядзеў ён пад гукі вясельнай музыкі, як на чарговага маладога мустанга накідваюць ласо.

Сённяшні вечар Саша правёў на кватэры Віктара і Веры ў сямейнай атмасферы. Павячэраў, выпіў піва. У дзіцячым пакоі паразмаўляў з Верынай дачкой Насцяй, паглядзеў яе малюнкі, пахваліў і нават пагладзіў па галаве.

— Дзядзя Саша, я вам зараз казку пачытаю, — зазвінеў дзіцячы голас, і Насця пацягнула з паліцы кнігу казак у маляўнічай вокладцы.

«О, фігня якая атрымалася, мусіць перастараўся. Гладзь пасля гэтага дзяцей па галоўцы… зараз пачнецца… Жылі-былі дзед і баба… ці яшчэ горш… У некатарым царстве, у некатарым гаспадарстве… Я гэта наўрад ці вытрымаю. Не саспеў я яшчэ», — захваляваўся Саша.

— Другім разам, Насцёна, другім разам пачытаем абавязкова, — хутка адстраляў словы і рэціраваўся з дзіцячага пакоя.

Сям’я разбеглася па кутках. Віктор глядзеў у зале тэлевізар. Вера корпалася на кухні: было чуваць, як струменіць вада з кухоннага крана, ляпаюць талеркі. Саша зайшоў у залу.

— Санёк, сядай, целек паглядзім, — прызыўна матнуў рукой Віктор.

Саша прыладзіўся на мяккай канапе. Пачуваўся ён няўтульна. Дома б цяпер спакойна разлёгся ў цішы, пачытаў дэтэктыў. Сядзі тут як цвік у адным месцы. Нейкі час Саша з салідарнасці з Віктарам прыгнечана глядзеў неверагодную эканамічную муру па целеку. Марудна цягнуліся хвіліны. Напрыканцы вечара, прытомлены назіраннямі шчаслівага сямейнага жыцця, Саша з палёгкай паехаў у звыклую эгаістычную самоту халасцяцкай кватэры.

Перад сном Вера наважылася абмеркаваць з Віктарам Сашава асабістае жыццё. Яна сядзела на вялікім двухспальным ложку, прыкрыўшы калені лёгкай летняй коўдрай. Начная сарочка з карункавым выразам спаўзла з пляча. Вера заклапочана ўздыхала:

— Трэба абавязкова Сашу з кім-небудзь пазнаёміць. Яму так самотна… У мяне ёсць сяброўкі незамужнія. Трэба прыдумаць нагоду і звесці іх з Сашам. Напрыклад, зладзіць шашлыкі на прыродзе… Як ты думаеш, Віктар, гэта можна зрабіць? Табе падабаецца мая ідэя?

Віктор у адных трусах рыхтаваўся заскочыць пад коўдру. У яго галаве саспела іншая ідэя. Карункі, што ледзь прыкрывалі Верыны грудзі, натхнялі і будзілі фантазію.

— Што ты сказала? Прабач, я не ўсё пачуў. Сашу пазнаёміць? Можна і пазнаёміць.

Віктор залез пад коўдру, з прыціскам, пажадліва правёў далонню па Верыным калене і вышэй, праваркатаў:

— Сонейка, давай спаць.

Быццам бы ён менавіта спаць і збіраўся…

## 7

Вера верыла, што можа дапамагчы ўладкаваць Сашава сямейнае жыццё. І што ён менавіта сямейнага жыцця і прагне. У яе на прыкмеце былі дзве сяброўкі, абедзве мінчанкі. Мінчанкі сябруюць з мінчанкамі, правінцыялкі з правінцыялкамі. Іну яна ведала са школы. Тупаватая асоба. У матэматыцы наогул нічога не секла. Старанна спісвала рашэнні задач у суседкі па парце, выцягнуўшы шыю, зазірала праз плячо ў чужы сшытак. З гуманітарнымі навукамі ішло не нашмат лепш. Атэстат Іны за дзесяць класаў стройным шэрагам упрыгожвалі трайбаны… Нейкім дзівам пасля школы Іна паступіла ў сельскагаспадарчы інстытут. Як і дзеля чаго яна там апынулася і пачала знаёміцца з сельскай гаспадаркай, будучы дачкой мінскіх інжынераў, заставалася для Веры загадкай. Хадзілі чуткі, што ў Інінага таты ў той адукацыйнай установе былі падвязкі. Пасля сканчэння сельскагаспадарчага інстытута ў сяло Іна, канечне, не паехала, а засталася ў Мінску у нейкай канторы «Рогі і капыты». Па размеркаванні на працу Іна значылася ў спісе адной з апошніх і павінна была ехаць туды, куды Макар цялят не ганяў, але адбыліся дзіўныя метамарфозы: апошнія са спісу засталіся ў Мінску, а выдатнікі-правінцыялы паехалі ў сяло падымаць пахіснуўшуюся сельскую гаспадарку. Інтэлект якраз у палях ім і спатрэбіцца. Мінчане з Мінска не выязджаюць, яны тут прысмоктваюцца, прымагнічваюцца. Іна наконт інтэлекту не пераймалася, яна дабірала іншым: доўгія ногі, пекныя формы і гуллівы характар. Яна лёгка выскачыла замуж і гэтак жа лёгка разышлася, падарыўшы бацькам унука. Хацелі — атрымайце, можаце цяпер нянькацца. Пасля ўступлення ў шлюб Іна адразу пераехала ад бацькоў у асабістую двухпакаёвую кватэру. Хадзілі чуткі, што ў Інінага таты былі падвязкі, прапісалі ў бацькоўскую кватэру Ініну бабулю з сяла, нешта падхімічылі і оп-ля: дачка атрымала асобную кватэру. Пасля гэтага Ініны бацькі бабулю за непатрэбнасцю адправілі назад у сяло, што ёй тут у горадзе рабіць, няхай дажывае свой век на свежым паветры. Зяця таксама з кватэры вытурылі і сталі Іначцы дапамагаць, бо адной ёй цяжка гадаваць

дзіця. Веры жыццё сяброўкі бачылася інакшым. Нацярпеўшыся нястачы ў няўдалым шлюбе з Лёнчыкам, яна і сяброўку шкадавала. Веры здавалася, што Іне не шанцуе ў асабістым жыцці. Што ёй самотна і цяжка.

Другая сяброўка была калега-мадэльерка, маўклівая і цягамотная мастачка Аня. Аня жыла з мамай. Мужчыны у іх кватэры не вадзіліся. У Ані быў асобны пакой, дзе яна стварала свой асаблівы свет. Дрэнна прыклееныя шпалеры на сценах месцамі пузырыліся і неахайна зацёрліся ля канапы. Аню не бянтэжыла гэтая дробная акалічнасць — зануранае ў эстэтычныя вынаходніцтвы, яна гадзінамі праседжвала, корпаючыся ў аплікацыях з тканіны, падразала, падшывала, распорвала і зноў падшывала. Скончыўшы з аплікацыямі, Аня, нястомная ў творчых пошуках, бралася за фарбу. Варыла на кухні каляровае смуроднае варыва ў рондалі і запускала туды белую тканіну, закручаную ніткамі ў пучкі, кіпяціла яе ў фарбаванай вадзе, і на свет з'яўляласяануча ў павуцінныя плямы-разводы — вынік творчых пошукаў. Вера захаплялася Анінымі мастацкімі талентамі. Як і належыць таленавітаму чалавеку, Аня амаль заўсёды хадзіла ў расцягнутых штанах і гэткіх жа майках.

Вось гэтыя дзве незамужнія мамзелі, Верыны сяброўкі, былі прызначаны ў патэнцыйныя нявесты для Сашы. Любая на выбар. Вера абзваніла іх, запрасіла ў наступную суботу з'ездзіць разам кампаніяй на рэчку, зладзіць шашлыкі на прыродзе і між іншым з гуллівай стоенасцю паведаміла, што ў Віктора ёсць халасты кампаньён, намякнула: Саша будзе на шашлыках, не ўпускайце момант. Вера карцела як мага хутчэй зладзіць злучэнне адзінокіх сэрцаў.

З пятніцы Вера рыхтавалася да сватоў, замаскіраваных пад шашлыкі. Для шашлыку патрэбна было купіць свіное мяса. Яна рызыкнула схадзіць на закуп у краму. Здаралася, туды прывозілі свініну. Мясны аддзел сціпла хаваўся ў самым канцы ўніверсама. Вера прайшла паўз старых паліц, застаўленых трохлітровымі слоікамі кансерваваных памідораў і агуркоў, паўлітрушкамі салянкі з кіслай капусты, стосамі бляшанак кількі ў тамаце і кансервамі «Завтрак туриста». Сняданак турыста складала пярловая

каша з сімвалічным, чыста ўмоўным дадаткам мяса: любімая закусь для сіняносых заўсёднікаў віна-гарэлачнака аддзела. Кірнуўшы на траіх паўлітроўку, закусвалі яны «Завтраком туриста» і плаўленым сырком «Дружба». Дзея адбывалася за бліжэйшым вуглом. Далікатна зняўшы з сырка тонкую фольгавую абгортку, упіваліся жоўтымі зубамі ў сырковую мякаць і па-сяброўску перадавалі куснуць сабутэльніку.

Вера падышла да прылаўка ў мясным аддзеле. Прылавак наганяў тугу. За пашарпаным, запэцканым шклом на бляшаных падносах ляжалі супавыя наборы з абгрызеных костак, пара невялікіх кавалкаў пацямнелай абветранай тлустай свініны, побач стосам грувасціліся свіныя ногі с капытамі, тырчалі лычамі ўверх дзве вялізныя свінячыя галавы з дрэнна абсмаленымі вушамі.

— Х-м… з гэтага прадукту шашлыку не зробіш, — сказала Вера, разглядаючы тоўсты свінячы лыч. — Вось дзіўна, куды знікае свіное мяса?.. Мабыць, свіней падрываюць… Пасля падрыву застаюцца адны галовы ды капыты.

З падсобкі з’явіўся чырванатвары рубшчык мяса ў брудным халаце з закасанымі рукавамі. Халат, пакрыты спераду засохлымі барвова-карычневымі плямамі, зашпіляўся двума гузікамі на пузе.

— Скажыце, калі ласка, а мяса падвязуць? — безнадзейна спытала ў мясніка Вера.

— Не ведаю. Можа, падвязуць, а мо і не. Мне дырэктарка крамы не дакладае. Бярыце, што ёсць, — абыякава прашмякаў тоўстымі вуснамі мяснік і хутка сышоў у падсобку.

Вера пастаяла крыху ля прылаўка, вывучала свінячыя лычы.

— Бярыце што ёсць. А што тут ёсць?.. Трэба цягнуцца па мяса на Камароўку, — уздыхнула яна.

На Камароўскім рынку заўсёды можна было купіць добрай свініны, хоць і каштавала яна не танна. У мясных шэрагах гандлявалі перакупшчыкі. Яны скуплівалі за невялікія грошы свініну ў вяскоўцаў і перапрадавалі ўтрыдарага ў ненажэрнай мільённай сталіцы. Сярод перакупшчыкаў зрэдку трапляліся вяскоўцы з мясам ад уласнай гадоўлі. Іх адрознівалі абветраныя твары і заскарузлыя ад працы рукі. Веры ж усе гандляры здаваліся ад-

нолькавымі. Мяса выбіраць яна не ўмела, ніякавата тапталася ля мясных прылаўкаў, спадзявалася на вопыт гандляроў, верыла ім і купляла, што прапаноўвалі. Раз на раз не прыходзіўся: бывала, купляла добрае мяса, а здаралася, падсоўвалі з жыламі і масламі — прывітанне для дамачкі з водарам парфуму.

Вера пасоўвалася ўздоўж мяснога шэрагу. Рынак пад высокім купалам гулка гудзеў, поўніўся галасамі. Зазывалі гандляркі:

— Бярыце свінінку. Паглядзіце які кавалак кумпяка пекны. Нядорага.

— Скабачкі нятлустыя.

Вера завярнула ў другі шэраг. Яна наканавана цягнулася ля прылаўка, гружанага свежынай. Спытала пару разоў кошт выразкі. Прыцанілася. Погляд слізгаў па мясе, па гандлярках у белых хвартухах з каўпакамі на галаве. Раптам Вера адчула, што нехта за ёй назірае, спакваля, незаўважна. Яна ўтаропілася на гандлярак, што белафартушна чаргаваліся за мяснымі кавалкамі, раскладзенымі на доўгім суцэльным стале. Адна з гандлярак нахіліла галаву ўніз і ўбок, хаваючы твар, прысела і знікла пад сталом. Белы каўпак па-здрадніцку тырчаў зверху. Другая, паўнагрудая мажная матрона, праводзіла яе пад стол недаўменным разгубленым позіркам.

— Воля, чаго ты туды палезла? — міргнулі здзіўленнем вочыгузікі паўнагрудай гандляркі.

Каўпак не зварухнуўся.

Вера замарудзіла крок, спынілася ля каўпака. Магнітам пацягнула затрымацца. Яна пачала выбіраць свежаніну, не выпускаючы з віду каўпак. Праз нейкі час каўпак, вырашыўшы, што пагроза мінавала, павольна пайшоў з-пад стала ўгару. Над прылаўкам высунуўся малады жаночы твар.

— Калініна?.. Волька?.. Што ты тут робіш? — агарошана выпаліла Вера.

— Мясам гандлюю, — прагучаў з галавы над прылаўкам упаўшы голас, твар успыхнуў, і Волька Калініна поўнасцю вылезла з-пад стала, гатовая праваліцца скрозь зямлю. «Так няўдала патрапіцца на вочы былой сакурсніцы… А Вера расфуфыраная, парфумай пахне, бачна што — у шакаладзе. Не тое што

я… Развярэдзіла душу», — засмучана думала Волька Калініна, разглядаючы Веру. Калісьці яны побач сядзелі ў аўдыторыі за мальбертамі, малявалі нацюрморты. Блікі святла на антычнай вазе. Светлацень. Драпіроўкі з тканіны. Юнацтва, поўнае мараў і надзей… Жыццё няўмольна.

— У нас швейныя атэлье пазачыняліся. Проста немагчыма ўладкавацца на працу па спецыяльнасці, — чамусьці пачала апраўдвацца перад Верай былая сакурсніца. — Двое дзяцей карміць трэба, прыходзіцца круціцца.

— А я бяру замовы на святочныя сукенкі.

— Я таксама спрабавала шыць на замову… Ды толку мала… Гарадок маленькі, заробак на прадпрыемствах не плацяць, народ збяднеў. Не замаўляюць святочных сукенак. Кожны стараецца штосьці таннае з адзення на рынку купіць… Гэта у вас у сталіцы заўсёды ёсць багаценькія бураціны.

— Так-так, разумею… — падтаквала, круцілася Вера, размова давалася няпроста, адчувалася нацягнутасць, няёмкасць. — А ты нашых каго-небудзь бачыла? — спрабавала яна зляпіць зацікаўленасць.

Як барыкада іх раздзяляў мясны прылавак з лунаючым у паветры пахам свежыны.

— Не, не бачыла, — шчыра адказала Калініна. «І не жадаю бачыць. Не вельмі я гляджуся за прылаўкам ў белым каўпаку гандляркі мясам. Цябе, Вера, з каптуром хопіць», — кіслым воцатам праскочыла ў думках Калінінай.

— А як у асабістым жыцці?

— З мужам я разышлася. Свабодная жанчына, — храбрылася Калініна.

Гандлярка з вачамі-гузікамі navалілася локцямі і «поўнай пазухай цыцок» на прылавак і, навастрыўшы вушы заўзятай пляткаркі, лавіла кожнае слова.

— Мужчыны цяпер не прывязаны да сям’і, уцякаюць ад праблем. Хочуць рабіць кар’еру, — недарэчна пляла Вера.

— Кар’еру?.. Седзячы з півам на канапе? Ты і сказанула… Я яго сама вытурыла. Яшчэ і сыходзіць не хацеў. «Оля, я жыць без цябе не магу». Мала мне двух дзяцей, а ён — за трэцяга.

Канечне, ён без мяне жыць не можа. Усё на маіх плячах. Дваіх дзяцей я так-сяк пацягну, а траіх — то не, прабачце, асабліва калі трэці з барадой… А ты як? — выгаварыўшыся, спытала яна Веру.

— Ды так, нічога сабе, — ухілiста адказала Вера. Абмяркоўваць пры незнаёмых людзях асабістае жыццё было няёмка. Вера коса зірнула на прадавачку з пранырлівымі вачамі-гузікамі і паспешліва палезла ў сумачку, дастала асадку. Крутнуўшы яе між пальцаў, спытала ў Калінінай: — У цябе ёсць паперка? Запішу хатні тэлефон, патэлефануй у бліжэйшы час, сустрэнемся, паразмаўляем. Тут не вельмі зручна.

Калініна пацiснула плячамі. У мясных шэрагах паперы для нататак не вадзілася. Вера знаходліва адшукала ў бакавой кішэні дамскай касметычкі талончык на праезд і са зваротнага боку напісала нумар тэлефона. Вера марна пакідала нумар тэлефона. Волька Калініна тэлефанаваць не збіралася. Пра што ім гаварыць? Яны па розныя бакі мяснога прылаўка, як па розныя бакі барыкад. Студэнцкія бесклапотныя дні за дымкай жыццёвага далягляду. Графіка, жывапіс, мадэлі сукенак незваротна сышлі ў мінулае. У кожнага свой шлях. Вера летуценная, напамаджаная, ціснула на Калініну манернасцю і пахам парфумы.

Вера адчувала сябе не ў сваёй талерцы, быццам нечым вінавата перад Калінінай. Кропелька віны ўсё ж была: Вера не сумела схаваць пачуцці. Ёй бы згуляць свайго ў дошку хлопца, які нічаму не дзівіцца, а яна мружыла вочы спачуваннем. Каму спачуваць? Гандлюючы мясам, Волька Калініна зарабляла ўдвая болей за Веру. Але людзям уласціва прыпісваць сабе больш поспеху і ўдачы. Вера карпела за швейнай машынкай, абіхаджвала капрызлівых кліентак, пашываючы модныя строі, паслужліва ім падыгрывала: «Колер сукенкі Вам вельмі да твару, а фасон падыходзіць да вашай фігуры, толькі прыўзняць рукаўчык, крыху распусціць у таліі і падкараціць падол» — і поўзала на кукішках, намячаючы даўжыню сукенкі. Удача.

На шашлык Вера купіла ў былой сакурсніцы шыйнае свіное мяса, бяскоснае. Віктар, знаўца пагулянак, казаў, што яно лепш за ўсё пасуе, каб быць засмажаным на агні. Вера аддалялася,

сыходзіла з мяснога шэрагу. Гандлярка, адпіхнуўшыся локцямі ад прылаўка, выпрасталася і ўзняла перад сабой бюст.

— Гэта што за фіфа? — спытала яна, глянуўшы шэрымі гузікамі ўслед Веры.

— Ды так, адна… вучыліся разам, — адказала Волька Калініна і скамячыла ў руцэ талон з напісаным тэлефонным нумарам.

Вярнуўшыся з Камароўскага рынка на кватэру, Вера зрабіла шашлык. Заліла кефірам у рондалі парэзанае на невялікія квадратныя кавалкі мяса, пакрышыла скрылькамі на чатыры часткі цыбулю, змяшала, пасаліла. Гатова. За ноч настаіцца, заўтра запячы і есці…

У суботу раніцай збіраліся на шашлыкі. Вера, апранутая папаходнаму ў кароткія брыджы і спартыўную кофту на маланцы, складала пакеты ў багажнік. Ля машыны яны былі ўдваіх з Віктарам. Насцю забрала бабуля аднакласніцы. Вера пазнаёмілася з ёй на бацькоўскім сходзе, прыемная добразычлівая жанчына. Яна выручала Веру і часам прыглядвала за Насцяй. Часта, гледзячы на дачку, Вера балюча шкадавала, што ў Насці няма бабулі. Верына мама рана пайшла з жыцця.

Багажнік машыны напоўніцу загрузілі пляжнымі прычындаламі, сумкамі з посудам і прадуктамі. Рондаль з шашлыкамі прыладзілі між сумкамі, каб не перакуліўся ў дарозе. «Пежо» пакаціла збіраць каманду на ўік-энд.

Ля станцыі метро «Усход» у салон бадзёра заскочыў Саша, звыкла прымасціўся на пярэдняе сядзенне побач з Віктарам. Паехалі далей.

На вуліцы Каліноўскага прыхапілі мадэльерку Аню ў расцягнутых спартыўных штанах. Яна стаяла, прытуліўшыся да шэрага камля дрэва. Гэткая ж шэрая і невыразная, у апушчаных руках трымала скураную сумку з выцвілай рудой скуры. Сумка накшталт мяшка зашморгвалася зверху на куліску праз металічныя дзіркі-фістоны. Аня лічыла гэтую сумку шэдэўрам стылю. Для звычайнага мінака, неспакушонага творчымі пошукамі, «шэдэўр» выглядаў пастуховай торбай. Машына ледзь не праляцела на ўсіх ветразях міма Ані. Прыйшлося тармазіць і даваць задні

ход. Аня квёла варухнулася, адкараскалася ад дрэва і няспешна запаўзла ў салон.

Іна чакала на прыпынку ў Зялёным Лузе. Вера заўважыла яе здалёк. Русалка з распушчанымі валасамі. Неверагодна кароткія блакітныя шорты на доўгіх нагах і стракатая пляжная сумка праз плячо. Машына прыціснулася да ўзбочыны і спынілася ля Іны.

Вера з Аняй пасунуліся і Іна падсела да іх на задняе сядзенне. Вера радасна кіўнула Іне.

— Прывітанне, дарагая мая.

— Усім прывецік, — працыўкала Іна.

Уладкаваўшыся ў машыне, яна чынна прадставілася мужчынам:

— Будзем знаёмы. Я Інэс-са.

У Верыных вушах нязвыкла прасіпела літара «с». Інэс-са. Яна здзіўлена пакасілася на сяброўку і падумала: «Мама мілая… ратуйце, з якіх гэта пор яна зрабілася Інэсай? Заўсёды была Інай, іншым разам Інкай… бач ты, сёння перакваліфікавалася ў Інэсу».

Віктар і Саша павярнуліся з пярэдніх сядзенняў да Інэсы і адначасова, зблытаўшы разам свае імёны, прамовілі: «Віктар, Саша».

— Дык мы едзем? — бадзёра спытала Інэса і дзвюма рукамі адсунула апаўшыя пасмы валасоў з твару.

Віктар павярнуўся да стырна, націснуў на педаль газу. «Пежо» ад’ехала ад узбочыны і, набіраючы хуткасць, пакаціла па шашы. Саша крыху затрымаў пагляд на Верыных сяброўках. Агню ў яго пaглядзе Вера не заўважыла. Ён павольна адвярнуўся, паправіў рэмень бяспекі і глянуў праз аўтамабільнае шкло ў поле, быццам там было цікавей. За горадам зелянелі апрацаваныя і засеяныя палеткі, дрэвы збіраліся ў невялікія пералескі, а з-за іх вынырвалі дачы з рознакаляровымі металачарапічнымі дахамі. Ненатуральным крыклівым бэзавым колерам кінуўся ў вочы вузкі двухпавярховы дачны дамок, бліснуў і люстрам адбіваў сонечныя промні металічны скатны дах павернутай бокам нізкай прыбудовы. Вясковыя старыя драўляныя хаты з шэрым шыферам на макаўцы стаялі асобна ад дач, сціпла туліліся адна да адной сярод поля. Саша апусціў аконнае шкло, і вецер цёплай плынню

ўварваўся ў аўтамабіль, абдзьмуваў твар, уздымаў валасы. Высунутая з акна далонь рассякала сустрэчны вецер. Машына хутка імчала па шырокай бетоннай дарозе. Даехаўшы да скрыжавання, прытармазіла і звярнула з шашы ў бок Вячы. Пераадолелі яшчэ некалькі кіламетраў. Ля павароту пазначылася шыльда з назвай вёскі Дафэрэнцыя. Машына звярнула на дарогу ў пералесак. Праз пару хвілін выскачылі да ракі.

На беразе загаралі адпачываючыя. Да машыны імкліва кінуўся маленькі лялечны сабачка з вузкім ашыйнікам, пагрозліва зацяўкаў, прабег некалькі крокаў, спыніўся, вякнуў услед машыне для парадку і, віхляючы хвастом, вярнуўся да гаспадыні. Сабачая гаспадыня ў позе ёгі, скруціўшы ногі і выставіўшы разгорнутыя ўверх далоні, адкрыўшы чакры, убірала ў сябе сонечную энергію з нябёсаў. З пясчанага, парослага рэдкай стаптанай травой спадзістага берага ў ваду заходзілі купальшчыкі. Апасліва і дрыготка ставілі белыя ногі ў слаба прагрэтую ваду, асвойтаўшыся, клаліся на водную гладзь і плавалі ля берага, плюхалі рукамі па каламутнай вадзе. Шырокая рака выгінала цёмнае ціхае рэчышча ўздоўж парослых лесам берагоў. Удалечыні, узняўшы нос, віхляла па вадзе маторная лодка, пакідала за сабой распырсканую, пеністую сцежку. На мелкаводдзі пры беразе краталася пад лёгкім ветрам высокая асака.

«Пежо» заехала ў прыбярэжны лес і спынілася. Тут было бязлюдна і зацішна. Абапал ракі раслі дрэвы, падступалі да самага берага і кронамі, нахіліўшыся, глядзелі ў ваду. Крыху воддаль ад ракі шырокая прагаліна між дрэў утварала невялікую сонечную паляну. Кампанія выйшла з машыны.

— Цудоўнае месца і выхад да вады ёсць. Вунь, глядзіце, вытаптана зямля ля берага, — сказала Вера.

— Міленька, мне падабаецца, — падтрымала Інэса, пацягнулася, размяла плечы і страсянула назад валасамі.

Зняўшы плоскія палатняныя пантофлі, яна гарэзліва паскакала да вады, пальцамі босай нагі пакратала водную гладзь. Услед за Інай, аглядаючы прыбярэжны лес, пацягнулася Аня. Яны недарэчна глядзеліся побач. Адна ў какетлівых шортах,

ледзь прыкрываўшых пятую кропку. Другая — у трыкатажных спартовых штанах унісекс.

Віктор расчыніў багажнік і выгружаў пакункі. На траву прызямлілася сумка з посцілкай і ручнікамі, пакет з прадуктамі, шампуры, мангал. Вера пачала дапамагаць. Вазілася з посудам, разбірала прадуктовы пакет. Сяброўкі Веры, абыякавыя да гаспадарчых клопатаў, шпацыравалі па беразе ракі і дзяліліся ўражаннямі аб прыродзе.

Саша рыхтаваў мангал.

— Санёк, не хочаш скласці дамам кампанію? — заўзята падміргнуў вокам Віктор.

— Да ну іх… не… потым, пазней, — упарціўся Саша. — Шашлыкі лепш збацаю. Трэба Веры дапамагчы, — прачнулася ў Сашу схільнасць да гаспадарчых спраў.

Віктор цішком зірнуў у бок ракі, чапляючыся паглядам за голыя ногі Інэсы.

Тым часам Саша натапыраны вазіўся з мангалам. Ён разгадаў Верыну задумку. Гэтыя сяброўкі на беразе ракі з’явіліся па яго душу. Не, няправільна… Правільна казаць — з’явіліся па руку і сэрца… Гэтак ён і аддасць, трымайце шырэй кішэню!

Вера паднесла посцілку бліжэй да мангала і разаслала на траве. Зазвінелі шампуры, лязгаючы адзін аб адзін, ляглі на край посцілкі. Побач паставіла рондаль з замочанымі ў кефіры шашлыкамі. Віктор разгрузіў машыну і ў нацяжку моцна пляснуў багажнікам.

— Пайду сплаваю. Праверу, як вадзіца.

Хутка паскідаў з сябе адзенне, расправіў неспартыўны ссутулены торс, асцярожна ступаючы нязвыклымі да босай хады нагамі, пакрочыў да ракі і сходу нырнуў у ваду.

Інэса з берага чыркнула вачамі ўслед Віктору і, томна пацягнуўшыся, сказала:

— Трэба і мне асвяжыцца.

На ўскрайку берага, ля высокай шапатлівай асакі яна сцягнула з клубоў вузкія шорты, адным махам праз галаву зняла з сябе тонкую майку і, блісkануўшы жоўтымі бляхамі аздобы на белым купальніку, пайшла ў ваду. Валасы струменілі па гладкай скуры

плячэй. Аня, кратаючы пальцамі кішэні расцягнутых спартыўных штаноў, шчымліва глядзела ёй услед.

Вера наторквала на шампуры кавалкі мяса і назірала, як Віктор з Інай, пераўвасобленай раптам у Інэсу, плаваюць адно ля аднаго. Загледзеўшыся, наторкала мяса пад самы заточаны верх шампура.

— Куды ты столькі наляпіла, здымай апошнія кавалкі, — загадаў Саша і дакорліва пакруціў галавой, — Вера, аб чым ты думаеш? Мне ж трэба, каб краі шампураў былі свабодныя.

Вера апусціла шампур пікай уніз, сцягнула некалькі кавалкаў мяса і размашыста плюхнула назад у рондаль. Між пальцаў сцякаў кефір з шашлычнай замочкі. Яна яшчэ раз мелькам зірнула на раку.

Дэльфін і русалка выйшлі з цёмных вод на травяністы бераг. Віктор узяў з пакета шырокі ручнік, абціраючыся стаў ля машыны. Выцерся закруціў ручнік вакол вузкіх клубоў, заткнуўшы рог на таліі. Туды ж да машыны падышла і Інэса, рукой адціскаючы вільгаць з намоклых доўгіх валасоў. З пляжнай сумкі дастала невялікі паласаты махровы ручнік, абцёрла рукі і грудзі, мяккай махрой прайшлася па доўгіх моцных нагах, развярнуўшыся да Віктора, прамовіла:

— Вытры мне спіну, калі ласка, я не дастаю.

Віктор з ідыёцкай усмешачкай прайшоўся ручнікам па мокрых Інэсіных плячах. Вера перастала торкаць мяса на шампур, атрутным позіркам упілася ў Інэсу.

«Гадаўка! Ты ж ведаеш, гэта мой мужчына!.. Я чаму цябе на шашлыкі запрасіла? Я цябе запрасіла, каб з Сашам пазнаёміць… падлюка ты!» — вíравала ў Веры ў галаве.

Інэса падзякавала Віктору, зірнуўшы яму ў вочы паглядам шалавы, раскінула на пляжную сумку мокры ручнік і як ні ў чым не бывала пайшла да Веры.

— Веруня, давай дапамагу. Што мне рабіць, можа агуркі парэзаць?

Вера натужна ўсміхнулася і падсунула Інэсе шампур.

— Шашлыкі нанізвай. Вось так, рукой бяры, — Вера запусціла руку ў рондаль з кавалкамі абмазанага кефірам шашлыку і наторкнула на шампур прыгаворваючы: — Оп-ля.

Інэса неахвотна ўзяла ў руку кавалак мяса і няёмка торкала яго на шампур. Доўгія валасы звісалі мокрымі пасмамі над шампурам.

— І цыбульку бяры ў рукі, нанізвай да мяса, — давала ўказанні Вера.

Інэса неахвотна пакошкалася зверху ў рондалі пальцамі.

— Глыбей рукой, глыбей залазь. Цыбуля на дне рондаля.

Пальцы Інэсы, адшукаўшы на дне кавалак цыбулі, пакрыліся ліпучай тлустай шашлычнай замочкай.

— Пайду сплаваю, — сказала Вера і пакінула Інэсу сам-насам з шашлычным мясам.

Яна пайшла да ракі, а Інэса няўклюдна нанізвала мяса, крывілася, ліпкая тлустая замочка сцякала па руках

Саша рыхтаваў распалку мангала. Ад чацвярцінкі кароткага палена адшчоўкваў нажом дробныя шчэпкі і скрыжоўваў іх над сціснутай у камяк газетай. Праз хвіліну над мангалам зыбкай стужкай узняўся дымок, пад шчэпкамі разгаралася газетная папера. Саша, абыякавы да прапанаваных на выбар дзвюх кабет, зацята аддаўся здабычы агню. Вочы ўзрушана блішчэлі насустрач нясмелым языкам полымя. Цягамотная Аня прысела на посцілку і, падціснуўшы да сябе ногі ў спартыўных штанах, пачала стругаць на талерку скрылькі агуркоў. Сухія, ломкія, падрэзаныя да плячэй валасы спадалі на доўгі вузкі твар. Яна прыбрала іх рукой, заклала за вуха. Мільгнуўшы бясколернымі вейкамі, незаўважна зірнула на Сашу.

Сонца залівала паляну раскошным шчодрым святлом, ціха краталася асака ля берага. У мангале разгарэўся агонь, ахопліваючы полымем чацвярцінкі паленцаў. Едкі дым узлятаў у паветра. Сухое дрэва хутка гарэла, ператваралася ў пякучае, дыхаючае жарам барвова-чырвонае вуголле.

Вера накупалася і, падбадзёраная прахалоднай вадой, вярнулася да кампаніі. Аня падсунула на сярэдзіну посцілкі нарэзаныя і прыгожа з эстэтычным густам выкладзеныя ў талерцы агуркі

з памідорамі, паклала на сурвэтку кавалкі хлеба. Вера пагаспадарыла ў прывезеных з дому пакетах, паставіла на посцілку пластыкавую бутэльку газіроўкі, пакет соку, расклала талеркі, відэльцы і рознакаляровыя кубкі з харчовай пластмасы, памяранцавыя і салатавыя. Паходныя кубкі пад любую патрэбу: і пад гарбату, і пад віно з гарэлкай. Было б што наліваць. Інэса паднесла да імправізаванага стала прызапашаную ў пляжнай сумцы бутэльку малдаўскага віна, незвычайна аформленага, агорнутага мешкавінай і абвязанага ля горла матузом з сургучнай пячаткай. Віно яна ўрачыста паставіла ля сябе на посцілку.

— Мой членскі ўзнос, — са значнасцю сказала Інэса і ў далейшым за шашлычнымі пасядзелкамі сама і высмактала свой членскі ўзнос.

Аня праставіла бутэльку шампанскага, Саша — каньячок. Неўзабаве смачна запахла шашлыком. Мяса на шампурах пакрывалася румянай, месцамі прыпаленай корачкай, распускаючы ў паветры апетытны водар.

Абкружыўшы посцілку з напоямі, кампанія разгавелася. Выскачыў корак, і савецкае шампанскае пеніста пералілося ў рознакаляровыя пластмасавыя кубкі. Аня з Верай пацягнулі вуснамі з кубкаў шампанскае.

— А мне віна! — загадна прамовіла Інэса.

Віктор раскупорыў бутэльку, нацадзіў паўкружкі і працягнуў Інэсе.

— Прашу.

Яны селі побач на посцілку. Інэса хутка апаражніла кубак і папрасіла дабаўкі. Віктор паслужліва падліваў. Сам не піў, бо за рулём. Вера перагаворвалася з Аняй.

— Я асвойваю тэхніку роспісу па шоўку, — дзялілася цягамотная Аня творчымі вышукваннямі. — Нацягваеш на рамку кавалак тканіны і пэндзлікам наносіш фарбу на шоўк. Фарба расплываецца ў незвычайны размыты малюнак, вясёлкавыя разводы. Штосьці ў гэтым ёсць ад імпрэсіяністаў, — прымазвалася Аня да знакамітых мастакоў.

— Ты малайчына, у цябе сапраўдныя мастацкія здольнасці, — з захапленнем хваліла яе Вера.

— Ды нічога асаблівага. Якія здольнасці? Я проста эксперыментую, — жэманна курчыла з сябе сціплую асобу Аня.

Аня аб сабе ўсё ведала сама, навошта хваліцца іншым. Яны павінны знаходзіцца ў няведанні. Яна іх некалі здзівіць і агаломшыць. Яна настолькі выбітная асоба, што аднойчы будзе ісці па вуліцы ў расцягнутых штанах, а побач спыніцца прынц на белым «Мерседэсе» і скажа: «Дзевушка, можна з вамі пазнаёміцца». І гэта будзе невыпадкова. Ён, яе прынц, убачыць, як ад яе зыходзіць свячэнне з глыбокага ўнутранага свету, убачыць яе непаўторнасць, адметнасць ад іншых прымітыўных жанчын. Ён будзе ўражаны, узрушаны і скораны назаўжды… Час ішоў. Мерседэсы не спыняліся ля Ані. Старыя дабітыя жыгулёнкі і тыя праязджалі міма. Уражанне не скаланула нават Сашу, прыцягнутага ў сваты падманам.

Саша, адзінокі, чараваў над шашлыкамі, апошні раз іх крутнуў і падаў веерам на шампурах, духмяныя, напоўненыя вугальным жарам. Кожны ўхапіў утыканы сакавітым мясам шампур і ўпіўся зубамі ў гарачую мякаць. Саша махануў з памяранцавага кубка каньяку і прысеў з шашлыком крыху воддаль ад кампаніі. Ад «нявест» ён трымаўся на адлегласці.

Інэса дапіла чарговую порцыю віна, падхмялеўшая, пахіхіквала і нібыта знячэўку дакраналася да Віктора голым плячом.

«Гадаўка… і не падавіцца ж шашлыком, сківіцамі малоціць… а гэты… блішчыць як медны тазік, прыасаніўся… знайшоўся мне Алэн Дэлон, — ахоплівала Веру раздражненне, але віду яна не падавала. — “Всё хорошо, прекрасная маркиза!”»

Віктор зрабіўся ўважлівы да жанчын. Ані падліў шампанскага. Яна баранілася, адпіхвала бутэлечнае горла.

— Хопіць, хопіць!

Пра Сашу, які павінен быў быць цвіком праграмы ў запланаваных сватах, усе забыліся. Ён сціпла пацягваў каньячок і таптаў шашлык, радуючыся, што ніхто не змагаецца за яго сэрца. Вера малявала на твары добры настрой і была любезнай. Кампанія адпачывала як магла. Даелі шашлыкі. Злазілі ў ваду, паплавалі. Падсохлі на сонцы. Дабавілі спіртовага градусу. За ўік-энд Інэса ўгамавала цэлую бутэльку малдаўскага віна і была надзвычай

гуллівая. Разышлася не на жарт і нібыта спатыкнуўшыся павісла ў Віктора на руках. Віктор са знаёмай Веры ідыёцкай усмешкай уратаваў Інэсу ад падзення, падтрымаў яе, празмерна моцна абхапіўшы за плечы.

Вера на некаторы час згубіла цягу да добрых манер і пра сябе па рабоча-сялянску разважала: «Эх! І варта часам пацягаць за валасёнкі якую-небудзь Інэсу… сяброўка называецца, а я ёй верыла… суцэльная крывадушнасць… вісне на чужых мужыках… змяюка».

Дамучаўшы ўік-энд з няўдалымі сватамі, Вера з палёгкай вярталася дамоў. Віктор падкінуў на машыне падпітую кампанію да горада і нецярпліва газаваў на Уручча, стомлены сваёй цвярозасцю. Глядзець, як іншыя закладаюць за каўнер, а потым развозіць гарэзнікаў па хатах — задача не з простых. Дома ён навярстаў страчанае, умазаў паўбутэлькі каньяку, што пакінуў яму Саша, і, няёмка, коса прываліўшыся да спінкі канапы, заснуў перад уключаным тэлевізарам. Вера яго пабудзіла і перапраўіла цела ў ложак.

Наступным ранкам Вера ціхенька рабіла на кухні бутэрброды з сырам і каўбасой. На пліце награваўся чайнік. Свісток з яго носа Вера абачліва зняла. Сваім візгатам ён мог пабудзіў Насцю. Дачка спала ў дзіцячым пакоі. Лета, вакацыі. Праз расчыненую фортку на кухню залятала чэрвеньскае лагоднае паветра і галасы з двара. Віктор, заспаны, у спартыўных штанах і тапках на босую нагу, пачэсваючы голы торс, з’явіўся перад Верай. Сеў на табурэтку ля стала, працёр кулакамі заспаныя вочы.

— Добрай раніцы, — прамармытаў заспана.

— Добрай, — адказала Вера.

Яна падхапіла ў руку забулькаўшы, заклякатаўшы кіпенем чайнік, заліла чорныя дробныя скруткі чайных лістоў у заварніку. Прыкрыла накрыўкай. Пад накрыўкай чаінкі замакалі, разгортваліся лісцем і афарбоўвалі кіпень у залаціста-карычневы колер. Вера выцягнула з-пад стала табурэтку і ўселася насупраць Віктора, падпёршы бараду рукой. Віктор, сонна мружачыся, млява ўзяў з талеркі бутэрброд з сырам, адкусіў кавалак і пачаў

павольна жаваць усухамятку. Непрычасаныя, разбарсаныя пасля сну валасы дыбіліся ўрастапырку над яго вухам. Вера пазірала на Віктораў заспаны твар і думала: «Зараз спытае пра Інэсу».

Віктор, як гусак, праглынуў сухі кавалак булкі з сырам і прамовіў:

— А ты ведаеш, Інэса… я хацеў спытаць…

— Я так і прадчувала, — не дала яму дагаварыць Вера.

— Што ты прадчувала?

— Вось глядзела на цябе і думала, зараз завядзе размову пра Інэсу. І ты не падвёў…

— Я не разумею, чаго ты ўзнялася?

— Не разумееш?.. Да чаго мужчыны дзіўны народ: у тэхніцы яны сякуць, навуку наперад рухаюць і гэтак далей… Не будзем заглыбляцца… Інтэлектуалы, адным словам. А як пра Інэсу — то ён нічога не разумее. Даўн, і усё тут.

Віктор заёрзаў на табурэце. Вочкі гандляра страцілі санлівасць, забегалі пад вейкамі.

— Я насамрэч не разумею тваёй рэакцыі на нявіннае пытанне.

— Нявіннае пытанне?.. Нам з табой з раніцы больш няма аб чым паразмаўляць, акрамя як пра Інэсу. І што ты хочаш аб ёй даведацца — даўжыню ног ці памер бюста?

— Ну ладна, хопіць. Прыдумала нешта на роўным месцы, — незадаволена сказаў Віктор і перайшоў у глухую абарону.

Ён выдатна разумеў, што ў Верыных падначках была рацыя: на ўчарашніх шашлыках зашмат увагі ўдзяліў Інэсе, перабраў з цікаўнасцю. «І што з таго? — апраўдваў ён сябе. — Урэшце я вольны мужчына. Калі разабрацца, то я наогул ні пры чым, Інэса сама клеілася».

— Што ты так разнерваваўся. Папі гарбаты і супакойся, — прымірэнча сказала Вера.

Яна не збіралася высвятляць адносіны. Адзіным яе жаданнем было крыху пакпіць з Віктора і перарабіць мінулыя падзеі і заляцанні ўчарашняга дня ў жарт.

Віктора панесла. Не кемячы спрасоння, што і дзеля чаго ён гаворыць, а па большай частцы адчуваючы сябе гаспадаром становішча, ён груба сказаў.

— А я і не нервуюся. Чаго мне нервавацца? Я чалавек вольны і магу рабіць што пажадаю. І ты, дарэчы, таксама.

Тут Віктор бессаромна хлусіў. Веры ён наўрад ці дазволіў бы рабіць тое, што яна пажадае, тым болей віснуць на руках іншага мужчыны.

«Я чалавек вольны і магу рабіць што пажадаю…». Веру агаломшылі лёгка, быццам мімаходзь кінутыя Віктарам словы. Пад лыжачкай прабег непрыемны халадок. Атрымліваецца, яны амаль год жывуць разам пад адным дахам, а ён адчувае сябе вольным. Непрыемнае адкрыццё. Вера змоўчала. Яна разумела, што не варта працягваць пачатую размову, сцежка неабдуманых слоў завядзе ў нетры хлусні і спрэчкі. Яна моўчкі разліла гарбату. Залацісты струменьчык паліўся з заварніка ў белае ўлонне кубка. На душы было пагана…

8

Першы раз за той час, што Вера пражыла з Віктарам, гандлярская мужчынская тусоўка, якая звычайна адзначала выбітныя падзеі ў вузкім коле, вырашыла змяніць фармат і разбавіць кампанію жонкамі і сяброўкамі. Нагодай надарыўся дзень нараджэння Віктаравага знаёмага. Валерыя Пончыка. Мянушка Пончык прымацавалася да яго за ўкормлены выгляд і круглыя хамячыя шчокі. Віктор з Пончыкам некалі разам пачыналі з дробнага гандлю. Потым кожны заняўся асобнай справай, знаёмства нікуды не дзелася, яны перасякаліся па жыцці і з венікам лазні.

Вера прыдзірліва аглядала гардэроб . Першы выхад разам з Віктарам у свет. Сукенкі і блузкі соўгаліся ў шафе, выбраныя ляцелі на ложак. Вера апраналася, незадаволена крывіла твар перад люстрам: «Не, не тое», — скідвала ўборы і паўголая ў камплекце карункавай бялізны муштравала рэчы ў шафе. Рука застыла на месцы, дакрануўшыся да чарговай сукенкі. Маленькая чорная сукенка. Знакамітая Како Шанэль, знаўца моды, запавядала: у гардэробе жанчына павінна мець маленькую чорную сукенку. Бяспройгрышны варыянт. Ты заўсёды чароўная. Вера выхапіла з шафы і апранула на сябе бяспройгрышны варыянт сукенкі. Яна

крыху ціснула. Ад гэтага Вера падалася асабліва фігурыстай. На шыю паверх сукеначнага выразу-лодачкі лёг ланцужок з кулонам. Кулон Вера купіла восенню на грошы, закладзеныя Віктарам у бюсцік пасля чарговай папойкі ў лазні. Пакруцілася перад люстрам. Выдатна.

Адпрасаваная сарочка для Віктора вісела на плечыках на дзвярной ручцы.

— Віктор, хадзем у ванную, я пагалю табе шыю, — гукнула да Віктора і, фарбуючы вусны, прамуркатала сабе: — Калі я не паклапачуся, зарасце нібы арангутанг.

Віктор выпаўз з залы.

— Ты гатовая?.. Мне сабрацца пяць хвілін, — прыспешваў ён Веру.

— Не бубні. Ідзі ў ванную, — адказала Вера.

У ванным пакоі Вера адгаблявала Віктору зараслую патыліцу, скалаціла ручніком валасы з плячэй і далонямі пяшчотна прайшлася па яго спіне.

— Апранайся. Я амаль гатова.

І яшчэ хвілін пятнаццаць правіла фрызуру, падбівала расчоскай валасы і ляпіла да прычоскі пад рознымі вугламі заколку са шклярусам. Нарэшце за непатрэбнасцю адшпурнула яе на туалетны столік перад люстрам. Кропелька духоў «Кліма».

— Бягу, бягу, — паведамляла Віктору.

Віктор у зале чытаў газету, трэці артыкул.

— Можна выклікаць таксі? — нецярпліва спытаў ён у Веры.

— Канечне, можна.

Віктор адклаў газету і набраў нумар, выклікаў таксі.

Выйшлі з кватэры і Вера спахапілася: памада засталася на туалетным століку. Трэба вярнуцца. Без памады — ніяк.

Да Пончыка яны спазніліся. Госці сядзелі за сталом.

— Дзе вы падзеліся? — сустрэў іх у пярэдняй гаспадар дома Валера Пончык і рассунуў усмешкай хамяковыя шчокі.

Вылузгалася з кухні жонка Пончыка, рослая энергічная кабета.

— Праходзьце, праходзьце. Хуценька да стала, — запрасіла яна прыпазніўшыхся гасцей.

Віктор зрабіў знак вачамі, паказваючы Веры на сумку. Там ляжаў падарунак. Вера дастала прадаўгаваты карабок з фірмовым надпісам на фасадзе. Галоўнае — не падарунак, галоўнае — увага. Імяніннiку трэба рабіць выгляд, што ён бязмерна рады гасцям, а не падарунку. Пончык спакваля цікаваў за карабком: а што ж там прынеслі? Віктор раскрыў ларчык. У сярэдзіне ляжаў новенькі, бліскучай скуры партманет.

— Валера, дорым табе партманет з намёкам, каб багацце множылася і партманет быў заўсёды поўны.

— Дзякуй, буду старацца напаўняць, — сказаў Пончык, усмешка не сыходзіла з хамяковага твару, адзначаючы любоў да падарункаў.

— Давайце за стол, толькі вас і чакалі, — ласкава запрашала гаспадыня дома.

Пасярод залы, засланай па падлозе на ўсю шырыню мяккім з ўсходнім малюнкам дыванам, стаяў накрыты крухмальным абрусам і нагружаны снеддзю стол. Салаты, талеркі з каўбасамі, вяндліна, руляды, заліўное. Бурачкова-бэзавымі разводамі на маянэзе свяціўся нізкі салатнік з селядцом пад футрам. Бакалы з залацістым абадком бліскалі святлом на празрыстым шкле. Шампанскае, каньяк. Пончык расстараўся.

У краіне разгульваў дэфіцыт. Прадукты то з'яўляліся ў крамах, то раптоўна знікалі. Дзяржаўныя мужы, хмурачы заклапочанасцю твары, квёла змагаліся, каб забяспечыць народу харчаванне. Браліся за яйкі, знікала смятана. Браліся за смятану, знікала ў крамах каўбаса. У Пончыка і яго жонкі тым часам былі поўныя засекі далікатэсаў. Хочаш жыць — умей круціцца. Пончык умеў. На футбольным стадыёне «Дынама» трымаў тры кропкі гандлю скуранымі вырабамі. Гандаль квітнеў. Скуранкі любілі «браткі», за імі цягнуліся шараговыя грамадзяне. Купіўшы скураную куртку, мужчыны аўтаматычна траплялі ў шэрагі салідных людзей. Жанчыны набывалі скураныя паліто з футравым, на гузіках каўняром, насілі іх і восенню і зімой: практычна і па-багатаму. У сярэдзіну, на гульнявое поле стадыёна «Дынама», пакрытае зялёнай травой-муравой, дзе некалі трыбуны раўлі «Го-о-л!!!», гандляры не дабраліся. Яны абляпілі стадыён звонку,

расставілі гандлёвыя палаткі вакол круглага амфітэатра. Пончык прыляпіўся ў трох месцах. Збяднелая краіна круцілася ў віхуры чаўночнага гандлю. Купі-прадай.

Гаспадары кватэры і госці былі між сабой знаёмы. Вера ж апынулася чалавекам новым, нікога не ведала. Адчувала сябе крыху скавана. У маленькай чорнай сукенцы, з начасанай фрызурай яна выглядала занадта ўрачыста. Астатнія былі апрануты даволі будзённа. Саша прыветна глядзеў адзіным знаёмым тварам. Вера прысела да стала. Па правую руку ад яе апынулася маладая жанчына ў белай блузцы старамоднага фасону, па левую — Віктор. З тарца стала па-свойску прымасціўся чарнявы з ёмкім носам мужчына.

— Мяне вы ведаеце, калі забыліся нагадаю, я Віктор — гумарнуў Віктор. — А гэта Вера, — абцякальна прадставіў ён сваю спадарожніцу грамадству. — Гэта Ёся і яго жонка Марына, — вачамі паказаў Віктор на чарнявага мужчыну і кабету ў белай блузцы.

— Я папрашу… Які яшчэ Ёся? Дазвольце адрэкамендавацца поўнасцю: Іосіф Гельтман.

— Вельмі прыемна, — адказвала галантнаму яўрэю Гельтману Вера, выглядваючы з-за пляча яго жонкі.

За сталом пачалося ўзрушэнне.

— Перадайце мне сялёдачку пад шубай.

— А мне вяндліну, калі ласка.

— Дзякуй.

Валера Пончык разліваў віно па бакалах, струменіў празрыстай гарэлкай у чаркі. Агледзеўшы, што ва ўсіх наліта, прысеў ля Сашы і тут жа ўстаў з нагоды ўрачыстасці моманту. Жонка ўзняла бакал у гонар свайго любага Пончыка. Яны абмяняліся паглядамі людзей, што разумеюць адно аднаго з паўслова.

— Дарагія госці, давайце вып’ем за майго каханага мужа, — прамовіла яна і накіравала полымя вачэй на Пончыка, — Валера, я хачу пажадаць табе ў твой дзень нараджэння, каб ты заўсёды заставаўся маладым, поўным сілы і энергіі, каб ты быў шчаслівы, каб табе ўсміхалася удача. А я цябе заўсёды падтрымаю. За цябе!

Жонка стаяла ля Пончыка бранявой сцяной. Не было сумневу: яна Пончыка не толькі падтрымае, яна заслоніць яго сабой ад бандыцкай кулі, калі тое спатрэбіцца. «Дзынь-брынь», — задзынькала шкляное цоканне.

— Валера, за цябе.

— Валера, будзь здароў.

— І са мной чокнуцца.

Перамяжоўваліся, перабблытваліся, зліваліся галасы. Звінелі бакалы з вінам і чаркі з гарэлкай.

Вера далікатна прыгубіла віна і адставіла бакал. Жонка Ёсі Гельтмана Марына паправіла каўнер на блузцы і, ні грама не скрывіўшыся, чахнула чарку саракаградуснай. Закусіла вяндлінай і павярнулася да Веры.

— А ты дзе працуеш? — без абінякоў спытала Веру.

— Я мадэльер жаночага адзення, — фанабэрыста прамовіла Вера.

Яна чакала, што застольная суседка ў блузцы старамоднага фасону прыйдзе ад гэтай навіны ў захапленне. Не адзін раз Веры даводзілася чуць воклічы: «Ах, мадэльер! Як цудоўна! Я ў дзяцінстве марыла быць мадэльерам, нават шыла лялькам сукенкі. Але не склалася… Працую бухгалтаркай на заводзе па вырабе жалезабетонных пліт».

Марына, здаецца, і не чула, што ёй адказала Вера. Чарпала лыжкай з салатніка селядзец пад футрам і грузіла да сябе на талерку.

— А я ўрач, — важка прамовіла яна.

Марына высока несла сваю медычную персону па-над іншымі.

— Урач па якой спецыяльнасці? — неабачліва спытала Вера, і гэта была яе памылка. Марына сходу ўзялася пра сябе апавядаць, ёй патрабаваліся свабодныя вушы.

— Я ўрач-стаматолаг. Гэта вельмі адказная праца. Я скончыла факультэт амаль на выдатна. Стаматалогія — гэта сфера дзейнасці, якая патрабуе ад чалавека максімальнай канцэнтрацыі, — у свабодныя вушы паведаміла Марына.

— Так-так, разумею, — падтакнула Вера.

— Наогул стаматалогія не стаіць на месцы. Яна дынамічна развіваецца. З'явіліся новыя пламбіровачныя матэрыялы. Светлавыя пломбы. Ты чула аб гэтым?

Вера аб выбітным адкрыцці ў пламбаванні сапсаваных зубоў, па шчасці, не чула і, прызнацца, не хацела чуць. Бормашыны баялася як агню. Яе візгат паднімаў у сярэдзіне ўсе вантробы і прымушаў шалёна калаціцца сэрца. Даўным-даўно залячыла Вера без анестэзіі пару карыесаў і старалася аб тых трывожных днях не ўспамінаць. Марына нахабна будзіла заснулую памяць. Знаўца трыццаці двух зубоў у роце са стоадсоткавай упэўненасцю лічыла, што ў свеце няма нічога больш важнага, чым яна ў стаматалагічным кабінеце. Апавядаючы пра зубы, карыес, стаматалагічныя крэслы новых мадэляў, Марына рабіла кароткія перапынкі літаральна для таго, каб пад чарговы тост у гонар імянінніка чахнуць чарку гарэлкі і закусіць. Пасля трэцяй загадала Ёсю наліваць ёй па палавіне. Ёся загад выконваў.

— Дарэчы, любое віно — гэта дрэнь. Я табе як доктар кажу, — назаляла Марына парадамі і круціла ў руцэ чарку з празрыстай вадкасцю, — спірт, змяшаны з вадой у прапорцыі 40 градусаў, ва ўмераных дозах выдатна падыходзіць для арганізма. Гэтую прапорцыю вынайшаў хімік Мендзялееў.

— Я ўсё-такі аддаю перавагу віну, асабліва люблю чырвонае, — карэктна адбрыквалася Вера, упарта не жадаючы па медыцынскіх паказніках пераходзіць на гарэлку.

За імянінніка пілі тост за тостам. Застолле шумела, перагаворвалася. Пончык задаволена расчырванеўся. Краем вуха Вера ўлоўлівала размову мужчынскай паловы. У мужчынскім лагеры поўным ходам ішло абмеркаванне эканамічнай сітуацыі ў краіне і ў свеце. Вера паспявала ўхапіць асобныя словы, абрыўкі фраз. «Херня… трындзец… трэба рабіць стаўку на прыватны бізнес… кошт на нафту… у Ізраіль я не паеду. У крайнім выпадку — у Амерыку… курсы валют… надрукаваць паболей “зайцоў”… усё ляснецца… уліванне свежых капіталаў…».

Жонка Пончыка завіхалася ля стала, папраўляла, перастаўляла талеркі, бегала на кухню падрэзаць вяндліны і гародніны. Госці дэманстравалі добры апетыт.

Стомленыя выпітым і пацяжэлыя ад з'едзенага, мужчыны пайшлі перакурыць на лоджыю. Жонка Пончыка — на кухню. Веру пакінулі ў лапах урача-стаматолага.

— Я хачу атрымаць пасаду загадчыцы аддзялення, — не сунімалася стаматалагіца.

— Гэта ж вельмі адказна, — з апошняй моцы падтрымлівала надакучыўшую размову Вера.

У вочы ёй лезла белая блуза Марыны, здавалася медычным халатам.

— Так, безумоўна, адказна. Але я спраўлюся, будзь упэўнена. Я спраўлюся лепш за іншых. Яны ў паліклініцы плятуць інтрыгі. Некаторыя мяне недалюбліваюць. Усё таму што я патрабавальная… Так, я патрабавальная! Я добры спецыяліст, і я ведаю, як і што трэба рабіць…

Замуштраваная Вера з надзеяй тужліва паглядала на лоджыю. Хутчэй бы за стол вярнуліся курцы. З кухні смачна пахла печаным мясам. Бразнула духоўка ў пліце. Жонка Пончыка занесла ў залу гарачую страву. На вялікім блюдзе дымілася свежазвараная маладая бульба, паверх ляжалі ёмкія кавалкі мяса, запечанага пад сырам. Вера дапамагла рассунуць посуд, і блюда ўладкавалася пасярод стала.

— Я думаю, у гэтым годзе пытанне вырашыцца і мяне прызначаць загадчыцай стаматалагічнага аддзялення, — дудзела Марына Веры ў вуха.

— Ты б магла наогул не працаваць, Ёся добра зарабляе, — мякка ўкруціла жонка Пончыка.

— Яшчэ чаго, — фыркнула Марына, — я не збіраюся станавіцца хатняй гаспадыняй.

— Хлопчыкі, чакаем вас, гарачае стыне, — жонка Пончыка падышла да расчыненых дзвярэй лоджыі і паклікала мужчын да стала.

Марына на некаторы час заткнулася, праўда, хапіла яе ненадоўга. Аздаравіўшы арганізм чарговай чаркай саракаградуснай вадкасці па Мендзялееву, яна расчулілася да самой сябе.

— Грамадства і дзяржава павінны цаніць урачоў-стаматолагаў. А хіба нас цэняць?.. Я б хацела працаваць у замежжы, —

планы стаматолага скакалі ад загадчыцы аддзялення на радзіме да лячэння карыесу ў замежных зубах.

Веру ад яе бубнення штарміла.

— Гаўдэамус ігітуур! Віват, акадэмія-я-я! — узялася Марына за латынь.

Хлопцы ўселіся за сталом. Жонка Пончыка раскладала гарачую рассыпчатую бульбу. Госці з жарсцю працягнулі да яе талеркі. Жадалі бульбы, маладой з кропам, самай смачнай на свеце. Ёся Гельтман першым пацягнуўся за бульбай,… якая там маца! Узрошчаны на беларускай глебе, бульбу шанаваў перад усім і свініны не цураўся. Дома ў мамы на святы Ёся еў курыцу, ялавічыну, рыбу «фіш» і рабіў выгляд, што выпівае вельмі мала, як птушачка, каб мама не хвалявалася.

Здравіцы паўтарыліся пад гарачую страву.

— Жадаем здароўя, паболей грошай і шчасця ў асабістым жыцці!

Чокацца перасталі. Залівалі за каўнер без звону чарак. Ёся і Віктор ішлі ў перадавіках.

Віктора пачало развозіць. Непаслухмяным языком ён даводзіў Пончыку планы па бізнесе.

— Валера, аб'ёмы закупак трэба павялічваць. З аб'ёму — большы навар.

— Не трындзі, — умяшаўся Ёся Гельтман. — Фігня твае аб'ёмы. Галоўнае — кошты. Чым большую здолееш накруціць цану, тым лепш. А калі накрутка мінімальная, то і з аб'ёмаў не разжывешся, яшчэ і пралядзець можна. Аб'ёмы твае прадаць трэба. У цябе ёсць каму прадаць аб'ёмы? — з сумневам пуляў чорныя вочы на Віктора ўзрушаны Гельтман.

— Ёся, у мяне ёсць, — п'яна хваліўся Віктор. — Я напрацаваў!

— Так, хлопцы, давайце вып'ем, — Пончык падняўся са стула і зацурчаў гарэлкай, разліваючы па чарках.

— Віктор, табе хопіць, — шапнула Віктору на вуха Вера.

Віктор незадаволена павёў плячом. Над сталом гучалі рознагалосыя пажаданні.

— Валера, за цябе!

— Валера, будзь здароў!

— Ну… будзь — вяла павярнуў языком Віктор, высока ўзняўшы чарку, паднёс да вуснаў і перакуліў яе ў рот, паморшчыўся.

— Закусвай.

Вера паклала на талерку кавалак мяса і жоўтую астылую бульбіну. Віктор папілаваў мяса відэльцам.

Пончык і Саша выглядалі няблага, а Віктора і Ёсю градус браў у зварот. Урач-стаматолаг у нейкі момант спынілася, як адрэзала, больш не ўзяла ў рот ні грама. Дакладна разлічаная карысная для здароўя норма саракаградуснай не перавышалася.

Жонка Пончыка заносіла ў залу торт. Масляныя розачкі з зялёнымі лістамі каронай упрыгожвалі яго зверху. Паставіла торт на стол і доўгім нажом наразала на кавалкі. Лязо ўпівалася ў здобу з крэмам, бязлітасна крэмсаючы розачкі, і выплывала з торта ў кропачках здобы і салодкага маслянага крэму.

Пончык нястомна падліваў гасцям выпіўку. Віктор пацягнуўся за поўнай чаркай. Вера, страціўшы цярпенне, прыкрыла чарку рукой.

— Віктор, табе хопіць.

— Адстань.

— Віктор, гэта лішняе, табе будзе дрэнна, — ўгаворвала Вера.

— Прымі руку, я сказаў.

Віктор нервова дрыгнуў плячом, выцягнуў чарку з-пад Верынай рукі і залпам выпіў. Яго раздражняла, што Вера пакусілася на незалежнасць крутога бізнесмена.

— Віктор, я думаю, нам пара дамоў.

— Ды хто ты такая, каб мне ўказваць?! — распалены градусам, злосна прагрымеў Віктор. — Жонка? Была б жонка, тады б указвала, а так сядзі і памалківай. Зразумела? — кінуў ён Веры. Віктор як з ланцуга сарваўся.

Гаспадыня дома вохнула. Дзень нараджэння яе любага Пончыка адзначыўся скандалам. Яна дакорліва пакруціла галавой, незадаволеная Віктарам.

Веру кінула ў жар, стала душна, камок душачай крыўды падкаціў да горла. «Хто ты такая?.. Год пражылі разам… Хто я такая? Хто я для яго?»

Урач-стаматолаг павярнула да Веры твар з вострым падбародкам. У вачах — ні грама спачування, голая, азартная цікаўнасць: што будзе далей? З Марыны пёрла задаволенасць сабой: «Мой Ёся Гельтман сядзіць і не вякае супраць мяне. Няхай толькі вякне!»

— Віктор, харэ бузіць, — падаў голас Саша.

Вера моўчкі паднялася з-за стала і пайшла ў пярэднюю, падхапіла з вешалкі сумку. Жонка Пончыка кінулася следам.

— Вера, застанься. Зараз будзем піць гарбату. Не звяртай на яго ўвагі. Ясная справа: чалавек крыху выпіў… усякае здараецца, што-небудзь не тое скажа, — старалася яна залагодзіць Веру і зладзіць міравую за святочным сталом, прыхінулася бліжэй і ціха даверана шапатнула, — Мужыкі як падап'юць плявузгаюць што не попадзя.

— Дзякуй табе, усё было цудоўна, але мне насамрэч пара дамоў, — не сваім голасам адказвала Вера.

Віктор рэзка ўстаў. Апракінуты стул мякка ўпаў на дыван. Пахістваючыся, ён прайшоў па пакою і шмякнуўся ў крэсла.

— Ды няхай едзе… Яна хоча, каб я за ёй бегаў, угаворваў. А я не пабягу! — п'яна кідаў з крэсла Віктор.

Вера рашуча ўсунула ступні ў вузкія лодачкі. Яны падаліся нясцерпна цеснымі, абхапілі абцугамі.

— Яшчэ раз дзякуй, мне пара. Дачка чакае. Я паеду. Да пабачэння, — развіталася Вера з разгубленай жонкай Пончыка і з цяжкім сэрцам выйшла за дзверы.

Ноч Вера правяла амаль без сну. Правальвалася ў няпэўны сонны туман, ізноў прачыналася і доўга ляжала ў ложку раскрыўшы вочы, прыслухоўвалася. Уставала, падыходзіла да акна. За акном адкрывалася неверагоднае начное неба, усыпанае зорамі, і месяц, ярка акрэслены вострым сярпом, вісеў над дахамі дамоў. Вера не заўважала зорнага неба, стомлена ўглядалася ў двор. Яна усё чакала, што Віктор вось-вось з'явіцца і папросіць прабачэння. Загула машына, асвяціўшы фарамі дарогу, пад'ехала да пад'езда. Вера напружылася. Машына, пагудзеўшы і мільга-

нуўшы шашкамі таксі, паехала далей, завярнула ў двор іншага дома… Віктор дамоў не з'явіўся.

Раніцай Вера выцягвала рэчы з шафы і абы-як таропка кідала іх ў чамадан. Хутчэй з'ехаць, вярнуцца дамоў у родную старую кватэру, дзе кожны куток знаёмы і мілы сэрцу. Гэта рашэнне выспявала доўга. Яна цярпела закідоны Віктора не адзін дзень і не адзін раз. Хопіць. Яна павінна сябе паважаць. Яна больш не плакала, як тады сырой халоднай восенню па міласці Лёнчыка. Яна будзе мужнай. Ні слязінкі не заблішчыць у вачах.

Вера агледзела апусцелую шафу. Голыя вешалкі. На некалькіх матляліся сарочкі Віктора, памытыя і адпрасаваныя яе рукамі. У душы кальнула. Па-здрадніцку падкаціў жаль да сябе. Вера з прыцiскам зачыніла дзверы шафы. Павярнулася да чамадана, утрамбавала адзенне. І шарганула маланкай вакол чамаданнай накрыўкі . Чамадан спакаваны. Яшчэ сумка, вялікая, змястоўная. Стоўпіцца астатняе. Маланкава спакавала сумку: рэчы дачкі, зімовыя курткі з шафы ў пярэдняй. Дачка паслухмяна і ціха сядзела на канапе ў зале. Мама ёй сказала, што яны едуць дамоў, што так трэба, без лішніх тлумачэнняў.

Вера выклікала таксі. Хутчэй з'ехаць. Не застацца ні на хвіліну. Трэба сябе паважаць. Яна нецярпліва глядзела праз акно на вуліцу.

Неба зацягвалі цёмныя хмары, густым непраглядным покрывам напаўзалі над дваром дома. Парыла. Паветра было душнае і ліпкае. Здалёк далятали, чуліся ракатлівыя грымоты. Сонца знікла за хмарнай шчыльнай заслонай. Пацямнела як у перадвячэрні час. Вера занепакоілася: паспець бы з'ехаць да дажджу.

Жоўтая машына з шашачкамі на даху вырулiла да пад'езда. Пара. Вера схапіла сумку і чамадан.

— Насця, бяры машынку і пойдзем.

Дачка падняла з падлогі пераносную швейную машынку ў чамаданчыку і, згінаючыся, пацягнула да дзвярэй.

Перад дзвярамі Вера спынілася, паставіла валізкі і вярнулася на кухню, абвяла яе развітальным позіркам, адкрыла шафку для посуду. У сярэдзіне ўбачыла ружовыя французскія талеркі, што прывезла з сабой, каб прыгожа сервіраваць для Віктора стол.

— Пакідаю вас на памяць Віктору, — сказала яна талеркам і зачыніла шафку.

Шпурнула на кухонны стол ключы ад кватэры. «Шчасліва заставацца, мой любы. Гуляй з сябрамі на мужчынскіх вечарах, выпівай — ніхто не запярэчыць. Вернешся дамоў — блінчыкаў сабе напячэш тоненькіх, празрыстых са сметанковым маслецам. Прыемнага апетыту!.. Сарочкі памыць, папрасаваць запросіш Інэсу. Яна адпрасуе!» — зласліва пажадала Віктору, каб Інэса яго «адпрасавала».

З кухні яна не ішла, а ляцела, падхапіла ў пярэдняй чамадан і сумку. Цяжкая сумка цягнула долу, Вера не адчувала цяжару. З дачкой і скарбам выбралася з кватэры, штуршком зачыніла дзверы.

Пакуль спусціліся ўніз, пайшоў спорны дождж. Вера спынілася на ганку пад пад'езным казырком, з прыкрасцю глянула на неба. На захадзе ля небасхілу віднелася далёкая завабная палоска блакіту. Хвіліну Вера нерашуча стаяла пад дахам. Дождж узмацняўся.

— Стой тут, — загадала Насці, а сама, тузануўшы, падхапіла чамадан з сумкай,ірванула да машыны.

Таксіст выскачыў пад дождж і расчыніў багажнік. Хуценька запёр туды сумкі і хлёстка зачыніў. Сціскаючы мокрыя плечы, імкліва вярнуўся ў салон. Вера — подбегам пад казырок. Рукой скалаціла з валасоў дажджавую ваду, кроплі паляцелі на дачку.

— Мама, мы прамокнем, — баязліва сказала Насця, — дождж вунь які вялікі.

— Не бойся дажджу, бяжы са мной, — Вера падхапіла швейную машынку, прыабняла дачку за плечы, і яны пабеглі да машыны.

Вера, дзерганууўшы, расчыніла дзверы машыны і ўпіхнула ў салон дачку, следам швейную машынку, нарэшце мокрая заскочыла сама.

— Бульвар Шаўчэнкі, калі ласка, — прабубніла таксісту, выціраючы далонню вільгаць з ілба.

— Куды гэта вы спяшаецеся ў такое надвор'е?

— Дамоў, — непрыветна адказала Вера.

Машына загудзела і пад струменямі дажджу, расціскаючы калёснай гумай лужыны, паехала з двара. Дождж лінуў як з вядра. Па асфальце пацяклі ручаі. З вадасцёкавай трубы вада вырывалася бурлівай плынню і расцякалася ля дома. Буйныя кроплі стукаліся ў аўтамабільныя шыбы. Дворнікі рухаліся хуткім маятнікам, скідаючы ваду з лабавога шкла. Вера спяшалася дамоў. Добра, што яна ўжо ў таксі, што не сутыкнулася з Віктарам у кватэры. Раптам з'явіўся б нагуляўшыся, а яна спакавала чамаданы. Бессэнсоўная меладрама. «Мілая, што здарылася, куды гэта ты сабралася?» — «Ах, любы, ты быў да мяне няўважлівы, ты дрэнна сябе паводзіў. Я ўся спакутавалася. Ты зусім мяне не кахаеш і не шкадуеш. Я пакідаю цябе». Гэтыя танныя меладрамы не для яе, лепш сысці па-англійску, не развітаўшыся.

Праз залітыя дажджом вокны таксі Вера глядзела на мінакоў. Яны беглі па вуліцы пад парасонамі ў пошуках даху над галавой. Мінск — горад дажджу. Уручча знікла за спінай у даляглядзе. Таксі ехала па праспекце. Хмара адсоўвалася, рухалася на ўсход, забіраючы з сабой лівень. Дождж драбнеў. Звярнулі з праспекта, мінулі Камароўку. Вера адчула палёгку, спакойна стукала сэрца. Яна едзе дамоў. Ёй ніхто не патрэбны, яна адна выгадуе дачку. Яна сама з усім справіцца… Таксі завярнула ў двор роднага дома. Знаёмыя лаўкі ля пад'ездаў, дрэвы. Дождж скончыўся. Трава ў кропельках вады і мокры асфальт нагадвалі аб яго нечаканым візіце. Вера разлічылася і таропка выйшла з таксі. У руцэ яна трымала швейную машынку. Таксіст выставіў на асфальт сумку і чамадан. Закрываючы, шумна пляскаў багажнікам і дзвярамі машыны. Насця падышла да мамы і на імгненне прытулілася да яе пляча. Таксі загудзела і паехала па выкліку да чарговага кліента. Мокрая Вера з дачкой засталася стаяць на дарозе.

З пятага паверха, крыху адсунуўшы гардзіну рукой, на яе глядзела задаволеная Эма. У кватэры Эмы размерана цікаў гадзіннік, у акварыуме плавалі рознакаляровыя рыбкі. Рыбкі з дзівоснай афарбоўкай бязгучна рухаліся сярод дэкаратыўных водарасцяў, вэлюмам распраўлялі доўгія танюткія плаўнікі, навявалі спакой. Эма была ў мяккім махровым халаце, разамлелая пасля ванны з марской соллю. На твары бялела густа завэдзганая

маска супраць зморшчын. У незамазаных кругах, цямнеўшых вакол вачэй, як у акулярах з выпаўшым шклом блішчэлі яхідныя вочы. Радасна нагледзеўшыся на журботную Веру, прамоклую, з чамаданамі, Эма прамовіла: «Вярнулася, красуня… нядоўга музыка іграла. А дзе ж жанішок?» — яна адышла ад акна, напяваючы просценькі матыўчык: «ла-ла-ла… ла-ла… о, ес». Утульна захінуўшыся ў махровы халат, Эма села ў крэсла чытаць раман пра каханне. На тонкай вокладцы бульварнага чытва мускулісты мужчына сціскаў у абдымках залатавалосую спакусніцу. Мускулы з мужчыны лезлі аж праз сарочку. Эма разгарнула кнігу ў пазначаным закладкай месцы.

«Мэры патанула ў яго абдымках, — прачытала Эма. — Эдзі згараў ад жарсці. Ён апантана кахаў. Такой жанчыны, як Мэры, ён не сустрэне. Неадольнае жаданне ахоплівала яго усё мацней і мацней, ён больш не мог валодаць сабой. “О, Мэры!” — усклікнуў Эдзі і ўпіўся вуснамі ў прыадкрыты ў салодкім чаканні рот самай чароўнай з жанчын». На гэтым Эдзі не спыніўся. Ён панасіў Мэры на руках, закідаў яе кветкамі і ўрэшце стаў перад ёй на калені. Цудоўная кніга. Эма не магла адарвацца ад чытання. Падобных кніг Эма нагрувасціла цэлую паліцу ў кніжнай шафе.

Вера пацягнула рэчы ў пад’езд і ўверх па лесвіцы, пералічыла бясконцыя прыступкі, рукі адрывалі валізкі, не спынілася ні разу, упарта без перадыху дайшла да пятага паверха. Адамкнула ключом дзверы кватэры. Яна дома. Кватэра сустрэла занядбанасцю. Брат жыў халасцяком, матаўся па заробках. Яго не было дома. Ён папярэджваў Веру, што збіраецца з’язджаць на месяц, куды і дзеля чаго — не распаўсюджваўся, адказваў ухіліста. Яна не распытвала, захоча — сам раскажа.

Цэлы дзень Вера наводзіла ў кватэры парадак: чысціла, прыбірала. Памыла брудныя ў шэрых падцёках вокны, і сонца, узрадаванае празрыстаму шклу, перадвячэрняй парой засвяціла праз шыбы. Святло і радасць сонечнага вечара існавалі асобна ад Веры. На душы ў яе было пахмурна…

Якраз у тую самую пару надвячоркам Віктор вяртаўся на здымную кватэру. Ішоў натапыраны. Рыхтаваўся да размовы.

«Яна мне скажа так, а я яе адбрыю вось так, — пракручваў варыянты размовы, — а будзе чапляцца, можна і гэдак сказаць: я чалавек справы, я не магу і не жадаю за кожны свой крок даваць табе справаздачу».

Мінулую ноч Віктор правёў на кватэры ў Сашы. Памятаў, што было хранова. Ехалі ад Пончыка на таксі, у дарозе пачало муціць. Ледзь выпаўз з машыны… Абдымаў дрэва, здаецца, была бяроза,… а можа што другое. Кара была шурпатая навобмацак. Мацаў кару і прысядаў ля камля. Потым ванітавала… ля дрэва. Стала лягчэй. Убачыў лаўку ля пад'езда, прылёг. Неба было зорнае і цёпла так на вуліцы, добра, здаецца і застаўся б на лаўцы, паспаў бы пад зорамі. Лаўка захісталася, хацелася адарвацца ад зямлі і паляцець да зор… Саша перашкодзіў, спыніў палёт, падняў з лаўкі, пацягнуў у кватэру… Спалі валетам на канапе. Коўдра была нейкая кароткая, ці накрыўся ўпоперак. Ногі ўвесь час вылазілі і тыцкаліся Сашу ў твар. Саша піхаўся і прасіў: «Прыбяры капыты»… Спаў да паўдня. Потым пакуль расчухаўся…

Віктор спыніўся ля дзвярэй кватэры і з выклікам моцна націснуў на званок. Званок гучаў доўга і нахабна. Дзверы ніхто не адчыніў.

— Заснула там, ці што? — накручваў у сябе баявы дух Віктор.

Выкалупаў звязку ключоў з барсеткі, перабіраючы, падзынькаў металам. Кватэрны ключ шаргануў, уторкнуўся ў замочную адтуліну, крутнуўся і дзверы адчыніліся. У кватэры было незвычайна ціха. Віктор не згінаючыся, націснуўшы наском на пятку, скінуў пантофлі ў пярэдняй і падпіхнуў да тумбы з абуткам.

— Вера, я прыйшоў! Што там на вячэру? — хамавата гукнуў Віктор: самае галоўнае — трымаць фасон.

У адказ — цішыня, цягучая, прыгнятаючая. Ля абутковай тумбы Віктор не знайшоў сваіх тапак і ў шкарпэтках пайшоў у залу.

— Вера!

Пуста. Нікога няма. Ёкнула ў сярэдзіне. Паўлінавы хвост пачаў сціскацца ў дудачку. Можа быць Вера пайшла ў краму за прадуктамі? Усё нармальна — зараз прыйдзе дамоў. Супакойваючы сябе, Віктор пашыбаваў на кухню. Са стала з маўклівым

дакорам на яго зірнулі два ключы, счэпленыя колцам. Віктор таропка пайшоў у спальню і рыўком адчыніў дзверы шафы. Яго сарочкі і пінжакі самотныя боўталіся між пустымі вешалкамі. На дзверцах шафы з прутка-шосціка змяінымі ўдаўкамі звісалі гальштукі.

— Яна сышла ад мяне… кінула, гадаўка, — зглытнуўшы горлам, ледзь чутна, злосна прамовіў Віктор.

Ён не мог паверыць у тое, што здарылася. Моцна шпурнуў рукой дзвярную палавінку. З другой незачыненай палавіны глядзелі пустыя вешалкі.

— Гадаўка!

Віктор сеў на ложак. У галаве змяшаліся думкі.

— Хіба ты не гэтага хацеў? — голасна спытаў сам сябе. — Хрэн яго ведае, чаго я хацеў і ці хацеў я гэтага наогул… Ты мужык ці не? Пажыві адзін. Воля. Гуляй па самае не хачу, — угаворваў і суцяшаў сябе Віктор.

Без Веры кватэра зрабілася пустой, няўтульнай. Віктор нервова падрыгаў нагой і падняўся з ложка. Зласліва ходзячы жаўлакамі, паплёўся на кухню шукаць паесці. Паставіў на пліту чайнік. Закіпеўшая вада парай разагнала свісток, і ён заліўся, завіскатаў насмешлівай трэллю. Віктор журботна ўздыхнуў і выключыў полымя пад чайнікам. Чайнік заціх. Віктор думаў, як жыць далей.

Ён усё пралічыў, але пралічыўся. Год таму сышоўся з Верай для зручнасці і асабістага задавальнення. Аднаго ён не мог ведаць, бо гэтага не ведае ніхто: як яно здараецца і адкуль прыходзіць, да гэтага часу нявывучаная, нявызнаная з’ява, нявытлумачаная і неверагодная, з жарсцямі і непаразуменнямі, з радасцямі і пакутамі. Каханне. Віктор закахаўся ў жанчыну з «прычэпам». Спачатку ён не верыў самому сабе, думаў, што здаецца. Чым далей ён жыў з Верай, тым больш адчуваў, што яго зацягвае. Пакуль не позна, вырашыў парваць адносіны. Апошнім часам пачаў казліцца, чапляўся да дробязяў, фыркаў і дэманстраваў незалежнасць. Вера вярнула яму свабоду. І што цяпер яму рабіць с гэтай долбанай свабодай? Так пакутліва цягне пад абцас да жанчыны з «прычэпам». Віктор спахмурнелы сядзеў

у апусцелай кухні. Забыў заварыць гарбату. Астываў кіпень у чайніку. Віктор думаў…

З той пары, як Вера вырашыла пачаць новае жыццё, прамінуў роўна тыдзень. Новае жыццё не вельмі адрознівалася ад старога. Вера, як звычайна, карпела над шыццём. У пакоі за паліраваным сталом, нахіліўшыся над швейнай машынкай, яна гнала строчку. З-пад лапкі выляталі прастрочаныя швы. Пад стракатанне швейнай машынкі яна пачула, што ў пярэдняй пералівіста праспяваў званок: «Блюм… блюм, блюм». Вера перапыніла стракатню і пайшла адчыняць. Насця гуляла ў двары. Нешта рана вярнулася. Сукенка, прышчэпленая, недастрочаным швом пад машынную лапку, квяцістым полем раскінулася на стале. Веры спынілася ля дзвярэй і зірнула ў вочка. Сэрца радасна затухкала. За дзвярыма стаяў Віктор.

— Явіўся, не запыліўся, — ціха і прытворна-буркліва прамовіла яна, празіхацела гуллівым пераможным задавальненнем і падалася адразу адчыніць дзверы.

Рука замёрла ля дзвярнога замка: так проста ўзяць і адчыніць?.. Уся яе сутнасць напоўнілася жарсцямі і супярэчнасцямі. Даравадь, зрабіць выгляд, што нічога не здарылася? Менавіта так і хацелася зрабіць. А спакваля падточвала, вярталася нядаўняя крыўда. Вера дзівілася сабе: тыдзень таму рашучая планавала пачынаць новае жыццё, ніхто ёй быў не патрэбны. Прайшло сем дзён, з'явіўся пад дзверы змагар за мужчынскую вольніцу, і яна гатова кінуцца насустрач. Не, яна не падасць выгляду. Вера ўзяла сябе ў рукі, суняла тахкаючае сэрца, напусціла на твар смугі і адчыніла дзверы.

— Чым абавязана? Вы нешта хацелі, малады чалавек? — мудрагеліла ў выразах Вера, звяртаючыся да Віктора нібы да чужога.

— Хацеў. Я пагаварыць хацеў, — асіплым голасам сказаў Віктор і шмаргануў носам.

Віктор быў прастыўшы. Здолеў хапянуць прастуду сярод спякотнага лета, працягнула скразняком ад расчыненай форткі. Дзіця без догляду.

— Што з голасам? Не інакш халоднага піва перапілі, в'юнаша.

— Вера, канчай дурыць. Давай пагаворым.

— «Канчай дурыць!» Нядрэнна для пачатку. То сядзі і маўчы, то канчай дурыць. Табе не дагадзіць.

Не дачакаўшыся запрашэння, Віктор напорыста ўсунуўся ў кватэру.

— Ладна, заходзь, — упусціла яго Вера.

Вера адчувала, што злосці на Віктора няма і крыўда некуды знікла. Яна наўмысна яго дражніла, гуляла з ім, каб павылузваўся, пабегаў перад ёй на задніх лапках. Яна ж бегала.

— Слухаю вас, малады чалавек. Вы нешта хацелі дадаць да загада «канчай дурыць»? — Вера дзелавіта скруціла на грудзях рукі. — Працягвайце, працягвайце, у вас нядрэнна атрымліваецца.

— Выходзь за мяне замуж, — будзённа прамовіў Віктор.

Вера, агаломшаная, сумеўшыся, глядзела на Віктора.

— Што яшчэ за жарты, — нахмурыўшы бровы, узрушана сказала яна і, каб не паказваць хвалявання, адвярнулася і пайшла ў залу. Віктор паспешліва скінуў пантофлі і пацягнуўся за ёй.

— Я не жартую. Выходзь за мяне замуж… Афіцыйна прапаную руку і сэрца, — прасіпеў Віктор.

— Чаго гэта раптам, — ускінула Вера на яго недаверлівы позірк і прысела на канапу.

— Не раптам… Гэта абдуманае рашэнне. Мы амаль год пражылі разам. Падыходзім адно аднаму. Маглі б пажаніцца… Ты згодна?

Віктор быў не падобны на сябе. Памякчэў, палагаднеў. За тыдзень без Веры шляхам разважання і абдумвання сумеснага жыцця ён прыйшоў да высновы, што жылі яны нядрэнна і з Верай нашмат лепш, чым без яе. Проста сказаць: «Вера, я цябе кахаю», — было даволі складана, язык прыліпаў да нёба. Замест прызнання ў каханні Віктор выдаў:

— Я табе завушніцы куплю з дыяментамі.

— Гэта што, калым? — падначыла Вера.

— Ну тыпу таго.

— А кветкі дзе? Ты ж прыйшоў замуж прапаноўваць. Дзе букет?

— Ды я падумаў — раптам ты мяне не пусціш, не захочаш размаўляць. Куды я потым падзену гэты венік? Буду стаяць як дурань з букетам пад дзвярыма.

— Лагічна, — кепікамі абмалявала Вера Віктораву гандлярскую кемлівасць. — І праўда, не выкідаць жа пасля букет, грошы ж заплачаны.

Віктор падсеў на канапу. Да яго вярнулася ўпэўненасць і звыклая хамаватасць: размова цякла ў патрэбным рэчышчы. Ён падсунуўся да Веры як мага бліжэй, ушчыльную. Адчуў пах яе цела, валасоў. Рука няўлоўна, спакваля лягла на Верыны плечы.

— Я пакуль не дала згоды выйсці за цябе замуж.

Вера дакранулася да яго рукі, каб зняць з пляча, каб не думаў, што яна адразу даравала яго выхадкі. Няхай паліслівіцца. Віктор зрэагаваў імгненна і па-свойму. Ён заваліў Веру на старой канапе, пачаў цалаваць, шастаючы рукамі ў забароненых месцах.

— Віктор, адстань… Я кажу, адстань, — квёла баранілася Вера.

Шлях да прымірэння быў знойдзены…

На наступны дзень Вера з рэчамі і дачкой вярнулася да Віктора. Праз два месяцы яны пажаніліся. Сціпла, без помпы распісаліся ў ЗАГСе. Сведкамі рэгістрацыі шлюбу былі Віктораў кампаньён Саша і ацалелая пасля шашлыкоў Аня. Інэсу як сяброўку Вера зліквідавала. Аня з нагоды Верынага вяселля пашыла святочную сукенку з прыталеным ліфам на гіпюравай какетцы, доўгую, амаль да падлогі, з бакавым сэксі-разрэзам. Разрэз пралягаў ад падала да сярэдзіны клуба і адкрываў голае калена. Саша, пабачыўшы Аню ў сукенцы, здзівіўся: не такая яна і страхотная. Але не больш таго. Ён застаўся верным халасцяцкаму жыццю.

Паўторна ў жонкі Вера запісвалася ў крэмавай сукенцы бежавага адцення, тонкім шоўкам струменіўшай фалдамі ад таліі да падлогі. Вузкі, расшыты бісерам, атласны у колер шоўку ліф падкрэсліваў бездакорнасць адкрытых аксамітных плячэй. У рудых сплеценых каронай валасах бялела галінка штучных з дробнымі пялёсткамі кветак.

Вера змяніла прозвішча: у дзявоцтве — Краўцова, з Лёнчыкам — Александрынская, цяпер — Клыкоўская. Зубастае прозвішча. Яна дачакалася светлага моманту і магла з гонарам звацца спадарыняй Клыкоўскай.

Пасля роспісу ўчатырох вузкім колам пасядзелі ў рэстаране, адзначылі падзею. За рэстаранным столікам Аня кідала на Сашу томныя позіркі, спрабуючы завабіць і ахмурыць. Без шанцаў. Саша — крэмень. Ён толькі што у ЗАГСе пераў жыў стрэс, аддаў кампаньёна ў сямейнае жыццё. Шэрагі халасцякоў радзелі…

Вясной наступнага года сям'я Клыкоўскіх набыла двухпакаёвую кватэру ў ціхім раёне цэнтра горада. Сталінскі манументальны дом вылучаўся моцнымі цаглянымі сценамі і высокімі столямі ў пакоях. Вера была бязмерна шчаслівая. Яна зрабілася сама сабе дызайнер. Выбірала шпалеры з шаўкаграфіяй па пятнаццаць долараў за трубку, бо як казала Віктарава мама, за такія грошы абы-што не прадаюць. Падбірала тканіну на шторы ў тон шпалераў. У салоне італьянскай кафлі на пару з самазадаволеным Віктарам расхаджвала ў вобразе свецкай ледзі, якая цэніць эксклюзіў, паказвала прадаўцу на ўпадабаны ўзор кафлі з апошняй калекцыі і прамаўляла:

— Разлічыце колькасць метраў на ванны пакой. Мы бяром».

Рамонт доўжыўся цэлае лета і яе выматаў. Не ўсё ўдалося, але гэта было сямейнае гняздзечка, абсталяванае і аздобленае Верай.

Скончылі рамонт і восеньскай вераснёўскай парой пабывалі ў Францыі…

9

Аня стаяла ля падваконніка ў кухні Верынай кватэры, павярнулася спінай да акна і ўважліва слухала Веру. Ля пляча завуркатаў халадзільнік з налепленым на дзвярах медалём-магнітам у выглядзе Эйфелевай вежы.

— Так… зараз мы будзем рабіць італьянскую піцу, я цябе навучу, — прамовіла Вера. — Для пачатку бяром муку і робім цеста на кефіры, як на звычайныя аладкі.

Італьянскі повар быў бы каласальна ўражаны і збіты з панталыку, пачуўшы, што цеста на піцу і аладкі прыблізна адно і тое ж. Аднак гэты нюанс Веру цікавіў мала. Яна ўзяла пачак кефіру, надрэзала вугалок і нацадзіла струменем заквашанага малака ў рондаль, разбіла яйка, сыпнула мукі. Чайнай лыжкай прыхапіла з пачка крыху харчовай соды і ўзмахам запуліла ў цеста. Лыжкай змалаціла цеста ў аднародную масу. Аня спасцігала азы еўрапейскай кухні, засяроджана, выцягнуўшы шыю, сачыла, як Вера цюкае лыжкай па рондалю. Падфарбаваныя ў вугалках вочы зрабілі Аню падобнай на лісу. Апошнім часам яна завяла касметычку і пачала актыўна ўжываць фарбу для размалёўвання фэйсу. Чарніла бровы, тонка падводзіла вейкі. Пэндзлем, казычучы мазкамі па твары, наносіла румяны ўздоўж скулы. Чаканні, што мужчыны ўбачаць зыходзячае ад яе незвычайнае ўнутранае святло, сябе не апраўдалі, прыйшлося наносіць фарбу на знешнюю абалонку і замяніць расцягнутыя штаны на падкарочаную спадніцу. Праца дала плён. Прынамсі цяпер мужыкі пераcталі ад яе шарахацца.

— Цеста павінна быць густое? — з пільнасцю стараннай вучаніцы спытала Аня.

— Так сабе… як на аладкі, — няўпэўнена прагаварыла Вера, цюкнула лыжкай па сценцы рондаля і перайшла да працягу рэцэпта. — Далей выліваем цеста на змазаны алеем процівень. Раўнамерна размяркоўваем па паверхні. Аснова гатова. Затым крышым астатнія інгрэдыенты і кідаем на цеста.

Вера выцягнула з халадзільніка інгрэдыенты: сасіскі, сыр, маянэз і кетчуп у барвовай пластмасавай бутэльцы. Дзверкамі прыціснула Аню да падваконніка. Аня выкараскалася з-пад дзвярэй, пасунулася ўздоўж падваконніка. Цеснаватая куханька. Дзверцы прысоскай плюхнуліся на месца. Зачынены халадзільнік аднавока падміргнуў Эйфелевай вежай.

— Рыхтуем інгрэдыенты для начынкі, — абвясціла Вера ў манеры аўтара кулінарнай перадачы.

На драўлянай раздзелачнай дошцы яна размалаціла на дробныя кавалкі сасіскі, пасыпала ўмалот па вязкім цесце. На бурачную драчку нацёрла жоўты сыр «Пашахонскі», рукой

расцерушыла над сасіскамі. Паліла інгрэдыенты маянэзам. Фінальны акорд: праз круглую адтуліну ў горле пластмасавай пляшкі, пшыкаючы кетчупам, наставіла чырвоных таматных кропак паверх замесу.

— А якая павінна быць прапорцыя сасісак і сыру? — засяроджана спытала Аня.

— Якая прапорцыя? — Вера задуменна патанула ў складанасцях еўрапейскай кухні.

Прапорцыя сасісак на піцу не бала пазначана не ў адной кулінарнай кнізе, Вера зрабілася першай вынаходніцай.

— Штук пяць-шэсць, — самастойна вывела яна прапорцыю. — А сыр я крышу прыблізна… на вока. Віктор любіць паболей сыру ў піцы. Можна яшчэ дадаць адвараных грыбоў — гэта вельмі смачна, — унесла Вера разынку ў рэцэпт піцы з сасіскамі. Шумна расчыніла духоўку і саўганула процівень у сярэдзіну. — Ставім піцу ў гарачую духоўку і пакідаем запякацца да поўнай гатоўнасці. Прыблізна хвілін праз дваццаць страва будзе гатова, — з апломбам знаўцы заключыла Вера.

Піца. Наўрад ці тое, што пяклося ў духоўцы, лічылася піцай. Аднак Вера верыла, што яна гатуе менавіта італьянскую піцу. Лянівую. Так яна яе называла. Вера памыла рукі пад струменем цёплай вады, абцёрла ручніком і ўтульна прыладзілася ля кухоннага стала на вуглавой скураной канапцы. Аня абхапіла плечы рукамі і азірнулася ў акно. За шклом гаспадарыла шэрая прамозглая восеньская слота. Вецер забаўляўся, ганяў па вуліцы мокрае лісце. Лістапад. Тужліва. Па небу цягнуліся рваныя змрочныя аблокі.

— Цікава, а якое цяпер надвор’е ў Парыжы? Напэўна, цёпла? — летуценна пражурчала Аня.

— У іх значна цяплей, — упэўнена сцвердзіла Вера, — Мы з Віктарам былі ў верасні ў знаёмых французаў. Цудоўнае стаяла надвор’е… Мы гулялі на Елісейскіх Палях. Незабыўна. Парыж мяне ўразіў. Парыж — горад мары.

Дзе Віктор адкапаў тых французаў, Вера не хвалілася, а Аня і не пыталася. Тактоўнасць: не задавай таварышу нязручных пытанняў, і будзеш лепшым сябрам. Сям’я французаў жыла

паблізу Парыжа, што было асабліва прыемна, і Вера з Віктарам без турбот ганялі на праменад у французскую сталіцу. Французы прымалі гасцінна, знаёмілі з нацыянальнымі традыцыямі, аднойчы пачаставалі беларускіх гасцей французскай стравай пад назвай фандзю. Расплаўленая сумесь сыроў гатуецца на адкрытым агні ў адмысловым посудзе, мачаеш у гарачы сыр насаджаныя на доўгія відэльцы кавалкі хлеба, карнішонаў, алівак. Пабываўшая ў Францыі Вера наважылася здзівіць Аню еўрапейскімі стравамі, узважыла магчымасці і веды, вырашыла: фандзю яна не пацягне. А вось італьянскую піцу — запраста. Непрынцыпова. Галоўнае — бліскануць веданнем еўрапейскай кухні. Страва, аддалена нагадваючая піцу, спякалася ў жары духоўкі, весела румянілася чырвоным кетчупам, булькала і расплывалася тлустым маянэзам.

— Парыж… Жывуць жа людзі! — з зайздрасцю ўздыхнула Аня, быццам парыжане на працу не ходзяць, а адно толькі сядзяць у парыжскіх кафэ з кубачкам кавы і ранішняй газетай у руках, насалоджваюцца жыццём.

— О! Я купіла ў Парыжы цудоўны парфум. Мы шпацыравалі з Віктарам па Елісейскіх Палях і натрапілі на вялікую краму парфумы. Аграмадны выбар. Прасторная зала з высокімі столямі і навокал — духі, духі, духі. Флаконы разнастайныя, неверагодных формаў і дызайну. Пшыкаеш з пробніка на папяровую палоску і нюхаеш, нюхаеш. Нанюхаешся, аж млосна. Я выбрала сабе цудоўныя духі… а яны апынуліся іспанскімі. Уяўляеш?

— Шчаслівая ты, — блукала рамантычнасць ў Аніным позіркы… 

— Прызнацца, мы мала пабылі ў Парыжы, нічога канкрэтнага не магу сказаць аб парыжанах, ў асноўным мы бавілі час у Віктаравых знаёмых ў прыгарадзе… Ой, успомніла… На вуліцы, дзе знаходзіцца «Мулен руж». Гэта, здаецца, дзевятнаццатая акруга, — удакладніла Вера. Для Ані — пусты гук, тая інфармацыя ні аб чым не гаварыла… Што дзевятнаццатая, што трыццаць сёмая… А Вера старалася быць дакладнай і тлумачы-

ла: — «Мулен Руж» перакладаецца з французскай як чырвоны млын. Французскае кабарэ… Ну, ты ведаеш, знакамітае кабарэ.

Аня хітнула галавой, маўляў, ведаем, канечне, «Мулен руж», а як жа. Каб, чаго добрага, Вера не падумала, што яна дрымучая і не ў курсе, дзе знаходзіцца знакамітае французскае кабарэ. Упіўшыся вачамі ў Веру, ахутаная думкамі аб французскім шарме, Аня прагна чакала аповеда пра кабарэ.

Вера заварушылася, вочы ўзбуджана бліскануклі.

— Дык ля гэтага кабарэ нас ледзь не збіў матацыкліст. Нёсся як ашалелы. Наогул бязмозглы, не глядзіць, што людзі ідуць. Матацыкл раве, а сам — нібы мумія закуты ў чорную скуранку, пальчаткі і шлем на галаве як шар. Я была ў шоку… Культурны еўрапейскі горад… Сволач такая… ляцеў проста на нас. Куды глядзіць паліцыя?!

Аня прыціхла ля акна.

— А «Мулен руж»? — памуляўшыся, безнадзейна прамямліла яна.

— Не… у кабарэ мы не хадзілі, так пагулялі па вуліцы.

Спяклася піца. Вера выцягнула процівень с духоўкі, паставіла на газавую пліту, прыемна запахла гарачай стравай. Шкрабучы нажом па дне праціўня, Вера парэзала піцу на кавалкі і расклала ў дзве ружовыя талеркі. Аня села да стала, узяла ў рукі прыборы, далікатна, як на свецкім прыёме, папілавала нажом гарачае цеста, запечанае з сасіскамі, і, накалоўшы на відэлец, адправіла ў рот.

— Смачна, — невыразна вымаўляючы, з поўным ротам, пахваліла яна Верыны кулінарныя здольнасці.

Непрапечанае цеста ліпла да зубоў. Для Ані ж нягеглая Верына піца падалася шэдэўрам. Гатаваць Аня не ўмела, і большай часткай з-за ляноты. Маляваць, вадзіць пэндзлікам па шоўку — гэты занятак захапляў яе куды больш. Астатнім яна займацца не хацела.

Вера няспынна, захоплена апавядала пра еўрапейскія дзівосы, размалёўвала з падрабязнасцямі. Пасля паездкі за мяжу ў яе свядомасці адбыўся «зрух па фазе». За кардонам усё здавалася цудоўным і непаўторным. Вера зблытала турызм з рэальным жыццём у замежжы. Аня выявілася добрай падпявалай. Фран-

цыя, Еўропа, як цудоўна! Шарман, пардон, арэвуар, мерсі. Булкі растуць адразу на дрэвах.

— Я нядаўна ішла па вуліцы задуменная — томна гаварыла Аня, — і раптам да мяне падыходзіць элегантны мужчына і штосьці пытае па-французску. Француз — у нас, у Мінску… Я нічога не змагла яму адказаць. Проста разгубілася. Так няёмка… я не ведаю французскай мовы. Я вось думаю, чаму ён падышоў менавіта да мяне?

Аніна фантазія малявала, як замежнік вылучыў яе з натоўпу і практычна закахаўся з першага погляду, і толькі няведанне ёй французскай мовы загубіла рамантычны працяг.

К таму часу, калі на вуліцы замаячыла Аня, бедны француз знаходзіўся на мяжы адчаю, ён зблудзіў у горадзе і стомлены шукаў дарогу да гатэля. Аня была пятая па ліку, у каго ён парываўся высветліць шлях. Яму чамусьці здавалася, што маладая дзяўчына можа ведаць французскую мову. Старанна расцягваў вусны еўрапейскай усмешкай, умольна зазіраў ёй у вочы, а яна, зардзеўшыся, сплыла ў далягляд, не пакінуўшы ніякай інфармацыі. Француза напаўняла злосць. «Яшчэ адна дура», — думаў ён гледзячы Ані ўслед. Па-французску ніхто не разумеў. У нашых школах вывучэнне замежнай мовы ўсяго толькі абавязковы рытуал. Вучні робяць выгляд, што вучацца, а настаўнікі прыкідваюцца, што выкладаюць. *Э тэйбал, э пэнсіл, ол райт*. У выніку ўсе задаволены: настаўнікі атрымалі зарплату, дзеці высокія адзнакі за веды. Аднойчы выпадкова пачуўшы замежніка, былыя шкаляры і студэнты здзіўлена пуляюць вочы: аб чым гэта ён ляпеча? Мы з Марыванай таго не вывучалі. Дарэчы, і француз акрамя французскай ніякай іншай мовы не ведаў…

Вера з Аняй доўга гаварылі на ўтульнай кухні. Пілі гарбату. За акном змяркалася, шэры вечар ахінаў вуліцу. Цемень запаўзала ў кожную шчыліну. Вера запаліла святло. Ярка ўспыхнула лямпачка пад рыфлёным шырокім абажурам, пырскнула святлом ў вочы. Сяброўкі не змаўкалі: Парыж Парыж, сон наяве… Калі за акном добра сцямнела, Аня зазбіралася дамоў. Вера пайшла яе правесці, заадно выгуляць сабаку.

— Джымі… Джымі, — паклікала Вера, і ў пярэдняй ёй насустрач паднялася валасатая псіна з адданымі вачамі. Дзве сяброўкі і сабака пайшлі на вуліцу…

У кватэры Клыкоўскіх пражываў цудоўнае жыццё пры добрым даглядзе сабака пароды колі. Малым шчанюком пераступіў ён парог кватэры, адразу як толькі кватэра была куплена. На ўходзіны замест ката запусцілі ў пакоі сабаку. Шчанюк як шчанюк. Мілы, ласкавы, з доўгай пысай, доўгай поўсцю. Аднак мелася асаблівасць, што адрознівала яго ад беспародных братоў: дадаткам да шчанюка прыкладалася папера з генеалагічным дрэвам. У дакуменце быў прапісаны ўвесь сабачы радавод, пазначаны тытулаваныя сабачыя продкі да прадзедаўскага калена. Шчанюк атрымаў замежнае імя Джымі. Вера купіла Джымі за вялікія грошы. Грошы плаціліся не за пухнаты камячок, а за сабачае шляхецтва. Заводчыкі сабак на гэтым нядрэнна зараблялі. Пакуль Верын муж спадар Клыкоўскі зарабляў, уцюхваючы пакупнікам прадукты харчавання, сустрэчныя прадпрымальнікі ўцюхвалі яго жонцы за немалыя грошы шчанюка з дакументамі, якія самі і малявалі. Вера сабачыя паперы берагла, рабіла належныя адзнакі, сачыла за здароўем гадаванца, у ветурача параўняла сабачы прыкус. Джымі еў з апетытам і хутка ператварыўся ў здаровага барбоса. Вера выгульвала яго штодзённа ў скверы, пялегавала і берагла. Джымі насіўся па скверы як звычайная дварняга, з асалодай валяўся ў траве, збіраючы поўсцю бруд, некультурна меціў навакольныя дрэвы. Вера безагаворачна верыла ў элітарнасць Джымі. На прагулках пазнаёмілася з жанчынай, уладальніцай дурнаватага пудзеля, што брахаў на людзей без прычыны і без патрэбы. Пудзель таксама быў пры паперах. Вера падоўгу абмяркоўвала з жанчынай дэталі сабачага шляхецтва. Нагаварыўшыся, разыходзіліся па кватэрах. Ля ног упрыпрыжку бегла «шляхта» на чатырох лапах…

З часу Анінага візіту прамінула некалькі дзён. Вера гатавала на кухні вячэру і прыемна ўспамінала, як яны балбаталі пра Парыж. Адкінула на друшляк стручковую фасолю. Віктар зайшоў у кватэру. Вера з парога пазнала, што ён нечым незадаволены:

кіслы твар, змрочны пагляд. Віктор здымаў куртку, запырсканую на плячах дробным дажджом.

— Прывітанне! Як справы? — наблізілася яна да Віктора.

— Так сабе… Не вельмі, — без ахвоты адказаў Віктор. — Машына барахліць, задалбаўся рамантаваць. Сёння заглухла ў самы непадыходзячы момант.

— А што за паломка? — спытала заклапочана Вера.

Віктор узняў на яе вочы і незадаволена агрызнуўся.

— Быццам ты ў гэтым нешта разумееш.

«Лепш не чапаць. Павячэрае — потым пагаворым, а то пачне выёжвацца, на мне разгружацца. Ды ну яго…» — абачліва падумала Вера.

У пярэднюю з залы выйшаў Джымі, наблізіўся да гаспадара, завіхляў хвастом і, узняўшы ўгару доўгую пысу, аддана зазірнуў у вочы. Віктор памякчэў, нахіліўся да сабакі і паказытаў за поўсць на карку.

Вячэралі моўчкі. Вера прыгатавала адбіўныя з ялавічыны і стручковую фасолю на гарнір. Яна мела слабасці да нетрадыцыйных гарніраў. Падсыпала ў талерку кукурузу, гарошак, імкнулася адысці ад прастаты традыцыйнай кухні. Віктору падабаліся Верыны эксперыменты з замежнай кулінарыяй. Гэта дадавала ў паўсядзённасць некай элітарнасці. Ён ганяў відэльцам па талерцы зялёныя палкі стручковай фасолі, злавіўшы, адпраўляў у рот. Насця хуценька паела і, падзякаваўшы за вячэру, пайшла ў свой пакой. Джымі, матляючы доўгай поўсцю, мяккай паважнай чатырохлапай хадой паклыпаў за Насцяй.

Паеўшы, Віктор адсунуў ад сябе пустую талерку, прыкра ўздыхнуў:

— Задалбаўся рамантаваць. Трэба прадаваць машыну і купляць іншую. Гэта сваё адпрацавала… Ёсць у мяне знаёмы слесар у аўтасэрвісе, трэба з ім дагаварыцца наконт рамонту. Ён з гэтай раздалбайкі цукерку зробіць, падмандзіць, падкруціць… І трэба збыць каму-нець, пакуль зусім не ляснулася, — вочы гандляра блісканулі азартам. — Трэба уцюхваць.

— Дзе ты яе будзеш прадаваць?

— На аўтарынку, напэўна. А можна — па аб'яве ў газеце.

— За колькі?

— Я пакуль не ведаю, трэба прыцаніцца. Спачатку паспрабую піхнуць па максімуму. А там пабачым. Чорт, неахвота валандацца! На фірме спраў хапае, а тут яшчэ праблемы з машынай. Па зіме тужліва гэтым займацца. Летам — весялей, але да лета… — недагаварыў Віктар, набраў паветра і заклапочана выдыхнуў.

— Ты казаў, знаёмы слесар дапаможа адрамантаваць. А ён дорага бярэ?

Веру занепакоілася. З грашамі было цяжкавата, вытраціліся амаль пад нуль: кватэра, рамонт, паездка за мяжу.

— Па сярэднеўзважаным кошце, у межах разумнага… — адказаў Віктар і разважаў далей. — І галоўнае, — я яму давяраю. Чалавек правераны. Ёся Гельтман рамантуе ў яго сваё «Вольва». Гэта пра нешта гаворыць… Гельтмана не абдурыш. А Пончык наабум пагнаў тачку да слесараў у гаражы, а яны яму рухавік упаролі… Прычым як лоўка развялі. Зараз табе раскажу. — Віктар варухнуся, падаўся бліжэй да Веры і з нейкай з'едлівай заўзятасцю прамовіў: — Яшчэ тыя разводзільшчыкі. Карацей, прымаў замову сталы, дасведчаны слесар, абмацаў дэталі, абгледзеў як след машыну. Нармальна дамовіліся па кошце. Пончык ім задаволены — талковы мужык. Мінае тыдзень. Прыходзіць Пончык забіраць машыну з рамонту. Таго талковага мужыка і след прастыў, а з гаража выплываюць два арлы гадоў па дваццаць. Сталі перад ім. Ногі — нарастапырку: «Мы слесары-прафесіяналы, рамантавалі тваю машыну, і на дадзены момант яна не ездзіць, бо зламаўся рухавік». Пончык афанарэў: як так зламаўся рухавік? Ён жа быў у парадку. «А дзе той слесар? — пытаецца. — Мне з ім сур'ёзна пагаварыць трэба». — «Яго больш не будзе, размаўляйце з намі», — адказваюць шчыглы. Тут Пончык дапяў: той дасведчаны старпёр толькі замовы прымае… дзеля, так бы мовіць, станоўчага ўражання на кліента… бярэ свой працэнт і сыходзіць, а потым маладняк трэніруецца ў рамонце і вырабляе фокусы. Пагойсалі маладзёны на машыне Пончыка, дзевак пакаталі з вецярком. Насіліся з такой хуткас-

цю, што накрыўся рухавік, кліна злавіў… Стаіць наш Пончык ля гаража, вочкамі лыпае. А яны яму: «Даплаціце за рамонт рухавіка, мы ліквідуем паломку». Тут да Пончыка вярнулася мова. Хацеў іх абмацярыць. Але агледзеўся — нікога паблізу няма, ніхто Пончыка не ўратуе. А гэтыя «слесары-прафесіяналы», ногі нарастапырку, вецер у галаве, яшчэ і адкалашмаціць могуць… З'ездзіў Пончык па Гельтмана. Вярнуліся да гаражоў на гельтманаўскім «Вольва», падчапілі пончыкаву машыну на трос і сціпла так, ціхенька пацягнулі дадому.

Вера прамяніста ўсміхалася, уяўляючы, як Пончыкаву машыну цягнулі на тросе. Падзеі падаліся забаўнымі і вясёлымі. Не Віктора ж цягнулі.

— Шкада Пончыка, — змяшаўшы весялосць са спачуваннем, прамовіла Вера.

— Не, я да неправераных людзей не паеду. Пончык навучыў… Толькі знаёмы слесар, і то сачыць і правяраць трэба.

За наступны месяц Віктор падрыхтаваў «Пежо» да продажу: падцягнулі, падвінцілі, замацавалі. Машына трымалася на хаду. У салоне навёў марафет. Памыў, пачысціў, сабраў пылінкі пыласосам, падвесіў ля шкла араматызатар, крыху задушлівы і саладжавы. Машына зіхацела і дыхала водарам. Ранкам выходнага дня з Сашам напару накіраваліся на аўтарынак у Малінаўку. Горад перасеклі па дыяганалі і выскачылі да кальцавой дарогі. Была адліга, расквашаны снег, змяшаны з саляной пясчанай пасыпкай, пакрываў праезную частку. Адмытую напаліраваную машыну запырскала брудам. Перасеклі кальцавую і, кулдаючыся па раздолбанай прыгараднай дарозе, даехалі да аўтарынка. Удалечыні бялела снежным чыстым покрывам поле. А перад ім — вялікая шэрая асфальтавая пляцоўка, з'езджаная коламі легкавікоў. Аўтарынак. На мокрым брудным асфальце пярэсціліся шэрагі машын на продаж. З краю пляцоўкі стаялі рознавялікія, неахайныя пабудовы, завешаныя шыльдамі. У асобных памяшканнях месцілася адміністрацыя, афармлялі дакументы. Ля ларкоў ляжалі навалам гумавыя пакрышкі, тоўпіліся пластыкавыя бутэлькі шклаамывальніка, тасолу, патыхала едкім бензінавым пахам.

Віктор з Сашам праехалі ўздоўж пабудоў, агледзеліся, зрабіўшы кола па пляцоўцы, заехалі ў гандлёвыя аўтамабільныя шэрагі і наважыліся заняць найбольш удалае месца пасярод шэрагу. Між машынамі ў цэнтры рынка была прагаліна вольных парковак. Месца падалося зручным і выгадна размешчаным. Віктор уключыў заднюю перадачу і пачаў паркавацца. Да машыны хутка рушыў здаровы мужлан у кароткай скуранай куртцы з ўзнятым пад вушы футравым каўняром. Глыбока насаджаная на галаву вязаная шапка закрывала бровы і налазіла на вочы. З-пад шапкі зыркаў едкі пагляд. За мужланам назіралі дзве драбнейшыя, скурчаныя на холадзе постаці бандзюкаватага выгляду.

— Эй, стой! Ты куды лезеш! Гэтыя месцы занятыя, — расчапіўшы цяжкія сківіцы на шырокім пляскатым твары, выразна адчаканіў мужлан.

Віктор спыніў машыну, заглушыў рухавік і неахвотна вылез з цёплага салона. Вецер дзьмуў колкім вільготным холадам у шчокі, вушы, гуляў сіверам у непрыкрытых валасах.

— А там далей? — спытаў у пляскатамордага Віктор і матнуў галавой на пустыя месцы ў супрацьлеглым шэрагу.

— І там занята, — рухаў сківіцамі мужлан, пагрозліва зыркаючы зенкамі.

— А дзе свабодна?

— Вось там з краю, — адсылаў ён Віктора ў нязручнае месца.

— Усё ясна, — ціха прашыпеў Віктор і сеў за стырно.

Саша пільна разглядаў праз акно дваіх бандзюкаватых хлапцоў з каманды мужлана. Яны, захінаючыся ўзнятымі каўнярамі ад ветру, ваўчынымі позіркамі сачылі за Віктаравай машынай.

— Гэта перагоншчыкі, ганяюць патрыманыя аўто з Еўропы, — раўнадушна, без эмоцый прамовіў Саша. — Не звязвайся… Паедзем на другі бок, станем ад іх падалей.

— Глядзі колькі месцаў вольных, а яны не пускаюць. Засталбілі і ўсё тут. Гаспадары жыцця, — шыпеў Віктор.

— Шушары хапае, — смела крыў Саша перагоншчыкаў, надзейна зачыніўшыся ў цёплым салоне, каб яны не пачулі. — А ты хочаш з імі дамовіцца?

— Наўрад ці ў мяне гэта атрымаецца, — зласліва хмыкнуў Віктор, павярнуў ключ запальвання, завёў рухавік.

Рухавік патахкаў, чхнуў і запоўніў салон манатонным гулам. Віктор крутнуў стырно, машына павярнула гумовыя колы ў праезд і пакаціла між шэрагамі, пакідаючы за сабой тры ваўкаватыя постаці.

— Ім бы па нагану за пояс, — павярнуўшыся, разглядаў постаці ў скуранках Саша. — Чыстыя камісары, — працадзіў ён скрозь зубы, смелы ў сваёй недасягальнасці.

Машыну паставілі ў канцы шэрага ў нязручным для гандлю месцы. Віктор пахадзіў па рынку, прыцаніўся. Вярнуўшыся, пад лабавое шкло машыны прыляпіў паперу з накрэмзаным ад рукі коштам у доларах. Цана ва ўмоўных адзінках, афіцыйна прынятая назва долараў. Народ зялёную «капусту» называў па-іншаму — крымінальныя адзінкі. Віктор і Саша пад лёгкую музыку, гучаўшую з аўтамабільнай аўдыёсістэмы, бавілі час у чаканні пакупнікоў. З прыёмніка звінеў высокі залівісты голас Валерыя Лявонцьева: «Куда уехал цирк? В какие города погонщики ведут учёного верблюда? Ведь кто-то сказку ждёт и верит в чудо…». Народ пралятаў міма Віктаравага «Пежо», пакупнікоў магнітам цягнула ўсярэдзіну, туды, дзе ўдала апанавала месцы кодла ў скуранках з узнятымі каўнярамі і паглядамі каралёў раёна.

Два выходныя дні, самы гандаль, праляцелі дарма, некалькі чалавек посна аглядалі машыну. Іх твары нічога не выказвалі. Было падобна, што людзям няма чаго рабіць і яны ад самоты прыйшлі на экскурсію на аўтарынак і боўтаюцца па стаптаным брудным снезе. Снег няспынна падаў з неба белымі мокрымі шматкамі, ляпіўся на аўтамабільнае шкло. Матнуўшы шчоткамі, Віктор скідваў снег з шыбы, адкрываў абзору цэннік на аўто. Пакупнікоў не было.

Наступныя выходныя таксама прастаялі марна. Адзін мужычок зачапіўся. Доўга аглядаў машыну. Скурчыўшыся, зазіраў пад капот, задуменна жаваў патрэсканыя вусны. Віктор паўстаў ля яго стрыманы, рабіў выгляд, што яму абыякава: машына вышэйшага гатунку, такую любы з рукамі адарве. Мужычок

пагандляваўся, збіў цану. Віктор муліўся для выгляду, быццам неахвотна скінуў з кошту пару сотняў. Дамовіліся. Мужычок пайшоў па задатак, і больш яго не бачылі.

— Усё. Хопіць, — адрэзаў Віктор. — Скіну цану і дам аб’яву ў газету «З рук у рукі». Сюды я больш — ні нагой. На чорта мне гэты галаўны боль?

Саша заварушыўся, заёрзаў на пасажырскім сядзенні. Яму абрыдла бясконцае сядзенне ў аўтамабільным карабку. З задавальненнем паляжаў бы зараз на канапе, целек пагглядзеў.

— Слушнае рашэнне. Я цалкам за, — прыхоўваючы радасць, згадзіўся ён з Віктарам.

Машыну Віктор прадаў праз два месяцы. Старэнькае «Пежо» паехала калясіць дарогі ў райцэнтр.

Аўтамабільны рынак выклікаў у Віктора раздражненне. Не яго стыхія. Ён, прызвычаены да офіснай працы, лепш пачуваўся сярод камп’ютараў і папер. Асабліва назалялі ўспаміны пра бандзюкаватую тройцу. Віктор асцерагаўся купляць машыну ў незнаёмых людзей. На дапамогу прыйшоў Ёся Гельтман. У Ёсі на прыкмеце меўся знаёмы, што пад замову прыганяў аўта з Германіі. Чалавек вопытны. Умеў выгандляваць па добрым кошце патрыманыя машыны ў буржуяў. Сумленны: сваім шыла не спіхваў. Гельтманаўскае «Вольва» ён прыгнаў з-за мяжы… Літаральна праз месяц шчаслівы Віктор сеў за стырно патрыманага «Мерседэса». Чорны «Мерседэс» блішчэў як новенькі, зіхацеў металічным аздабленнем. Сваіх грошай на пакупку не хапіла, пазычыў дзве тысячы долараў у Сашы. За такога каня не шкода і заплаціць.

Усаджваючыся ў «Мерседэс» з мяккай, прыемнай навобмацак велюравай абіўкай салона, Вера адчувала ўзрушэнне і разуменне, што не дарма выйшла замуж за Віктора і мірыцца з яго выбрыкамі. Пасля вяселля Віктор не змяніўся. Часам бываў невыносны, дэманстраваў дрэнны настрой. У такія моманты Вера старалася трымацца ад яго падалей, сыходзіла на кухню ці ішла на шпацыр з Джымі. Пасядзеўшы ў адзіноце сам-насам

са сваімі згрызотамі, Віктор вяртаўся ў нармальны стан, і яны з Верай па-сямейнаму пілі на кухні гарбату…

Праца ў Віктора была нервовая. Не ўсё ладзілася. Прабуксоўвалі продажы. Бухгалтарка Клава падкінула сюрпрыз: наблытала са справаздачай і сышла ў дэкрэт.

У адзін з ясных веснавых дзён у офісе фірмы з'явілася незнаёмая жанчына. Кабета сталага ўзросту ў акулярах, у руцэ яна трымала пузатую сумачку, падобную на мініяцюрны саквояж. Падатковы інспектар. Віктор сустрэў яе нацягнута ветліва, дапамог зняць плашч. Саша адразу заспяшаўся па нейкіх вельмі важных справах. Інспектрыса стомлена ўселася на месца бухгалтаркі Клавы і загадала:

— Пачнём праверку.

— Пачнём, — згадзіўся Віктор, вочы патухлі. Куды яму было дзецца, раз такая справа.

Віктор павыцягваў з шафы паперы і няроўнымі разбарсанымі стосамі выклаў на стале. Груды раслі. Інспектрыса патанула ў накладных і справаздачах. Яна моташна пазірала на складзеныя кіпы дакументаў. З акна пад столлю, нібыта дражнячы і падсмейваючы, прамянілася сонца, асвятляла ў паўпадвале канцылярскіх працаўнікоў. Інспектрыса крыху адсунула ад сябе паперы, без натхнення ўзяла бухгалтарскую кнігу, пагартала старонкі. Віктор сядзеў за суседнім сталом перад камп'ютарам з заклапочаным тварам, а ў душы спакваля прадзяўбалася ціхая радасць. Радасць, што патрапілася прыстойная інспектрыса. Штосьці знойдзе, якія-небудзь памылкі, паўшчувае і выпіша невялікі штраф. Штраф выпіша абавязкова, без гэтага не абыдзецца. Але ж жанчына з жыццёвым вопытам не будзе трапаць дарэмна нервы. Пашчасціла, што не патрапілася з праверкай маладая кар'ерыстка, нястомная ў прычэпках. Крывячы ў незадаволенасці твар, дасціпная правяральшчыца тыцкае пальцам у паперы: «У вас тут пячатка невыяўная, а на гэтай дамове сказ упісаны не ў той радок, гэта недапушчальна»… Курчаць з сябе…

Па выніках праверкі Віктору налічылі штраф, як і прадбачыў невялікі. Наступным днём штраф быў аплачаны…

Саша зайшоў у офіс і з парога паведаміў:

— Учора сустрэў Гельтмана. Выпусцілі яго з кутузкі.

Віктор адарваўся ад экрана камп'ютара.

— Выпусцілі ўсё ж такі… Уляпаўся ён, канечне, добра. А ўсё з-за свайго характару. Казаў жа яму, плаці штраф і не рыпайся.

Ёся Гельтман займаўся гандлем будаўнічымі матэрыяламі. Два кіроўцы на мікрааўтобусах вазілі тавар з Польшчы, а Гельтман, седзячы ў Мінску, ўзначальваў гандаль. Была ў Гельтмана адна асаблівасць: ён вельмі не любіў развітвацца з грашыма. На сябе, любімага, ён вытрачаўся ахвотна, а вось іншыя выдаткі яго напружвалі. Ёсю выпісалі ў падатковай ёмкі штраф за парушэнне чарговага пастанаўлення на рашэнне аб прыняцці і скасаванні, ўвядзенні і абмежаванні… і гэтак далей. Вяртанне недаплат і штраф пацягнулі на тысячу долараў. Ён і сто аддаваў дрыготкай рукой, а тут — тысяча. Ёсю было шкада грошы, і плаціць ён адмовіўся. Выклікалі Гельтмана ў аддзел па барацьбе са злачыннасцю. Ён прыйшоў да следчага з прамовай аб крыштальнай чысціні ўчынкаў і абсалютнай невінаватасці ў дзеяннях, а выйшаў без шнуркоў на фірмовых пантофлях у камеру папярэдняга затрымання.

— Гельтман табе заплаціць, а як жа. Яму пяць разоў нагадаць трэба, — рэзонна сказаў Саша, ведаючы Ёсевы павадкі.

— А як ён пасля адсідкі… пахарашэў?

— Так сабе… не вельмі. Затое можа навучыцца лягчэй з грашыма развітвацца.

— А як яму ўдалося адмазацца?

— Дзве штукі баксаў на хабар пайшлі і на адваката… і тысяча на штраф.

— От, Гельтман… называецца зэканоміў тысячу. Казаў жа яму — плаці і не дрыгайся…Эканаміст хрэнаў. Хацеў тысячу заціснуць, а прыйшлося з трыма развітацца — лічы, траціна аднапакаёўкі. Што ў яго цяпер з бізнесам?

— Нармальна з бізнесам. Агледзеўся і пачаў нарошчваць аб'ёмы. Трэба ж страты кампенсаваць…

## 10

— Веруня, прывітанне!

Ліда наблізілася да Веры і стала побач ля вітрыны з тканінамі.

— Ой, Ліда! Прывітанне. Не чакала цябе сустрэць, — прасакатала Вера.

— Дзе ж нам выпадкова сустрэцца, як не ў аддзеле тканін. Наша стыхія, — сказала Ліда і пяшчотна пагладзіла адрэз слізкага шоўку.

— Так, сапраўды… А ты што шукаеш?

— Кавалачак тканіны сабаку на банцік, — сур'ёзна адказала Ліда і прабегла вачамі па вітрыне.

— Праўда?

— Ды я жартую, — хіхікнула Ліда, — у мяне і сабакі няма.

— А… А я і праўда падумала.

— Слухай, Вера, калі ёсць час, пайшлі пасядзім дзе-небудзь, паразмаўляем. Даўно не бачыліся.

Вера ахвотна згадзілася. Дуэтам, дробна стукаючы абцасамі па прыступках і на хаду размаўляючы, з апошняга паверха ЦУМа яны спусціліся ўніз і, праслізнуўшы сярод людскога цумаўскага натоўпу, выйшлі на вуліцу. На другім баку праспекта ў задуменні, падпёршы рукой галаву, сядзеў манументальны Якуб Колас. За спінай літаратурнага класіка дыяментавымі пырскамі ўзляталі ўгару струмені фантанаў.

— Пайшлі на плошчу, пасядзім на лаўцы ля фантана, — прапанавала Ліда.

— Пайшлі.

Пераадолеўшы падземны пераход, яны выйшлі на плошчу Якуба Коласа і пакрочылі да вольнай лаўкі. Уселіся.

— Як ты на новай кватэры абсталявалася? Рамонт скончыла? Хто каго: ты рамонт ці ён цябе? — з аганьком запытала Ліда.

— Здаецца, я яго. Канечне прыйшлося цяжкавата… Засталіся дробязі. Хачу на кухні зрабіць паліцу ўздоўж сцяны і выстаўляць на ёй розныя цікавыя рэчы: падсвечнікі, сувеніры, гаршкі керамічныя з малюнкам. Гэта надасць асобую атмасферу кухні, — з імпэтам пахвалілася дызайнерскай задумкай.

«Пылазборнік на гаршках твая кухонная паліца», — падумала Ліда і, каб не трывожыць Веру сумневамі, дзяжурна прамовіла:

— Міленька атрымаецца, гаршкі на паліцы.

Вера была апранута ў барвовую атласную блузу з асіметрычным каўняром. Сама пашыла. Ліда з прафесійнай цікаўнасцю паглядала на арыгінальна зробленую мадэль блузы. Шырокі плоскі каўнер Вера па-штукарску расшыла выпуклымі ніцянымі рыскамі. Ліда дакранулася пальцамі да вышыўкі.

— Сама вышывала? — спытала яна Веру, узіраючыся ў аздобу на каўняры і пахваліла: — Мне падабаецца, арыгінальна зроблена.

— Табе падабаецца? А адна асоба… Сястра мужа. Не ведаю як яе правільна называць… мама мужа — свякроў, а сястра? Забылася. Такая незвычайная назва. — Вера круціла зрэнкамі, напружана шукаючы адказ.

— Залоўка, — падказала Ліда.

— Залоўка? Так, напэўна, залоўка, — пагадзілася Вера. — Уяві сабе карціну: залоўка агледзела маю вышыўку і сказала: «Панасадзіла нейкіх вусеняў на каўнер».

— Так і сказала?

— Так і сказала. Яна не саромеецца пры нагодзе мне розных брыдкасцяў нагаварыць.

— Залоўка, злосная галоўка. Вось змяюка! І ты змоўчала? — у Лідзіных вачах бліскануламаланка.

— Змоўчала. Яна ж сястра мужа. Я не хачу з ёй сварыцца.

— Ой, Вера, не ведаю. Канечне, твая справа, але ўсім не дагодзіш.

— Прыходзіцца прыстасоўвацца. Я наогул не люблю спрэчак… Нядаўна я Віктаравых сваякоў на вячэру запрашала: свёкр са свякроўю, сястра мужа з дачкой. Я стол накрыла завіхаюся ля іх, ручнік праз руку перакінула, бегаю на кухню з кухню: вам зручна, а што б вы хацелі, можа падагрэць, можа падсаліць. А яны сядзяць, як паўліны, словы цэдзяць. Залоўка бярэ з талеркі тлустую курыную ножку і плясь той кавалак на дыван… новы турэцкі дыван, я нядаўна купіла… тлушч размазаўся па дыване, а яна так бадзёра: «Цю, цю, цю…» — кліча майго сабаку

пакарміць. Добрая душа, любіць жывёл. У мяне ў сярэдзіне усё паднялося ад абурэння… але я не стала рабіць ёй заўвагу, яна ж госця…

— А свякроў… свякроў нічога не сказала? — заінтрыгавана выпытвала Ліда.

— Алімпійскі спакой на твары. Сядзела як статуя, ні слова дачцэ. У самой дома нібы ў музеі: туды не садзіся, гэта не чапай, ногі выцірай. А ў мяне можна тлустае мяса на дыван кідаць… Віктор падняўся з-за стала, узяў мясны кавалак і аднёс у сабачую міску, Джымі пачаставаў… Вечар прайшоў ў нязмушанай сяброўскай атмасферы. Я праводзіла сваякоў пасля вячэры, сардэчна дзякавала за прыемны візіт і цудоўны вечар. Пасля развітання гадзіну мыла посуд і поўзала па дыване, замывала тлустыя плямы.

— «Пашанцавала» табе са сваякамі, — жартаўліва сказала Ліда, вочы іскрыліся смехам: яна ўяўляла карціну «ўрачыстага» прыёму, надзьмутыя твары фанабэрыстага сямейства і… «цю, цю, цю». — А ў Віктора як справы?

— Пакуль нядрэнна. Нядаўна памяняў машыну. Цяпер у нас чорны «Мерседэс»…

— О! Віншую!

Вера распавяла, як Віктор с цяжкасцю прадаў адну машыну, потым купіў іншую. Ліда слухала няўважліва, аўтамабільныя тэмы наганялі на яе тугу. Машыны яна ўспрымала выключна па знешняй абалонцы: прыгожая, непрыгожая. Дзеля праформы, каб патрымаць размову ўстаўляла кароткія нязначныя выразы: «Так, так…. О!.. А ён што?.. Не можа быць… Выдатна!.. Чорны колер “Мерседэсу” пасуе». Аўтамабільная тэма хутка заглухла.

— А што з бацькоўскай кватэрай? Там, здаецца, твой брат жыве. Мне падабаўся твой раён, ціхі, утульны. Там штосьці змянілася ці ўсё па ранейшаму? — спытала Ліда.

Раён бульвара Шаўчэнкі запомніўся Лідзе спакоем. Некалькі прыпынкаў ад мітуслівай Камароўкі і трапляеш у іншы свет, дзе няма юрлівага натоўпу, а ў двары дома заўсёды неверагодна ціха. Зрэдку ляпаюць дзверы пад’езда, на балкон прылятаюць птушкі.

— Ды не… асабліва нічога не змянілася. Усё па-старому. — Вера паціснула плячамі і праз момант ускінула на Ліду ўспыхнуўшы пагляд: — Памятаеш, я табе расказвала пра маю суседку Эму, яна мне яшчэ падпрацоўку давала, калі я была ў дэкрэтным адпачынку, я ёй гардэроб перашывала, у нас былі блізкія адносіны, бадай сяброўскія?.. Я даўно не наведвалася ў бацькоўскую кватэру, не было часу, закруцілася са справамі, рамонт рабіла… Звычайна брат да мяне сам прыязджаў. А на днях зазірнула ў родныя пенаты. Віктар падвёз мяне на «Мерседэсе» да пад’езда. Эма ішла па двары. Яна мяне заўважыла і што дзіўна — прайшла міма, не павіталася, зірнула спакваля і пайшла ў пад’езд. Я падумала, што не хоча замінаць. Мы з Віктарам якраз перамаўляліся, я пыталася, ці зможа забраць мяне на зваротным шляху. Яму трэба было ў офіс. Віктар паехаў… Як цудоўна, думаю, што Эма дома, пасядзім з ёй, ўспомнім нядаўняе мінулае… Я злётала ў краму, купіла бутэльку добрага віна. Прыпіраюся з віном, званю ёй у дзверы: «Прывітанне, Эма, заходзь да мяне!» І чую ў адказ: «Я занятая, у мяне няма часу, прабач…» — глянула мне ў вочы непрыязна і дэманстратыўна зачыніла дзверы. Мяне нібыта ледзяной вадой аблілі. Што гэта на яе найшло?

— Няўжо не разумееш? — спытала Ліда.

— Не разумею. Нічога асаблівага не адбылося. Яна мяне запрашала на пасядзелкі, я таксама хацела запрасіць. Чаму яна мяне цураецца?

— Вера, усё ж проста. Звычайная зайздрасць. Пакуль ты жыла ў нястачы, яна перад табой хвалілася: багаты каханак, яскравае жыццё… паглядзіце, як у мяне ўсё супер… З барскага пляча падкідвала табе падпрацоўку… падол у сукенцы падкараціць. Ты адцяняла яе паспяховасць. А цяпер ёй…Колькі там ёй стукнула? — іранічна спытала Ліда.

— Сорак тры, здаецца.

— О! сорак тры гадочкі! Каханка няма, — збег да маладзейшай. Новы — не прадбачыцца. Букеты, падарункі скончыліся. Застаўся голы аклад на працы, чатыры сцяны ў кватэры і самота. А тут ты — добра апранутая, з мужам і на «Мерседэсе».

Вера шырока адкрыла вочы, разгублена памяла пальцы рук.

— Я і падумаць не магла… Я верыла, што яна па-сяброўску…

11

Пад канец ліпеня Вера адправіла дачку ў летні дзіцячы лагер. Купіла пуцёўку ў фабрычным прафсаюзе за поўны кошт, членам прафсаюза Вера не з'яўлялася, зніжкі — членам прафсаюза. Знаёмая параіла: «Вера, бяры пуцёўку, не так і дарага, няхай дзіця павесяліцца летам — там лес, прырода, мае ездзяць кожны год і яшчэ просяцца». Вера рашылася, і Насця паехала пазнаваць лагернае жыццё.

Віктор разлічыўся з пазыкамі, вярнуў Сашу грошы. Гандаль харчамі прыносіў неблагі прыбытак, хоць Віктор і лічыў, што справы ідуць не вельмі. Яшчэ назбіралася валюты, каб аплаціць паездку на мора. Сямейная пара Клыкоўскіх выправілася на адпачынак у Італію. Летняй сонечнай раніцай чорны «Мерседэс» імчаў па алімпійскай трасе кірункам на Брэст. Навокал прасціраўся шырокі абшар беларускіх палеткаў.

Апрацаваныя, з наспяваючым збожжам шырокія палосы сыходзілі ў далягляд, злучаліся з небам. У аддаленні віднеліся хаты, няроўна сабраныя ў вясковую вуліцу, прыземістыя, нізкія. Баракамі расцягнуліся неахайна беленыя будынкі малочнай фермы. Воданапорная вежа гранатай на доўгай назе падпірала неба. З шырокай прасторы палёў машына заляцела ў лясны масіў. Паабапал дарогі шуганулі ўверх высокія дрэвы, густой чарадой ахіналі шашу з двух бакоў. Мільгалі за вокнамі галінастыя камлі дрэў, месцамі ля камлёў расло, слалася густое кустоўе. Лес хутка скончыўся і выпусціў машыну да новых абшараў. Роўная дарога манатонна шабуршэла пад коламі, закалыхвала. Вера, прытуліўшыся галавой да падгалоўніка, слухала шум дарогі. Удалечыні намалявалася постаць зубра. Спачатку невялікая, яна расла, мужнела. Распіраўся зубрыны магутны торс, неўзабаве вырас і раздаўся да аграмадных памераў. Плоскі, нібы прыплюснуты

з двух бакоў помнік зубру, валадару лесу, велічна застыў сярод поля…

У Брэст на памежжа яны прыехалі бліжэй да палудня. Віктор абачліва на бензакалонцы заліў паўнюткі бак бензіну. У Еўропе паліва каштавала значна даражэй. Прыехалі на мяжу. На памежным пункце пропуску сабралася ладная чарга. Мікрааўтобусы і прыватныя аўто выстраіліся адзін за адным у доўгі ланцуг. Кемлівы народ ганяў у Польшчу на закупы. Туды ехалі з поўнымі бакамі бензіну, назад вярталіся гружаныя польскімі таварамі на перапродаж. Бізнес.

Стаянне ў чарзе стамляла. Адпакутавалі тры гадзіны, абмінулі апошняга польскага мытніка і вырваліся на прастору аб’яднанай Еўропы. Пейзаж за вокнамі машыны адразу змяніўся. Вузкую дарогу густа абляпілі дамы. Дамы падступалі так блізка, што можна было разгледзець кожную драбніцу ў двары і, здаецца, зазірнуць у вокны. Дагледжаныя палісаднікі на падворках, кветнікі. Зялёнымі свечкамі збіраліся ў купкі пры доме дэкаратыўныя туі. У дварах стаялі гіпсавыя вазы, фігуркі гномаў, быццам дарослыя палякі не нагуляліся ў дзяцінстве і цягнуліся да казачных персанажаў. Новая двухпавярховыя катэджы заможна разбудоўваліся ў дварах, выціскалі старыя хаціны. Гандлёвыя шыльды на польскай і рускай мове заваблівалі пакупнікоў з усіх бакоў. У Польшчы квітнеў прыватны бізнес. Усходнія палякі багацелі і рабілі капітал на плыні дробных гандляроў з суседняй краіны. Беларусь тым часам кінула капітал на ўзняцце пахіснуўшыхся гігантаў прамысловасці: буйных заводаў і фабрык і замацаванне калгаснага ладу жыцця на вёсцы. Прыватны бізнес ледзь ліпеў.

Вера зачаравана пазірала ў акно. Раптам успомніла, што ў яе ёсць польскія карані: прабабуля па мацярынскай лініі была полькай.

Па вузкіх двухпалосных дарогах несупыннай плынню нясліся машыны. Пагрозліва навісалі груваcткія доўгія фуры. Віктор пачаў чартыхацца.

— Дарогі — поўны трындзец, — гэтыя словы былі самым цэнзурным варыянтам са сказанага. — Добра, што праедзем па Польшчы ўдзень, ноччу на гэтых дарогах можна ашалець, —

раздражнёна цадзіў Віктор. — Не, ну яго на фіг — ноччу ехаць па Польшчы. Я ў такія гульні не гуляю.

Вера не звяртала ўвагі на Віктораву лаянку. Яна насалоджвалася выглядам новых катэджаў і стрыжаных газонаў. Еўропа…

Пераначавалі ў прыватным прыдарожным гатэлі. Нядорага і ўтульна. Наступным днём бліжэй да палудня праязджалі апошнія польскія гарадкі, наперадзе была мяжа з Аўстрыяй. З дарогі Вера ўбачыла вялікі касцёл ў прыдарожным мястэчку.

— Давай заедзем сюды — глядзі, які прыгожы касцёл. Ты крыху адпачнеш, увесь час руліш, трэба зрабіць перапынак.

Віктор збавіў хуткасць і, пад'ехаўшы да развілкі, павярнуў у мястэчка. Яны праехалі па амаль бязлюднай вуліцы, спыніліся на плошчы непадалёку ад касцёла. Плошча была пустая. Вера выйшла з машыны і, аглядаючыся па баках, пайшла да касцёла. Віктор, высунуўшы з машыны ногі, гартаў пакладзены на калені аўтамабільны атлас. Ля касцёла нікога не было. Акуратныя кветнікі аздаблялі касцельны двор, незвычайна ціха. Вера ўзняла вочы ўверх па высокіх касцельных мурах, выкладзеных з чырвонай цэглы. Касцёл стромка ўзносіўся ўвышыню, гатычнымі вежамі цягнуўся да неба. Вера абышла касцёл з чатырох бакоў. Урачыста і ціха. Пастаяла некалькі хвілін ля галоўнага фасада, адухоўлена ўглядаючыся ў веліч будынка. На плошчы чакаў Віктор. Трэба ехаць далей. Віктор ішоў ёй насустрач.

— Давай прагуляемся паблізу, паглядзім, як палякі жывуць, — прапанаваў Веры.

— Пайшлі вось на тую вуліцу, — паказала Вера на аднапавярховыя ладныя дамы.

Вуліца пачыналася ад вугла плошчы. Яны турыстычнай няспешнай хадой пашпацыравалі нацянькі праз плошчу. На грудзях у Віктора матляўся фотаапарат, падоўжаныя шорты колеру хакі прыкрывалі калені над валасатымі лыткамі. Вера лёгкімі палатнянымі штанамі з шырокімі калашынамі падмятала асфальт. Наблізіліся да жытла. Першыя дамы выглядалі дагледжанымі, акуратна пафарбаваныя тынкаваныя фасады, палісаднікі, а далей… далей цягнуўся шэраг закінутых падворкаў. Некалі дабротныя цагляныя дамы стаялі пустыя, непрытульна

глядзелі бруднымі пыльнымі вокнамі без фіранак. Уваходныя драўляныя дзверы рассохліся, фарба аблезла. Вера спынілася ля дома з трэснутай сцяной. Шчыліна коса прабягала ад акна да фундамента, расшыралася ўніз. Вокны зеўралі дзіркамі пабітага шкла. Аскепкі шкла рассыпаліся ўнутры дома на падваконніку. Вуліца кінутых дамоў. Вера з Віктарам няўтульна патапталіся ў атачэнні пустых падворкаў і папляліся назад на плошчу. На плошчы ў цені дрэва стаяла сталая жанчына. Летні светлы капялюш, адзеты крыху набакір, кароткімі палямі навісаў над прасечаным зморшчынамі тварам. Жанчына некага чакала. Вера павагалася, хацела сесці ў машыну, але цікаўнасць узяла верх, яна пайшла да жанчыны. Мясцовая пані ўважліва з-пад капелюша вывучала турыстаў. Рэдкія птушкі ў гэтых мясцінах. Вера павіталася. Жанчына хітнула галавой у адказ.

— Скажыце, калі ласка… мы вось гулялі па той вуліцы, — Вера паказала рукой, — там шмат пустых дамоў. Чаму там не жывуць людзі?.. Дзіўна неяк.

Жанчына выдатна зразумела, пра што яе спыталі.

— Няма працы, паехалі на заробкі, — шчыра адказала яна, зусім не цуралася турыстаў, ахвотна размаўляла… Добразычлівасць жыхароў невялікіх мястэчак.

— А-а, разумею, — заківала галавой Вера, — напэўна ў Аўстрыю.

— Не… у Англію.

— У Англію? Дык Аўстрыя ж бліжэй… — перапытала Вера, думаючы, што нешта не зразумела.

— Едуць не туды, дзе бліжэй, а дзе ёсць праца і больш плацяць, — павольна тлумачыла жанчына, цягнула кожнае слова.

Яна гаварыла па-польску, і Вера сама сабе дзівілася, што выдатна яе разумее. Школьныя ўрокі беларускай мовы давалі практычны плён. Потым жанчына папыталася, куды яны едуць. Вера расказала пра адпачынак у Італіі.

— То добра… адпачываць на моры, то добра, — ухвальна прамовіла жанчына і пажадала прыемнага адпачынку. Развіталіся…

Віктар выязджаў з мястэчка і разважаў наконт убачанага:

— Гельтман мне вушы прагудзеў: Польшча, Беласток, гандаль, бізнес, багатыя палякі… ля беларускага памежжа… А тут, паглядзі, зусім іншае жыццё…

Да месца адпачынку ў Італіі дабраліся на трэці дзень бліжэй да вечара. Курортны горад разносіла весялосць. Запоўненыя людзьмі кафэ, музыка, шум і гам. Турысты бадзяліся па вуліцах, лезлі пад колы «Мерседэса». Нарэшце, стомленыя, дабраліся да гатэля. Чатыры зоркі. Віктору фанабэрыя не дазваляла сяліцца ў трохзоркавы гатэль. А ў пяцізоркавы не дазвалялі фінансы. Чатырохзоркавы гатэль сустрэў невялікім холам з бліскучай мармуровай падлогай. Сучасныя скураныя канапы з нізкімі спінкамі цісннуліся да сцяны, а па-над імі віселі карціны з відамі старадаўняй Італіі. З рэцэпцыі на Клыкоўскіх глянула адміністратарка і абдарыла адпрацаванай усмешкай у выглядзе расцягнутых у бакі вуснаў. Віктор шлёпнуў на стойку два сініх пасведчанні асобы. Убачыўшы беларускія пашпарты, адміністратарка доўга недаверліва круціла іх ў руках. Краіна Беларусь — тэра інкогніта. Відавочна, Вера з Віктарам былі першыя беларускія турысты ў гэтым гатэлі. Адміністратарка пазірала на іх, як на экзатычных асоб. Атрымалі ключы ад нумара. Вера з чамаданам засталася чакаць у холе. Віктор тым часам спрабаваў усунуць груваcткі «Мерседэс» у вузкую шчыліну між машынамі, называную паркавачным месцам. Паркоўка была вельмі малая. Кожны метр тэрыторыі пры гатэлі выкарыстоўваўся надзвычай ашчадна. Зямля ў курортнай зоне каштавала шалёныя грошы. Віктор бокам, крыху прыадчыніўшы дзверы — замінала суседняе аўто, вылузаўся з прыпаркаванай машыны. Вярнуўся ў хол. Падхапіўшы за высунутую ручку новы вялікі чамадан з металічнымі замкамі-маланкамі, пацягнуў яго да ліфта. Эфектны чамадан быў куплены з нагоды паездкі ў Еўропу. Пафарсіць. Колцы тарахцелі і лёгка круціліся па мармуровай падлозе. Віктор уторкнуў чамаданную цяжкую гаргару ў кабіну ліфта. На сем кароткіх дзён адпачынку Вера панабірала ўбораў, наважылася бліскаць кожны дзень эксклюзіўнай сукенкай.

Гатэльны нумар быў з густам мэбляваны, але цесны. Амаль увесь пакой займаў вялікі ложак. Шторы на вокнах і пакрывала

на ложку пераклікаліся між сабой аднолькавай тканінай. Вера заваліласяся на ложак тварам уверх і раскінула рукі ў бакі. Яна ў Італіі ў чатырохзоркавым гатэлі. Шыкоўна. Некалькі гадоў таму яна нават і марыць аб гэтым не магла.

На вячэру ў гатэльны рэстаран Вера выйшла ў светлай сукенцы з адкрытымі плячамі і стылёвых басаножках на высокіх абцасах. Упырхнула ў рэстаранную залу і злавіла на сабе бессаромны пагляд чорнавалосага мужчыны з лёгкай карціннай няголенасцю шчок. Ён апёк яе вачамі. Прыемна казытнула самалюбства. Вера дэманстратыўна адвярнулася — я не такая. Мужчына сядзеў за столікам адзін, прытуліўшыся плячом да сцяны. Перад ім стаяла бутэлька і недапіты бакал з віном. Шукальнік прыгод. Адзінокі воўк.

Набралі на талеркі салатаў, прыселі за стол, засланы беласнежным крухмальным абрусам. Вячэра і снясданкі ўваходзілі ў кошт гатэльнага нумара па сістэме паўпансіёна. Замовілі бутэльку вады без газу. Пасля дарогі было не да спіртнога, балела галава. Рэстаран запаўняўся людзьмі. Гоман, мітусня, ляскат талерак і відэльцаў. Між столікамі лёталі афіцыянты, падносілі стравы з кухні. Бесперапынна боўталіся кухонныя дзверы. Афіцыянт, выпісаўшы зігзаг, падруліў да стала, і перад Верай з'явілася талерка з цалкам прыгатаванай дробнай птушкай, накшталт абшчыпанага і запечанага голуба. Сінюшная птушка прыгожа абрамлялася складаным гарнірам з гародніны. Еўропа.

— Я гэта есці не буду, — спалохана гледзячы на засмажанага касцістага птаха, склала вусны ў крывыя складкі Вера і пакратала відэльцам птушынае цела.

— Значыць, я з'ем два экзэмпляры, — аблізнуў вусны Віктор.

Вера можа б і паспытала экзатычнага мяса. Аднак грызці птушыныя косці ў рэстаране чатырохзоркавага гатэля ў вячэрняй сукенцы на віду ў наведвальнікаў зусім не эстэтычна. Адзінокі няголены воўк будзе на яе глядзець, а яна — разгрызаць косці замуштраванага птушаняці. О, не! Вера ўторкнула відэлец у кавалак варанай памяранцавай морквы і аднесла яе ў рот, пража-

вала. Рэдкая дрэнь. Не губляючы самавітай асанкі, праглынула моркаўку.

За суседнім сталом вячэрала сямейная пара пажылых італьянцаў. Жонка, звяртаючыся да мужа, прамаўляла хрыплым пракураным голасам:

— Фелічыа… пронто… перфаворэ… — нешта хрыпела яна па-італьянску, вочы на ўчарнелым ад загару твары гарэзліва смяяліся.

Сівы як лунь, але спрытны і рухавы Фелічыа, расквеціўшы твар усмешкай, узнімаў бакал з віном і прыветна ківаў галавой маладзіцам гадоў крыху за дваццаць, доўгавалосым зграбным бландзінкам з блудлівымі, бегаючымі паглядамі. Жонка Фелічыа забаўлялася заляцаннямі мужа да маладых красунь.

Вера засоўвала ў сябе гарнір. За морквай пайшла адвараная капуста брокалі. Моташна. Правільнае гароднінное харчаванне патрабавала вытрымкі.

— Як табе птушка? — спытала яна Віктора.

— На смак нічога асаблівага, зяблік як зяблік. Шкура ды косці, я лепш з’еў бы кавалак нармальнага мяса… Што суцяшае — дома я такіх далікатэсаў не пакаштую.

Віктар адчыкрыжыў нажом птушыную мізэрную нагу, узяў пальцамі і грызянуў мяса, абсмактаў косткі, абыякавы да таго, як выглядае за вячэрай. У ім супярэчліва спалучаліся дзве рысы: з аднаго боку, ён цягнуўся да вышэйшага класу, з іншага — паводзіў сябе развязна і хамавата, як неабчасаны мужлан. На людзей глядзеў вачамі гандляра-ацэншчыка.

— Фелічыа… Фелічыа… — хрыпеў пракураны голас.

Доўгавалосыя бландзінкі пастралялі наўкола хуткімі блудлівымі вачамі, як лісы, вышукваючы спажыву, жэманна павадзілі плячамі і, злёгку прыўзняўшы над сталом бакалы, адказалі на тост свавольнага нястомнага ў гуллівасці дзядулі Фелічыа.

— За здароўе, — па-руску сказала адна з бландзінак.

— Будзьце здаровы, — квёла, без цікаўнасці, падтрымала другая.

Апусціўшы вочкі, яны ледзь прыгубілі віно з бакала. Цнатліўкі.

Зала запаўнялася. За столікі ўсаджваліся добра апранутыя людзі, пастаяльцы гатэля. Бальшыня з іх падбіралася да сталага ўзросту. Трапляліся зусім старыя бабулі. Разадзетыя, з нафарбаванымі пазногцямі, на хісткіх нагах зыбучай хадой крочылі яны па зале. На раменьчыку праз плячо матляліся невялікія сумачкі-рыдыкюлі. Кампанія еурабабулек уладкоўвалася за сталом і са смакам пацягвала вінцо… З вячэры Вера вярнулася паўгалодная. Сітуацыю ўратаваў дэсерт, крыху перакусіла… Дарэчы, астатнімі вечарамі повар пастараўся, стравы былі сытныя, вытанчаныя і цудоўна прыгатаваныя.

Наступнай раніцай выправіліся на пляж. Віктор выйшаў з гатэля на вуліцу, самазадаволена і пыхліва азірнуўся, падлічыў чатыры зоркі на фасадзе. На галаве ў Віктора бялела бейсболка, на носе чарнелі двума кругамі сонечныя акуляры, клятковыя шорты сканчаліся над валасатымі лыткамі, майка на выпуск прыкрывала падросшы апошнім часам жывот. Вера круцілася ля пляча падобна дзяўчынцы ў белай майцы-топіку і кароткіх джынсавых шортах, рваных знізу бахрамой. Валасы на лытках былі старанна павыдзіраны ліпкімі палоскамі яшчэ ў Мінску. Эпіляцыя. Праз плячо пляжная сумка. Да пляжа — трыста метраў, дыстанцыя для лянівых.

— Мне тут падабаецца, нядрэнны гатэль, хоць і на другой лініі, — адзначыла Вера.

— Чатыры зоркі, — важнічаў Віктор, гатэльныя зоркі свяцілі яго самалюбству і сонечным днём.

На пляжы асобнай паласой вылучаўся шэраг шэзлонгаў, прыналежных да гатэля. Вера з Віктарам занялі месцы, раскрылі шырокі парусінавы парасон ад сонца ў галаве шэзлонгаў. Непадалёку ад іх размясціўся Фелічыа з жонкай. Жонка смаліла цыгарэту за цыгарэтай, выпускала струмені дыму ў прастору. Фелічыа драмаў на шэзлонгу, прымасціўшыся на баку і падклаўшы далонь пад сівую галаву. Да блудлівых бландзінак, з каторымі дзядуля Фелічыа ўчора піў на брударшафт, падруліў італьянец, няголены воўк. Адна, найбольш актыўная і задзірлівая, кінулася з ім размаўляць, гаварыла збіўчыва і чамусьці па-нямецку, нервова гартала слоўнік нямецкай мовы, замінала старонкі. Італьянскай

яна не ведала, спадзявалася, што няголены воўк хаця б трохі размаўляе па-нямецку, пераймалася, каб не сарваўся з кручка. А ён, пялегаваны і разбэшчаны, вачамі прамацваў дзявочае цела. Хто з іх быў паляўнічы, хто здабыча?..

Паліла сонца. Раўнадушна пазірала з нябёсаў на людскую мітусню. У гарачым, дробным, дзівосна мяккім пяску вязлі ногі і акуркі цыгарэт. Ціхае мора, лазурнае, пакрытае сонечнымі блікамі сыходзіла да небасхілу. Людзей у прыбярэжнай вадзе плавала, што селядцоў у бочцы. Вера пайшла купацца.

У абедзенны час адпачывалі ў гатэльным нумары. Сіеста. Віктора, падагрэтага сонцам, неадольна цягнула на каханне, дзень за днём, вечар за вечарам. Аднаго разу Вера яму нават сказала: «Віктор, дастаў ты мяне са сваім каханнем. Можа, хопіць?» Аднак жарсць суняць не ўдалося, прыйшлося праяўляць у каханні ўзаемнасць.

Незаўважна, хутка паляцелі дні. Гатовая ежа ў рэстаране, прыбраны пакаёўкай гатэльны нумар. Вера адчувала смак еўрапейскага жыцця.

Неяк раніцай, ідучы па калідоры, Вера пачула, што дзве пакаёўкі размаўлялі між сабой па-руску. Яна памкнулася зачапіць, перакінуцца з імі словам, даведацца, адкуль прыехалі. Віктор улавіў яе жаданне і, ухапіўшы за локаць, з прыціскам прамовіў: «Пайшлі», — пыхліва пранёс сваю персону міма не вартай увагі абслугі. Вера пацягнулася следам.

— Я хацела з імі паразмаўляць, — пырхнула Вера, калі яны з Віктарам завярнулі за вугал калідора.

— Пра што ты будзеш размаўляць з пакаёўкамі, — па-жлобску цадзіў Віктор, з гандлёвага працаўніка лезла барства.

Спусціліся на першы паверх. Там на прасторнай крытай тэрасе, застаўленай сталамі, яны снедалі. Вера набрала на талерку колькі ўлезе: нарэзаная празрыстымі кавалкамі шынка, ярка-чырвоныя ад харчовага фарбавальніка тонкія кругі каўбасы, булкі, піражныя, тосты. У кубак наліла кавы. Абавязкова брала персікавы ёгурт, запакаваны ў пластыкавым стакане, адрывала тонкую фальгавую накрыўку і смакавала. Ранішняе лагоднае

паветра залятала на тэрасу, абдувала твар, разганяла рэшткі санлівасці. Прыбіральшчыца, размерана шоргаючы мятлой, падмятала тратуар ля гатэля, па вуліцы няспешнай хадой ішлі мінакі. Вера хутка перакусіла, дапіла каву. Ляснуўшы аб сподак пустым кубкам, адставіла яго ўбок. На талерцы засталося непачатае пірожнае. Вера глядзела на вуліцу і цярпліва чакала, пакуль Віктар паснедае. Надакучыла разглядаць мінакоў, яна павярнулася і прайшлася вачамі па століках у глыбіні тэрасы. За вуглавым сталом яе пагляд перахапіў тоўсты грузны італьянец, ніякавата ўсміхнуўся і, адвярнуўшыся, пахапліва запіхнуў жонцы ў сумку некалькі пластыкавых стаканаў ёгурту. Жонка маланкава, адпрацаваным рухам, зашпіліла сумку і, быццам я — не я і справа — не мая, прадоўжыла піць апельсінавы сок, прысмактаўшыся вуснамі да шклянкі.

«Тыраць ёгурты! — шчоўкнула здзіўленне ў Верынай галаве. — У чатырохзоркавым гатэлі?!»

Італьянец грузна падняўся і пайшоў з тэрасы. Жонка пацеляпалася следам, трымаючы за ручкі прыпухлую, запоўненую крадзенымі ёгуртамі сумку. Еўропа Веру ўражвала і бесперапынна здзіўляла…

Сем дзён адпачынку праляцелі як і не было. Надышоў дзень ад’езду. Віктар загружаў цяжкі чамадан у расчыненую зяпу багажніка «Мерседэса». Вера ўладкавалася на пасажырскае сядзенне… Да пабачэння, чатырохзоркавы гатэль. Паўз машыны прайшлі рускамоўныя пакаёўкі. Вера больш не спрабавала з імі загаварыць. Віктар павярнуўся спінай да абслугі…

Дамоў вярталіся тым жа знаёмым маршрутам. На пад’ездзе да Аўстрыі абшар засланілі Альпійскія горы, высокія, стромкія. За зубчастыя горныя верхавіны, шарэўшыя суворай патрэсканай скалістай пародай, чапляліся лёгкія пеністыя аблокі. Ля падножжа гор густа раслі дрэвы. Купкі нізкага разгалістага кустоўя смарагдавым лісцем навісалі над падсохлай жаўтаватай травой. Горы праціналі тунэлі. Яны ўражвалі неверагоднай даўжынёй. Пранёсшыся ў паўцёмным, падсвечаным цьмянымі ліхтарамі тунэльным жолабе «Мерседэс» выстрэльваў у сонечны асляп-

ляльны дзень, і зноў перад вачамі да нябёсаў вырасталі велічныя вяршыні. Пакруціўшыся па серпанціне горных дарог, выехалі на шырокі аўстрыйскі аўтабан, горы адыходзілі убок, аддаляліся, машына імчала наперад. Доўгая дарога стаміла, і Віктор, убачыўшы рэдкі на аўтабанах з'езд, звярнуў на невялікую прыдарожную пляцоўку. Кустоўе захінала, адгароджвала пляцоўку-кішэнь ад магістралі. Спыніліся. Вера выйшла з машыны і тапталася па асфальце, размінаючы зацёкшыя ногі. Яна ўдыхнула паветра на поўныя грудзі і павярнулася тварам да прасторнага поля, што сканчалася ўдалечыні пералескам. Узаранае з карычневай сухой раллёй поле было ўтыркана аднаногімі высокімі ветракамі. Тры па-штукарску, адмыслова выгнутыя лопасці шпарка круціліся пад подыхам ветру. На ўзаранае поле да ветракоў прайсці было немагчыма, ад людзей яго адгароджвала металічная, скляпаная з шырокіх дротавых квадратаў высокая сетка. У далёкім пералеску шашлыку не зробіш. Забаронена. Металічная сетка перагароджвала шлях. «Не паркавацца, не хадзіць, не курыць, сабак не выгульваць». Вольная Еўропа пярэсціла забараняючымі надпісамі. На асфальце паблізу металічнай сеткі стаяла пляскатая бетонная пліта метровай шырыні і вышыні ў рост чалавека. З пліты тырчаў уманціраваны на ўзроўні рук водаправодны кран, унізе пад кранам красаваўся надпіс: «Kein Trinkwasser»*.

На пляцоўку павольна запаўзла машына з румынскімі нумарамі. Вера ўбачыла дваіх мужчын на пярэднім сядзенні. Задняе сядзенне было забіта клункамі. Валізкі пакідалі крыху вольнага месца толькі пад самай столлю. Ля клункаў прыціснулася чорнавалосая маладая жанчына з хударлявым тварам. Румыны спынілі аўто, заглушылі рухавік, з салона не выходзілі, сядзелі натапыраныя, насцярожаныя, перамаўляліся між сабой. Затаіліся. Праз хвіліну наўздагон за румынскай машынай на пляцоўку шпарка і віхляста ўскочыла з трасы аўто з выключаным праблісковым маячком. Маячок гузаком тырчаў на даху. Паліцыя. Выйшлі вальяжныя паліцыянты. Форменныя фуражкі, спецадзенне. Сквапна, як да ахвяры, памкнуліся да румынскай

* Няма пітной вады (*ням.*)

машыны. Адзін з іх, даўгалыгі, спыніўся на паўдарозе і цапануў скошаным вокам за «Мерседэс». Змяніўшы кірунак, рушыў да Клыкоўскіх. Яго напарнік тым часам акучваў румын. Румыны праз шчэлку ў аўтамабільным шкле прасунулі яму пашпарты. Паліцэйскі гартанна, адрывіста чаканіў словы і тыцкаў пальцам у румынскі пашпарт, штосьці там было не ў парадку. Устрывожаныя румыны наканавана павыпаўзалі з аўтамабільнага логава. Кіроўца паслухмяна, мітусліва расчыніў багажнік. Паліцэйскі калашмаціў клункі.

Даўгалыгі наблізіўся да Веры.

— Паспорт, — выяўна прамовіў ён, націскаючы на літару «о».

— Адну хвіліну, — манерна сказала Вера. Трымаючы статнасць перад еўрапаліцэйскім, яна махнула да Віктора рукой. — Віктор, будзь такі ласкавы, пакажы яму нашы дакументы.

Віктор выцягнуў на святло два сінія пашпарты. Паліцыянт пагартаў старонкі, праверыў візы. Загадаў адкрыць багажнік. Зазірнуў туды абыякава, без цікаўнасці. Вера задаволена агледзела ў багажніку куплены ў Мінску чамадан з металічнымі маланкамі і падумала які ён прыгожы, новенькі чамаданчык еўрапейскага фасону. Віктор на англійскай мове важна і самавіта растлумачыў, што яны былі ў адпачынку і зараз едуць з італьянскага курорта дамоў у Беларусь. Даўгалыгі вярнуў пашпарты і прамовіў:

— Харошы пуць! — з выпраўкай крутнуўся і пашыбаваў на дапамогу калегу муштраваць тройцу з румынскай машыны.

«Якія культурныя ў Аўстрыі паліцэйскія, нават некалькі слоў на рускай мове ведае», — ухвальна думала пра даўгалыгага Вера. Яна павярнулася да ветракоў, разглядала прапелерам круціўшыяся ў паветры лопасці. Ахопленая рамантычным настроем, Вера не бачыла, як потны ад хвалявання румын, у мокрай пад пахамі сарочцы, з кропелькамі поту на ілбе, лісліва круціўся ля паліцэйскага. Як усунуў у далонь даўгалыгаму паліцыянту хабар. Той спрытна хапнуў, і складзеная ў некалькі разоў буйная банкнота валюты праз імгненне з рукі вартаўніка правапарадку перакачавала ў кішэнь форменнага адзення. Усім зрабілася прыемна. Румыны павесялелі. А задаволеныя паліцэйскія, напусціўшы на

твары строгасці пры выкананні абавязкаў, вальяжна селі ў машыну з выключаным праблісковым маячком і рушылі на аўтабан…

Далейшы шлях быў доўгі, манатонны і звычайны: начавалі ў прыдарожных гатэлях, намотвалі коламі кіламетры дарог. За некалькі дзясяткаў кіламетраў ад беларуска-польскай мяжы пайшоў дождж. Неба зацягнулі шэрыя хмары, падобныя на густы курадымны туман. Дождж пасыпаў невялікі і нудны, дробныя кроплі павольна сцякалі з хмар, дакучліва накрапвалі на шкло машыны. На памежжы дождж сцішыўся. Хмары зрабіліся рванымі, шэрымі кудлатымі ашмёткамі рухаліся па небе, навісаючы над мытняй. Вера з Віктарам адстаялі дзве гадзіны ў чарзе, падышлі пад самы пункт пропуску. Ад будынка польскай мытні па тратуары прайшоў кот, прыпыніўся ля машыны, што стаяла перад Віктаравым «Мерседэсам», і сеў на мокры асфальт. Журботна і сіратліва зазірнуў у вочы кіроўцу. Кіроўца таптаўся ля расчыненых дзвярэй машыны. Ён адразу нахіліўся да ката і спагадліва пагладзіў па спіне. Кот не зварухнуўся, толькі каціная пыса ўзнялася вышэй і глянула тужлівымі вачамі. Кіроўца замітусіўся.

— Зараз, зараз я цябе пакармлю, — шпарка адчыніў ён багажнік і пачаў шастаць па пакетах.

У пакеце адшукаў кавалак варанай каўбасы і кінуў ружовае каўбаснае колца кату. Сам спачувальна прысеў на кукішкі побач з чорна-белай плямістай тварынай. Кот абыякава панюхаў вараную каўбасу, ўзняў дакорлівыя вочы на кіроўцу: ты мне такую фігню прапануеш? Развярнуўся і, хістаючы каціным задам, няспешна пайшоў прэч.

— Я паняў цябе, кашак, — прымружыўшы вочы, сказаў кіроўца.

Каўбаса ружовым круглым апляцкам засталася ляжаць на асфальце.

Візгатнулі тармазы. Дзве машыны BMW, падляцеўшы збоку да пачатку чаргі, рэзка затармазілі, спыніліся. Першая носам нахабна ўклінілася ў аўтамабільны шэраг. Як па камандзе з машын парамі выйшлі па двое хмурых мужыкоў. Коратка, амаль пад нуль стры-

жаныя, яны пасталі шырока расставіўшы ногі і набычылі ілбы. На машынах — расійскія нумары. Чарга маўчком, насцярожана, сачыла за прыбыўшай камандай. Пярэдні з чацвёркі наблізіўся да кашачага кармільца і без прывітання груба запытаў:

— Слышь… как лучше проехать на Ростов?

Мужчына спакойна і ўраўнаважана абгледзеў «прышэльца» і манатонна, унікліва пачаў апавядаць пра магчымыя маршруты, усякі раз паважна звяртаючыся да коратка стрыжанага братана на «вы». Актыўны братан пачаў здзьмухацца і пад канец ветлівай кансультацыі нават выціснуў з сябе культурнае «спасибо».

Аднекуль падляцеў польскі мытнік. З яго вуснаў на братана шахнула незадаволенае шыпенне. Мытнік укручваў у польскія сказы рускія словы, рэзкімі сякучымі паветра рухамі паказваў назад, адпраўляў братана ў канец чаргі. Ветлівы кансультант стрымана ўсміхаўся сабе ў вусы. Братан дастаў з барсеткі пасведчанне у барвовай карушцы, складзенае прамавугольнай кніжкай, спрытным рухам вёртка крутнуў пальцамі, разгарнуў перад мытнікам, важна тыцнуў яму пад нос. Твар мытніка пачаў налівацца крывёю, ён прабег вачамі па пасведчанні і, нервова здрыгануўшыся, сышоў. Чацвёрка коратка стрыжаных уразвалачку прахаджвалася ля двух БМВ. Праз хвіліну паспакайнелы мытнік вярнуўся з напарнікам, патлумачыў братану на польска-рускай мяшанцы, што яны зараз зробяць мытны агляд без чаргі, і размашыстым жэстам паказаў, куды праехаць. Дзве пары братаноў заскочылі па машынах БМВ і самаўпэўнена паехалі ўслед за мытнікамі.

— Зараз ім зробяць «кантроля шчыгалёва», — гулліва, з подсмехам прамовіў ветлівы кансультант.

— Кантроля шчыгалёва? — спытала Вера, і з жаночай нясціплай зацікаўленасцю папрасіла: — А раскажыце, што гэта такое.

Кансультант быў словаахвотлівы і, прыхоўваючы задаволеную ўсмешку пад пракуранымі вусамі, патлумачыў:

— Раскруцяць, разбяруць машыны па вінціках і запчастках. Потым прыйдзецца паўдня назад збіраць… Нічога, яны ўчатырох хлопцы спрытныя, збяруць. Знайшлі прыгоды на сваю жо… —

вусаты кансультант замяўся, зірнуў на Веру і выправіўся. — На сваю галаву… Занадта верылі рабяты ў спецкарушкі, — стрымана хмыкнуў ён. — Затое ў наступны раз без чаргі не палезуць…

Мытны агляд прайшоў для Веры з Віктарам спакойна, без зачэпак. Адзін раз расшпілілі чамадан. Усё… Потым — беларуская мытня, і колы «Мерседэса» заехалі на родную зямлю. Хмары патроху разганяў вецер, дзесьці ў прасветах праглядалася блакітнае неба, прабіваліся нясмелыя сонечныя промні. Ля ланцуга машын, што чакалі чаргі на ўезд у Еўропу, увішна сноўдалі беларускія бабулі з торбамі: прадавалі самаробныя піражкі, печаныя на алеі, піва ў шкляных бутэльках. Яны не былі падобны на еўрапейскіх пенсіянерак за рэстараннымі сталамі ў чатырохзоркавым гатэлі. Паношанае адзенне, клункі ў руках, заклапочаныя твары і ў вачах жаданне зарабіць капейку. Вера шчымліва разглядала праз акно, як яны ходзяць ад машыны да машыны. Жабрацкая старасць… Разглядала кіроўцаў, машыны ў доўгай чарзе, углядалася ў хмарнае неба. Радзіма здалася змрочнай і шэрай пасля феерычнага курорта і еўрапейскіх пейзажаў.

Прамінулі Брэст, і шырокая алімпійская траса панесла чорны бліскучы «Мерседэс» дамоў на Мінск. Праз некалькі гадзін сямейная пара Клыкоўскіх распакоўвала чамадан у мінскай кватэры.

## 12

Вечарам яны з Віктарам цапануліся. Вера неадкладна заўтра ж ірвалася праведаць дачку ў дзіцячым лагеры, непакоілася. Насця першы раз адна без маці заставалася так надоўга. Два тыдні. Віктору карцела ў офіс. Паднакапілася спраў. Узнялася спрэчка.

— Не хочаш ехаць — абыдуся без цябе. Аўтобусам даеду, — з выклікам заявіла Вера. «Была б родная дачка, адразу б паляцеў», — злавалася яна на Віктора, але ўслых не папракнула. Не было чым крыць. Міжволі злавіла сябе на думцы, што родны бацька наогул дачкой не цікавіцца.

— Праз лес будзеш швэндаць адна?

— Нічога са мной не зробіцца.

— Можна паслязаўтра з’ездзіць.

— Табе можна і паслязаўтра, і праз тры дні, а мне трэба заўтра, — холадна і ўпарта прамаўляла Вера.

Віктор незадаволена зыркануў на Веру. Не раз заўважаў, як яна змянялася калі размова ішла пра дачку, станавілася ўпёртай, незгаворлівай… Пад гарачую руку хацеў паслаць куды падалей… розум нагадаў яму пра мацярынскія інстынкты.

— Ладна, матанёмся заўтра з раніцы. Прачнёмся раней, за паўдня акруцімся. У офіс пасля абеду заскочу, — неахвотна паабяцаў Веры.

Звычайна свае жаданні ён ставіў вышэй за Верыны. Вера не кінулася з падзякай, унутры заставаўся непрыемны асадак.

Ранкам наступнага дня чорны «Мерседэс» заязджаў прасёлачную дарогу сярод лесу. Лес, празрысты і светлы, застыў у ранішняй бязветранай цішы. Між дрэў высцілалася стаптаным дываном, зелянела кустоўе чарнічніку, спліндраванае, прыбітае чалавечымі нагамі. Дарога была сухая, накатаная, зрэдку трапляліся невялікія кулдобіны. З правага боку з’явілася аблезлая выцвілая шыльда «Дзіцячы аздараўленчы лагер “Вясёлка”». Вера засвяцілася. Праз некалькі сотняў метраў уторкнуліся ў абгароджаную тэрыторыю. За высокай агароджай віднеліся дахі аднапавярховых карпусоў дзіцячага лагера. Машыну пакінулі ля агароджы і ўдваіх зайшлі праз браму на аздараўленчую тэрыторыю. Ля цагляных старых, даўно не рамантаваных карпусоў, раскіданых пра прасторнай тэрыторыі,раслі высокія векавыя дрэвы. Лёгка, прыемна дыхалася паветрам, напоеным лясным водарам. У атрадзе нумар 5 Вера адшукала дзіця, што два тыдні было без маці. Дзіця не выглядала гаротным і журботным. Насця з вясёлым спрытам павісла ў мамы на шыі.

— Прывецік, дарагая мая, — сакатала Вера і абдымала дачку. — Як ты тут… не сумуеш?

— Не, мама, тут весела… Мама, дзядзя Віця, тут кожны вечар дыскатэкі бываюць! — спяшалася падзяліцца ўражаннямі Насця.

— Пойдзем да машыны… я табе цукерак італьянскіх прывезла.

Віктор стаяў воддаль і ў сцэне прывітання ўдзелу не прымаў, ацэньваючы, разглядаў тэрыторыю лагера. Знянацку над старымі пашарпанымі карпусамі дзіцячага лагера, ірвануўшы з калонак, грымнула сучасная заліхвацкая расейская папса і панеслася ў навакольны лес, спудзіўшы птушак.

— Чуеш, мама? Класныя песні… Я ж табе кажу — тут весела!

Пад гукі музычнага суправаджэння сям'я Клыкоўскіх вярнулася да машыны. Перад уваходам на тэрыторыю стаяла шырокая лаўка. Зямля ля лаўкі была вытаптана нагамі, гладкая, утрамбаваная. На лаўцы рэгулярна адбываліся бацькоўскія перадачы пачастункаў юным насельнікам лагера. Вера з дачкой ўселіся побач. Віктор прынёс з машыны пакет з цукеркамі.

— На, трымай, падарунак табе з Італіі, — падаў пакет Насці і пайшоў гуляць уздоўж лагернай агароджы.

Ён быў скупы на эмоцыі і пачуцці. Вера льнула да дачкі.

— Раскажы мне, што ў вас тут цікавага адбываецца? — спытала Вера дачку, пазіраючы на дахі за агароджай. Вера ні разу не была ў дзіцячым лагеры. Яе дзіцячыя канікулы прайшлі ў двары дома — дзіця гарадскога асфальту.

— Шмат цікавага, — паведаміла, смокчучы салодкую сасульку, Насця — яна паспела разгарнуць і адправіць у рот італьянскую цукерку, у руцэ шамацела бліскучай цукерачнай абгорткай. — Розныя конкурсы бываюць, спаборніцтвы. Зарадку кожны дзень робім… Ой, мама, што я табе зараз раскажу, — таямніча прамовіла Насця і прыхілілася да маці. — Хлопчыкі са старэйшага атрада лазяць праз дзірку ў агароджы… там дошка адсоўваецца, дык яны лазяць за тэрыторыю лагера і ходзяць у ларок па піва і цыгарэты.

— У які ларок? — акруглiла вочы Вера.

— Я не ведаю, мама. Трэба ісці некуды праз лес і там ёсць ларок з півам.

Мы з сяброўкамі іх падпільнавалі, калі яны з півам назад у лагер вярталіся. Мы іх папярэдзілі, каб больш не хадзілі, таму што ў лесе ходзіць маньяк.

— Маньяк?! — спалохана дзерганулася Вера, яе ахапіла трывога.

— Так, мама, нам так сказалі васпіталкі. А хлопцы, каторыя з півам і цыгарэтамі, сказалі, што мы малалетнія дэбілкі і што ніякага маньяка няма, і што васпіталкі нас палохаюць, каб мы ў лес не бегалі. А яшчэ яны сказалі, што калі мы іх закладзём, раскажам васпіталцы пра дзірку ў агароджы, то яны нам наваляюць… а мы і не збіраліся расказваць… А ўчора да нашай васпіталкі ейны хахаль прыязджаў, і я бачыла як яны за корпусам цалаваліся.

«Нічога не скажаш — насамрэч весела, асабліва васпіталцы. Добра, што з хахалем толькі цалавалася…» — супакоіўшыся, падумала Вера.

— А сяброўка ў цябе ёсць?

— Канечне, мама. Яе завуць Даша. Мы з Дашкай заўсёды разам.

— Вы з ёй у адным пакоі жывяце?

— Не толькі з ёй. У нас у пакоі — дваццаць ложкаў і дваццаць дзяўчынак.

— Нічога сабе, — крутнула галавой Вера.

— Мама — гэта ж весела! А адна дзяўчынка ваабражала… выпендрываецца перад намі… Дык мы з Дашай ночы ёй твар зубной пастай абмазалі… а калі скончыцца змена, у нас будзе развітальны касцёр.

Вера ўмільна разглядвала дачку. Шчаслівае дзяцінства: дваццаць чалавек у адным пакоі са старымі ложкамі, дзірка ў агароджы, хахаль васпіталкі, начны развітальны касцёр. Учора вечарам Вера перажывалася, што дачка засумавала без яе, будзе прасіцца дамоў. Не просіцца. Расце Насцёна… Яны нядоўга пасядзелі на лаўцы. Насцёна заспяшалася на конкурс. Вера яе не затрымлівала.

Дамоў Вера вярталася спакойная, здаецца сама пабывала ў бесклапотным дзяцінстве. Адно яе непакоіла, Насця нахапалася ў лагеры некультурных слоў: дэбілка, хахаль, выхавацельку васпіталкай называе. Трэба будзе папрацаваць з яе мовай. Узровень выхавання трэба падцягваць да еўрапейскага. Вера чамусьці ўспомніла ветлівага, выхаванага паліцэйскага з Аўстрыі, што пажадаў ім з Віктарам «харошы пуць».

Віктор адвёз Веру на кватэру. Пасля абеду, спехам перакусіўшы, паімчаў у офіс…

Праз тыдзень скончылася змена ў дзіцячым аздараўленчым лагеры. А потым прамільгнулі апошнія летнія дзянькі. Насця пайшла ў школу. Начапіўшы на плечы ранец, поўны кніжак, цяжэйшы год ад года, яна выходзіла за парог кватэры і накіроўвалася за ведамі. Раз на тыдзень Вера правярала дзённік і ставіла пад подпісам настаўніцы свой размашысты подпіс…

Верасень круціў пераменлівым надвор'ем. Праходзілі цягучыя, нудныя дажджы. Хмарыла. Шарэла і нізка навісала неба. Знянацку наляцеўшы вецер рваў хмары, гнаў іх па небе. На змену шэрым хмарам прыплывалі дымныя аблокі, з-за іх выглядвала жоўтае яркае сонца, непякучае, стрыманае. Пад канец месяца прыйшло бабіна лета. Цёплыя дні з ціхім шорахам лісця, з павуцінкамі ў паветры, апошні подых мінулага лета перад надыходам сапраўднай халоднай восені. У адзін з такіх пагодлівых дзён Вера ехала праведаць цётку. Апошнім часам Вера рэдка ў яе бывала. Закруцілі справы, клопаты… Сёння нарэшце выбралася.

Аўтобус разухабіста каціў па вуліцы Карла Лібкнехта, нямецкага рэвалюцыянера, правадыра пралетарыяту. Недзе паблізу за дамамі праходзіла вуліца яго саратніцы Розы Люксембург. У Германіі рэвалюцыя заглухла, так і не пачаўшыся, і беларусы ў краіне перамогшага пралетарыяту прытулілі на мінскіх вуліцах рэвалюцыйныя імёны. Стары раён. Двух, трохпавярховыя дамы, разбаўленыя пяціпавярховікамі. У гэтым старым раёне жыла Верына цётка Марыя. Аўтобус, нервова торкаючыся, спыняўся на прыпынках, усмоктваў пасажыраў, няўклюдным пеналам высоўваўся на праездную частку, завыўшы, набіраў разгон. За стырном аўтобуса валадарыў кіроўца-гоншчык. Ліха разганяў машыну і раптоўна даваў па тармазах. Пасажыры гайдаліся на поручнях. Вера абачліва ўчапілася рукой у стойку, вочы звыкла ўглядаліся ў пейзаж старых вуліц. На другім баку дарогі на прыпынку сядзеў малады мужчына, п'яны і расхрыстаны. Крысо сарочкі выбівалася з-пад дзяжкі, галава бязвольна звісала на грудзі. Ён зварухнуўся, падняў цяжкую галаву і асалавела зірнуў

убок. Вера пазнала знаёмы профіль. «Лёнчык!» Аўтобус, падвываючы, паляцеў далей. Лёнчык аддаляўся, драбнеў, схаваўся за бакавой сцяной прыпынку. «Дагуляўся… дапіўся…» — жаль, змяшаны з раздражненнем, шкрабануў у Верынай душы, веерам праляцелі блытаныя ўспаміны іх сумеснага жыцця. Тут паблізу на «Розачцы» жылі Лёнчыкавы бацькі. Сумленныя пралетарыі працавалі на дзяржаўным заводзе, вызваленыя ад гнёту клятых капіталістаў. Вера прынцыповай розніцы не бачыла, што на дзяржаўным прадпрыемстве восем гадзін адтрубіць, што на прыватным. Дарма грошы ніхто не плаціць. Сын пралетарыяў пайшоў далей, вызваліўся поўнасцю, скінуў з сябе ланцугі працы. Цэлымі днямі боўтаўся без справы.

Аўтобус спыніўся. Вера, задуменная, павольна выйшла з салона на вуліцу. Крыху пастаяла, углядаючыся ў аддалены прыпынак, дзе сядзеў п’яны Лёнчык. Некалі яны жылі разам пад адным дахам. Так даўно гэта было, што здаецца няпраўдай. Вера страсянула галавой, адагнала назаляючыя думкі, вёртка крутнулася на абцасах і пайшла ў двор дома. Верына цётка жыла ў пяціпавярховіку недалёка ад прыпынку. Вокны выходзілі на вуліцу. Завыванне аўтобусаў і машын чулася ў пакоях з раніцы да вечара. Толькі глыбокай ноччу наступаў кароткатэрміновы спакой. Вера падышла да ўвахода. У руцэ яна трымала кардонны карабок з тортам, перавязаны крыж-накрыж шпагатам. Вольнай рукой асцярожна падпіхнула пад’ездныя дзверы, каб не раструшчылі карабок, і прашмыгнула ў пад’езд. Старыя сцены ўздоўж лесвіцы, да паловы афарбаваныя ў сіні колер, аблупіліся. Месцамі павывальваліся кавалкі тынкоўкі, пакінуўшы неглыбокія з крывымі абрысамі яміны. Лесвіца была чыста вымецена. На пляцоўках стаялі вазоны з кветкамі, хілымі і няўклюднымі. На паўголых дудках тырчала па некалькі зялёных лістоў. У кватэры трымаць неэстэтычна, а выкінуць на вуліцу шкада.

Цётка сустрэла Веру з радасцю. На бледнаскурым твары свяціліся жывыя дапытлівыя вочы. Баваўняны танны халат шырока сядзеў на худых плячах. У кватэры была стэрыльная медычная чысціня. Цётка ўсё жыццё працавала медсястрой і мела схільнасць праціраць, мыць, дэзынфіцыраваць. Бедная

абстаноўка — у надраенай кватэры. Цётка жыла адна. Замужняя дачка рэдка яе праведвала, жыла далёка ад дома. З Санкт-Пецярбурга не наездзішся. Праз хвіліну худая, сухарлявая цётка жвава круцілася на кухні ля пліты.

— Я табе супчыку разагрэю. Свежы, сёння зварыла, — абавязкова хацела яна накарміць пляменніцу.

Вера супу не хацела, але пагадзілася, каб зрабіць цётцы прыемнае. Талерка з гарачым супам паўстала на стале перад Верай. Карабок з тортам неразвязаны стаяў з другога краю.

— Як Насцёна? Добра вучыцца? — спытала яна Веру.

— Па-рознаму. У асноўным добра, але часам падлянуецца… Тэлевізар паглядзець любіць, пагуляць.

— Што ты ад яе хочаш? Яна ж — дзіця. А сама як?

— Нармальна, спраўляюся…

Яны крыху паразмаўлялі аб будзённым. Веры падалося, што размаўляла цётка сёння неяк фармальна, нібыта хаваючыся за нязначнай размовай. Вера ела суп. Цётка замаўчала і ўважліва яе разглядала, кратала рукой звісаючы са стала край цыраты. Нерашучасць застыла на яе бледным твары.

— Нешта здарылася? — усхвалявана спытала Вера, узняўшы вочы ад талеркі з супам.

— Не, не… нічога не здарылася, — паспешліва супакоіла цётка, вугалок рота сутаргава дрыгануўся. Яна адвяла ўбок вочы, утаропілася ў адну кропку, ціха ўздыхнула. — Хаця… здарылася, але вельмі даўно… і даўно забыта.

— Здарылася… і даўно забыта? Цёця Марыя, не кажыце загадкамі. Вы мяне палохаеце.

Цётка рэзка павярнула галаву і пранізліва зірнула Веры ў вочы.

— Гэта тычыцца тваёй бабулі Ядвігі.

— Цёця Марыя, што вы так растрывожыліся? Столькі гадоў прамінула. Ведаю я гэту гісторыю. Калі вы і мая мама былі зусім малыя, баба Ядзя пайшла з дому і знікла без вестак.

— Яна не знікла… Яе пасадзілі ў турму на дзесяць гадоў. Адправілі ў лагер… у Сібір, — абцугамі выцягваючы з сябе

словы, адказала цётка, зноў ціха ўздыхнула, пакутлівыя ўспаміны перасяклі зморшчынамі спахмурнелы лоб.

У Веры па целе прабеглі дробныя агідныя мурашкі. Яна на імгненне замёрла, знямела. З акна з расчыненай форткі ўлятаў манатонны гул вуліцы. Цётка сціснула далонню край стала, пад бледнай празрыстай скурай рукі выступілі блакітныя вены.

— У турму? За што?! — здушана выціснула з сябе агаломшаная Вера.

— Нібыта за антысавецкую дзейнасць, — глуха прамовіла цётка і сціснула вусны. Памаўчала. Цяжка, з абвостраным болем у голасе загаварыла далей: — Яна людзям адзенне шыла, зарабляла, каб дзяцей карміць, — уся яе дзейнасць… Потым рэабілітавалі. Невінаватая… Толькі з турмы яна не вярнулася. Загінула там.

Вера заціснула рот далонню. Вочы наліліся слязамі. Буйная салёная кропля адарвалася з вугалка, пабегла па шчацэ. Вера плакала па бабулі, якую ніколі ў жыцці не бачыла. Адпусціўшы далонь з вуснаў, зглынула горлам і здушаным голасам спытала:

— Чаму вы і мама аб гэтым ніколі не расказвалі?

— Дзіця маё, гэта быў такі страх. Кляймо на ўсё жыццё… Сям’я ворага народа… Калі гэта здарылася, дзед твой месца сабе не знаходзіў… нічым ёй дапамагчы не мог, і яго самога маглі пасадзіць, прыдумаць, што саўдзельнічаў… цэлую сям’ю пад адхон пусціць… дзяцей па дзіцячых дамах… Перад самай вайной было. Тваёй маме толькі год споўніўся, мне — сем гадоў. Я трохі нешта разумела. Як крыху пабольшала, недзе адразу пасля вайны, дзед твой мне праўду расказаў і строга-настрага загадаў маўчаць, каб і блізка ніхто не ведаў. Трэба ж было неяк жыць далей.

— Раскажыце мне пра бабу Ядзю, — папрасіла Вера, абцёрла далонню мокрую шчаку.

— Я яе не вельмі добра памятаю. Столькі гадоў мінула… Запомніла вясной у святочнай квяцістай сукенцы… яна маладая, прыгожая, запомніла, што ад яе пахла духамі. Яны з бацькам збіраліся ў госці, выйшлі ў двор. Навокал квітнелі сады. У двары расла вялікая разгалістая яблыня, уся ўсыпана кветкамі. Свяціла

сонца. Яна смяялася. Бацька падставіў локаць, і яна ўзяла яго пад руку… Астатнія ўспаміны аб ёй у мяне няпэўныя, здаецца, бачу ў тумане… У нас быў дом недалёка ад Камароўкі. Драўляны, стары, але моцны, перабойкамі раздзелены на пакоі. Мы там і пасля вайны жылі… Ля Камароўкі спрэс цягнуліся вуліцы з прыватнымі дамамі. Цяпер усё змянілася, не пазнаць… Хаты там раней стаялі звычайныя драўляныя, як у вёсцы. У дварах куры хадзілі, свіней некаторыя ў хлеўчыках трымалі… Багацейшыя гараджане жылі ў кватэрах у мураваных дамах. Там жылі і сем'і вайскоўцаў. Афіцэрскія жонкі любілі пафарсіць новымі сукенкамі. Твая баба Ядзя хадзіла іх абшываць. Яна добра шыла… Праз гэта і пацярпела.

Цётка расказвала, як выклікалі ў «органы» на размову, прапанавалі падслухоўваць, падглядаць за сем'ямі вайскоўцаў і пісаць даносы, а баба Ядзя адмовілася. Думала, гэтым скончыцца… «А далей вунь што сталася», — на дзіва спакойна, будзённа апавядала яна.

Вочы журботна глядзелі то на Веру, то некуды ўдалячынь, нібы зазіралі ў мінулае. Справы даўно забытых дзён… За знешнім спакоем цёткі Вера пранізліва адчувала перажытую роспач, страх, адчай і прагу жыцця насуперак усяму. Гэтым вечарам яны прасядзелі даўжэй звычайнага. Цётка расказвала, расказвала. Торт застаўся стаяць на стале некрануты, у кардонным карабку, перавязаным шпагатам.

Вера вярнулася дамоў з цяжкім сэрцам. Віктору нічога не расказала. Калі-небудзь іншым разам… Потым. Сёння яна больш не хоча аб гэтым гаварыць…

## 13

У офісе па кутках распаўзлася цягучая цішыня. Віктор корпаўся з паперамі. Нахіляўся над сталом і асадкай упісваў лічбы ў радкі бланкаў. Адарваўшы пагляд ад папер, шчоўкаў па кнопках шырокага як лапаць калькулятара. Саша ўпендрыўся ў экран камп'ютара. Камп'ютарнае святло аблівала шызым святлом прысунуты да манітора твар. Грыва валасоў навісала над атупелымі

ад глядзення ў экран вачамі. Віктор адсунуў паперы і прываліўся да спінкі офіснага крэсла, пакруціўся на вінтавым механізме з боку ў бок, агледзеў офіс.

— Н-да, Санёк, хутка зробяць нам адсюль дэпартэйшэн.

Саша асалавела адарваўся ад манітора, затуманенымі зенкамі лавіў рэчаіснасць.

— Што ты сказаў? — перапытаў Віктора, выходзячы са стану прастрацыі.

— Дэпартэйшэн, кажу, хутка нам зробяць… дзесьці па вясне.

— Гэта ўжо вырашанае пытанне? Я думаў, рассасецца.

— Сказалі — канчаткова. Высяляюць нас адсюль… Трэба шукаць офіс у іншым месцы. Цана арэнды на новым месцы… сам ведаеш. А тут будзе кафэ. Цэнтр горада, ласы кавалак.

— Учора бачыў, шасталі тут двое, аглядалі памяшканні, — незадаволена прамовіў Саша.

— А ты рэстаратара-кафэратара бачыў? Яшчэ той ушлёпак. Гадоў дваццаць сем, дваццаць восем на выгляд… пальцы веерам: «Я здзесь здзелаю кафэ», — перадражніў Віктор ушлёпкаву манеру размаўляць і дадаў: — Дзелавы, рэзкі, хоць заўтра на міністра. Я па наіўнасці задаў яму пару канкрэтных пытанняў пра тэрміны, пра дамовы. Ведаеш што ён мне адказаў?

Саша адмоўна матнуў галавой, рукой скінуў з ілба навіслую грыву, ухмыльнуўся.

— І што ж ён табе адказаў?

— Карацей, гэты амаль што міністр важна мне адказаў: «Не магу сказаць нічога канкрэтнага. Мне трэба параіцца з мамай…». Сасунок…

— А без мамы ніяк? — іранічна спытаў Саша і склаў бровы домікам.

— Куды яму без мамы? Мама ўплывовая цётка з сувязямі, хапанула памяшканне ў цэнтры. А сынка ў бізнес уводзіць, трэніруе. На нас будуць трэніравацца. Так што рыхтуйся вызваляць памяшканне… Перазімуем. Прыйдзе вясна і гуд бай май фрэнд.

— А што гэта з ім за васал ходзіць? Непрыемны тып. Вочы бегаюць. Сталы мужык, а юліць перад сасунком як пацан…

— Затое на іншых вякае смела… Мама саглядатая паставіла. Дзіця каб у бізнес уводзіў.

Саша падняўся з-за стала, выцягнуў з кішэні пачак цыгарэт «Мальбара», спрытна стукнуў пстрычкай па дну, адна цыгарэта вытыркнулася над пачкам.

— Што робіць будзем? — спытаў ў Віктора.

— Трэба шукаць іншы офіс… Я прабіваў прапановы… дарага, блін. І месцы нязручныя. Тут, канечне, было нашмат лепш.

— І пройдзе час, і прыйдзеш ты на старое месца, дзе некалі месціўся офіс, замовіш у кафэ келіх каньяку, вып'еш і парадуешся за новых бізнесменаў, якія лёгка вышвырваюць за парог старых мацёрых прадпрымальнікаў, — ёрнічаў Саша.

— Я цаню твой гумар… нагі маёй у гэтым кафэ не будзе, — злосна цадзіў Віктор скрозь зубы. — Каньяк? Які каньяк? Хіба дусту купіць і дустам пасыпаць іх кафэ.

— Пайду на вуліцу, перакуру гэта дзела.

Саша падчапіў з пачка высунутую цыгарэту, заціснуў між двума пальцамі і падаўся да дзвярэй. Пачак кінуў на стол…

Вясной, у красавіку, яны пераехалі з карабкамі папер, камп'ютарамі і заклапочанасцю ў іншы офіс, больш праcторны і ўдвая даражэйшы. Справы ішлі ні шатка ні валка. Аб'ёмы продажу скарачаліся, выдаткі і падаткі раслі.

У пакінутым малымі фірмачкамі паўпадвале новыя гаспадары рукамі будаўнікоў ліха валілі цагляныя перагародкі, расшыралі прастору пад залу кафэ і вялікі бізнес.

У хуткім часе пасля вышэйзгаданых падзей, у адзін з вясенніх дзён Вера і Віктор Клыкоўскія атрымалі паведамленне, што выйгралі грынкарту і могуць атрымаць від на жыхарства ў Канадзе…

## 14

У кафэ на Нямізе на адкрытай тэрасе за столікам сядзелі дзве прыяцелькі Ліда і Вера. На другі бок вуліцы віднелася невялікая царква. Рэшткі расталага марожанага бялелі на дне шкляных крэманак. На тэрасу выйшла афіцыянтка, спапяліла наведвальніц паглядам: сядзяць чорт ведае колькі часу, хутчэй бы разлічыліся

па рахунку і звалілі адсюль. Цень афіцыянткі, памаячыўшы між сталамі, няўлоўна знік.

— Значыць, з'язджаеш у Канаду? А чаму ты гэтак раптам, знянацку вырашыла з'ехаць? — спытала Ліда.

— Не раптам… зусім не раптам… Мы з Віктарам даўно аб гэтым думалі. У Віктара аднакласнік некалькі гадоў таму пераехаў у Канаду на сталае жыццё. Задаволены… Віктор з ім сазваньваецца. Апошнім часам часта кантактуюць па інтэрнэце. Аднакласнік нядрэнна ўладкаваўся, высокія заробкі ў Канадзе, нам да такіх заробкаў далёка. Ён нават падумвае купіць там дом… Нядаўна яны з жонкай прыязджалі ў Мінск, зазірнулі да нас у госці. Столькі цікавага расказалі аб гэтай краіне, — захоплена дзялілася Вера. У нейкі момант яна няўпэўнена крутнула зялёнымі вачамі, цень сумневу праслізнула ў пагляндзе. — Праўда, Лена была ў тым самым пінжаку, што і пяць гадоў таму перад ад'ездам у Канаду, — прыпомніла Вера жонку Віктаравага канадскага сябра і прадоўжыла: — Прынамсі, калі я буду расказваць пра заможнае жыццё, то хоць бы пінжак памяняю.

— Мне здаецца, пераехаць у Еўропу было б лепш… бліжэй да радзімы.

— Хм… Не так проста ў Еўропе атрымаць від на жыхарства. А ў Канаду мы выйгралі грынкарту. На законным грунце… Там ў нас будзе больш магчымасцяў добра ўладкавацца, — стрымліваючы радасць, падзялілася Вера.

«Мы выйгралі грынкарту» прагучала нібыта «мы выйгралі ў латарэю буйную суму грошай». Ліда бачыла, што чалавек прыняў канчатковае рашэнне з'ехаць з краіны. З'ехаць абы з'ехаць. Не важна куды. Там будзе лепш. Ліда не разумела Веру. Навошта так кардынальна мяняць жыццё дзеля міфічнай лепшай долі… Мы ўсе марым аб дзівосным садзе, поўным руж, які знойдзем за небасхілам… Ці ёсць той сад? Ці будзе там лепш?

— А што за грынкарта? Як яе атрымліваюць?

— Трэба запоўніць спецыяльны бланк… і гэтак далей… нецікава… Потым праходзіш сумоўе з прадстаўніком Канады… Я хвалявалася… — Вера заварушылася, успаміны ўзбударажылі, перабіраючы пальцамі пастукала па сталу і з палёгкай прамові-

ла: — Хвалявалася дарма. Усё прайшло гладка. Мы з Віктарам удваіх былі на сумоўі. Нам задавалі розныя пытанні… на англійскай мове. Віктар скончыў школу з англійскім ухілам і яшчэ самастойна займаўся, падвышаў узровень. Ён даволі прыстойна размаўляе. Я пахадзіла на англійскія курсы,… у доме афіцэраў ёсць дзённыя групы… ведаеш, гэта зручна ўдзень займацца, і галава лепш цяміць, чым вечарам… Я засвоіла неабходны мінімум. Мы добра адказвалі на пытанні.

Вера сабой ганарылася. Яна прысунулася да спінкі стула, расправіла плечы, у рухах праслізнулі драбніцы пыхлівасці. Скончыўшы апавядаць пра сумоўе, яна заклапочана паведаміла: — Трэба прайсці поўны медычны агляд, каб не было ніякіх захворванняў.

Ліда кранула вусны непрыкметнай ухмылкай, пакруціла срэбраны бранзалет на запясці.

— Калі праблемы са здароўем — вылечаць і ў Канадзе. Я мяркую, там высокі ўзровень медыцыны.

— Канечне… вельмі высокі ўзровень, — безапеляцыйна, падкрэслена нахвальвала Вера канадскіх медыкаў.

— Дык у чым праблема, навошта ўсебаковы медыцынскі агляд?

— Вытрачацца на лячэнне імігрантаў яны не хочуць, такая дзяржаўная палітыка.

— Хворых ім не трэба… разумею… Бяруць маладых, здаровых і адукаваных, збіраюць вяршкі з іншых краін… Нядрэнна прыдумана, — бадзёра, з гуллівай весялосцю паёрнічала Ліда. — А кім ты ў Канадзе збіраешся працаваць?

— Я думаю знайсці працу па спецыяльнасці… Фэшн-дызайн, — манерна вымавіла Вера. — Людзі з маёй спецыяльнасцю там запатрабаваны.

Ліда глядзела на Веру і адчувала: не будзе фэшн-дызайну, будзе звычайнае жыццё эмігрантаў, прыйдзецца брацца за любую працу. Лепшыя працоўныя месцы занятыя карэннымі жыхарамі, і саступаць яны не збіраюцца. Хаця… хто ведае… можа Веры пашанцуе. Вера лунала ў аблоках. Ёй здавалася, што злавіла за хвост удачу. Канада маніла і заваблівала яе: мроіўся

высокі ўзровень жыцця, новая прыступка ў развіцці. Адчувалася нецярплівасць: хутчэй дабрацца да амерыканскага кантынента, а там… там прыйдзецца крыху папрацаваць і будзе лепш, чым на радзіме. Зрэдчас некаторая заклапочанасць усё ж праступала на твары: трэба прадаць кватэру, машыну, сабраць неабходныя паперы, груд клопатаў.

— Ёсць адзін казытлівы момант, — высяваючы зерне сумневу, прамовіла Ліда. — Наконт працы і адаптацыі ў новым грамадстве… гэта даволі складана і ў псіхалагічным, і ў матэрыяльным плане.

Вера хутка адказала:

— Я думала на гэты конт… Я разумею, што трэба наладжваць адносіны з мясцовымі жыхарамі, гэта дапаможа хутчэй інтэгравацца ў грамадства. З эмігрантамі мы з Віктарам стасавацца не будзем, — важка прамаўляла яна, упэўненая ў правільнасці выбранага шляху.

— Вера, гэта ты хочаш сябраваць з канадцамі і верыш, што канадцы будуць сябраваць з табой. А яны, ці захочуць яны з прыезджымі знацца? Наўрад ці. Хто ты для іх? Эмі-грант-ка.

Вера прыйшла ў лёгкае замяшальніцтва, рыска недаўмення пралягла на ілбе над прыўзнятымі брывамі… Яна фэшн-дызайнер… Віктар адукаваны чалавек, валодае англійскай мовай. Як гэта канадцы не захочуць сябраваць? Ліда не разумее, аб чым гаворыць. Праз момант Вера ўпэўнена ўсміхнулася.

— У нас атрымаецца.

— Я была б рада…Проста я назіраю за эмігрантамі ў Беларусі… Напрыклад, в’етнамцы. Сярод іх ёсць урачы, інжынеры. У нас яны не працуюць па спецыяльнасці, у асноўным гандлююць на рынку… І я не бачыла, каб ты з імі сябравала. Яны жывуць сваёй дыяспарай.

Вера сумялася і міргнуўшы вейкамі прамармытала:

— Ты зраўняла.

Ліда ўсёахопным шырокім поглядам агледзела наваколле: будынкі, людзей на вуліцы, шумна пралятаўшы ў бясконцай плыні транспарт. На Нямізе віравала жыццё блізкае, зразумелае, роднае.

— А табе не шкада пакідаць радзіму?

У глыбіні Верыных вачэй нешта мільганула: аскепкі тугі, самота, шкадаванне.

— У Віктора з бізнесам пачаліся праблемы, прыйдзецца закрываць фірму, ды і так… наогул, накапілася… Мы вырашылі… Трэба ехаць, — цвёрда сказала Вера, адчувалася, што Канада зацягвае, мроіліся вялікія перспектывы.

Ліда ўзняла вочы ў неба. Неверагодны, бяздонны блакіт адкрываў сусвет над стомленым спякотай горадам. Дзве доўгія стужкі белага туманнага дыму, след адлятаючых самалётаў цягнуліся ў паветры, разыходзіліся ў розныя бакі…

Праз некалькі месяцаў сям'я Клыкоўскіх адляцела ў Канаду. Сабака Джымі пароды колі застаўся з Віктаравымі бацькамі ў Мінску. Да яго прыкладаліся дакументы па радаводзе.

Ёся Гельтман наведаў сваякоў у Ізраілі, вярнуўся пасля паездкі ў Мінск, шматзначна паведаміў:

— Мне там клімат не падыходзіць.

Неўзабаве набыў участак пад Мінскам у катэджнай забудове, узяўся за будоўлю загараднага дома.

З Канады Вера прыслала Лідзе ліст.

«Добры дзень, Ліда. Прывітанне з Канады.

Выбрала вольную гадзіну, вырашыла табе напісаць. Часу бракуе, усё справы ды справы. Трэба ўладкоўвацца на новым месцы, паперы афармляць, розныя дакументы, шукаць працу і г. д. Прызвычайваемся паціху… Дзесяць дзён па прыездзе у Таронта пражылі ў гатэлі, потым нанялі кватэру. Плацім семсот пяцьдзясят долараў за тры пакоі. Кватэра амаль пустая. Убудаваная шафа і два ложкі. На кухні — пара шафак, пліта і стол з табурэтамі. З кватэрай выйшла гісторыя. Як толькі прыляцелі, Віктор патэлефанаваў сваім знаёмым, я табе расказвала, яны самі з Мінска, пераехалі сюды раней і некалькі гадоў жывуць у Таронта. Віктор ім патэлефанаваў і папрасіў дапамагчы наняць кватэру. Пасля таго як яны даведаліся, што мы — у Канадзе, то адключылі тэлефон і не выходзяць на сувязь. А ў Мінск нам з Канады тэлефанавалі часта.

Канада — не Еўропа. Прызнацца, я ўсё ўяўляла некалькі інакш…

Запісалі дачку ў школу, а там амаль усе вучні цемнаскурыя: афрыканцы, азіяты. Яна іх не разумее, у іх іншы менталітэт. У класе ўсяго чатыры чалавекі еўрапейцы. І адукацыя мне не спадабалася. Дачка расказвала, што ў школе ніхто з вучняў не рыхтуецца да ўрокаў. Прыйдуць, пасядзяць на занятках і — дамоў. Чаму яна можа там навучыцца? Я падумваю, каб аддаць Насцю ў платную прыватную школу…

Працу па спецыяльнасці пакуль не знайшлі ні я, ні Віктар. Усё даволі складана…

Да пабачэння. Чакаю адказу.

Вера.

Красавік 2000 г.»

Ліда чытала ліст і ўзгадвала іх размову ў летнім кафэ на Нямізе. Яшчэ раз прабегла па лісту вачамі: прыгожы, каліграфічны, буйны почырк на белым аркушы… аповед аб рэчаіснасці. Ліда без затрымкі напісала адказ, падзялілася апошнімі падзеямі мінскага жыцця. Ліст адаслала ў далёкую заакіянскую Канаду і… перапіска перапынілася.

Праз год ад знаёмых Ліда даведалася: Вера пайшла працаваць афіцыянткай у рускі рэстаран. Рэстаран рускай кухні адчыніў яўрэй, пераехаўшы ў Канаду з Украіны.

Той ліст Лідзе быў першы і апошні. Лістоў Вера больш не пісала.

## АЛЕГ І ХАЛІФЭ

Восеньскі халодны вечар ахінуў горад. Імжыў дробны дождж. Мокрыя ліхтары раскідвалі па вуліцы трапяткое зыбкае святло, што водбліскамі залятала ў акно кватэры. У паўцёмным пакоі на канапе, нахіліўшыся бліжэй да скупога святла настольнай лямпы, сядзеў Алег Іванавіч Пракапчук — самотны мужчына без шкодных звычак. Ён нетаропка гартаў аўтамабільны часопіс. На бліскучых старонках з'яўляліся і знікалі перагорнутыя карцінкі новых марак аўтамабіляў. Рука дакранулася да чарговай старонкі і застыла. Прыслухаўся. За сцяной у суседскай кватэры штосьці дзеілася. Адтуль нязвыкла даносіліся прыглушаныя мужчынскі і жаночы галасы, дзіцячы піскявы смех, соўгалі мэблю, а павінна быць ціха. Алег Пракапчук добра ведаў сваю суседку Эльвіру Францаўну, ветэрана савецкага і постсавецкага гандлю. Маладзіўшаяся, з натапыранай высокай прычоскай, падцягнутая пенсіянерка жыла ў трохпакаёвай кватэры адна, жыла ціха, амаль бязгучна. Вясёлыя кампаніі Эльвіра Францаўна Шпакоўская не вадзіла, бо яны маглі падрапаць паркетную падлогу і сапсаваць мэблю, якую суседка берагла як музейную каштоўнасць. Алег прыкідваў і так і сяк і не знаходзіў тлумачэння, што гэта за людзі вірыдуюць у кватэры спадарыні Шпакоўскай. Падазрона неяк… Ён зноў узяўся за часопіс, аднак аўтамабільныя навінкі не ішлі да галавы. Пакрысе падкраліся ўспаміны, як ён некалі з няхітрым скарбам засяліўся ў гэты стары дом у танна набытую занядбаную аднапакаёўку і літаральна праз некалькі дзён па прыбыцці быў запрошаны ў кватэру Эльвіры Францаўны для знаёмства.

Трохпакаёўка суседкі была невялікая, хрушчоўская, затое абсталяваная з размахам і густам гандлёвага працаўніка: крыштальныя люстры блішчэлі пад столлю, варсістыя в'етнамскія дываны ўсцілалі паркетную падлогу, а мяккую мэблю абцягвала

бліскучая паласатая абіўка. У вузкую спальню Эльвіра Францаўна ўхітрылася запхнуць груваскі імпартны гарнітур, каб было «па-багатаму». Ложак спальнага гарнітура займаў паўпакоя і ўражваў высокай спінкай, аздобленай ля ўзгалоўя накладнымі дэталямі-выкрунтасамі. Пры Савецкім Саюзе працавала Францаўна ў цёплым месцы тавараведам у краме гаспадарчых тавараў і мела блат у сферы гандлю, што дапамагаў набываць дэфіцытныя мэблевыя гарнітуры. Потым сітуацыя ў краіне змянілася, Беларусь здабыла незалежнасць, і Францаўна змянілася разам з сітуацыяй. Занялася бізнесам. Падчас разгулу камерцыі займела яна на будаўнічым рынку два гандлёвыя павільёны з жырандолямі і добры ад іх прыбытак. Калі ж прыбыткі праз некалькі гадоў з-за канкурэнцыі знізіліся і не было ўжо ад гандлю ладнага навару, Францаўна зноў змянілася разам з сітуацыяй, кінула бізнес, прадала гандлёвыя павільёны і пачала жыць размераным пенсіянерскім жыццём.

Кватэра інжынера-электрыка Алега Пракапчука выглядала Папялушкай супраць пакояў Эльвіры Францаўны. Шпалеры, шэрыя ад часу, здавалася, уеліся ў сцены яго аднапакаёўкі, у ванным пакоі кафля старамоднага памеру пятнаццаць на пятнаццаць сантыметраў, няроўна выкладзеная, месцамі абвалілася і расфарбоўкай вяртала да густаў трыццацігадовай даўніны былых уладароў кватэры. Пракапчук купіў аднапакаёўку тры гады таму пасля разводу з жонкай. Так і жыў без рамонту. Грошай катастрафічна не ставала — сплачваў крэдыт. Каб пераехаць ва ўласную кватэру, прыйшлося павылузвацца. Былая жонка заграбастала ўсю сумесную маёмасць уключна з трохпакаёвай кватэрай, а яго выправіла ў самастойнае жыццё з адным чамаданам. Уратавала імпазантнага інжынера Алега Пракапчука ад бамжоўства бацькоўская дача. Дачны дамок, збудаваны цягавітымі продкамі паблізу Мінска, ён прадаў, яшчэ набраў пазыкаў і купіў гэтую аднапакаёвую «раскошу».

Літаральна на другі тыдзень, як засяліўся, Алег па просьбе Эльвіры Францаўны навешваў хрустальнае бра ў пярэдняй яе кватэры. Гэта была праверка: Францаўна вывучала новага суседа, разменьваўшага пяты дзясятак інжынера-электрыка Алега

Пракапчука, на прадмет шкодных звычак. У той памятны дзень яна міла назвала яго Алежкам, паправіла хрустальныя вісюлькі, аздабляючыя прымацаванае на сцяне бра, і позіркам, у якім нешта было ад следчага, зазірнула яму ў вочы. Разгледзеўшы, што ён бяспечны, спадарыня Шпакоўская страціла да яго цікаўнасць.

За кароткі час, што прабыў у кватэры суседкі, Алег паспеў пабачыць, як няблага жывуць некаторыя пенсіянеры, абкружаныя хрусталём і в'етнамскімі дыванамі. З ветэранам гандлю ў заможнасці ён спаборнічаць не мог. Пазней Алегу сарока на хвасце прынесла плёткі, што гандаль у Эльвіры Францаўны ішоў нядрэнна і ў постсавецкую эпоху, яна і дачцэ збудавала кватэру ў новым мікрараёне, і што дачка Францаўны была цямця-лямця, а зяцёк не надта рупіўся. Зяцёк праявіў стараннасць і спрыт толькі ў пару жаніхоўства, пакуль абіхаджваў адзіную дачку гандлёвага працаўніка з відамі на перспектыву. Ажаніўшыся, засяліўся ў кватэру да цешчы, сеў ёй на шыю і ножкі звесіў. Зяць любіць узяць. Прыйшлося Эльвіры Францаўны самой займацца адсяленнем маладой сям'і. Даўно завяршыўшы справу ўладкавання сямейнага шчасця дачкі, Эльвіра Францаўна жыла ў сваёй трохпакаёўцы пенсіянерскім спакойным жыццём. Трымалася яна адасоблена, абмінала «дзеравенскіх» бабулек, што сядзелі на лаўцы ля пад'езда. «Дзеравенскія» бабулі пражывалі з ёй ў адным доме ў цэнтры Мінска на вуліцы Куйбышава, але ёй, якая таксама прыехала некалі ў маладосці з вёскі ў сталіцу, з імі было не па дарозе, бо яны не рабілі манікюру і не насілі на безыменным пальцы залатога пярсцёнка з шырокім авальным каштоўным каменем. Раніцай Эльвіра Францаўна піла гарбату з лаймам, а яны і не ведалі, што гэта за лайм такі.

«Дзеравенскія» бабкі змаўкалі, калі Францаўна праходзіла паўз іх да пад'езда, і, як толькі зачыняліся дзверы, пачыналі перамываць ёй косці. Яны даўно і ўзаемазгодна пастанавілі, што Эльвірка добра крала, ды так спрытна, што і сабе кватэру абставіла, і дачцэ хапіла. Нехта паспрабаваў сказаць, што цяпер гэта называецца бізнес. На яго адразу зашыпелі. Бізнес у гэтым калектыве лічыўся словам для лаянкі. Самі ж бабулі прымяраліся да святош. Сцягнутае імі ў працоўныя гады з мясакамбіната мяса

з каўбасой і фарба з будоўлі ў лік крадзяжу не прымалася. Хіба яны кралі? Яны бралі сваё, тое, што ім не даплаціла дзяржава. А вось Эльвірка — то іншая справа…

Гармідар у кватэры Францаўны выклікаў вялікая здзіўленне. Алег адклаў часопіс, падняўся з канапы і чамусьці на дыбачках, крадучыся ў паўзмроку, нячутна падышоў да сцяны, прыляпіўся да яе вухам. Людзі за сцяной размаўлялі, як яму здалося, на незразумелай мове. Куды ж падзелася Эльвіра Францаўна?

Перад сном, варочаючыся на жорсткай раскладной канапе, Алег Пракапчук спрабаваў асэнсаваць апошнія падзеі ў суседняй кватэры. У галаву нічога путнага не прыходзіла, так і заснуў не разгадаўшы таямніцу. Наступныя два дні за сцяной было ціха, і Алег забыўся на здарэнне…

На вуліцы гаспадарыла восень. Дрэвы, як хамелеоны, змянялі колер. Лісце, нядаўна яшчэ зялёнае, хутка губляла фарбу, жаўцела і, ападаючы дыванам, усцілала дол. Вецер церушыў лістовы дыван, узнімаў ў паветра, жменямі кідаў на асфальт. Махаючы гальнікамі, прымацаванымі на доўгае цаўё, дворнікі змяталі апалае лісце, а яно, нібыта дурэючы, сыпала зноў. Жоўты ліст адарваўся ад галінкі і, павольна крутнуўшыся ў паветры, прыліп на лабавое шкло Алегавай машыны, — вітанне залатой восені. Вечарэла. Алег, стомлены пасля працоўнага дня, заязджаў у двор дома. Дваровая пляцоўка была ўздоўж і ўпоперак цесна застаўлена машынамі. Ля яго пад’езда між машынамі, як на замову, праглядалася вузкай шчылінай адзінае вольнае месца. Алег пад’ехаў бліжэй і павольна затармазіў. За паркоўкай паміж дрэў ён нечакана заўважыў чорны цень. Жаночая постаць, агорнутая з ног да галавы чорным пакрывалам, стаяла павернутая да Алега спінай. Постаць крумкачыным крылом падняла руку уверх, махнула, падзываючы да сябе дзяўчынку. Дзяўчынка гадоў пяці набірала ахапкамі лісце і падкідвала ўверх. Смаляныя валасы высокай капой кучаравіліся на галаве дзіцяці. Барвова-жоўтае лісце, падаючы, праслізгвала па валасах, па смуглявым круглым дзіцячым твары і сыпалася да ног. Жанчына нахілілася, падняла з зямлі кляновы ліст, павярнулася і зірнула на Алега. Гэта была

маладая арабка, апранутая ў чадру, толькі твар, такі ж смуглы, як у дзяўчынкі, заставаўся адкрыты. Бурштынавы кляновы ліст з вострымі вугалкамі, што трымала яна ў руцэ, выяўна адбіўся на змрочным адзенні.

За Алегавай машынай бібікнулі. Ён страпянуўся і пачаў паркавацца, вызваляючы праезд. Вялікі чорны джып, пасігналіўшы, драпежна і хутка праехаў далей. Алег падхапіў з задняга сядзення пакет з прадуктамі, асцярожна, каб не падрапаць дзверкай суседнюю машыну, выбраўся з салона. Жанчына ў чадры, круцячы рукой кляновы ліст, праплыла праз паркоўку, перад ёй бегла дзяўчынка, яны зайшлі ў пад’езд. Алег, перахапіўшы дзверы, прашмыгнуў следам. Першы, другі, трэці, чацвёрты паверх. Арабка спынілася ля дзвярэй кватэры Эльвіры Францаўны. Спачатку юркнула ў кватэру кучаравае дзяўчо, за ім чорным ценем — маці. Аслупянелы ад здзіўлення Алег Пракапчук утаропіўся ў суседскія дзверы.

— Вось дык Францаўна! Вось дык нумар адмачыла! Кватэру здала! Ціхая пенсіянерка, ветэран гандлю…. Такіх голымі рукамі не возьмеш! Мусіць добрую капейчыну грабе. З «дзеравенскімі» бабулямі яна не размаўляе, пераборлівая, а кватарантаў бярэ любых, абы болей плацілі. Ну, Францаўна!.. — выпаліў Алег, звяртаючыся да зачыненых дзвярэй.

На выходныя яму пашчасціла сустрэць і бацьку загадкавага сямейства. Алег выйшаў на лесвічную пляцоўку і тут жа з дзвярэй суседняй кватэры паказаўся высокі, нясkладны малады мужчына ў джынсавым касцюме. Пасярод галавы ў яго намецілася ладная лысіна, пакрытая рэдкімі парэшткамі валасоў, стрыжаныя валасы, уцякаючы ад лысеючай макаўкі, гусцелі к патыліцы і скроням. Сутыкнуўшыся ля дзвярэй з Алегам, мужчына пачуваўся няёмка.

— Здрастуйце, — павітаўся ён.

— Дзень добры, сусед! Ты кватарант Эльвіры Францаўны?

Мужчына хітнуў лысеючай галавой. Алег інстынктыўна прыгладзіў свае валасы, нібыта правяраючы, ці яны на месцы. Пад пальцамі намацалася шапка густой шавялюры, валасок да валаска без прагалін і сівізны.

— Элявира Фрацана мой хозяйка, — з гатоўнасцю паведаміў лысік Алегу.

— А дзе ж сама Францаўна?

— Я не знаць… ана сейчас жыць у дочка.

— А цябе як завуць?

Новы сусед быў маладзейшы за Алега, і неяк не выпадала называць яго на «вы».

— Халифэ, — адказаў кватарант Эльвіры Францаўны. — А вас?

Халіфэ размаўляў падкрэслена-ветліва.

— А мяне Алег. Тэ-э-кс, цяпер мы будзем знаёмы… Доўга збіраецеся тут жыць?

Алег, як некалі Эльвіра Францаўна, экзаменаваў новага жыльца. Халіфэ размовы не ўнікаў, наадварот, радаваўся магчымасці паразмаўляць. Пакуль спускаліся па лесвіцы, ён ахвотна распавёў Алегу, што вучыцца ў аспірантуры БНТУ, прыехаў у Мінск з дачкой і жонкай, што іх з Афрыкі, дакладней з Лівіі, з сем'ямі прыляцеў цэлы самалёт, каб вучыцца, падвышаць кваліфікацыю. І цяпер ён наняў кватэру ў Эльвіры Францаўны.

— Очэнь хороший квартира, — пахваліў харомы Францаўны кватарант.

Алег заўважыў, што для жыхара Афрыкі новы сусед быў занадта бледнатвары. Светлая скура і роўны крыху шыракаваты нос ніяк не выдавалі ў ім афрыканца. Валасы таксама не ўражвалі чарнатой, хутчэй яго можна было назваць шатэнам.

Размаўляючы, яны дайшлі да вугла дома, і гутарлівы аспірант Халіфэ ветліва развітаўся, яго чакалі заняткі ва ўніверсітэце.

Алег жа накіроўваўся ў кінатэатр. Сярэдняга росту плячысты і моцны мужчына пры поўным парадзе: элегантнае кашнэ тапоршчылася пад каўняром курткі, лёгкі, ледзь ўлоўны водар церпкай мужчынскай парфумы адлятаў ад гладка паголеных шчок. Сёння яны з Галчонкам глядзелі галівудскую меладраму. Галчонкам ён пяшчотна называў новую каханку, саракапяцігадовую самавітую Галіну Міхайлаўну, бухгалтара на буйным прадпрыемстве. Пасля разводу з жонкай Галчонак была трэцім па ліку Алегавым каханнем.

З жонкай Ірынай Алег сумленна пратрымаўся ў шлюбе васямнаццаць гадоў, затое потым, здабыўшы волю, кожны год кахаў новую кралю і кожны год — назаўсёды.

Алег нявесела прыгадаў былую жонку. У галаве, назаляючы, загучалі пранікнёныя маналогі са сцэн, якія яна закатвала для яго асабіста. Ён часам думаў: можа тэатральныя падмосткі страцілі адну з лепшых актрыс, можа б грымела на ўсю Беларусь? Ірына Пракапчук! Гучыць! А то гледачоў усяго-нічога, толькі ён ды сумесна нажытыя дачка з сынам. Выступы часцей за ўсё адбываліся на кухні і пачыналіся словамі: «Іншыя мужчыны сваім жонкам…».

«Усе Іры дуры», — папярэджваў Алега перад вяселлем сакурснік і інстытуцкі сябар Эдзік, калі Алег на апошнім курсе інстытута надумаўся жаніцца. Эдзік ведаў, што казаў. Эдуард Пятроўскі — лавелас і дамскі ўгоднік, ліслівы са смазлівай фізіяноміяй, яшчэ у інстытуце набыў вялікі вопыт хуткаплынных адносін з рознымі маладымі кабетамі. Ён скакаў з ложка ў ложак і потым хваліўся, што вывучае такім чынам жаночую душу, і з задавальненнем дзяліўся набытымі ведамі са сваім сябрам. Алег жа цвёрда верыў, што пакахаць можна толькі адну і назаўсёды. Пакахаў… Пасля разводу з жонкай яго не пакідала думка, што лавелас Эдзік меў рацыю і добра разбіраўся ў жанчынах.

Стаўшы вольным ад шлюбных абавязкаў, наноў вылеплены халасцяк Алег Пракапчук рашыўся на эксперымент: паставіў сабе мэту праверыць на дурасць іншых жанчын і з галавой акунуся ў жаночы свет.

Першую каханую звалі Кацюня, першапачатковае імя Кацярына, але ёй больш падабалася звацца Кацюняй, яна маскіравалася пад пухнатае кацяня. З Кацюняй яго пазнаёміла стрыечная сястра, дужа яе хваліла і заклапочана прыгаворвала: «Такая прэўкрасная жанчына, але не шанцуе ў асабістым жыцці». Прэўкрасная жанчына два разы пабывала замужам, ад кожнага шлюбу мела па дзіцяці і па дваццаць пяць працэнтаў аліментаў ад зарплат былых мужоў. Пухнатай мурлыкай яна была на пачатку знаёмства, асвойтаўшыся, пачала драпежна выпускаць

кіпцюры. Па дурасці з Ірынай ішла крок у крок, зусім другая па знешнасці, па характары яна вельмі нагадвала былую жонку. Алег нават здзівіўся і жахнуўся, што другі раз наступіў на тыя ж граблі, і паспешліва ўцёк ад Кацюні.

Наступная, Алёнушка, маладая, свабодная ад забабонаў і сямейных путаў, самаўпэўненая перакладчыца з французскай мовы, у выкрунтасах пераўзышла абедзвюх папярэдніц, гэтая любіла прыгожае жыццё і дарагія падарункі. Смазлівая з твару і падатлівая ў інтымным плане, яна мяняла кавалераў як пальчаткі. Алег знайшоў гэту ледзі на старонках інтэрнэту. Свой парадкавы нумар у шэрагу яе раманаў Алег абачліва не ўдакладняў, проста паціху, вечарамі карыстаўся маладым целам, раз лёс падкінуў. Уяўляючы, што свет круціцца вакол яе, Алёна патрабавала да сябе павышанай увагі, рэгулярна вышыбала з каханка букеты кветак і паходы ў рэстаран і пільна сачыла, каб Алег заўсёды падаваў ёй паліто. Пратрымалася ў каханні ўсяго чатыры месяцы, бо Алег дапускаў праколы: то кветкі зацісне, то паліто не падасць. Алёна проста паражалася яго скупасці і тупасці. Сябе ж яна лічыла неардынарнай, высокаінтэлектуальнай асобай. Неардынарнасць яе па большай частцы выражалася ў тым, што сама не ведала, чаго хацела, пры гэтым Алег павінен быў ухітрыцца прадугадаць яе жаданні, а Алёнінага інтэлекту за чатыры месяцы спатканняў Алег так і не заўважыў. Адносіны не клеіліся, і Алёна без шкадавання кінула яго і паплыла як каравела ў раман з туркам-кіпрыётам.

І вось цяпер — Галчонак. Бухгалтар на буйным прадпрыемстве. Ад дамскага калектыву яна не адставала. Такім чынам, эксперыментальным шляхам Алег высветліў, што дурасці хапае ў кожнай жанчыне, адрозніваюцца яны толькі кірункам заскокаў.

У галаву эксперыментатара ў гадзіны расчараванняў залятала арыгінальная думка: можа наогул перастаць займацца жаночым полам? Можа лепш збіраць грыбы ў лесе ды рыбу вудзіць — для здароўя карысней. А ад гэтых мужчынскіх інстынктаў — адны праблемы. Але са з’яўленнем на гарызонце чарговай спадніцы працэс мыслення з галавы перамяшчаўся ў іншае месца…

Галчонак прыйшла без спазнення. Вочы падведзеныя, вусны падфарбаваныя. Перад дзвярыма кінатэатра Алег па-маладзёжнаму ўрэзаў ёй буську ў румяную шчаку.

— Перастань… няёмка, людзі глядзяць, — кабенілася Галчонак і адхілялася ад Алега, як маладуха на першым спатканні.

Другая маладосць прыходзіць да таго, хто першую збярог. Алег пяшчотна прыабняў Галчонка за аб’ёмістую талію, і яны накіраваліся ў глядацкую залу смакаваць меладраму.

* * *

У дзверы пазванілі. Званок быў кароткі, нясмелы. Алег выпрастаўся і плюхнуў у таз з вадой мокрыя шкарпэткі, у бруднай вадзе плавала яшчэ з дзясятак, выцер рукі аб штаны. Ён нікога не чакаў, відаць, памыліліся дзвярыма. Размяўшы спіну, ён з нянавісцю паглядзеў на недамытыя шкарпэткі, што расцягнутымі апляцкамі ўсцілалі дно пластмасавага таза, і засмучана нахіліўся, каб скончыць памыўку. Балела спіна. Алег пачынаў падумваць, што шкарпэткі таксама трэба мыць у пральнай машыне. У дзверы зноў пазванілі, на гэты раз больш працягла і настырна. Хто гэта мог быць? Галчонак звычайна залятала вечарамі. Алег вялай хадой падцягнуўся да дзвярэй і глянуў у вочка. На лесвічнай пляцоўцы свяціла лысінай галава суседа Халіфэ. Крутнуўшы закрутку кнопачнага замка, Алег шырока расчыніў дзверы. Халіфэ перамінаўся з нагі на нагу і няёмка ўсміхаўся, нязграбны, у шырокіх цёмна-сініх спартыўных штанах і гумовых сланцах на босую нагу, з кароткіх рукавоў сарочкі звісалі занадта доўгія, худыя рукі з цяжкімі, шырокімі, падобнымі на дзве рыдлёўкі далонямі. За вухам у Халіфэ тырчала белым вузкім патронам закладзеная цыгарэта.

— Здарова, сусед! — прагрымеў Алег чыгунным бравым голасам. — Праблемы?

Да тазіка са шкарпэткамі ён не спяшаўся. Паразмаўляць колькі хвілін з суседам самотнаму халасцяку здавалася ўнёскам разнастайнасці.

— Извиняйць, пажалуста. Мне нужна делать антэна, что бы смотрать синема, как это скажить… телевизор. Антэна, каторы называй тарелка, — ўсе назоўнікі ў размове Халіфэ ўжываў без скланення. — Я платить деньги. Вы можать дать спецыалист?

— Я магу табе даць спецыяліста проста ў гэтую ж хвіліну. Самага лепшага спецыяліста!

Алег узрадаваўся магчымасці падзарабіць, — капейка не лішняя, тым больш дзеткі-спінагрызы падраслі, доча і сынулька, трэба і ім падкідваць грошы: тата, не вучы нас жыць, лепш дапамажы матэрыяльна. Гэта жонка — былая, дзеці былымі не бываюць. «Настругаеш па маладосці, а пасля кармі ўсё жыццё», — часам з прыемнасцю думаў Алег і ганарыўся, што «настругаў». Алег уваходзіў у кагорту бацькоў, якія ад аліментаў не ўцякалі. Мужык адказваў за здзейсненае. Хаўтурка падвярнулася якраз дарэчы.

— Вы мочь дать специалист? — Халіфэ не верылася, што праблема так проста вырашыцца.

— Канечне, магу! Я той самы спецыяліст і ёсць… Сусед, ты пачакай хвілін дваццаць, я тут свае мужчынскія справы скончу і зайду да цябе. Добра?

— Халифэ ждать Олег в квартира, — празіхацеў ашчаслíўлены Халіфэ.

— Окей! Дваццаць хвілін, — Алег два разы махануў перад носам Халіфэ растапыранымі пяцярнямі пальцаў. — Дваццаць хвілін. Ол райт? Хутка буду.

Алег зачыніў дзверы і задаволена пацёр рукі. Прысвістваючы, ён пакрочыў у ванны пакой дамываць шкарпэткі. Кожную шкарпэтку выкруціў асобна, скручваючы ў тугую спіраль, аж трашчала пад пальцамі. На балконе шкарпэткі пад мастацкі посвіст атрымалі на свой карак па рознакаляровай зубатай прышчэпцы. Праз дваццаць хвілін Алег, як і абяцаў, з’явіўся перад Халіфэ гатовы свідраваць дзіркі, рука яго наперавес, як вайсковы аўтамат, трымала перфаратар.

У пярэдняй суседскай кватэры некалі прымацаванае Алегам па просьбе Эльвіры Францаўны бра значна пахіснулася набок. Хрустальная вісюлька, што хваляй упрыгожвала свяцільнік,

абарвалася і развязна звісала з дэкаратыўнага завітка — сляды гаспадарання новых жыльцоў. Вісюлька атрымала пстрычку ад Алега і загайдалася ў бакі. Пад яе мернае раскачванне Алег зайшоў ў залу. Сюды выходзіў сумежны пакой спальні. Дзверы спальні, нашклёныя матавым рэльефным шклом, былі зачыненыя, за імі чуліся шоргат і валтузня, неўзабаве яны ціхенька прыадчыніліся і ў шчыліну высунулася кучаравая чарнявая галава дзяўчынкі, усміхнулася шчарбатым ротам. Убачыўшы Халіфэ, дачка выбегла да яго і, ухапіўшы бацьку за вялікі палец на руцэ, схавалася за спінай. У спальні чыясьці нябачная рука зачыніла за дзіцём дзверы.

— Халіфэ, як тваю дачку завуць? — спытаў Алег.

— Эпцісам, — бойка адказала вёрткае дзяўчо, зірнуўшы з-за бацькавай спіны.

— Ого! Яна разумее, аб чым мы гаворым?

— Мы в Минск жить один год, а Эптисам смотреть мультифильм в белорусский телевизор. Она много смотреть в Минск телевизор и слышать люди и сама учить язык и очень хорошо понимать… Мая дочь звать Эптисам — эта азначать улыбка.

Дзяўчынка сарамліва ўсміхнулася.

— Вы ўжо год жывяце ў Мінску? А дзе вы раней жылі?

— Называтся улица Седых.

— Ведаю я вуліцу Сядых, гэта — ля трамвайнага кола. Там прыгожа, шмат зеляніны. Чаму вы адтуль пераехалі?

— Там в подъезд жили люди, который пить водка. Нехорошо. Моя жена видить их пьяный рядом магазин.

— А-а, вось у чым справа… Жонка баялася суседзяў нападпітку, — з разуменнем кіўнуў галавой Алег.

— Нет, нет… это я боятся… Мой жена не боятся, она полицейский!

— Твая жонка ў паліцыі працуе?! — агарошана глядзеў Алег, прыгадваючы сціплую жанчыну, укручаную ў чадру з бурштынавым трапяткім кляновым лістом у руцэ.

Халіфэ рассмяяўся дробным сыпучым смехам, за вухам задрыгалася цыгарэта.

— Нет, нет. В Ливия мой жена работать в банк. Это отец жена работать полковник полиция. А она иметь характер как у отец. Я её называть: Нарджас — полицейский!

Ручка дзвярэй спальні бязгучна павярнулася ўніз, дзвярное палатно скранулася і адчынілася ў спальню. Са спальні выплыла маладая жанчына ў джынсавым камбінезоне. На галаве на хуткую руку была завязана цёплая ваўняная клятчастая хустка: перад чужым мужчынам мусульманцы нельга паказвацца з непакрытай галавой. З-пад абрысаў бабулінай хусткі выглядваў даволі сімпатычны малады твар з выбітным серпападобным носам, які ніколькі не псаваў мілавіднасці. Ружовыя пульхныя вусны цямнелі к вугалкам рота, акруглы мяккі падбародак выступаў над буйным вузлом смешнай, цёплай хусткі. Жонка Халіфэ Нарджас-паліцейскі падцягнула саслізгнулую з пляча лямку камбінезона і, перавальваючыся, прайшла ў залу. Заўважна было, што яна цяжарная. Джынсавы камбінезон абцягваў выступаючы жывот.

— Здрастуйце, — ахвотна павіталася яна з Алегам.

Нарджас было сумна сядзець цэлымі днямі дома, і прыход суседа скрасіў руціну паўсядзённасці.

— Альджазира, Альджазира… — Халіфэ па-арабску застракатаў да жонкі, расказваючы, што хутка яна зможа глядзець арабскамоўны канал Альджазіра.

— Халіфэ, паказвай, дзе талерку ўсталёўваць!

— Я показать на балкон.

Халіфэ шпарка падскочыў да акна і паслужліва адсунуў гардзіну. Алег выйшаў на балкон. У куце, займаючы ладны кавалак балкона, стаяла шэравата-белая спадарожнікавая талерка, побач на падлозе валяўся скрутак кабелю. Раскруціўшы кабель, Алег прыкінуў на вока яго даўжыню.

— Добра прылепім дзе-небудзь да балкона. Будзе табе канал Альджазіра…

У хуткім часе антэна была ўсталявана, і Алега гасцінна запрасілі папіць гарбаты. У зале Халіфе падцягнуў часопісны столік да канапы і запрасіў садзіцца. Нарджас, бліскаючы з-пад клятчастай хусткі смелымі вачамі, паставіла перад мужчынамі

ўпрыгожаныя яркім малюнкам кубкі са святочнага сервізу Эльвіры Францаўны і пайшла на кухню па гарбату. Праз хвіліну з кухні даляцела вохканне і звон бітага посуду — святочны сервіз ветэрана гандлю пайшоў у расход…

* * *

Вечарам таго ж дня ў кватэры Алега гаспадарыла каханая жанчына па імені Галчонак, бразгала дзверцамі кухонных шафак, шукала банку з кавай. Рука сноўдала між пакункамі з крупамі і макаронай, адсоўвала пачкі гарбаты з надпісамі «Чай чорный байховый». Дзынькалі шкляныя слоікі. Бляшанка кавы «Пеле» схавалася ў самым куце. Галчонак абхапіла яе пальцамі за накрыўку і вылузгала на святло. Гулка ляпнуўшы аб сталешніцу, паставіла ля газавай пліты.

— Які ў цябе бардак! — абурылася яна і зачыніла шафку, папярэдне нарабіўшы яшчэ большага бардаку на паліцах. Жаночыя рукі не парупіліся штосьці прывесці ў парадак. — Звары мне каву! — кінула загад Алегу.

Галчонак уладкавалася на табурэт ля стала, закінула нагу за нагу, практычна як Шэран Стоўн у фільме «Асноўны інстынкт», толькі ў паўтара разы таўсцейшая, выставіла наперад круглыя калені, абцягнутыя празрыстымі бліскучымі калготамі цялеснага колеру. Алег пагладзіў вачамі круглае капронавае калена, пакорліва падняўся з табурэткі — трэба было задаволіць Галчонка у разліку на рамантычны працяг, — хутка выцягнуў турку з шафкі. Ён з заплюшчанымі вачамі ведаў, дзе ў ягоным бардаку што знаходзіцца. «І ніякі гэта не бардак, а ўсяго толькі мастацкі беспарадак. А калі не падабаецца — магла сама прыбрацца», — думалася Алегу. На донца туркі ён насыпаў карычневую рыхлую каву, плесканууў крыху вады і разбоўтаў чайнай лыжкай, маленькая лыжка звонка лязгала па бляшаных сценках.

Галчонак сядзела на табурэтцы, прыхінуўшыся плячамі да сцяны і назірала за прыгатаваннем кавы. Прыбіраць у шафках яна не збіралася, не за гэтым сюды прыходзіла. Алег даліў вады

і паставіў турку на пліту. Паменшаны агонь падаграваў пахучую вадкасць.

— Алежка, ты ведаеш… я тут падумала, можа, табе з маім Дзяніскам пагаварыць?

Пасля ўладарна кінутага Алегу «Звары мне каву!», прыйшлі пяшчотныя словы «мой Дзяніска», і твар Галчонка асвяціла ласкавая заклапочанасць.

«Пагналі нашы гарадскіх… зноў Дзяніска», — насцярожыўся Алег, коса зірнуў на каву, якая з хвіліны на хвіліну павінна была стаць кіпнем.

Дзяніска — сын Галчонка ад першага шлюбу, адзіны ў мамы і непаўторны, дзяцюк з павадкамі гобліна, але мама Галя лічыла, што ў сына тонкая і ранімая душа. Нягледзячы на ранімасць душы, здаралася, Дзяніска даводзіў неверагодна цярплівую на ягоны конт маму да белага калення, і тады Галя адчувала патрэбу у мужчынскай руцэ. На вакансію мужчыны-выхаваццеля запрашаўся Алег. Галчонак тлумачыла, што сыну не хапае сапраўднай мужчынскай размовы. «Алег, пагавары з Дзяніскам», — прасіла яна і тут жа агалошвала спіс выразаў і слоў, якія Алегу дазвалялася ўжываць у мужчынскай размове. Словы былі наступныя: ты ўжо дарослы… твая мама хоча табе дабра… і калі ласка. Мацюкі забараняліся катэгарычна. Калі б Алег пры мужчынскай размове з Дзяніскам раптам неабачліва мацюкнуўся, гэта магло б зашкодзіць псіхіцы дзіцяці, так лічыла мама Галя. Дарэчы, сам Дзяніска па завуголлю мацюкаўся так, што сцены скаланаліся і старыя замшэлыя мацюкоўшчыкі маглі б значна пашырыць лексіку Дзяніскавымі наватворамі. Дзяніска вучыўся ў ВНУ на юрыста, гэта была маміна мара. Вучыўся неахвотна. Што сын будзе рабіць з дыпломам юрыста, мама ўяўляла слаба, аднак старанна плаціла за яго адукацыю, эканоміла на сабе, галоўнае, каб Дзяніска стаў чалавекам. А чалавекам ён мог стаць менавіта вывучыўшыся на юрыста… І вось з гэтым кадрам Галчонак прасіла Алега паразмаўляць па-мужчынску. Алег адпіраўся што ёсць моцы, ссылаўся на недахоп педагагічнага вопыту, абачліва абыходзіў вострыя вуглы ў размове, каб чаго недыпламатычнага пра Дзяніску не выказаць. Галчонак магла пакрыўдзіцца

і ўзбрыкнуць: «Я заўсёды падазравала, што ты не любіш майго сына!» Дзяніска ж, выказваючыся на адрас мамінага хахаля, ў выразах не саромеўся. На гэтыя выпады мама Галя сціпла заўважала: «Сынок, няможна так. Дзядзя Алег чалавек нядрэнны».

Галя сына заўсёды саладжава называла Дзяніскам. Дзянісам — ніяк. Дзяніска тым часам паціху абрастаў шчацінай і басам адпрэчваў маму, якая мітусілася на ўзроўні яго пляча. «Дзяніска, ты заматай шыю шалікам, абавязкова заматай, і зашпілі маланку на куртцы пад самае горла, сёння пахаладала, ты можаш прастыць», — бегала вакол яго мама Галя. Якая можа быць гаворка пра сумеснае жыццё з Галчонкам? Пайсці да любай у двухпакаёўку, каб Дзяніску шалікі завязваць?! І да Алега перасяліцца таксама не выпадала, Галя ж не магла пакінуць дзіця без дагляду.

Кава была згатавана і разліта па кубках. Галчонак натхнёна апавядала пра Дзяніску. Алег чакаў, пакуль яна выкажацца і можна будзе запрасіць любую ў ложак…

* * *

Камароўскі рынак, накрыты аграмадным зялёным купалам, гудзеў, запоўнены людзьмі, заманьваў пакупнікоў доўгімі прылаўкамі з раскладзенымі пад шклом прысмакамі. Надышлі зімовыя маразы, і ўвесь натоўп з адкрытага вулічнага рынка перацёк ў цяпло пад зялёны дах. Алег прыходзіў сюды выключна па мёд. Рыначную таўкатню цярпець не мог, яму ставала бліжэйшай крамы, каб купіць каўбасу доктарскую, масла сметанковае і макароны-рожкі з адтулінамі ў сярэдзіне. У макаронах з дзіркамі быў асаблівы смак, яны не зліпаліся ў кашу, як дробныя хуткаварныя макароны-павуцінкі. Макароны з падсмажанай на масле каўбасой — традыцыйная халасцяцкая вячэра.

Паміж гандлёвымі шэрагамі, трымаючы у руках даверху набітыя прадуктамі пакеты, насустрач Алегу цягнуўся Халіфэ. Вязаная шапка на яго галаве коса аб'ехала на адно вуха, зімовыя вялікія боты з круглымі насамі лапцявата шоргалі па падлозе. У доўгай цяжкай дублёнцы, цельпукаваты, крочыў ён да выхаду.

— Здарова, сусед! — Алег наблізіўся да Халіфэ, абцягнуў яму шапку на другое вуха і гумарнуў: — Ну ты, брат, нагрузіўся, усю Камароўку скупіў. Свінінкай, мабыць, назапасіўся?

— Нет, нет! Свинина я не пакупать, я не кушать свинина, — успыхнуў Халіфэ. — Я Комаровка покупать овощи, фрукты. Можна покупать курица, говядына… Свинина — нет! Халифэ не пакупать свинина! — ў замяшальніцтве пуляў вочы Халіфэ, спалоханы, быццам яго хацелі свінскім мясам атруціць.

— Ды ладна, не хвалюйся, са свінінай я пажартаваў… — весела мружыў вочы Алег. — А так, наогул, як жыццё маладое?

— Халіфэ будет говорить правильно. Нас учить преподаватель в университет. Я буду говорить: «Как вы поживайте или как ваши дэла?»… Мой дэла харашо, а как Вы поживайтэ? — з расстаноўкай, адасабляючы кожнае слова, прамовіў Халіфэ.

— Ну ты прафесар!.. Я пажываю нядрэнна, па мёд прыйшоў на Камароўку.

— Што значайт «мёд»? — зацікавіўся Халіфэ незнаёмым словам.

— Мёд, Халіфэ, — гэта такая смачная салодкая рэч. Пчолкі збіраюць мёд і зносяць у вуллі, а потым людзі замест пчолак яго спажываюць. Ням-ням. Карацей, доўга апавядаць… мабыць іншым разам.

— Хорошо, другой раз. Я хотел ещё спрашивать у Вас. Для мой друг Мурат надо делать тарелка-спутник в квартира. Алег можайт сделать тарелка мой друг?

— Ды запраста. Няхай твой сябар завітае да мяне на выходныя, дамовімся аб аплаце і падключым яму Альджазіру.

Хаўтуры самі плылі у рукі…

* * *

Сябар Халіфэ Мурат у суботу з самай раніцы таптаўся ў пярэдняй Алегавай кватэры. Гэта быў невысокі, драбнацелы, рухавы жыўчык з хітрымі, бегаючымі вачамі і чорнымі кучаравымі валасамі. З-за пышнай, стаяўшай капой шавялюры галава яго ў параўнанні з дробным целам здавалася занадта вялікай.

Ён нагадваў юрлівага апалоніка. Зусім не падобны на Халіфе, хутчэй яго поўная супрацьлегласць. Мурат намагаўся выглядаць сцяпенным і самавітым, аднак гэта яму ўдавалася слаба, выдавалі імпульсіўныя, крыху нервовыя рухі. Апранаўся ён з густам. Кароткая дублёнка сядзела на ім зухавата, на нагах паблісквaў навошчаны элегантны абутак.

Алег склаў патрэбныя для працы прылады ў шэрую спартыўную сумку, нетаропка выйшаў ў пярэднюю, зняў з кручка і нацягнуў на плечы куртку. Мурат цярпліва чакаў, пакуль Алег збярэцца, вочы яго бегалі, а з хударлявага твару з рэзка акрэсленымі рысамі не сыходзіла робленая, няшчырая ўсмешка. Зусім не падобны на Халіфэ, хутчэй яго поўная супрацьлегласць. Яны выйшлі за дзверы. Спускаючыся па лесвіцы, Мурат на хаду даваў указанні, дзе і як ён хоча прыладзіць антэну. « Прыедзем — пабачым на месцы», — адбрыкнуўся Алег. На машыне паехалі на кватэру Мурата. Па прыездзе Алег адразу памкнуўся да балкона ўсталёўваць антэну, аднак Мурат яго спыніў.

— Мне нужна сейчас читать малитва, — цырымонна паведаміў ён Алегу. — Эта наш традишэн. Я иду в другой комната. Алег сидеть и ждать. Потом будем делать антэна, а потом — пить чай, — з сур’ёзным выглядам абвясціў Мурат планы на бліжэйшы час, відавочна яму енчыла пакіраваць і да ўсяго паказаць сябе чалавекам рэлігійным і станоўчым ва усіх адносінах.

— Добра… традзішэн дык традзішэн, — нехаця згадзіўся Алег. — маліся, я пачакаю, раз такая справа.

Мурат выцягнуў з ніжняй тумбы мэблевай секцыі невялікі складзены ў некалькі столак дыванок для малітвы, сунуў яго пад паху, важна пракрочыў ў суседні пакой і зачыніў за сабой дзверы. Застаўшыся адзін, Алег ад няма чаго рабіць аглядаў прастору навокал. Па кватэры бязладна валяліся раскіданыя рэчы, на падлозе ля секцыі стаяў нямыты рондаль з прыгарэлай ежай. Даўно не было тут жаночай рукі…

Праз гадзіну Алег з Муратам сядзелі за сталом і пілі гарбату. Усе справы былі скончаны. Мурат падобна лектару нудна апавядаў пра карыснасць адукацыі і пра тое, як ён увесь з галавой сышоў у навуку, некаторая нервовасць і нястрыманасць перамя-

жоўвалася ў ім з прыцягнутай за вушы штучнай разважлівасцю. Мурат увесь час намагаўся падаць сябе чалавекам станоўчым, занятым выключна вучобай і навуковай дзейнасцю. Алег у асноўным падтакваў, а напрыканцы размовы задаў аспіранту пытанне: як сумясціць тэорыю ведаў, атрыманых у аспірантуры, з практыкай. Мурат сходу адказаў, што распрацаваў сістэму паліўкі некалькіх апельсінавых дрэў у садзе яго дзеда шляхам падвядзення палівачных шлангаў.

— Человек нажимайт кнопка и вода поливайт, — важна прамовіў Мурат і ганарліва выпяціў грудзі калясом.

— Крута! — падтрымаў Алег распрацоўку.

— Нужна многа учиться, у меня нет свободный врэмя. Я только учиттся и учиттся, — паўтараў Мурат мантру, строга хмурачы бровы.

Абняць і плакаць. Змораны, знясілены вучобай аспірант. Аднак Алега праследавала адчуванне, што не усё так адназначна. Дапілі гарбату, і Алег з захаўтуранай капейкай адправіўся дахаты. Выйшаўшы з кватэры ў цьмяны тамбур, ён нечакана сутыкнуўся з Муратавай суседкай. Пажылая, баявога духу жанчына ў фетравым капелюшы куснула яго поглядам. Яны разам падышлі да ліфта. Алег ціскануў кнопку.

— Вы, можа, знаёмец замежнага кватаранта? Вы з яго кватэры выходзілі, я бачыла, — спытала жанчына, пільна разглядаючы Алега.

— Ды не, я выпадкова зайшоў. Мяне папрасілі талерку спадарожнікавую ўсталяваць.

— Шкада, — жанчына расчаравана прыцмокнула языком. — Я ўсё не магу гаспадароў яго пабачыць. Хацела ім пажаліцца. Да гэтага кватаранта апошнім часам розныя мужчыны іхняй нацыянальнасці ходзяць. Чорт іх ведае, што яны там робяць… мне неяк неспакойна. Жонка яго месяц таму як з’ехала, дык гэты чарняўчык пачаў кампаніі вадзіць.

Ліфт нарэшце даехаў да восьмага паверха, дзверы расчыніліся, запрашаючы ў кабіну. Алег прапусціў жанчыну ў вузкую прастору ліфта, яна ўціснулася туды першая, шырокая, аб’ёмная ў трапецыепадобным расшыраным уніз паліто, Алег зайшоў за

ёй, прыладзіўся ў куточку і, павярнуўшыся ў паўабарота, націснуў на падпаленую кнопку першага паверха. Ліфт загудзеў і, сціснуўшы палавінкі дзвярэй, гулка паехаў уніз.

— Не перажывайце, — супакойваў пад шоргат ліфта Алег суседку Мурата, — яны ж не п'юць гарэлку, а калі не п' юць — то будзе ціха. Пасядзяць за шклянкай гарбаты ды разыдуцца.

— Не п'юць?.. З чаго гэта ты, сынок, узяў? — смяшлівым голасам спытала жанчына, яна насамрэч падыходзіла Алегу ў маці, але у слове «сынок», хутчэй чулася падначка.

— Як з чаго? Мусульманскія традыцыі ім забараняюць, — заерыпеніўся Алег.

— Міленькі ты мой… я за вуглом на лесвічнай пляцоўцы ля смеццеправода якіх толькі бутэлек не бачыла: і сіняга колеру, і зялёнага, і з доўгім як у бусла горлам, і пузатых… і вадкасць з градусамі там розных колераў на дне блішчэла, і каньякі, і лікёры… — Жанчына хмыкнула. — У жыцці такіх бутэлек не бачыла! Як жонка з дзецьмі з'ехала, так і пачалося!

— Жанчына, вы нешта зблыталі. Гэта, мусіць, нашы хлопцы гуляюць, — упарціўся Алег.

Ліфт спыніўся на першым паверсе, Алег выйшаў на пляцоўку, жанчына жвава пакрочыла следам і, хаваючы ў вуснах дасведчаную ўсмешку, сказала яму:

— Не, гэта — не нашы. Гэта чарняўчыкі гуляюць… Нашы п'юць беленькую. Яшчэ бутэлек з-пад піва пластыкавых настаўляюць, во гэта — нашы. Сынок, я ж не ўчора нарадзілася.

А Мурат запэўніваў: «Я толька учиться и учиться!» Алег адчуў на сабе праніклівы пагляд з-пад фетравага капелюша, адвярнуўся і нячутна хмыкнуў… Не дарма кажуць: бог бачыць усё, а суседзі яшчэ болей…

Дома Алег перш-наперш вырашыў прыхаваць заробленыя грошы на ўсякі непрадбачаны выпадак. Падышоўшы да секцыі, ён адсунуў скрыпучую шуфляду і прыладзіў доларавую заначку між пасцельнай бялізнай. Праспяваў званок мабільнага. Пакінуўшы шуфляду незачыненай, ён паспяшаўся да мабільнага тэлефона. Тэлефанавала дачка. «Татачка, дай грошы», — так коратка можна было абмаляваць яе задушэўныя размовы з баць-

кам. Дачушка Даша была ліслівая як лісіца. Алег ўскладаў на яе вялікія надзеі, і мроілася яму, што калі-небудзь у старасці памые яна нямогламу тату сарочку. Будучае мыццё сарочкі патрабавала неадкладнай аплаты.

Дачушка прыемна мурлыкала ў трубку. Алег разамлеў. Вярнуў заначку з шуфлядкі ў кішэню.

— Дачура, забягай вечарком… Колькі там табе трэба? Я дам…

* * *

Горад заваліла снегам. Завея разгулялася ўчарашнім вечарам, хвастала снегам па вокнах, ноччу ўвабраўшыся ў сілу, працягла і надрыўна скуголіла за сценамі дамоў. Шалёны вецер рваў гнуткія галіны дрэў. Пад раніцу мяло цішэй, павольней, неяк урыўкамі, крутнуўшы і сыпнуўшы снегам, сцішвалася. Вецер слабеў і як стомлены звер адпаўзаў з горада. Апоўдні сціхла. Гурбы снегу, прыціснутыя да цагляных муроў дома, узвышаліся белымі барханамі. Машыны ў двары ўсцілала снегавое пакрывала, накінутае з наветранага боку.

Алег чысціў замеценае аўто. Рука, схаваная ў зімовую скураную пальчатку на цёплай падбіўцы, нетаропка зганяла шкрабком з шыбаў накіданы віхурай снег. Па двары з папкай у руках нязменнай цельпукаватай хадой ішоў Халіфэ. Доўгая нязграбная дублёнка матлялася крысамі ля яго каленяў, шалік збіўся пад дублёнку, і аголеная шыя тырчала з шырокага каўняра, як з хамута. Халіфэ спыніўся ля пад’езда, паназіраў, як Алег абіходжвае сваю машыну-ластаўку, і праз хвіліну з’явіўся побач з ім.

— Здрастуйце, — пад росквіт белазубай усмешкі павітаўся ён з Алегам.

— Здарова, сусед! Праблемы? — не спыняючы працы, праграмыхаў Алег. — О, не! Прабач, зарапартаваўся… Будзем казаць правільна: як вы пажываеце, як вашы справы? Так, здаецца, цябе вучылі?

— Халифэ паживать хорошо. Сегодня делать задания для университет. Я был у Мурат. Мы делать вместе. Нужно чертить график.

— А я, дарагі сусед, графікі адчарціў. Прычым даўно… І не шкадую. Ты не ўяўляеш, колькі ўніверсітэцкая прафесура высмактала ў мяне крыві! Залікі, курсавыя… Ды ну яго на фіг!

Халіфэ пераклаў папку ў другую руку, беражліва прыціснуў яе да тоўстай скуры дублёнкі, пагладзіў роўную плоскую паверхню папкі далонню і сказаў:

— А Халифэ нравится учиться в аспирантура. Я получать хороший стипендия и мочь эти деньги с семья жить в Минск. Харашо.

Алег прысвіснуў.

— Во гэта стыпендыя! Каб мне плацілі стыпендыю, на катораую можна сям'ю карміць, я б дзве аспірантуры скончыў!

Шкрабок хутчэй захадзіў па аўтамабільнаму шклу, камкі снегу валіліся пад ногі. Халіфэ не сыходзіў.

— Почему беларуский люди пакупать так многа машины. Мы в Ливия покупать машина, потому што другой транспорт очень мало. А в Беларусь есть многа другой транспорт. Есть автобус, есть тролэйбус… можна ехать на метро. Почему покупайт в Минск так многа машины?

Гэта пытанне даўна не давала спакою афрыканскаму аспіранту. Алег перапыніў шкрабацінне па шкле і слухаў Халіфэ.

— Люди здесь пакупайт в семья две и три машина, — падзяліўся назіраннямі Халіфэ і пад канец урачыста прамовіў завучанае беларускае слова, якое яму, відавочна, вельмі падабалася. — А сэнс?!

Дзіця Афрыкі, жыхар краіны Магрыба не мог зразумець усю глыбіню задавальнення мінскіх тубыльцаў ад таго, што яны могуць пахваліцца: « Муж катаецца на адной машыне, жонка — на другой, яшчэ і трэцюю сыну збіраемся купіць».

— Які сэнс? — задуменна перапытаў Алег. — З сэнсам, брат, праблема.

Ён агледзеў двор дома. Якіх тут толькі не было аўтамабільных марак, — мадэлі са ўсяго свету. Вочы разбягаліся. Часам машына каштавала даражэй за кватэру. А усё дзеля форсу. Выходзіць сям'я са старой цеснай двухпакаёвай хрушчоўкі ў двор і садзіцца

ў дарагушчы новы «Мерседэс». А суседзі так і падаюць, падаюць ад зайздрасці і захаплення. А «Мерседэс» так і блішчыць, і блішчыць, а гонар так і распірае. Ды суседзі таксама не лыкам шытыя: у іх машыны сціплей будуць, затое — дзве! Не на тых напалі… Як Халіфэ, чалавеку з афрыканскім мысленнем, разгадаць загадкавую беларускую душу?.. І сэнс? Мы можа і самі не ведаем таго сэнсу. Ва ўсіх жа ёсць машына, няхай і ў мяне будзе, а можна і дзве.

Алег спрабаваў нешта блытана тлумачыць пра ўзрослы дабрабыт і новыя магчымасці, індустрыялізацыя плюс аўтамібілізацыя ўсёй краіны.

Не дачакаўшыся ад Алега ўцямнага адказу пра сэнс набыцця мінчанамі шматлікіх машын, Халіфэ перайшоў да надзённых клопатаў:

— А вы можайте ещё делать Мурат антена? Нужна делать другой комната.

— Кабель падоўжыць ў другі пакой, ці як?

— Что бы сінема можна смотреть другой комната.

Алег запрацаваў шкрабком і пад пластмасавы шоргат даў абяцанне Халіфэ.

— Я зразумеў… Тэлефануй Мурату, вечарам буду…

У кватэры Мурата Алега сустрэў нязменны бедлам. Гаспадарка паволі абрастала падпаленымі рондалямі і бруднымі талеркамі. Нямыты посуд грудам ляжаў у кухоннай мыйцы, па вуглах пакояў рассцілаўся пыл. Сярод кватэрнага хаосу на вешалцы, зачэпленай на дзвярную ручку, вісела чыстая адпрасаваная сарочка.

Алег цягнуў кабель з залы ў спальню, перыядычна цюкаў малатком, загінаючы вакол кабелю цвікі, замацоўваў па плінтусе. Мурат зачыніўся ў асобным пакоі і ўладкаваўся за маніторам камп'ютара. «Займаецца вучобай», — падумаў Алег і цюкнуў па цвіку малатком. У наступны момант Мурат, прыадчыніў дзверы і ўкрадліва паклікаў Алега.

— Заходите, пажалуйста, ко мне в комната.

Алег адпусціў з рук кабель, паклаў на падлогу малаток, нетаропка, крыху лянів выпрастаўся і пасунуўся ў пакой да Мурата, мяркуючы, што таму патрэбна інжынерная кансультацыя. Тым часам Мурат, разваліўшыся ў офісным крэсле, з замілаваннем разглядаў фотаздымак на маніторы.

— Ты хацеў нешта спытаць? — пацікавіўся ў яго Алег.

— Алег хотеть посмотреть мой дом в Ливия? — з інтрыгуючымі ноткамі прамовіў Мурат.

Гаворка пайшла не пра навуку. Пакуль Алег корпаўся з кабелем, Мурат гуляўся з камп'ютарам, і яго нечакана напаткала ідэя пабахваліцца перад Алегам заможнасцю.

— Ну давай, паказвай.

Мурат павялічыў фотаздымак і шчаслівы, захлынаючымся голасам паведаміў.

— Дом иметь три этажа, — эмацыйна выплёскваючыся, Мурат зблытаў у слове націск і гучна ўляпіў яго на другім складзе.

На фотаздымку праглядаўся даволі вялікі, але простай, немудрагелістай архітэктуры дом з плоскім, роўным дахам.

— Які добры дом, — без энтузіязму, раўнадушна нахвальваў Алег.

— Дом иметь много комната, хороший большой комната, в каждый комната кавёр, — распірала бахвальства Мурата.

— Гэта твой асабісты дом? Ён табе належыць? — сапсаваў Алег непажаданым пытаннем увесь цымус Мурату.

Мурат неяк раптоўна звяў, вочы разгублена забегалі, аднак хутка зноў напыжыўся і бадзёра адчаканіў:

— Нет эта дом мой отец, но эта значит, что и мой дом адинакова. Я жить там з жена и дети на второй этаж.

— А на трэці?

— А на трэци жыть мой брат с жена.

— І дзеці брата? — даймаў пытаннямі Алег.

— І дети брата тожа, — неахвотна падцвердзіў Мурат.

З домам хвальба не заладзілася. І тады Мурат пайшоў у наступ па іншым кірунку.

— Я сейчас показать тебе мой жена. Я дарил жена на свадьба много залота, я покупать золота для жена. Вот смотри!

Мурат паспешліва шчоўкаў мышкай, імкліва змяняючы фотаздымкі, пакуль не знайшоў патрэбны. Радасна празіхацеўшы, ён павялічыў фотаздымак на ўвесь экран.

«Ні чарта сабе! Во гэта — кальчуга!» — пранеслася ў галаве ў Алега, ён аж вочы папуляў ад здзіўлення.

На экране камп'ютара маячыла фота жанчыны ў светлым адзенні, па светлым сукне ўвесь жаночы торс накшталт сярэднявечнай кальчугі пакрывала золата, ажурна сплеценае, спаянае пляскімі залатымі кветкамі ў металічную камізэльку.

Мурат быў надзвычайна задаволены створаным эфектам. Эмоцыі ў ім бруіліся, набягалі хваляй, пёрлі праз край. Шырокі рот яго празіхацеў на ўсе трыццаць дзве буйныя перліны неверагодна белых зубоў. Вочы прамяніліся.

— Я дарить жена больше чем килограмм золата! — бахваліўся, цешыў уласную фанабэрыю Мурат.

— Маладзец! — заўзята прамовіў Алег, разумеючы, што ад яго чакаюць захаплення. — А твая жонка ўвесь час ходзіць прыбраная ў золата?

— Нет, она одевать золата толька когда праздник. На фотография она есть на свадьба сестры.

— Пайшлі паможаш тэлевізар у спальню зацягнуць, трэба падключыць, — перарваў Алег эксцэнтрычны сеанс бахвальства.

Усмешка марудна спаўзла з твару Мурата, запал згас. Лёгка ўзняўшы худое цела з офіснага крэсла, хаваючы у сабе шкадаванне, што хвіліна славы так хутка скончылася, неахвотна паплёўся ён за Алегам. Удваіх яны перацягнулі тэлевізійны апарат на жаночы туалетны столік у спальню. Алег падключыў антэну, і з блакітнага экрана пайшоў у эфір канал Альджазіра…

У гасцёўні адзіная неперагарэлая лямпачка аднавока свяціла з люстры. Мурат наліваў у кубак Алегу гарачы кіпень. Тэлевізар яны паспяхова ўсталявалі і цяпер сядзелі ля часопіснага століка, размаўлялі і пілі гарбату. Традзішэн. Бяседа цякла няспешна. Гаварылі шаблоннымі сказамі пра карыснасць адукацыі, і нікога гэта тэма не цікавіла, цягнула пазяхаць, але абодва цярпліва трывалі высокі ўзровень інтэлектуальнай размовы.

У нейкі момант Мурат хітра крутнуў вачамі і мякка, шаўкавіста прамовіў:

— Я хотеть найти себе женшчина. Алег может помогайт Мурат?

— Нешта я не зразумеў?! Ты ж — жанаты! — Алег, уражаны нечаканым паваротам размовы, утаропіўся на Мурата пакруглелымі вачамі.

— Мой жена долгий время ўезжать. Мне один плохо, — напусціў тугі на смуглы твар Мурат.

Алег агледзеў пыл па кутах.

— Што тут сказаць? Без жонкі цяжкавата… Хочаш узяць другую жонку? Разумею, традзішэн… «если б я был султан, то имел трёх жён», — павесялеў Алег. — А першая дазволіць? Трэба ж ёй патэлефанаваць, спытаць як яна да гэтага ставіцца.

— Нет! Нет! — усклікнуў, як апараны, Мурат і нервова тузануўся ўбок. — Мой жена не должен ничего знать!

Прыціснуўшы ў сабе нервовасць, Мурат падсунуўся бліжэй да Алега і даверана паўшэптам прамовіў:

— Мне нужен временный жена, толька на три месяц, — на вусны набегала блудлівая ўсмешка.

— А-а-а… Гэта табе тады на трасу, — гарэзліва адгукнуўся Алег, — Там такіх жонак колькі хочаш, можна падабраць… прадаюцца за грошы. Ты ёй тры месяцы праплачваеш, і яна цябе палымяна кахае роўна тры месяцы.

— Нет! Нет! — зноў усклікнуў Мурат. — Мне не нужен плохой женщина, мне нужен хороший!

— Ясный пень… Усім патрэбен харошый жэншчына. Я і сам не супраць такую мець. Толькі дзе я табе харошый жэншчына на тры месяцы знайду? Мне б хто знайшоў харошый жэншчына на пару месяцаў.

— Беларуский женщина не хочет быть временный жена? — быццам бы шчыра здзівіўся Мурат.

— Ды яны наогул жонкамі быць не хочуць, не тое што часовымі… Так што пыл па кутах праціраць прыйдзецца табе, Мурат, самому… Трымайся.

Мурат змоўк, лёгкай рукой паднёс да вуснаў кубак і, хітра бліскануўшы чорнымі зрэнкамі, хлебануў гарбаты. Затаіўся.

«Вось путала! Жонка з’ехала, і ён адразу — налева. І галоўнае, як прыгожа палюбоўніцу называе — “временный жена”. Трэба ўзяць на ўзбраенне», — набіраўся вопыту Алег.

* * *

Крыху пазней, тым жа вечарам Галчонак румзала носам на Алегавай кухні.

— Уяўляеш, ён учора не начаваў дома, — гэта яна пра сына Дзяніску. — А мяне не папярэдзіў. Я проста не ведала што думаць!.. І мабільны адключыў. Уяўляеш? Я цэлую ноч месца сабе не знаходзіла, ні хвіліны не спала… З’явіўся пад раніцу і заяўляе, што нічога страшнага не адбылося. У яго, маўляў, былі асабістыя справы. А тэлефон адключыў, каб я не трызвоніла, — ён жа не мамчын сынок… Ну як, скажы, з ім размаўляць?

— Надавала б ты яму па мардасах, — вырвалася ў Алега.

Галчонак перастала румзаць.

— Ты што! Што ты такое вярзеш?! — злосна кінула яна Алегу. — Яму трэба растлумачыць, што так рабіць нельга, што мама вельмі хвалюецца… зразумела табе?! — Вочы Галі гнеўна палалі. — Па мардасах надаваць… прыдумаў… Ясная справа — гэта ж не твой сын.

Яна неяк імгненна супакоілася і з выклікам, задраўшы ўверх кірпаты нос, пахмурна касавурылася на Алега. Апошнім часам Галчонак проста задалбала яго сваім Дзянiскам.

— А як у цябе на працы? — лагодна спытаў ён, нічога лепшага ў галаву не прыходзіла.

— Ат… усё нармальна, — адмахнулася Галчонак, яна не жадала размаўляць.

Павісла няёмкае маўчанне.

— Я згатую каву, — падлізліва прапанаваў Алег.

— Вары, калі хочаш.

Алег гатаваў каву, спінай павярнуўшыся да халоднага позірку Галчонка. Міжволі ўзгадваў Мурата. У вушах гучаў яго

шаўкавісты голас: «Мне нужен хароший женщина, временный жена». «Антыгубараскацін табе патрэбен, летуценніку! — чамусьці раззлаваўся ён на Мурата і мацней сціснуў у руцэ тонкую ручку чайнай лыжкі. — Табе б такога Галчонка ва “временный жена” — паскакаў бы тады!»

Закіпаючая кава карычневай пенай паўзла па сценках туркі ўверх, параўнялася з краямі і шуганула вонкі, с шыпеннем патушыўшы агонь на канфорцы.

— Тваю маць, — вылаяўся Алег.

Вечар прапаў. Галчонак надзьмутая праседзела паўгадзіны, размаўляла скрозь зубы і, спаслаўшыся на галаўны боль, адчаліла дадому. Ложа кахання засталася некранутым. Алега адлучылі ад бухгалтарскага цела.

—То галава баліць, то спіну ломіць… ды ну вас… — злосна крутнуў ключом Алег, замыкаючы за Галчонкам дзверы.

* * *

У сярэдзіне студзеня снежным, скаваным траскучым марозам днём у афрыканскага аспіранта Халіфэ нарадзіўся сын. Хлопчыка назвалі Хосні.

— 3 кг 600 г, — паведаміў Алегу шчаслівы бацька. — Доктор мне говорил: мама и ребёнок чувствовать себя хорошо.

— Віншую!

Халіфэ стаяў перад расчыненымі дзвярамі Алегавай кватэры ўзрушаны і стомлены адначасова. Жонка была ў раддоме, і ўсе клопаты абрынуліся на яго худыя плечы. Ён разрываўся паміж раддомам, універсітэтам і хатнімі справамі. Шмат турботаў было і з маленькай Эпцісам. Халіфэ адвозіў дачку перад заняткамі за пяць прыпынкаў пад дагляд да сяброўкі Нарджас. Там яна гуляла з дзецьмі, а пасля заняткаў забіраў яе дадому. Круціўся як вавёрка ў коле.

— Только есть одна проблема. Я поломать крышка в стиральный машинка. Я сейчас один всё делать дома. У меня не получатся. Нарджас мне сказать: нужно срочно делать ремонт стиральный машинка, — заклапочана тарахцеў Халіфэ.

Халіфэ быў зусім не прыстасаваным у бытавым плане чалавекам. У яго абавязкова нешта ламалася, адключалася, выходзіла са строю, і тут на дапамогу прыходзіў спец Алег, заўжды гатовы аказаць паслугі і падхаўтурыць капейчыну. Гэта іх збліжала.

— Усё ясна, — коратка адказаў Алег. — Буду праз пяць хвілін…

Алег корпаўся ў ванным пакоі з рамонтам пральнай машыны. Паслухмяная і спакойная дачка Халіфэ Эпцісам ціха сядзела ў зале ля тэлевізара і глядзела мультфільмы.

Халіфэ, ўцёкшы ад хатніх клопатаў, зачыніўся ў невялікім пакойчыку, прыстасаваным пад кабінет. Яму тэрмінова трэба было рабіць чарцяжы, на пісьмовым стале ляжалі разгорнутыя лісты бялюткага, яшчэ не кранутага алоўкам ватману. Прынамсі рассеяным і нязграбным Халіфэ быў не заўсёды. У кампаніі з графікамі і чарцяжамі ён пачуваўся даволі ўпэўнена. Пагружаючыся ў свет лічбаў і формул, ён самааддана карпеў над даследаваннямі, і тут у яго усё ладзілася.

Алег даволі доўга праваландаўся з пральнай машынай, нарэшце ўсе дэталі паўставалі на свае месцы, і ён пайшоў у пакой да Халіфэ паведаміць што рамонт скончаны. Халіфэ не пачуў, як адчыніліся дзверы, як да яго наблізіўся Алег. Трымаючы аловак у левай руцэ, ён хутка пісаў формулы на вырваным са сшытку лісце паперы. Правая рука падпірала нахіленую лысеючую галаву.

— Халіфэ, — пазваў Алег.

Халіфэ затарможана павярнуў галаву, нібы папера з лічбамі была намагнічана і не адпускала яго.

— Ды кінь ты свае формулы, адпачні хвіліну.

Туманная плёнка паступова спаўзала з вачэй Халіфэ, і ён нарэшце ўсвядоміў, што ў пакоі нехта ёсць.

— А, Алег… уже гатов ремонт машинка? Извиняйть меня, я забывайт к Вам приходить и смотреть. Извиняйт, пожалуйста. Я срочно делать мой работа для университет.

— Халіфэ, вось скажы, чэрціш ты чарцяжы, пішаш формулы… сушыш мазгі… скажы, калі ласка, што ты ў гэтым знаходзіш? Мне здаецца, гэта нікому не патрэбныя фармальныя веды.

Халіфэ ўскалыхнуўся, павярнуўся разам са стулам да Алега і маланкава кінуўся ў дыспут:

— Вот, например, смотрайте… смотрайте, пажалуйста сюда, — паспешліва перавярнуў ён на другі чысты бок ліст паперы і хутка адвольна рукой начарціў геаметрычную фігуру, прамавугольную ля асновы і з дзвюма няроўнымі вярблюджымі гарбамі зверху. — Как можна найти площадь этот фигура, если не знать формула?… Нужно знать формула! — запальчыва тлумачыў, звычайна спакойны Халіфэ. — А в другой случай нужна уметь работать з функция. В этот мир вокруг нас нет простой форма!

— Добра, добра, сусед, не кіпішы, лічы, што я згодзен… а ты, аказваецца, не толькі прафесар, ты яшчэ і філосаф.

— Нет, философия я не любить. Я любить кагда есть цифры. Когда можна решать задача.

— А я лічбы не вельмі паважаю. Сумна, аднастайна. Формулы, графікі — суцэльная нуда. Я больш ухваляю філосафаў… Мішэль Мантэнь, напрыклад. У яго ёсць раздзел пра жанчын, якія ахвяравалі сабой, аддалі жыццё дзеля каханых мужчын. Во гэта, сусед, тое што трэба. Такіх філосафаў я паважаю.

Халіфэ збянтэжана прыўзняў краі вуснаў у сарамлівай усмешцы, размовы пра жанчын выклікалі ў ім дзіўную для сталага мужчыны няёмкасць.

* * *

Зіма сыходзіла неахвотна, трымалася за апошнія купкі снегу. Удзень сонца саграваля зямлю, расплаўляючы рэшткі снегу, а па начах яшчэ трываў невялікі марозец, пакрываў срэбным інеем шэрую мінулагоднюю траву, вызваленую з-пад снегу. Каляндарны сакавік забіраў у зімы апошнія сілы. Алег натхняўся прыходам вясны: абуджэнне прыроды, пачатак новага жыцця. І для яго таксама. З Галчонкам яны канчаткова разышліся, і цяпер яна магла поўнасцю прысвяціць сябе сыну Дзяніску. Алег адчаліў ў вольнае плаванне.

На душы было спакойна і хораша, аб страчаным Галчонку ён ні кроплі не шкадаваў. «Баба з возу, каню лягчэй» — Алег паступова станавіўся цынікам у адносінах да жанчын. Яны яму у гэтым садзейнічалі. І наогул прэўкрасная палова чалавецтва яму парадкам надакучыла. Алегу патрабавалася перадышка, пацягнула у мужчынскую кампанію. Ён успомніў пра Эдзіка, інстытуцкага сябра, даўно не бачыліся, мабыць гады тры. Для таго каб падтрымаць размову на любую тэму. Эдзік падыходзіў найлепшым чынам. Старыя сябры сустрэліся ў кафэ пры гатэлі «Планета». Абодва разведзеныя і вольныя. Эдзік амаль не змяніўся, гэткі ж прывабны, блакітнавокі, з кіпай светлых валасоў, зачасаных назад, хіба што некалькі зморшчын перасеклі высокі лоб. Рослы, з распраўленымі шырокімі плячамі, упэўнены ў сабе Эдуард Пятроўскі і ў сталым узросце лёгка мог усхваляваць жаночае сэрца. Па такіх жанчыны млеюць: буду пад лаўкай сядзець, абы на прыгожага глядзець. У рэчаіснасці сказанае апыналася звычайнай жаночай маной, пад лаўкай сядзець ніхто не збіраўся, вылезшы з-пад лаўкі, чарговая пасія пачынала перавыхоўваць вольналюбівага Эдзіка, перарабляць на свой капыл і даводзіла яго да скандальнага разрыву.

У кафэ, утульна прыладзіўшыся за столікам ля акна, яны душэўна пагаманілі пра жыццё, узгадалі студэнцкія гады, асушылі пляшку гарэлкі. За размовай незаўважна цёк час, заседзеліся дапазна. На вуліцы, ля прыгожа задрапіраваных, прыштораных вокнаў згусцілася цемната, а ў зале кафэ прыглушанае святло свяцільнікаў утварала прыемны паўзмрок. За столік насупраць уселіся дзве маладыя дзяўчыны з кідкім макіяжам на тварах, з-пад кароткіх спадніц свяцілі ляжкамі ў празрыстых капронавых калготках, яны заказалі па кактэйлю і, цягнучы тлуста нафарбаванымі вуснамі з трубачкі пітво, няўлоўна шнарылі вачамі па наведвальніках. Абедзве мясныя, дзябёлыя, з моцнымі нагамі, як маладыя кабыліцы. Ногі да калена, шчыльна ахопліваючы, зацягвалі высокія халявы чорных ботаў на доўгай маланцы.

— Пятроўскі, як думаеш… прастытуткі? — нахіліўшыся да Эдзіка, шэптам спытаў Алег. — Толькі рэзка не паварочвайся, ціхенька азірніся, быццам незнарок.

Алег да паслуг працаўніц старажытнейшай прафесіі яшчэ не дакаціўся, але ж як цікава! Эдзік манерна павярнуўся, нібыта шукаючы афіцыянта, і бегла агледзеў спачатку ногі, потым твар наведвальніц кафэ.

— А чорт іх ведае, я, прызнацца, не спецыяліст у гэтай справе. Ні разу не карыстаўся. Грошай шкада, — прыглушаным голасам, павярнуўшыся да Алега, адказаў Эдзік. — Іх жа начнымі мятлікамі называюць… Калі гэта «мятлікі», то я б сказаў, даволі ўкормленыя, — прыцмокнуў ён языком. — Як іх крылы носяць?

Вынырнуўшы з покрыва ночы, у паўцёмную залу кафэ ўляцеў Мурат, мабыць шукаў сабе «временный жена», хуткімі, пранырлівымі вачамі прыкмеціў Алега і рэзка адвярнуўся, робячы выгляд, што не бачыць.

— О! Адзін мой знаёмы падрулiў, шукае «врэменный жэна», — зноў паўшэптам прамовіў Алег.

— Які знаёмы? Я яго ведаю? — заінтрыгавана спытаў Эдзік, нагінаючыся над сталом бліжэй да Алега, і грудзямі ўпёрся ў пусты кубак з-пад гарбаты.

— Не, ты з ім не знаёмы… Я табе пасля раскажу пра гэтага фрукта. Крыху пазней… тут нязручна.

Мурат патаптаўся ля ўвахода і змыўся, унікаючы сустрэчы з Алегам. Праз некаторы час Алег з Эдзікам таксама выйшлі з кафэ ў асветленую ліхтарамі ноч. Алегу здалося, што ён яшчэ раз бачыў Мурата, ценем прашмыгнуўшага ля гатэля «Планета». У «Планеты» на тры месяцы з'явіўся новы спадарожнік… Пакуль крочылі да аўтобуснага прыпынку, Алег у агульных рысах абмаляваў Эдзіку Пятроўскаму гісторыю Муратавых шуканняў. «Па адных сцежках ходзім», — яхідна падсумаваў Эдзік.

* * *

Незаўважна надышло лета з пахам гарачага горада, пылам на дарогах, разваламі чэрвеньскіх клубніц на Камароўцы і ранняй маладой бульбай у тонкай, лёгказдзіральнай, кудлатай шалупінцы. Сямейны чалавек Халіфэ бегаў на рынак па пакупкі, напаўняў пакеты свежай гароднінай, ягадамі і пукамі духмянай

зеляніны кропу і пятрушкі, па дарозе забягаў у краму за дзіцячымі соскамі-бутэлькамі. Алег часта бачыў яго наўючаным прадуктамі. Нарджас гуляла ў двары з дзецьмі. Немаўля яна везла ў дзіцячым вазку, а кучаравая Эпцісам бегала непадалёку. Нарджас больш не апранала чорнае адзенне. Часцяком яе можна было бачыць у джынсах і прасторных блузах з доўгімі рукавамі, галаву пакрывала адмыслова завязаная шоўкавая хустка.

Алегу чэрвень прынёс доўгачаканы водпуск: дваццаць дзён адпачынку ад надакучыўшай працы. Сядзець у хаце ў летнія дні грэшна і самотна. Клікала прырода. Сапраўдны мужчына хоць раз у жыцці павінен з’ездзіць на рыбалку, вырашыў Алег і патэлефанаваў Эдзіку, запрасіў скласці рыбалоўную кампанію. Эдзік радасна згадзіўся, для яго гэта таксама была першая ў жыцці рыбалка. Ні кручка, ні вуды ён не меў, але праблему вырашыў маментальна і досыць проста, — рыбалоўнымі снасткамі разжыўся ў швагра. Алег набыў складную пластмасавую вуду і астатнія прычындалы — кручкі, грузіла, паплаўкі ў краме «Паляўнічы і рыбалоў».

Перад рыбалкай сустрэліся яны ў Курасоўшчыне. Там у бацькоўскай кватэры жыў Эдзік з матуляй. Пасля двух няўдалых шлюбаў лавеласа Эдзіка жонкі вярнулі маме.

Эдзік паўстаў перад Алегам апрануты даволі экстравагантна: блакітныя джынсы, абадраныя па нізках, ярка-чырвоная вятроўка і белыя растаптаныя пантофлі-макасіны з мяккай скуры, зручныя як тапкі. У тонкай інтэлігентнай руцэ ён трымаў закурадымлены паходны казанок.

Алег закінуў Эдзікаву сумку і казанок ў багажнік і прайшоўся па яго апранах.

— Ну ты і прыбраўся! Як на танцы. У такім прыкідзе ўсю рыбу распужаеш.

— Адвалі! — сказаў Эдзік. — У мяне для рыбалкі спецадзення няма. Во са старога штосьці адкапаў. Нармальна, сыдзе, — бухнуўся ён на пярэдняе сядзенне побач з Алегам. — Паехалі!

Машына панеслася за горад. Эдзік паказваў дарогу да вадаёма па інструкцыі швагра-рыбалова. Праехаўшы па шашы кіламетраў дваццаць, павярнулі на прасёлачную дарогу. Наперадзе

віднеўся густы зараснік лесу, месцамі па ўзлеску прырастаўшы маладымі дрэўцамі. Тонкія зграбныя бярозкі са свежай, бялюткай, маляўніча пракрэсленай чорнымі рыскамі карой цягнуліся ў гару, паводдаль, асобна стаялі сасонкі, невысокія і прыземістыя, яны раскідвалі ў бакі над някошанай травой кунатыя лапы. З асветленага сонцам узлеску машына заехала ў цяністы, пахнучы прэласцю лес. Дарога ў лесе была разбітая і раскіслая пасля дажджоў. У глыбокіх лужынах вада, змешаная з зямлёй, стаяла бруднай жыжкай. Аб'ехаўшы некалькі вялікіх лужын, машына збочыла з дарогі і прыпыніліся на зацішнай палянцы ля азярца. Эдзік вальяжна выйшаў з аўтамабіля.

— Загадзілі ўсё навокал, — прагучалі яго першыя словы на прыродзе, наском зношанага белага макасіна ён падфутболіў пластыкавую бутэльку.

Пасярод паляны два сукаватыя бервяны, складзеныя вуглом, абступалі рэшткі недапаленага вогнішча. Ля патухлага вогнішча разбэрсана валялася смецце, пакінутае папярэднімі аматарамі прыроды.

— Давай крыху прыбяром. Не магу я ў такім гадзюшніку адпачываць, — скрывіўся Алег.

Смецце сабралі ў пакет і зарылі ў зямлю на ўскрайку паляны для археолагаў будучых пакаленняў — адкапаюць і будуць вывучаць стаянку людзей дваццаць першага стагоддзя. З імпэтам ўзяліся за ўстаноўку палаткі. Напачатку, як два недарэкі, цягалі палатачную пакамечаную хакі-парусіну туды-сюды, разгадвалі рэбус, як яе мацаваць, трэба ж зрабіць сабе нанач хатку з дахам. Эдзік ціха мацюкаўся. Нарэшце да іх дайшло, якім чынам расцягнуць жорсткую тканіну ў чатыры бакі і замацаваць на калочкі, акрыленыя ўласнай кемлівасцю запрацавалі спрытна і ўхопіста. Двухмесная палатка як улітая паўстала сярод лесу. Справы ішлі на лад. Не цярпелася хутчэй налавіць рыбы.

Праз кароткі час Эдзік з Алегам заселі ў прыбярэжных кустах ля чаратовых зараснікаў і, ціха перашэптваючыся, каб не спужаць рыбу, закінулі вуды. Эдзік прыстасаваў у мелкаводдзе сярод чароту бутэлькі моцнага піва. Ахаладжваў. Папаўзлі марудныя хвіліны. Паплаўкі нерухома ляжалі на гладкай, бы застылай

паверхні ракі. Рыба зрэдку нахабна пускала кругі ў вадзе і ні за што не хацела лавіцца. Праз гадзіну млоснага сядзення ля вуды, пад радасны вокліч Эдзіка: «Ёсць, ёсць… злавіў!» — бліскануў на кручку выцягнуты з вады драбнюсенькі карасік.

Эдзік амаль скакаў ад радасці.

— Ціха! — прыбіў скокі Алег, і Эдзік заткнуўся.

Да вечара злавілі тры карасі, кожны памерам крыху большы за запалкавы карабок, дзве платвічкі і аднаго ладнаватага падлешчыка. Эдзік выжлукціў з бутэлек запасы піва, раз-пораз цягаючы іх з камышоў. На паляне запалілі агонь. У паходным казанку Эдзікавага швагра гатавалі юшку. Роўныя, сухія паленцы дроў, купленых Алегам на запраўцы, разгараліся, жвава палымнелі і патрэсквалі ў агні, курыліся шызым, едкім дымком. Рыбаловы раскупорылі бутэльку «Беларусі сінявокай». Эдзік плеснуў гарэлкі ў кубкі для гарбаты, і пад словы «ну давай, будзем» мужчыны чокнуліся і глынулі. На закуску падавалася сала з хлебам, агуркі і памідоры. Рыбная юшка казытала нос пахамі і была нечым накшталт дэкаратыўнага афармлення. Гамонка пайшла весялей, налілі па другой, а там і — па трэцяй. Эдзіка развозіла, на піўныя дрожджы ён дадаваў гарэлкі. Падвыпіўшы Эдзік хваліўся:

— Ды на мне на працы ўвесь аддзел трымаецца! Яны ні чорта не цямяць… Каб не я, уся іхняя кантора даўно ляснула б… Работнічкі!

— Эдзік, а мяне бабы задалбалі… І дзеці ні храна не слухаюцца. Во сынок нядаўна прышкандыбаў на госці. «Тата, патрэбна твая парада». Я яму і так і гэтак, словам, усё растлумачыў як мае быць і як трэба зрабіць. Ён мне: «Баця — ты, малаток!». А пасля пайшоў і зрабіў па-свойму. Во яны, дзеткі!

— І я свайму сыну кажу: слухай бацьку, бацька дрэннага не параіць. І потым мы з табой ведаем жыццё,… мы людзі талковыя, вопытныя, — п’яна прагундосіў Эдзік і зацурчаў, наліваючы гарэлкі ў кубак.

Алег засумняваўся ў талковасці Эдзіка, аднак пярэчыць яму не стаў. Эдзік выставіў перад сабой бутэльку з нахіленым

наперад горлам, каб наліць таварышу. Алег уладарна прыкрыў свой кубак рукой.

— Мне досыць, Эдзік, я больш не буду. Заўтра за руль садзіцца.

— А я вып’ю… Ну, будзь! — Эдзік глынуў «Беларусі сінявокай» і, пацягнуўшы паветра ноздрамі, занюхаў кавалкам чорнага хлеба.

З лясной дарогі даляцеў гул матора. Алег прыслухаўся. Гул набліжаўся, мацнеў, чулася, як натужна раве рухавік, і праз колькі хвілін на паляну заехала машына. Спынілася. Дзверы машыны расчыніліся адначасова з усіх бакоў, зрабіўшы аўто чатырохкрылым. На паляну высыпала моладзь. Прыёмнік у салоне разрывала музыка, расейская папса разносілася па лесе, палохаючы птушак і звяроў.

— Прыпёрліся, — падп’янеўшым голасам прасіпеў Эдзік. — Усю рыбу распужаюць.

— Кінь гундосіць, Эдзік. Справа маладая. Няхай забаўляюцца. Мы сваю рыбу злавілі.

— Ты думаеш, яны будуць рыбу вудзіць? Нешта я сумняваюся, — Эдзік з недаверам агледзеў прыбыўшую кампанію.

Алег дубцом паправіў вогнішча. У агні ўтульна патрэсквалі паленцы, гарачыя кароткія языкі полымя прагна лізалі дно закурадымленага казанка. Сукаваты крывы прут ён паклаў ля агню, бліскануўшай металам лыжкай памяшаў у казанку, зачэрпнуў духмянай рыбнай стравы, асцярожна паднёс да вуснаў і, дзьмухнуўшы выцягнутымі у трубачку вуснамі на гарачае варыва, пакаштаваў на смак.

— Сма-ка-та… Юшка гатовая.

— Налівай! — загадаў, салавеючы Эдзік і забіў на лбу насмактаўшагася крыві камара.

Алег падаў яму на закусь гарачай юшкі, налітай ў пластмасавую кісюшку, і акрайчык жытняга хлеба. Зверху над галовамі раіліся азвярэлыя пад вечар камары. Няўдалыя рыбакі ганялі іх рукамі, раз-пораз гучна пляскаючы то па шыі, то па ілбе. Павячэраўшы, абкусаныя камарамі, яны пацягнуліся спаць у палатку.

Наноўпрыбыўшая кампанія распачынала гулянку. Праз парусіну палаткі Алег чуў раскацісты хлапечы рогат. Дзяўчаты злёгку павісквалі, а то раптам пачыналі пішчаць, быццам маладыя свінкі, ушчаміўшыся ў плот. Вясёлы моладзевы хаўрус накрываў папсовы лямант з аўтапрыёмніка і зноў — хлапечы рогат. Так шчыра і бесклапотна можна смяяцца толькі ў маладосці, маючы наперадзе ўсё жыццё, светлае і цудоўнае ў мроях, пакуль не спазнаў ні здрады, ні самоты, ні руціны паўсядзённасці, аблытваючай нібы павуцінне, пакуль не азмрочылі душу расчараванні. Калісьці і яны з Пятроўскім гэтак жа рагаталі… У цеснай палатцы Алег перавярнуўся на спіну, падклаў пад галаву рукі, і шырока раскрыўшы вочы, углядаўся скрозь цемнату ў парусінавую столь. П’яны Эдзік хроп пад бокам, а Алег яшчэ доўга не мог заснуць, варочаўся, не верылася, што адпачывае на прыродзе.

Прачнуўшыся раніцай, Алег асцярожна, стараючыся не разбудзіць Эдзіка, выбраўся з палаткі і ўбачыў, што на паляне акрамя іх нікога няма. Навокал панаваў спакой, толькі нябачныя, схаваныя за лісцем птушкі ціўкалі ў вершалінах дрэў. Ступаючы па траве, усыпанай дробнымі бліскучымі кроплямі расы, нацянькі праз паляну і далей праз вузкую прыбярэжную лясную паласу, ён прайшоў да ракі. З берага добра праглядалася звілістае рэчышча і абкружыўшы яго з двух бакоў змешаны з лістоўніц і хвойніку лес. Ў прыемнай адзіноце Алег пасядзеў ля ціхай, соннай вады. Ледзь заўважна ля берага краталася высокая вастралістая асака і сонца асляпляльна адбівалася ад люстраной рачной паверхні. У гэты самы момант Алег з асаблівай асалодай адчуў хараство прыроды. Душа напоўнілася ціхай радасцю. І высокая бяздоннае неба, і аблокі, і рака некалькі хвілін належалі яму аднаму.

Вярнуўшыся на паляну, на старым месцы над ссунутымі ў грудок учарашнімі галавешкамі ён распаліў агонь. Пацягнула дымком. Эдзік заспаны, з пакамечаным тварам выпаўз з палаткі. Алег, падкідваў рэшткі сухога галля ў агонь, з трэскам разломваючы яго на дробныя кавалкі. Полымя разгаралася шпарчэй і, уздымаючыся чырвонымі языкамі, абдымала чайнік, што вісеў

на жэрдцы паміж дзвюма ўторкнутымі ў зямлю рагацінамі. Эдзік падцягнуўся да агню і, ачмурэла лыпаючы заспанымі вачамі, прамовіў:

— Ламачча трэба назбіраць, з такім агнём чайнік ніколі не закіпіць. Шкада, што дровы скончыліся, — паўсонна прамармытаў ён, шырока пазяхнуў і пачасаў абкусаную камарамі шыю.

— Праспаўся нарэшце. Я думаў, да вечара не прачухаешся. Грузануўся ты ўчора добра.

— Трохі перабраў, — пагадзіўся ўскудлачаны і прыпухлы Эдзік.

— Трохі, — хмыкнуў Алег. — Ладна, пайшлі прашвырнёмся па лесе, паліва назбіраем.

Алег паправіў кійком раз’ехаўшаеся квёлае вогнішча, падняўся з бервяна і пашыбаваў ў лес збіраць ламачча. Эдзік плёўся ззаду.

— О! Глядзі, што яны ноччу выраблялі! — пачуўся ў Алега за спінай голас Эдзіка.

Алег азірнуўся. Эдзік на моху ля кудлатага з паржавелымі ігліцамі пад’ялінца кратаў наском белага макасіна выкарыстаны прэзерватыў.

— Вунь яшчэ адзін валяецца, — зорка ўгледзеў Эдзік. — Во гэта хлопцы ноччу давалі жару! Мужыкі-і-і! Вартая расце змена.

— Эдзік, хопіць прыбядняцца, — адгукнуўся Алег. — Ты ж таксама рысак яшчэ той. Я цябе ведаю.

— Ёсць яшчэ порах у парахаўніцах, — без падманнай сціпласці пахваліўся Эдзік.

Алег падняў з долу сухую ламаную палку, асабліва збіраць не было чаго, папярэднія кампаніі падчысцілі лес ад сухой драўніны. Трохі напыталі таго-сяго і вярнуліся да агню. У дзве рукі ламалі сухое голле і падкідвалі ў вогнішча. Чайнік закіпеў. Алег сыпнуў жменьку заваркі ў кіпень. Гарачая вада афарбавалася прыемным жоўта-карычневым колерам. Згатаваны чай разлілі па кубках.

— Трэба збірацца дадому, — сказаў Эдзік, нахохлена на кукішках седзячы ля агню і прыхлёбваючы гарбату.

— З мяне рэшткі алкаголю яшчэ не выпарыліся. Я ж таксама тры чаркі паваліў, — разважліва прамовіў Алег. — Каб на міліцыю не нарвацца. Чым бы пах перабіць?

— Жуйка не падыдзе, ураз здагадаюцца, — перасцярог Эдзік. — Во каб цыбулі з часнаком пажраць, добра б было. Ты б як дыхнуў даішніку ў рэпу, яго б адразу знесла.

Эдзік зарагатаў.

— Нічога, прарвёмся, — сказаў Алег і запіхнуў у рот сухое пячэнне.

Па лясной дарозе Алег ехаў абачліва, абмінаючы ямы і калдобіны. Наперадзе ён заўважыў загразлую ў лужыне машыну. Пад'ехалі бліжэй і пазналі кампанію, што куралесіла ноч на паляне ля іх палаткі. Тры хлопцы і дзве дзяўчыны стаялі на ўзбочыне і разглядалі засеўшае ў гразі аўта. Алег аб'ехаў лужыну з другога боку.

— Можа, дапамагчы хлопцам машыну выцягнуць? — спытаў ён у Эдзіка.

— Хрэнушкі ім! — агрызнуўся Эдзік. — Учора па кустах дзевак цягаць яны мяне на дапамогу не звалі, а цяпер я ім дапамагчы павінен… Убіліся ў гразь, ліхачы хрэнавы… перад дзеўкамі клас паказвалі… вось цяпер самі няхай і вылазяць. А то стаяць на ўзбочыне, ножкі баяцца запэцкаць… Штаны трэба закасваць і лезці ў бруд, у лужыну і машыну піхаць! — гучна, над Алегавым вухам чытаў Эдзік хлопцам натацыю, якую яны не пачуюць. — А ты давай, газуй! — загадаў ён Алегу.

Алег націснуў на педаль, машына прыбавіла хуткасці, жвава пасунулася наперад, расціскаючы коламі невялікія лужыны. Маладзёны глядзелі ўслед ад'язджаючай машыне…

* * *

Прамінуў амаль год з той пары, як Халіфэ пасяліўся па суседстве з Алегам. Крутнулася гадавое кола, на парозе зноў стаяла восень, лагодная, з павуцінкамі, з дацвітаючымі апошнім буйствам красак гарадскімі кветкамі на вулічных клумбах, з яшчэ па-летняму цёплымі вераснёўскімі днямі. Халіфэ працягваў

вучобу ва ўніверсітэце, кожны дзень пасля палудня ён адным і тым жа маршрутам вяртаўся з заняткаў дамоў. Гэтым разам ў руцэ ён трымаў чорны доўгі тубус. Алег пазнаў яго са спіны па знаёмай цельпукаватай паходцы. Прыспешыў крокі і нагнаў Халіфэ, падкраўшыся са спіны, гукнуў у самае вуха.

— Прывітанне, аспірант!

Халіфэ схамянуўся і, крутнуўшыся да Алега, у абарончай позе спалохана выставіў перад сабой круглае доўгае бервяно тубуса.

— Не дрэйфь, сусед. Усе свае!

— Здрастуйце.

— Адкуль крочыш, аспірант?

— Я быть в университет, делать чертёж. Преподаватель давайт мне консультация.

— Век жыві, век вучыся і… Ну а далей табе гэту прыказку ведаць не трэба, бо можаш страціць веру у навуку, — заўзята стукнуў Алег пальцам па тубусу.

Паўз іх прадэфіліравала высокая сексапільная брунетка ў адкрытай празрыстай блузе без рукавоў. Зняты з плячэй жакет яна перакінула праз руку. Кароткая трыкатажная спадніца туга напіналася на жаночых клубах. Твар яе быў даволі прыгожы, з правільнымі тонкімі рысамі, але адштурхоўваючы, як электрычная падстанцыя: не падыходзь, — заб’е. Халіфэ сарамліва адвёў вочы ад паўаголенага жаночага цела, а Алег павярнуў галаву услед за краляй і ў нос прагундосіў:

— У ты кака-а-ая! Толькі з тварам праблема, — крытычна цыкнуў языком ён, — зверскі выраз… ні адзін у здаровым розуме мужчына да такой не падыдзе.

Халіфэ хіхікнуў.

— Халіфэ, а ты хацеў бы мець другую жонку? — спытаў Алег.

— Зачэм? У меня есть жена.

— Адна жонка добра, а дзве — яшчэ лепш, — падахвочваў Алег. — Вам жа можна нават чатыры мець.

— Одна жена хорошо, а две ничего не лучше, — не згадзіўся Халіфэ і адмоўна пакруціў галавой. — Две жена это много, много проблеммы. Я не хотеть проблеммы… Дядя мой друг очень богатый. Он иметь большой дом и две жена. Две жена родить ему

дваццаць детей! Они все живут в один дом… Ужас! У дядя мой друг всегда нервы и высокий давления. Я не хотеть так.

— Во дзядзька дае! Дваццаць дзяцей! Гэта праўда? — прысвіснуў Алег.

— Канечнэ, правда! Зачэм я буду абманывайть?

— А ты сам колькі збіраешся мець… дзяцей колькі хочаш? — спытаў Алег у Халіфэ.

— Нарджас говорит, что два ребёнок достаточно. Может быть, три… хватит. Много не нужно, потому что для дети нужно давать образований, о дети нужно забота, так говорит Нарджас, — спасылаўся Халифэ на сваю жонку, Нарджас мела ў яго вялікі аўтарытэт. — Мой друзья тоже хотят иметь два, три ребёнок. Мы не хотеть иметь много детей, как было раньше у наши родители.

Яны зайшлі ў двор дома. Нарджас гуляла з дзецьмі на вуліцы. Яна пакаціла каляску з падрослым шчакастым Хосні насустрач мужу. Эпцісам бегла ззаду за маці.

* * *

Алег толькі што скончыў прыкручваць абламаныя дзверцы ў шафцы на кухні ў Халіфэ. З паўгадзіны таму Халіфэ разгублены прыбег да яго па дапамогу, распавёў, што Эпцісам гушкалася на дзверцах, разбоўтала і выламала навясныя петлі.

— Штука который держайт двери ломайся, Эпцісам падайт і двер тожа. Ужас! Нужна делать рэмонт кухонный мебель.

У рамонце Алег абышоўся адвёрткай і некалькімі шрубамі. Дзверцы вярнуліся на месца. Нашкодзіўшая Эпцісам хавалася ў зале за канапай. Зверху над канапным падлакотнікам, выкрываючы схованку, тырчала макаўка кучаравай галавы.

У дзіцячым ложку, закуты ў памперс, сядзеў сын Халіфэ Хосні. Малы роў як бык на ўсю кватэру, роў дэманстратыўна-паказальна. Слёз не было. Падвываючы і павіскваючы, ён патрабавальна выкідваў порцыі ляманту, стаміўшыся, ненадоўга змаўкаў. Крыху перадыхнуўшы, пачынаў раўці нанова. Халіфэ на кухні падаграваў дзіцячую сумесь. Падагрэтую вадкасць ён

цурком уліў у бутэлечку, спяшаючыся, нацягнуў на рыльца соску і вялікімі, падскокваючымі крокамі ірвануў у спальню. Маленькі Хосні ўхапіўся рукой за паднесеную бутэльку з малочнай ядой і сам уторкнуў соску ў рот. Лямант сціх. Шчакасты Хосні задаволена смактаў густую белую сумесь, прагавіта прычмокваючы. Халіфэ падымаў донца бутэлечкі вышэй, падганяў малочную раку да соскі і прыгаворваў:

— Хосни-полицэйский… Кушать, Хосни, кушать, — і пасмейваючыся пазіраў на сына.

Алег падышоў да дзіцячага, з высокімі бакавінамі ложка і, абапёршыся аб край парэнчаў, разглядаў шчакастага Хосні.

— Ух, ты, пузанчык! Паглядзі, як соску ўхапіў, малы, а такі спрытны!

— Мой сын иметь характер, как отец Нарджас. Я думать, што он вырастать и быть полицейский, как его дедушка.

— А дзе Нарджас, дарэчы? Чаму ты адзін з дзецьмі возішся?

— Нарджас гулять по магазины. Она мне говорит, што только один час будет в магазин. А сама уже четыре часа гулять в магазин, а я смотреть за дети.

— З сяброўкамі пайшла? Гэта надоўга, — паспачуваў Алег. — Жанчыны як збяруцца разам, гадзінамі могуць па крамах хадзіць.

— Нет, Нарджас не любить гулять с подруга. Она гулять одна. Она делать, как она хочет. Уже гулять четыре часа! Прошлый воскресенья я был сидеть опять один дома целый день и смотрел дети, потому что она хотеть фотографировать на улица. Она очэнь много фотографировать. Она мне говорит, что ей нужно время для себя, что она не может всегда сидеть дома з дети. Олег может посмотреть в альбом, какие фотография делать Нарджас.

Халіфэ павярнуўся і паказаў рукой на альбом, што ляжаў на тумбачцы. Усеўшыся на край шырокага засланага пледам ложка, Алег паклаў фотаальбом на калені і пачаў гартаць. Старонкі запаўнялі фотаздымкі беларускай прыроды і сцэны з жыцця тубыльцаў. На адным фотаздымку маладая светлавалосая пара беларусаў, жаніх і нявеста ў вясельных строях, трымалі за рукі чарнявую Эпцісам, а за іх спінамі разляталіся з дыяментавым бляскам пырскі фантана. Далей здымкі, як гараджане ідуць

з пакупкамі ад Камароўскага рынка, студэнты ля ўніверсітэта размаўляюць між сабой і смяюцца, бабуля на плошчы корміць галубоў. На наступным — зімовы парк і Эпцісам ля вялікай з кашлатымі лапамі елкі лепіць снегавіка… У кожным фотаздымку праглядалася прадуманая сюжэтная лінія. Нарджас па-майстэрску валодала фотаапаратам.

— О! А гэта, што за фотаздымак? Гэта вашы знаёмыя? — спытаў Алег.

Сыты Хосні гугукаў у дзіцячым ложку. Халіфэ падышоў да Алега з парожняй бутэлькай у руках і зазірнуў ў альбом. На фотаздымку тры жанчыны ў спадніцах вышэй калена і лёгкіх кофтах стаялі побач з Нарджас. І толькі Нарджас была ў закрытым адзенні, шырокая шоўкавая хустка прыкрывала яе валасы і, адмыслова завязаная, спадала на плечы.

— А-а… я вспомнить. Эти женщины на фотография — беларусский мусульманка, подруги Нарджас. Нарджас познакомится с ними здесь в Минск.

Беларускія мусульманкі адзеннем зусім не адрозніваліся ад мінскіх дзяўчат.

Калі Алег адыходзіў у сваю кватэру, жонка Халіфэ дамоў яшчэ не з’явілася…

* * *

Вясной Халіфэ пісаў навуковую працу, цэлымі днямі, зачыніўшыся ў пакоі, ссутулены і засяроджаны праседжваў ён за распрацоўкамі і чарцяжамі. Алег рэдка яго бачыў, бо да ўсяго і сам быў заняты. Цяпер Алегу даводзілася затрымлівацца на прадпрыемстве звышурочна. З аддзела звольніўся супрацоўнік, прыйшлося працаваць, як кажуць у народзе, і за сябе, і за таго хлопца. Ні кіраўніцтва прадпрыемства, ні аддзел кадраў не рупілася хутчэй браць на месца звольненага новага чалавека, здаецца, іх задавальняла, што Алег працуе за дваіх, аднак даплачваць за падвоеную нагрузку ніхто не збіраўся, ледзь выцыганіў сабе невялікую прэмію. У прасторным шыкоўна мэбляваным кабінеце за дубовым сталом начальнік кісла зморшчыўся, пачуўшы

Алегаву просьбу аб даплаце, і незадаволена вычытаў інжынеру Алегу Пракапчуку, што на прадпрыемстве складана з фінансамі, што трэба зацягваць паясы і паашчаджаць грашовыя рэсурсы. «У эканоміцы крызіс… Вы гэта разумееце?» — строга хмурачы бровы, з дакорам спытаў ў яго дырэктар… Прэмію Алегу ўсё ж далі, і тады Алега напаткала думка, што мікраскоп быў вынайдзены навукоўцамі менавіта для таго, каб разглядаць яго прэмію… Пра аклад з прагрэсіўкай і прэміяльнымі самога дырэктара на прадпрыемстве хадзілі легенды, крызіс над дырэктарскім акладам улады не меў…

Неяк вечарам, вярнуўшыся з працы, Алег на кухні збіраўся гатаваць вячэру. За акном і ў цеснай куханьцы было па дзённаму светла, майская сонца не спяшалася сыходзіць за гарызонт, і толькі гадзіннік на кухоннай сцяне рыскамі стрэлак на цыферблаце адзначаў вечаровую пару. У рондалі на ўключаным на поўную моц вялікім агні канфоркі ўскіпала вада. Кінуты на стол, рассыпаў вакол сябе макароніны-рожкі і тапоршчыўся хрусткім цэлафанам пачаты пачак макароны. Алег пачуў, як у кватэру пазванілі невыяўным, ледзь блімкнуўшым званком. Ён без асаблівага энтузіязму паклыпаў у пярэднюю, адчыніў дзверы. На пляцоўцы стаяў Халіфэ ў сарочцы з кароткімі рукавамі, шырокіх спартыўных штанах і сініх гумовых сланцах на босую нагу. З рукавоў звісалі занадта доўгія, з шырокімі далонямі, падобныя на рыдлёўкі рукі. У Алега мільганула думка, што такім ён убачыў Халіфэ, калі той засяліўся ў кватэру спадарыні Шпакоўскай і званіў да Алега ў дзверы першы раз. Як хутка ляціць час.

— Олег, я хотеть приглашать Вас пить чай. Нарджас з дети уехать в гости к падруга. Халифэ один дома.

— Чаму б гарбаты не выпіць… канечне вып’ем. Зараз толькі выключу газ.

Алег схадзіў на кухню, адключыў газавую канфорку, булькаўшая кіпенем вада сцішылася ў рондалі. Замкнуўшы кватэру, ён зрабіў некалькі крокаў па лесвічнай пляцоўцы і завітаў ў харомы спадарыні Шпакоўскай. Кватэра непазнавальна змянілася. У пярэдняй на месцы бра, што калісьці навешваў Алег, засталося толькі металічнае мацаванне ў сцяне. Здаецца, мэбля на месцы,

а выглядае ўсё зусім інакш. Знік, ўлятучыўся музейны парадак і лоск. Алег прысеў у зале на замусоленую канапу з некалі бліскучай абіўкай, побач з канапнай бакавінай падлогу ўсцілалі раскіданыя дзіцячыя цацкі. На часопісным століку паўстала цяжкая хрустальная ваза, запоўненая хатнім, спечаным Нарджас пячэннем, заварнік і два распісныя кубкі. Гэтым двум кубкам удалося ацалець у рэштках святочнага сервіза Эльвіры Францаўны. Халіфэ ў паслужлівай да госця манеры разліваў гарбату.

— Я уже защитить научный работа и здать экзамен, — сказаў ён Алегу, напаўняючы кубкі.

— Скончыў вучобу? Здорава! Віншую! Ты рады?

— Немножко рад, немножко нет. Халифэ нравится учиться.

— Во, брат, чаго захацеў! Вечным студэнтам быць не даводзіцца, некалі ж трэба і за працу брацца.

— Я понимайт, — журботна ўздыхнуў Халіфе, перспектыва брацца за працу яго не натхняла.

Алег хлебануў гарачай гарбаты з кубка, адкусіў кавалак крохкага пячэння і, пражоўваючы, шапялява спытаў:

— Раскажы як прайшла абарона тваёй навуковай працы? Прафесура не мучыла?

— Нет, нет… всё проходить очень хорошо. Я получал самый высокий оценка — пять балов! Меня професор хвалить, он быть очень довольный… Я сейчас показать фотография!

Халіфэ ўсхапіўся з-за стала і, адсунуўшы шырокую шуфляду камода, выцягнуў з сярэдзіны некалькі фотаздымкаў. Тонкім стосам яны перакачавалі ў рукі Алега. Алег, як гульнявыя карты, расклаў іх перад сабой на стале і пільна разглядаў. Унутры штосьці шчымліва адгукнулася, зачапіла, нібы сам вярнуўся ў студэнцкія гады. На фотаздымках Халіфэ ўвасобіўся ля дошкі, на якой былі развешаны вялікія лісты пракрэсленага чарцяжамі ватману. Халіфэ ў касцюме, у здушваючым шыю гальштуку, нясмелы і вуглаваты, натапыраны ад адказнасці моманту, торкаў указкай у чарцёж і тлумачыў прычынна-наступственныя сувязі накрэсленых дэталяў і вузлоў. Патрапіўшая ў кадры прафесура, добразычліва налаштаваная, слухала аспіранта, хтосьці ўважлі-

ва, хтосьці паблажліва. За час вучобы яны дасканала вывучылі кожнага са сваіх лівійскіх падапечных, ведалі, хто на што здольны. Халіфэ заўважна хваляваўся, фотаздымкі бесстаронна зафіксавалі занепакоены пагляд і кропельку поту на скроні.

— Я ні на каліва не сумняваўся, што ты атрымаеш высокую адзнаку. Гэтулькі гібець над чарцяжамі! А як, дарэчы, справы у Мурата? Ён абараніў навуковую працу… і колькі атрымаў балаў?

— Да… Мурат тожа защитил научный работа, получал четыре балла. Он был очень злой, потому што хотеть пять. Говорил меня, што професор ничего не понимайт.

— Дык працаваць жа патрэбна на пяць балаў… папыхкаць над чарцяжамі!

— Мурат считайт себя очень умный, ему не нужно много работать, он и так всё знайт. А професор думайт иначе и ставить Мурат четыре балла, — задаволена хіхікнуў Халіфэ, у душы ён поўнасцю падтрымліваў прафесара.

* * *

Халіфэ ў цёмным касцюме і белай сарочцы стаяў ля пад’езда, урачысты і святочны, як падчас здачы навуковай працы ва ўніверсітэце. Адзіная дэталь, якая адрознівала яго сённяшні парадны выгляд, — гэта тое, што на шыі не было гальштука. На лаўцы і на асфальце груваціліся markdown разнавялікія сумкі і чамаданы. Халіфэ з сям’ёй вяртаўся ў Лівію, ля пад’езда ён чакаў таксі, каб адправіцца з вялікім, пад завязку напакаваным беларускімі таварамі багажом ў аэрапорт. Алег выпадкова заспеў яго перад самым ад’ездам. Некалькі дзён таму Халіфэ казаў, што хутка з’язджае, але што менавіта сёння, Алег не ведаў. Для яго гэта сталася нечаканым. На вуліцы Халіфэ быў адзін, пільнаваў чамаданы. Нарджас з дзецьмі ў кватэры збірала апошнія дробныя рэчы.

— Прывітанне, сусед.

— Здрастуйце.

— Дадому, дахаты? Рад, што на радзіму вяртаешся?

— Немножко да, немножко нет. Халифэ скучать мои родственники, но в Минске Халифэ тоже жить хорошо.

— Добра то яно, добра. Але ж зіма, Халіфэ, снег, маразы. Холадна, мабыць, табе было ў нас зімой?

— Ничего страшного… Халифэ не боятся мороз и белорусский зима. У Халифэ был тёплый дублёнка. Я теперь оддавать мой дублёнка другой аспирант, который будет учиться в Минск. Мне в Ливия не нужно. В Ливия сейчас температур плюс сорок градусы. Очень, очень жарко… Я сегодня уезжать домой.

Халіфэ журботна, напоўненымі шкадаваннем вачамі азірнуўся навокал і, развітваючыся назаўсёды, дакрануўся поглядам да кунатай маладой травы ў палісадніку, да трапечучага пад подыхам ветру, зялёнага, сакавітага лісця на дрэвах. Глыбока, на поўныя грудзі ўдыхнуў свежага веснавога паветра, нібы хацеў надыхацца ў запас. Дома ў Лівіі яго сустрэне, прыме ў свае абдымкі зморваючая спякота і гарачыя вятры з пустыні Сахара.

— А дзе ты будзеш працаваць?

— Мой работа в город Триполи, но мне могут дать работа в пустыня, это тяжело, очень тяжело. Алег не знать, не понимать, што значайт жара и пустыня… Какой я был дурак, я мочь приехать учиться Беларусь в восемнадцать лет, и жить в Беларусь! Но я боялся, потому что я не знать ваша страна. Но теперь я не мочь оставаться в Беларусь. Я иметь жена, дети, мне нужно быть с ними в Ливия.

З пад’езда выбегла кучаравая Эпцісам і ўселася на свабоднае месца на лаўцы ля чамаданаў. Праз хвіліну на вуліцы з’явілася жонка Халіфэ Нарджас, апранутая ў тонкае шаўковае адзенне і хустку-хіджаб, уся ў жоўта-бежавым колеры, колеры пяскоў пустыні, плаўныя лініі шоўку — згібы барханаў, зірнула на Алега чорнымі маслінамі вачэй. На руках яна трымала пацяжэлага, палутарагадавалага Хосні. Халіфэ пераняў яго ад жонкі, і Хосні ёмка ўсеўся на бацькоўскую руку.

— Ну, бывай! — развітаўся Алег.

Яны паціснулі адзін аднаму рукі. У абаіх на душы зрабілася тужліва. Провады і развітанні заўжды выклікаюць самоту.

— Патэлефануй мне з Лівіі, — папрасіў Алег.

— До свидания, я, конечна, позвонить Вам.

Алег пакратаў за шчаку важна ўладкаванага на бацькавай руцэ Хосні.

— Да пабачэння, Хосні-паліцэйскі.

Да пад'езда мякка падкаціла машына з шашачкамі на даху. Таксі. Наперадзе Халіфэ з сям'ёй чакаў шлях дадому. З Лівіі па аспірантаў, што адвучыліся ў розных ВНУ Беларусі, прыляцеў асобны самалёт. Лівійская кагорта адукаваных аспірантаў разам з жонкамі і дзецьмі вярталася на радзіму.

— Шчаслівай дарогі! — Алег развітальна памахаў рукой услед ад'язджаўшай з двара машыне….

Праз тыдзень у кватэру Эльвіры Францаўны засяліліся новыя кватаранты, такія ж чарнявыя. Спадарыня Шпакоўская ведала толк у прыбытковых справах. Яшчэ раней сарока на хвасце прынесла Алегу звесткі, што Францаўна зарабляе на кватарантах неблагія грошы і будуе кватэру ўнучцы. «А Эльвірчына ўнучка гэткая ж цямця-лямця, як і дачка», — пляткарылі ля пад'езда бабулі.

* * *

Халіфэ патэлефанаваў усяго адзін раз.

— Как вы поживайте, как дела? — пачуў Алег у трубцы знаёмыя словы.

Халіфэ сумаваў па аспіранцкіх гадах, праведзеных у Мінску.

Праз некалькі месяцаў у Лівіі грымнула вайна.

# ПРА ІНШЫХ НЕМЦАЎ

На сталічным аўтавакзале «Маскоўскі», як заўсёды, было не шматлюдна. Тут амаль ніколі не бывае людскога натоўпу. Людзі прыходзяць, сыходзяць, прыязджаюць, ад'язджаюць. Усё адбываецца без мітусні, спакойна і ціха. Жыдзенькі людскі ручаёк уліваецца ў дзверы вакзала, плаўна расцякаецца па касах. Сённяшні дзень нічым не адрозніваўся ад іншых, усё тая ж размераная атмасфера.

Каля кас стаялі па адным, па два чалавекі, якія, хутка купіўшы білецік, адыходзілі. Некаторыя касы былі наогул свабодныя. Аксана падышла да свабоднага аконца і, нахіліўшы набок галаву, зазірнула ў сярэдзіну. Касірка сядзела на сваім месцы і ўважліва глядзела ў манітор камп'ютара.

— Мне білецік на маршрутку… — Аксана назвала райцэнтр, да якога збіралася ехаць, і дадала: — На бліжэйшую, калі ласка.

— Ваша маршрутнае таксі толькі што адышло. Будзеце чакаць наступнае? — касірка пашчоўкала па клавіятуры, хутка перабіраючы пальцамі, і, не чакаючы Аксанінага адказу, зноў сказала: — Магу прапанаваць білет на мяккі аўтобус. Ён праходзіць праз ваш райцэнтр. Адыходзіць праз шэсць хвілін. Паедзеце?

— Мяккі аўтобус?.. Ну, мяккі — дык мяккі. Хаця мы больш прывычныя да жорсткіх электрычак.

Касірка адарвала свой пагляд ад манітора, упершыню зірнуўшы на пасажырку, і ўсміхнулася «жорсткім электрычкам». Было чаму ўсміхацца. Аксана таксама прыпомніла перапоўненыя прыгарадныя электрычкі, якімі часцяком карысталася ў мэтах эканоміі матэрыяльных сродкаў. Білет на электрычку каштаваў значна танней, але сёння Аксана вырашыла шыкануць і праведаць маму, пракаціўшыся на маршрутным таксі. А то зажымаешся ўсё жыццё, эканоміш. Толку?! Усё адно не хапае.

Трэба папесціць сябе любімую. Мяккі аўтобус быў якраз дарэчы. Тым больш цяпер, напачатку дачнага сезона, калі Аксаніны суайчыннікі, ахопленыя марай вырасціць у гэтым годзе яшчэ лепшы ўраджай, чым у мінулым, ірваліся да сваіх сціплых дачных гародзікаў на шасці сотках, апантана штурмавалі вагоны электрычак. Электрычкі запаўняліся пад завязку. Народ стаяў у праходах плячом к плячу, шчыльна прыціснуўшыся адно да аднаго, пад нагамі блыталіся валізы. І вечны бой, спакой нам толькі сніцца. Пачыналася бітва за будучы ўраджай…

— Дык, што? Даваць білет?

— Давайце, давайце, — згодна кіўнула галавой Аксана і парылася ў кашальку «мільянершы».

Купіўшы білет і ўзяўшы яго ў руку, яна адчула ўнутраную каманду: «На старт!» Замітусілася, зірнула на гадзіннік. Часу малавата, пакуль размаўлялі з касіркай — хвіліна прайшла, засталося пяць хвілін да адпраўлення аўтобуса. Трэба спяшацца. Аксана прыпусціла да выхаду, як майстар па спартыўнай хадзьбе.

На вуліцы адчувалася прыемная свежасць. Ноччу прайшоў заліўны дождж. Ліў як з вядра, лупіў па бляшаных адлівах на вокнах, не даваў спаць. Здавалася, праскочыць праз шыбы і заліе кватэру. Да раніцы гэтак жа раптоўна сціх, як і пачаўся. І цяпер памыты асфальт месцамі быў мокры, ва ўпадзінах блішчэлі невялікія лужынкі. Надвор'е выдалася ветранае. І хаця веснавы майскі вецер непараўнальна цяплейшы за зімовы, усё адно захацелася захінуцца, аўтобусныя платформы прадзімаліся наскрозь. Здавалася, што тут, на вакзале, вецер удвая мацнейшы, чым у горадзе. Асаблівасць амаль усіх аўтавакзалаў, стаяць на сямі вятрах. Працінае з усіх бакоў.

Захінуўшыся ў куртачку-вятроўку, Аксана пайшла ўздоўж перона, шукала свой аўтобус. Прыціснутая рукамі да грудзей, куртка моршчылася і ўздымалася ўверх, робячы Аксану падобнай да натапыранага вераб'я. «Верабей» нарэшце ўбачыў патрэбны мяккі аўтобус і змог расслабіцца. Засталося толькі заняць месца згодна купленаму білеціку. А там у аўтобусе можна будзе і падрамаць на мяккім крэсле. Некалькі крокаў па прыступках —

і яна ў салоне. Утульна, спакойна. У мяккіх аўтобусах пануе незвычайная мяккая цішыня.

Прайшоўшы між крэслаў да сярэдзіны салона, Аксана знайшла месца, пазначанае на білеце. На суседнім сядзенні ля акна сядзела жанчына сталага веку. Яны моўчкі паглядзелі адна на адну, і Аксана ўселася побач, усё яшчэ сціскаючыся ў сваёй тоненькай куртачцы.

— Халаднавата сёння, — жанчына завяла размову пра надвор’е. Звычайная справа, калі людзям няма пра што гаварыць.

— Так, пахаладала. Учора было цяплей, — адказала Аксана з ветлівасці і на тую ж тэму.

На гэтым размова скончылася. Жанчына адвярнулася і пачала глядзець у акно, а Аксана разглядала праход паміж крэслаў. Праз хвіліну ў праходзе з’явілася кантралёрка правяраць білецікі. Сваім з’яўленнем яна ажывіла сонную атмасферу. Размаўляла бадзёрым голасам: «Ваш білецік, ваш білецік, ваш білецік…». Як толькі яна скончыла сваю справу і апынулася за бортам аўтобуса, у салоне зноў наступіў поўны спакой.

Аўтобус мякка скрануўся з месца, пакаціў па мокрай асфальтавай дарозе. Зрабіўшы пару паваротаў, выруліў на праспект, а жанчына-спадарожніца ўсё глядзела ў акно, прытрымліваючы рукой шторку. Аксана разглядала спадарожніцу са спіны. Невысокая жанчына ў сціплай акуратнай шэрай куртачцы беларускай вытворчасці. З пад курткі выглядваў цёмна-сіні каўнерык блузкі. Валасы пафарбаваныя ў каштанавы колер. Ад кораня яны адраслі і выдавалі сівізну, сівая бараздзёнка ўздоўж прабора. Вечнае жаночае змаганне з узростам, гады няўмольна ідуць, валасы сівеюць, а іх упарта фарбуюць. Працэс носіць найменне «ніколі не здавайся». Аксане было да гэтага яшчэ далёка. Пакуль яна знаходзілася ў першай фазе барацьбы, барацьбы маладой жанчыны за зграбнасць цела. Займалася змаганнем з лішнімі кілаграмамі і грамамі. Змаганне ішло паспяхова і без напругі. Гены тут ігралі не апошнюю ролю, хударлявасць дасталася ёй у спадчыну ад маці.

Некаторы час ехалі моўчкі, але раптам жанчына зноў загаварыла:

— Вось упрыгожылі горад сцяжкамі, да свята рыхтуюцца, да Дня Перамогі,— сказала ці то сама сабе, ці то Аксане і, павярнуўшыся ад акна, паглядзела на сваю маладую спадарожніцу. Словы прагучалі зусім нечакана. Аксана наогул на гэту тэму не думала. У галаве круціліся паўсядзённыя справы: планы на дзень, паездка, пакупкі. А так каб глабальна, пра Дзень Перамогі, то і зусім не было ў галаве, але ж жанчына нагадала пра надыходзячае свята. Аксана, ненавязліва слізгануўшы позіркам, глянула ў твар незнаёмкі, спрабуючы ўгадаць, колькі той гадоў. «Маладавата выглядае, — падумалася. — З той вайны мінула шмат часу, хутка будзе адзначацца шасцідзесяцігоддзе. Чым далей ад вайны, тым маладзейшыя ветэраны. Нешта не падобна яна на ўдзельніцу баёў», — з недаверам, скептычна падумала Аксана.

— А вы што, ваявалі? — быццам чорт пацягнуў за язык, спытала спадарожніцу сама не ведала нашто. Ды яшчэ — з сарказмам. Невядома як жанчына адрэагуе.

— Ой, што вы! Дзе там ваявала? Які з мяне ваяка быў, я ж дзіцём была, — жанчыну падхапіла лёгкае стрыманае хваляванне. Занятая сваімі думкамі, яна нават і не заўважыла з’едлівасці ў Аксаніным пытанні. Гэта няўважлівасць да нюансаў размовы Аксану ўзрадавала. Ляпнеш іншым разам, не падумаўшы, а пасля выкручвайся. Павярнуўшыся ўпаўкорпуса да Аксаны, спадарожніца працягвала гаварыць. Аксана затаілася і моўчкі, слухала, а жанчыну было ўжо не стрымаць.

— А хаця, можна сказаць, што ваявала. Мая вайна прайшла пад Берлінам.

Голас у жанчыны быў прыемны і спакойны, гаварыла яна без надрыву, быццам абмяркоўвала паўсядзённыя справы. Такая ціхая размова-ўспамін аб мінулым. Аксана яшчэ раз зазірнула ў твар жанчыны. Можа зараз пачнецца? «Мы ў свой час… а вось вы цяпер маладыя…». Але нічога падобнага не адбывалася. Адкрыты, добразычлівы да ўсіх твар. У гэтай жанчыны была ўнутраная прыцягальнасць. Тую прыцягальнасць складана акрэсліць, але, сустрэўшы на сваім жыццёвым шляху падобнага чалавека, адчуваеш сябе з ім лёгка, проста і камфортна, а розніца

ва ўзросце не мае ніякага значэння. Аксану міжволі пацягнула з ёй паразмаўляць, хаця літаральна пару хвілін назад размовы з незнаёмымі людзьмі ў планы не ўваходзілі. «Насамрэч, цікавы паварот падзеяў: “Была малым дзіцём, ды ваявала пад Берлінам”», — пракруціла Аксана ў галаве словы спадарожніцы.

— Пад Берлінам? Гэта нешта дзіўнае, — сказала ўголас, усім сваім выглядам паказваючы гатоўнасць слухаць.

— Так-так. Давялося мне ў дзяцінстве ў Германіі пажыць. Маю ж маці разам са мной немцы схапілі ды адправілі ў нямецкі канцлагер, — жанчына зручней ўселася ў крэсле, павярнуўшыся да Аксаны. — Сталася гэта бліжэй к канцу вайны. Хапалі жанчын маладых, хлопцаў, дзяўчат, дзяцей, адпраўлялі дармавую працоўную сілу ў Германію. Вось і мы трапілі ў хапун… Адвезлі нас у канцлагер у Германію… Нацярпеліся ўсяго ў тым лагеры: і здзекаў, і голаду. Мы, праўда, нядоўга там прабылі, але як ўспомню… Як там толькі людзі выжывалі? — смутак палоскай прабег па твару жанчыны.

— А колькі Вы прабылі ў канцлагеры? — спытала Аксана, спрабуючы ўявіць канцлагерныя жыццё. Не жыццё, а выжыванне: шэрыя баракі, знясіленыя людзі, калючы дрот, аўчаркі. Яна ўпершыню сутыкнулася з чалавекам, які дзіцём усе гэта перанёс.

— Некалькі месяцаў. Я іх не лічыла. Зусім малая была.

Жанчына была спакойная і аб мінулых жахах гаварыла без асаблівых эмоцый, хоць сёння далёкія ўспаміны і растрывожылі душу. Яна ўсяго толькі глыбока ўздыхнула і працягвала свой аповед.

— Наша шчасце, што мы з маці патрапілі на добрых людзей. Нас жа, палонных, баўэры, нямецкія сяляне, з канцлагера к сабе дамоў на працу забіралі. Не ўсіх, канечне, толькі некаторых… Дык вось помню, як мы агаладалыя, худыя і брудныя стаялі ў шэрагу. Я тонкая была, як саломінка. Дома ў Беларусі худзенькая была, а тут ў лагеры, зусім празрыстая стала. У чым толькі душа трымалася… Баўэры хадзілі, выглядалі маладзейшых ды мацнейшых. Падчас таго прагляду адна нямецкая сям’я ўзяла маю маці разам са мной да сябе на працу. Маці ж маладая жанчына была, чаму не ўзяць, але ж і мяне ўзялі ў давесак, дзіўная

рэч. Навошта? Ой, як мы з мамай баяліся! Невядома, што там далей будзе. Тут у лагеры — жах! А можа будзе яшчэ горш… Прывялі нас тыя немцы дадому. Адразу адправілі мыцца. Адзежу ўсю нашу забралі і папалілі. Якая наша адзежа? Схапілі на вуліцы ў чым былі. У гэтых сукенках усе лагерныя месяцы мы і прабылі. Змяніцца не было ў што… Баўэрша нам дала чыстыя начныя сарочкі і адзенне, адвяла ў пакойчык, дзе мы павінны былі жыць. А там — усё чыста, памыта. Ложкі засланыя чыстай бялізнай. Пасля лагерных дошак мы баяліся ў тыя ложкі спаць класціся, сталі ў кутку пакоя і стаялі цэлую гадзіну, пакуль гаспадыня не прыйшла паглядзець, як мы ўладкаваліся. А мы стаім у куце, я да маці прыціснулася, учапілася ў падол, неададраць. Гаспадыня галавой пакруціла, ды давай нам жэстамі паказваць, каб у ложак спаць клаліся, каб не баяліся. Толькі тады мы адважыліся легчы…

Аўтобус плаўна каціўся па роўнай асфальтавай дарозе. За акном змяняліся краявіды. Шматпавярховыя дамы адплывалі назад, падпарадкоўваючыся няспыннаму руху аўтобуса, пачынаўся прыгарад з купкамі ажыўшага веснавога лесу, узаранымі палеткамі, прыватнымі дамамі. Жанчына больш не глядзела ў акно. Яе паглыналі ўспаміны. Здавалася, яна памятае кожную дэталь, памятае тыя начныя сарочкі, як яны выглядалі, ложак, пасцельную бялізну. Такія ўласцівасці чалавечай памяці: дзіцячыя ўспаміны яскравыя, абрысы выразныя, здаецца, памятаеш выразы твару людзей, пахі, пачуцці, а падзеі ўчарашняга дня — недакладныя і расплыўчатыя.

— І як вам там у баўэраў жылося? Відаць, ндрэнныя трапіліся людзі, — спытала Аксана.

Жанчына хітнула галавой, адганяючы апанаваўшыя думкі. Паглядзела на Аксану і прадоўжыла свой аповед.

— Як жылося? Ой, што тут гаварыць, з канцлагерам не зраўняць. У гэтай нямецкай сям'і з намі добра абыходзіліся. Працавала маці, канечне, шмат. Гаспадарка была вялікая, скаціна, ды і ў доме працы хапала. А я ж зусім малая, больш тунькалася без працы. Што мне там было, восем гадоў усяго, цягалася ля матчынага падала, быццам памагала… Я вось думаю, нашто

яны маю маці з дзіцём узялі, гэта ж лішняя абуза? Можна было бяздзетную дзеўку ў лагеры выбраць.

— А можа, яны гэта наўмысна зрабілі, хацелі і вас малую выратаваць?— падказала здагадку Аксана.

— І я так думаю. Маці ж мая да ўсяго была цяжарная. Як яны не заўважылі? Пасля, ужо пасталеўшы, набраўшыся жыццёвай мудрасці, зразумела — усё яны заўважылі, проста хацелі дапамагчы… І ведаеце, калі ўжо маці была на апошнім месяцы цяжарнасці, у гэтай нямецкай сям'і не давалі ёй рабіць цяжкую працу, у асноўным, на кухні працавала. А як роды пачаліся — доктара прывезлі. Заплацілі яму грошы. Вось так. Пасля родаў мама пакуль не падужэла, то і зусім не працавала. Яна ж, канечне, ірвалася, гатовая была на другі дзень працаваць пайсці, баялася, каб зноў у лагер не адправілі. А ёй забаранілі, сказалі берагчыся і глядзець дзіця. У мяне ж сястрычка нарадзілася!.. Нашы немцы маму супакойвалі, каб не перажывала, а яны самі скажуць, калі трэба будзе працаваць. Каб мы да гэтых баўэраў не трапілі, мая б сястра ў лагеры не выжыла. Яшчэ б ці выжылі мы з маці. А так — жывая здаровая, сям'я, дзеці, унукі…

Жанчына змоўкла, павярнулася тварам да акна, у задуменні невідушчымі вачыма глядзела праз мутнаватае, з падсохлымі слядамі дажджавых кропляў шкло. Аксана маўчала. Не хацела парушаць цішыню і праспешваць падзеі, адчувалася, што працяг будзе. «Нашы немцы» — у галаве чамусьці круцілася гэта словазлучэнне. Прайшла хвіліна.

— А я вось апошнім часам часта Фердынанда ўспамінаю.

Спадарожніца зноў павярнулася да Аксаны.

— Фердынанда? А хто гэта такі. Фер-ды-нанд! — Аксана здзіўлена павяла брывамі. — Ну, я там разумею Вілі які-небудзь ці Фрыц, — прыгадала яна імёны з бачаных ваенных фільмаў. — А то — Фердынанд!

— Гэта ж сын і ўнук у той нямецкай сям'і. Фердынанд. Яму ў той час, як мы да іх трапілі, было гадоў можа адзінаццацьдванаццаць прыблізна. Памятаю, нас з ім усё пасылалі трусікам траву ірваць. Пойдзем у поле з кошыкамі. Ён дасць мне свой кош, сам кладзецца адпачываць на зялёным лузе, а мне кажа: «Ірві,

Марыя, траву і ў мой кош, рускія павінны на нас працаваць». Вось уявіце сабе карціну. Я злую на яго, сваруся, кажу, каб сам ірваў. А ён ляжыць сабе на траўцы, рукі раскінуўшы, і небам любуецца. Я пакрычу, пакрычу і няма мне куды дзецца, нарву і ў яго кош травы. Вернемся з поля, я бягу да мамы і жалюся, што Фердынанд такі-сякі, травы не ірве. Загадваю маці, каб яна на яго пасварылася. Ведама, дзіцячае разуменне. А маці спалохана шэпча: «Цішэй, дачушка, цішэй! Не надумайся яшчэ фраў жаліцца. Яны ж так добра з намі абыходзяцца. Фердынанд няхай сабе ляжыць, а ты можаш і два кошыкі травы нарваць, не вялікая за дзень праца». А я яшчэ на маці крыўдавала, чаму гэта я павінна два кошыкі ірваць, а Фердынанд ніводнага. Гэткая несправядлівасць. Што ў восем гадоў дзіця можа ведаць, пра палон, пра чужую старонку.

— М-да, прыціскаў Вас Фердынандзік. Маленькі фюрар.

— Ды не, ён зусім не злосны быў. Мы з ім гулялі заўсёды ў розныя гульні ў двары, на вуліцы… Гэта ён толькі з трусінай травой выкрунтасы рабіў. Вось, паслухайце, што было далей. Савецкая армія стала падыходзіць да Берліна. Па радыё перадаюць, што немцы адступаюць і вядуць абарончыя баі… Пайшлі мы з Фердынандам зноў траву ірваць. Я па старой завядзёнцы, звыкла хацела ўзяць Фердынандаў кошык. Ён маю руку перахапіў, адвёў убок і свой кош мне не дае, потым забірае яшчэ мой кош і кажа: «Кладзіся, Марыя, адпачывай, цяпер мы будзем на рускіх працаваць». І нарваў два кашы травы!

Жанчына заўсміхалася. У вугалках вачэй з'явіліся маршчынкі, спадарожнікі немаладых гадоў. Яна паглядзела перад сабой, засяродзіўшыся, успамінаючы тыя далёкія часы. Напэўна, перад яе вачамі паўстала постаць Фердынанда з поўнымі кошыкамі зялёнай травы.

— І чым жа скончылася ваша гісторыя?

Аксана адарвала спадарожніцу ад маўклівых успамінаў.

— Чым скончылася? Ну чым скончылася… Прыйшла савецкая армія, нас вызвалілі. Маці засабіралася дадому… На той час мы ўжо зжыліся з гэтай нямецкай сям'ёй, прызвычаіліся адзін да аднаго. Яны прасілі нас застацца. Фердынанд таксама засу-

маваў, што я ад'язджаю… Па радыё перадавалі, што ў Беларусі ўсё разбурана. Нашы немцы казалі, што, можа, нам дома і жыць не будзе дзе, калі ўсё спалена, казалі, каб заставаліся ў іх, месца хопіць. А маці ўсё: «Не, не, толькі дамоў! Толькі на радзіму!» Яна ірвалася да мужа. Маці маёй яшчэ і трыццаці не было. Яны маладыя з бацькам былі… Ехалі мы дамоў, ўсё трымцела ўсярэдзіне, сястрычку-немаўлятку везлі… Вярнуліся… Хаты няма, згарэла. Горад увесь разбураны. А бацьку забілі ў партызанах. І пачала маці з двума малымі дзецьмі наноў жыццё будаваць. Хапіла гора. Першыя гады дык і агледзецца навокал не было калі. Праца без перадыху ад цямна да цямна, пакуль на ногі ўсталі. Неяк так-сяк нажылі свой невялічкі дамок. Трохі ўсё ўляглося. І тут у адзін з дзён маці падазвала мяне і кажа: «Марыйка, можа б нам напісаць пісьмо ў Германію? Даведаліся б, як там твой Фердынанд жыве». Неяк падспудна нам усім гэтага хацелася, але мы маўчалі. І вось маці рашылася. Мы напісалі пісьмо і ў хуткім часе атрымалі адказ з Германіі. Яны так узрадаваліся нашаму пісьму! Пісалі, што хваляваліся за нас і вельмі рады, што ў нас ўсё наладжваецца. І пачалася наша перапіска.

— А як жа ваш Фердынанд? — Аксану зачараваў Фердынандзік сваёй дзіцячай непасрэднасцю і сталым для дванаццацігадовага дзіцяці разуменнем жыцця: «Кладзіся, Марыя, адпачываць, цяпер мы на рускіх працаваць будзем!»

— О! З Фердынандам мы яшчэ сустрэліся. І не раз. Як ужо стала можна з Германіі ў Саюз прыязджаць, мы яму паслалі запрашэнне. Ён адразу ж прымчаўся. За доўгія гады, што мы не бачыліся, пераўтварыўся ў саліднага мужчыну. Ад таго худзенькага бялявага Фердынанда нічога не засталося.

З гадамі папаўнеў, валасы пацямнелі, але я яго ўсё адно адразу пазнала.

З тысячы чалавек пазнала б… Ён пагасціў у нас. Усё так нязмушана было, быццам мы ўсё жыццё адно аднаго ведалі. Фердынанд — мужчына з гумарам. Вясёлы… Пасля таго першага візіту яшчэ некалькі разоў прыязджаў. Падарункі нам з Германіі прывозіў, дэфіцыты розныя. Любіў дарыць падарункі. Мы з сястрой хацелі яго па Беларусі па экскурсіях павазіць, а ён

кажа: «Не, лепш паедзем у ваш гарадок, я люблю ваш гарадок, люблю ў вас бываць». І мы тады з нашым госцем балявалі, то ў мяне ў доме, то ў сястры ў кватэры. Стол накрыем, суседзяў, сваякоў запросім, песні спяваем.

Фердынанд плечы разгорне, слоў не ведае, але нам падпявае: «Выхадзіла ла-ла-ла Кацьюша!»… не ў склад — затое ў лад. Весела было… Шкада, што яго ўжо няма…

Жанчына зноў задумалася, памаўчала.

— Я чамусьці яго часцей малым успамінаю, усе гэтыя кошыкі з травой, — загаварыла яна больш павольна, засяродзіўшыся на сваіх думках.

Далей-болей. Зноў паступова разгаварылася і зноў пачала ўспамінаць падрабязнасці прыезду Фердынанда ў Беларусь і свайго ваеннага дзяцінства. Час ад часу Аксана таксама ўступала ў размову, нешта ўдакладняла, выказвала сваё меркаванне. Большую частку дарогі праехалі і не заўважылі. Усплывалі ўсё новыя падрабязнасці з жыцця жанчыны. Іншым разам чалавеку хочацца выказацца незнаёмаму спадарожніку, каб не заставацца сам-насам са сваім жыццём, каб не быць адзіным сведкам перажытых падзей. Хочацца падзяліцца тымі падзеямі з іншымі людзьмі, нібы такім чынам замацаваць іх і захаваць, каб яны не зніклі ў нябыце…

— Мне мая бабуля расказвала гісторыю, — Аксане енчыла таксама нешта расказаць. Заахвочаная апавяданнем спадарожніцы, захацела зрабіць свой ўнёсак у звесткі пра іншых немцаў, душу якіх не закранула фашысцкая прапаганда. — Бабуля расказвала пра аднаго нямецкага салдата, — прадоўжыла Аксана. — Ён за ўсю вайну ніводнага чалавека не забіў. Ва ўсякім разе, ён так казаў… — зрабіла Аксана ўдакладненне.

Хто цяпер ведае, дзе ў тых ваенных гісторыях — праўда, дзе — няпраўда. Тым больш, яна таго салдата не бачыла і не чула, а ведала пра яго толькі з апавяданняў уласнай бабулі…

Аксаніна бабуля Ганна была выдатная расказчыца, любіла апавядаць пра розныя выпадкі са свайго цяжкага, скручанага бязлітасным дваццатым стагоддзем жыцця. Адна з такіх гісторый

была пра тое, як яна са сваімі малымі дзецьмі і кагалам іншых аднавяскоўцаў уцякалі з сяла падчас ваеннай блакады, пакінуўшы пустыя хаты з усім скарбам. Аксана не мела ніякага ўяўлення аб тым, што значыла блакада ў дадзенай мясцовасці і як яна выглядала. Гэта пытанне да ваенных, а яна ў гэтай сферы адчувала сябе поўным прафанам. Адно відавочна, людзям трэба было ратавацца, і яны беглі хавацца на востраў, затоены сярод балот. Той ратавальны востраў быў даволі вялікі, мог змясціць цэлую вёску ўцекачоў. Побач, непадалёку захінуліся яшчэ некалькі астраўкоў, але значна меншых. Усе астравы былі абкружаны непралазнай багнай і чахлымі хмызнякамі. Дабіраліся туды людзі па кладках, схаваных ад людскіх вачэй пад тонкім слоем бруднай вады. Пра кладкі ведалі толькі мясцовыя. Чужыя тапіліся ў балоце. Прайсці на востраў, не ведаючы кладак, было нерэальна. Змучаныя вайной людзі спадзяваліся, што іх на востраве ніхто не дастане і яны змогуць там перабыць ліхія часіны.

Аксаніна бабуля Ганна, у той час маладая жанчына, якая была проста Ганнулькай-Ганнай, ішла па кладках, аблепленая малымі дзецьмі, абвешаная клункамі, і яшчэ цягнула на вяроўцы за сабой цялуху. Дзеці малыя, без малака не выжывуць. Колькі сядзець у балоце прыйдзецца — ніхто не ведаў. Прайсці кладкамі трэба было мець не абы-якую вытрымку. Цягавітыя аднавяскоўцы, звыклыя трываць і цярпець, упарта ішлі па тых прытопленых багнай дошках у бок паратунку, нагружаныя дзяцьмі і валізамі, доўгім людскім ланцугом расцягнуўшыся па балоце. Страшыліся саслізнуць з кладак. Адзін неасцярожны крок і бахнеш у дрыгву па самыя грудзі. Вылезці з бруднай жыжы каштуе апошняй моцы. Ухапіўшыся за працягнуты аднавяскоўцам даўжэзны кій, выкараскаешся наверх без сілы, а трэба яшчэ ісці ў мокрым адзенні і цягнуць на сабе балотны бруд…

Выйшаўшы на жаданы востраў, пачалі ўладкоўвацца. Парабілі шалашы, нарылі зямлянкі. Ганна зляпіла сабе таксама такую-сякую будку. І пачалося астраўное жыццё. Агонь палілі толькі ноччу, каб удзень дыму не было відаць, каб не выдаць сябе. Бераргліся. Але адседзецца на востраве не збылося. Нехта прывёў

па кладках немцаў. Хтосьці са сваіх, чужыя пра кладкі не ведалі. Баба Ганна, расказваючы ўнучцы пра таго здрадніка, канечне, злавала, але і апраўдвала аднначасова. «Чаго не зробіш пад дулам аўтамата, — казала яна. — Можа, яшчэ чалавеку прыгразілі, што дзяцей заб'юць. Хто яго ведае, як яно было. Гэта дома, на печы, усе смелыя… А як прыйдзецца…». Баба Ганна не любіла судзіць простых людзей, прайшоўшых ваеннае ліхалецце…

Немцы наляцелі, як крумкачы, пачалася аблава. Ганна сядзела ля свайго шалаша, абкружаная дзецьмі. Будзь што будзе, які наканаваны лёс. Бегчы не было куды, навокал балота, а як пабяжыш, то яшчэ хутчэй заб'юць. Паўсюль чуліся крыкі, стрэлы, кагосьці забілі. Побач рыкала прывязаная да дрэва цялуха, плакала на руках самае меншае грудное дзіця. Ганна сядзела як здранцвелая, анямелая ад страху, рукі, ногі не слухаліся. Падышлі два немцы, уразвалачку, зазірнулі ў шалаш, грэбліва пакраталі клункі, пайшлі далей, яе і дзяцей не зачапілі. Яны былі спакойныя, гаспадары жыцця, бо ўпэўніліся, што партызанаў на востраве няма, адны дзеці, жанчыны ды старыя, — можна не баяцца. Пайшлі к наступнаму шалашу. Там з дзецьмі сядзела Ганніна, сціснутая страхам, суседка. Ганна, гледзячы на спіны адыходзячых немцаў, думала наўздагон: «Гады! Каб вы падушыліся ў гэтым балоце!» А немцы ўсё шасталі ад шалаша да шалаша, у кожным робячы праверку.

Праз гадзіну ўсё супакоілася. На шчасце гэта былі не карнікі, а звычайныя нямецкія салдаты, якіх накіравалі выгнаць людзей з балота, каб не завяліся партызаны. Частка салдат сышла аглядаць астатнія астраўкі, зганяць адтуль людзей на вялікі востраў, усіх у адно месца. А тыя немцы, што засталіся, шукалі сабе правіянту. «Матка, курка, яйка, млека». Ля Ганнінай цялухі раз за разам пачалі з'яўляцца з бляшанымі кубкамі аматары сырадою ў нямецкай форме. Яны ішлі без канца і ўсё цягалі жывёлу за цыцкі. Ужо не было чаго выціскаць, а яны ўсё даілі і даілі. Так працягвалася да палудня.

На руках заходзілася ад плачу галодная дзіця, а яго не было чым пакарміць. Ад дояраў не было спасу. Падышоў яшчэ адзін —

высокі, цыбаты, у руках трымаў такі самы бляшаны кубак. Але ён не сунуўся да цялухі, а прысеў на бервяно насупраць Ганны, сагнуўшы ў каленях свае доўгія бусліныя ногі-цыркулі. Нязручна седзячы на паваленым сукаватым старым дрэве з шурпатай сухой карой, ён глядзеў, як Ганна ціскае ля грудзей дзіця, спрабуючы суняць плач, глядзеў на астатніх траіх маленькіх дзяцей-пагодкаў, якія як зацкаваныя прыціскаліся адзін да аднаго ў шалашы. Сядзеў моўчкі.

Дзіця, накрычаўшыся, супакоілася і заснула. Немец не скрануўся з месца, сядзеў і маўчаў. Падышоў яшчэ адзін, выцягнуў кубак. Маўчун павярнуўся да яго і па-нямецку гартанна, адрывіста нешта сказаў. Той паслухмяна сышоў прэч. Ганна здагадалася, небараку забаранілі даіць, маўчун сам чакае малака. Нямецкі парадак ва ўсім, нават у чарзе на даенне чужой цялухі.

Немец яшчэ некаторы час праседзеў моўчкі. Дзіця закраталася ў сне, і тады ён паказаў на яго пальцам і сказаў: «Гут». Потым паказаў тым жа пальцам на сябе, а другую руку выставіў перад сваім тварам, растапырыўшы чатыры пальцы, пяты вялікі прыціснуў да далоні.

— Майне кіндэр.

Ганна заківала галавой, зразумела, што ў яго таксама чацвёра дзяцей.

— Разумею, разумею, чацвёра кіндараў.

— Разумець, гут, карашо,— дадаў немец.

Вось і пагаварылі. Далей немец пачаў расказваць, як ён ваюе. Падняўшы сваю вінтоўку дулам уверх, вымавіў як дзіцёнак:

— Пух, пух, — потым навёў на людзей і патлумачыў: — Пух, пух, найн.

Стукаў сябе кулаком у грудзі і ўсё прыгаворваў: «Пух, пух, найн». Даводзіў Ганне, што ён не страляе ў людзей. Паказваў на неба. Яго за гэта бог беражэ. Ён даўно на вайне, а ніводнай драпіны. Паказваў цэлыя рукі і ногі… Так ён праседзеў гадзіны дзве, трушчачы камароў і адганяючы ахвотнікаў да малака. Нарэшце падняўся са свайго імправізаванага нязручнага стула, размяў, зацёклыя, ногі і загадаў Ганне даіць цялуху і карміць малаком дзіця. Яна так і зрабіла. Сышоў ён толькі пасля таго,

як упэўніўся — дзіця накормлена… Пад вечар людзей пагналі назад у сяло…

Канечне, Аксана не збіралася пераказваць усю гісторыю. Яна ніколі не вылучалася красамоўствам. Абмежавалася некалькімі кароткімі фразамі аб тым, як немец страляў уверх, каб нікога не забіць, і як яго бярог за гэта бог. У дадатак — яшчэ пра кубачак малака для малога дзіцяці. Гісторыя — якраз дарэчы. Спадарожніца зацікаўлена слухала. Аксана скончыла кароткую прамову словамі:

— Сама я асабіста з немцамі ніколі не сутыкалася, ні з дрэннымі, ні з добрымі. Затое ў школе вучыла нямецкую мову: гутэн таг, хэндэ хох, аўсвайс, Гітлер капут. У асноўным — усё, — падзялілася Аксана слоўнікавым запасам.

— А мая дачка стала перакладчыцай з нямецкай. У мяне ж — сын і дачка, — перахапіла размову жанчына. — Дачка старэйшая. Скончыла школу. Пасля школы паступіла ў інстытут замежных моў на нямецкую мову. Так у нашай сям'і ўсё пераплялося: Беларусь і Германія. І замуж яна за немца выйшла. Праўда, гадоў прайшло, пакуль той жаніх з'явіўся… Пасля інстытута дачка перакладчыцай працавала. Працавала ды працавала, на асабістае жыццё часу не хапала. Сын меншы, а сям'ю раней за сястру завёў, дваіх унукаў маю. Дачка ж — усё адна ды адна. Я змірылася, думала, яна так і будзе адзінокай. Але ж аднойчы запрасілі яе працаваць перакладчыцай на прадпрыемства, дзе наладжвалі нямецкае абсталяванне. З Германіі з абсталяваннем прыехаў нямецкі інжынер. Мая дачка суправаджала праект, ну і дасуправаджалася, цяпер гэты інжынер — мой зяць. У той час яму было сорак з хвосцікам — стары халасцяк, і дачка мая, ля гэтага, — не юная дзявіца, а вось, сышліся і жывуць шчасліва. Я ў іх аднойчы спытала, у дачкі з зяцем, чаму зяцю нявест у Германіі не знайшлося, а дачцэ — жаніхоў у Беларусі? Дык яны смяюцца абодва і кажуць, што на радзіме не хапіла выбару, прыйшлося шукаць сваё шчасце за мяжой.

На супрацьлеглым крэсле праз праход сядзеў малады мужчына. Вочы ў яго былі закрытыя. Пад раўнамерны гул аўтобуса

ён драмаў, абапёршыся галавой аб падгалоўнік. Гэта была маскіроўка. Насамрэч ён уважліва слухаў. Па тым, як краталіся яго вейкі, Аксана здагадалася, — ідзе праслухоўванне бабскіх размоў. Мужчыны часцяком гэтым грашаць. Могуць паслухаць пра каханне і здраду, пра начальніцу самадуру і лянівых супрацоўніц, пра памаду і калготкі, а могуць і пра ваеннае дзяцінства і нямецкае замужжа. Яны толькі робяць выгляд, быццам цікавяцца выключна гайкамі ды рухавікамі з конскімі сіламі. Сапраўды ж іх кругагляд значна шырэйшы. Аксана б ніколькі не здзівілася, калі б, выпіваючы кубачак кавы ў сяброўкі і займаючыся пустой балбатнёй, яна б выпадкова знайшла мужчыну падслухоўваючым у шафе. Асабліва мужчыны вылучаюцца на застольных мерапрыемствах. Крыху падпіўшы, выходзяць на лоджыю ці ў пад'езд перакурыць. Смачна зацягваючыся заціснутай двума пальцамі цыгарэтай і выпускаючы клубкі дыму, цягнуць свае занудныя размовы пра «тачкі», яшчэ завядуць пласцінку пра бізнес, які ён ёсць на сенняшні дзень і яго светлыя перспектывы ў туманнай далечыні. Усе ж у бізнесе разбіраюцца. Слухаюць адзін аднаго хутчэй з мужчынскай салідарнасці, чым з цікавасці. Звычайна гэтыя перакуры нядоўгія, бо мужыкі бягуць за стол, каб выпіць, закусіць і не прапусціць чаго-небудзь з несур'ёзнай жаночай балбатні… Назіранні за суседам паднялі настрой. Яшчэ адзін уважлівы слухач і спадарожнік чакаў працягу…

— Цяпер дачка жыве ў мужа ў Германіі. Жывуць дружна. Усё ў іх добра. Толькі вось дачка перажывае, — з працай праблема. Яна б можа даўно ўладкавалася, але зяць упіраецца. Кажа: «Хачу, каб мая жонка мела толькі добрую працу». Дык дачка ўсё па курсах ходзіць, вучыцца. А там, далей бу…

— Якая ў вашай дачкі можа быць добрая праца? Яна ж — эмігрантка, — Аксана ўклінілася ў маналог, перапыніўшы спадарожніцу на паўслове. — Вы мяне прабачце, але эмігранцкае жыццё і праца вядомыя. Працуй там, дзе мясцовыя працаваць не хочуць. Выбар, трэба сказаць, не вялікі.

Жанчыну такі паварот размовы зусім не збянтэжыў. Нязменна роўным голасам яна патлумачыла.

— О-о, Вы маю дачку не ведаеце. Калі яна ўжо што запланавала, то абавязкова выканае. І зяць яе падтрымае, бо такі самы. Гэта я пра працу гавару. Што датычыцца працы — тут у майго зяця фанабэрыі хапае. Сам па службе прасоўваецца, і жонка каб пад стан яму была. Тут яны абодва роўныя, які ехаў, такі і падсеў, — з гонарам сказала жанчына.

Яна была цалкам задаволена, што зяць з дачкой аднаго поля ягады. Сказала і зараз жа перайшла на свой звычайны тон.

— А так, у паўсядзённым жыцці, мой нямецкі зяць — мужчына прыязны. Любіць цешчыны бліны. Нядаўна прыязджаў з дачкой да мяне ў госці, праведаў наш гарадок. Якраз перад іх прыездам у горадзе рамонт зрабілі да юбілею, круглая дата з дня заснавання нашага слаўнага горада. Заасфальтавалі вуліцы, адрамантавалі фасады дамоў, кветнікі новыя парабілі — горад не пазнаць. Мой нямецкі зяць дзівіўся і хваліў, а пасля пайшоў кругом дамы з адрамантаванымі фасадамі аглядаць і выявіў дзівосы. У некаторых дамах толькі тры сцяны адрамантаваныя, а тая, што ў двор глядзіць, засталася некранутая. У яго нямецкай галаве рэбус не сышоўся. Прыйшоў да мяне, вочы хітрыя. Так, думаю, мабыць, нешта разведаў, чакаю пакуль распавядзе. Ён пакруціўся крыху, патаптаўся, не вытрымаў і пытае ў мяне, чаму недаробленая чацвёртая сцяна. Я яму пачала тлумачыць пра недахоп сродкаў, не хапіла, маўляў, грошай на рамонт чацвёртай сцяны. Ён мяне выслухаў і кажа: «Можна ж было адрамантаваць сем дамоў поўнасцю, замест таго каб у дзесяці дамах адрамантаваць толькі тры сцяны». Што я магла яму адказаць? Нямецкая і беларуская логіка — мусіць дзве розныя рэчы. Адно я ведаю дакладна, калі людзі па-добраму ставяцца адно да аднаго — яны заўсёды паразумеюцца.

Жанчына ведала, пра што казала…

Аўтобус пад’язджаў да вакзала раённага гарадка, у якім і разгортваліся вышэйзгаданыя падзеі. Аксаніна спадарожніца пачала рыхтавацца да выхаду.

— Можа памяняемся месцамі? Мне тут выходзіць, а вы сядзеце да акна і паедзеце далей, — прапанавала яна Аксане.

— Няма сэнсу мяняцца. Я выходжу з вамі. Мы ж — землякі.

Аўтобус спыніўся. Маладая і пажылая жанчыны ступілі на зямлю роднага горада.

Перад тым як развітацца, Аксана спытала:

— А вы расказвалі гэту гісторыю сваім унукам?

Жанчына пацíснула плячамі.

— Ды не, неяк не выпадала. Яны ў мяне яшчэ падлеткі, камп'ютары ды дыскатэкі ў галаве. Пасталеюць, абавязкова раскажу…

Спадарожніцы развіталіся і разышліся ў розныя бакі. Аксана ішла па вуліцы і бачыла, яе родны горад упрыгожаны да Дня Перамогі.

## КВАТАРАНТЫ

У ціхім дворыку, зарослым старымі высокімі дрэвамі, вымахаўшымі амаль у вышыню пяціпавярховага дома, пад пранізлівым халодным ветрам стаяла маладая пара. Хлопец і дзяўчына ціха перагаворваліся між сабой. Яны стаялі ля самых уваходных дзвярэй пад'езда, некага чакалі. Малады чалавек, высокі і худы, быў апрануты ў драпавае вузкае шэрае паліто даўжынёй вышэй калена. Паверх паліто вакол шыі наматаны ў некалькі кругоў палатняны доўгі шалік. Прыўзнятыя плечы падымалі шалік пад самыя вушы. Хлопец дыхаў у шалік, каб сагрэцца, і яшчэ вышэй падымаў плечы. Кучаравыя цёмна-шэрыя, кручаныя дробным баранчыкам, даўна не стрыжаныя валасы тырчалі ў розныя бакі і дапаўнялі да шаліка і паліто яго нетутэйшы выгляд.

Дзяўчына — маладая і зграбная, але яе зграбнасць поўнасцю ліквідавалася шырокімі мешкаватымі штанамі з кішэнямі і мешкаватай кароткай курткай з наўмысна прыспушчанымі, даўгаватымі рукавамі. З-пад рукавоў віднеліся толькі кончыкі голых пальцаў. Дзяўчына час ад часу папраўляла распушчаныя доўгія светлыя валасы, закідваючы іх рукой за плечы. Паўночны калючы вецер дзьмуў ёй у спіну і ўпарта закідваў валасы зноў на твар.

З машыны, якая некалькі хвілін назад пад'ехала на паркоўку паблізу дома, за парай назіраў мужчына. Ён сядзеў абапёршыся адной рукой на стырно, пальцамі другой свабоднай рукі барабаніў па пластыкавай абшыўцы салона і нешта абдумваў, разглядаючы паперамена то хлопца, то дзяўчыну.

— Ладна, пайшоў здавацца, — глуха стукнуў ён выпрастанай далонню па пластыку і з гэтымі словамі выбраўся з цёплай машыны, пстрыкнуў кнопкай аўтаматычнага закрывання замка.

На вуліцы гуляў халаднючы сівер. Вецер моцна дзьмухануў збоку ў гладка паголеную шчаку, сагнуў і збіў набок напрасаваныя стрэлкі на касцюмных мужчынскіх штанах. Маладыя людзі азірнуліся і змоўклі. Мужчына энергічна накіраваўся ім насустрач.

За пару крокаў, на падыходзе, спытаў:

— Вы кватэру глядзець?

— Так. Добры дзень. Гэта вы гаспадар? — спытала дзяўчына і паправіла раскіданыя ветрам валасы рукой, прыбіраючы іх з твару. Малады чалавек маўчаў і, злёгку нахіляючы галаву наперад, нібыта глухаваты, прыслухоўваўся да размовы.

— Так. Гэта я. Вы са мной дамаўляліся, — мужчына пацвердзіў, што гэта менавіта ён і ёсць уласнай персонай.

Дзяўчына чакала, што ў яе яшчэ нешта спытаюць, аднак гаспадар не выявіў цікаўнасці. Усё, што яму было трэба, ён ўбачыў у падпольным аглядзе праз аўтамабільнае шкло.

— Ну што, ідзём глядзець кватэру, — ці то загадаў, ці то прапанаваў гаспадар і, набраўшы код пад’езда, расчыніў цяжкія металічныя дзверы. У пад’езд ён зайшоў першы. — Другі паверх, — сказаў, не паварочваючы галавы, і пачаў хутка падымацца па лесвіцы. Парачка часціла следам.

На цеснай лесвічнай пляцоўцы яны ўтраіх стоўпіліся ля дзвярэй. Кучаравы адышоў крыху ўбок і без асаблівай цікавасці ляніва аглядаў пад’езд. Гаспадар тым часам адмыкаў ключом кватэру. Дзверы ў кватэру былі простыя, драўляныя, пафарбаваныя карычневай фарбай і нічога добрага за сабой не абяцалі. Ключ, шчоўкнуўшы, двойчы крутнуўся ў замочнай адтуліне, і карычневае палатно дзвярэй расчынілася ў вузкі пенал пярэдняй. Кватэра выявілася пад стан дзвярэй — сціплая. Абстаноўка — спартанская. Старая мэбля, толькі самае неабходнае: канапа з пярэстай зацёртай абіўкай, шафа, пісьмовы стол, два невялікія крэслы з драўляным паліраванымі падлакотнікамі. У куце на тумбачцы стаяў тэлевізар. Жылы пакой здаўся прасторным, мэблі — мінімум. Цалкам пасаваў да інтэр’еру кватэры і ванны пакой, там нават не было кафлі, аднак выглядаў санвузел акуратна, свяціўся светла-блакітнай фарбай. Чысценька, але бедненька. Дзяўчына

грунтоўна аглядала «апартаменты», заходзіла на кухню, у ванны пакой, уключала і выключала краны, мімаходзь перагаворвалася з гаспадаром па бытавых пытаннях. Хлопец кучаравы моўчкі хадзіў па кватэры і толькі рабіў выгляд, быццам нешта разглядае. Сам жа незаўважна сачыў за сваёй спадарожніцай, як тая сябе паводзіць, і капіяваў яе паводзіны. Адкруціўшы і закруціўшы кран на кухні, палюбаваўся струменем вады. Вада цякла добра, напорыста, моцнай плынню стукнулася аб дно масіўнай чыгуннай мыйкі, парудзелай ад старасці ля вадасцёку, і кроплямі паляцела на кучаравага, аж запырскала паліто і штаны.

«Паручнік Ржэўскі, на вуліцы дождж?» — «Ні ў якім разе — сустрэчны вецер!» — гаспадар праз расчыненыя на кухню дзверы бачыў гэту сцэну і ў яго галаве ўсплылі словы са старога барадатага анекдота.

Хлопец закруціў кран, культурна абкалаціў неспадзяваныя кроплі з адзення і сышоў куды падалей. А падалей — гэта да акна, і, адсунуўшы худой, занадта доўгай далонню гардзіну, пачаў глядзець у двор, занурыўся падбароддзем у шалік.

Гаспадар чакаў. Здавалася, яму абыякавыя наведвальнікі, ён проста выконвае фармальныя працэдуры. Колькі іх тут таптала сваімі нагамі фарбаваную старую падлогу.

Скончыўшы грунтоўны агляд квадратных метраў, дзяўчына падышла ўшчыльную да гаспадара, літаральна пад самы нос. Яму нават прыйшлося адступіць крок назад.

— Вы сказалі дзвесце дваццаць доляраў. А можна за дзвесце? — пачала яна гандаль, рашуча гледзячы проста ў вочы кватэраздатчыку.

— Не. Няможна, — гаспадар не хацеў рабіць зніжку. — Гэта мінімальная цана. Дзе вы за такія грошы кватэру знойдзеце? Ды яшчэ ў цэнтры, — манатонна дэкламаваў ён забранзавелую, сто разоў гавораную фразу.

Каб не паўтарацца ўсякі раз з новымі кватарантамі, яму варта было б павесіць плакат з гэтымі словамі на кватэрнай сцяне.

— Мы б хацелі за дзвесце, — не здавалася дзяўчына. У голасе з'явіліся ноткі ўпартасці.

«Аматарка качаць правы. Цяжкі выпадак», — пра сябе адзначыў гаспадар, а ўслых дадаў:

— Калі ласка, можна і за дзвесце, — сціпла пацiснуў пры гэтым плячамі і, напусціўшы на сябе найграную дабрадушнасць, ласкавым пяшчотным голасам прадоўжыў, — толькі ў іншым месцы. У мяне — за дзвесце дваццаць.

Ён застаўся абыякавым да гандлёвых здольнасцяў маладой прэтэндэнткі на жылплошчу. Дзяўчына злавалася. Не так ёй трэба была дваццатка зніжкі, колькі раздражняла, што не саступілі. Каб схаваць раздражнёнасць, яна пачала папраўляць валасы, нервова адкідваючы доўгія светлыя пасмы назад. Крыху памаўчалі.

— І наогул, нешта ваш спадарожнік увесь час маўчыць. Можа яму кватэра зусім не падабаецца? — перавёў гаспадар стрэлкі на кучаравага.

— Калі мне падабаецца, то і яму спадабаецца, — самаўпэўнена адказала дзяўчына. — А маўчыць ён таму, што не ўмее па-руску размаўляць. Ён — англічанін.

«Ён — англічанін!» Гэтыя два словы прэтэндэнтка на жылплошчу вымавіла з такім гонарам, быццам яе спадарожнік быў сам Юлі Цэзар ці Аляксандр Македонскі, ніяк не менш, і паглядзела на гаспадара, уяўляючы, якое зрабіла каласальнае ўражанне.

— Во-о-сь як, — адказаў гаспадар, расцягваючы словы і расчаравана прыкідваючы ў галаве перспектывы кватэраздачы: «Значыць, англічанін. Голуб пералётны. На колькі ж ён у нашы краі заляцеў?.. Думаю — ненадоўга. Месяцы два пратрымаюцца — не больш. Марокі будзе з пераздачай. Можа адразу адмовіць? Як бы іх культурна адаслаць?»

Пачуўшы слова «англічанін», малады чалавек пакінуў акно ў спакоі, падышоў да сваёй спадарожніцы і роўненькім слупком стаў побач. Ад яго сыходзіў лёгкі флёр значнасці і надменнасці, неяк не да месца на фоне старой канапы і выцвілых шпалераў.

— Англічанін, кажаце… А як вас, дарэчы, завуць? — гаспадар зацягваў размову.

— Наташа, — адрэкамендавалася дзяўчына. — А гэта Джон.

Яна зрабіла націск на слове «Джон» і паглядзела на заматанага ў шалік спадарожніка. Той злёгку крануў вузкія вусны ўсмешкай, пацвярджаючы, што ён Джон.

«Што ж мне з вамі рабіць, Наташы з Джонамі? — ніяк не мог вызначыцца гаспадар і ўсё думаў, думаў. — Можа, усё ж такі з імі развітацца?» Нешта яму ў гэтай парачцы не падабалася. Сам не ведаў што. У яго думках была поўная раздвоенасць і нерашучасць.

— Наташа… — звярнуўся ён да дзяўчыны. — Джон, вы кажаце, англічанін? Няўжо англічанін будзе жыць у сціплай кватэры? Англічане ж здымаюць дарагія салідныя кватэры.

Гаспадар зрабіў ход канем, разлічваючы, што пасля гэтых слоў горды англічанін і яго спадарожніца пакінуць сціплае жытло.

Наташа збянтэжылася. Вочы забегалі, яна ліхаманкава думала, як пасля ганарыстых слоў «ён англічанін» меркаваны высокі статус захаваць і кватэру танную зняць.

— Ён яшчэ студэнт, вось, — знайшлася, нарэшце, і з палёгкай выдыхнула.

— Студэнт? Цікава, і дзе ж ён вучыцца?

— Ён ужо не вучыцца. Ён скончыў Кэмбрыдж. Філолаг.

— Ужо не вучыцца? Значыць павінен недзе працаваць, — настырна выведваў гаспадар.

— Ён практыкант, — адбівалася Наташа.

— Практыкант?! — Гаспадар агледзеў Джона з ног да галавы. — І ў чым жа ён практыкуецца? — перавёў запытальны позірк на Наташу.

Чырвань шыбанула ў твар дзяўчыне. Словы прагучалі двухсэнсоўна. Наташа прыняла іх на свой жаночы рахунак, расцаніла як намёк. Хаця гаспадар нічога такога не меў на ўвазе, яго больш цікавіла плацежаздольнасць пары. Аднак Наташа прыпісала гэтыя словы да іх з Джонам амурных адносін. Тут нічога не зробіш, у каго што ў галаве.

— У рускай мове. Ён вывучае ў нас рускую мову, — адказвала пунсовая Наташа.

— Зразумела, зразумела…

Дзяўчына Наташа пачувала сябе ніякавата: бразнуць бы дзвярмі ды сысці, узяўшы пад ручку англічаніна Джона, але ж танныя кватэры на дарозе не валяюцца.

— І як яго поспехі ў рускай мове? — не сунімаўся гаспадар.

— Толькі пачынае яшчэ вывучаць.

— І колькі будзе вывучаць?

— Паўгода. Можа, год.

Джон сачыў за размовай, бесталкова лыпаючы вачамі, сілячыся штосьці зразумець. Нарэшце, не ўтрымаўся і перарваў святое маўчанне, буркліва спытаўшы ў Наташы нешта па-нямецку. Дзяўчына яму па-нямецку коратка кінула некалькі слоў, каб адчапіцца. Яна была дужа занята размовай з гаспадаром.

Гаспадар не быў паліглотам, да замежных моў ставіўся раўнадушна, але ж ён не быў і ідыётам і нямецкую ад англійскай адрозніць мог. Сітуацыя яшчэ больш заблыталася. Нейкая суцэльная каламуць.

— Кажаце, што Джон англічанін, а размаўляеце з ім па-нямецку. Штосьці я з вамі зусім заблытаўся, — гаспадар паглядзеў на Наташу поглядам, патрабуючым тлумачэння.

— Я не ведаю англійскай мовы. Мы з ім між сабой па-нямецку размаўляем. Я на завочным нямецкую мову вывучаю, — лапатала Наташа.

Гаспадару стала душна. Ён расшпіліў куртку і пахістаў расшпіленымі палавінкамі, абдуваючы сябе паветрам. Батарэі ацяплення пяклі ва ўсю моц, слаўная цёпленькая кватэрка.

Джон стаяў роўненька, апусціўшы рукі на швах, зашпілены на ўсе гузікі, шчыльна заматаны ў шалік-кокан. Англічане не пацеюць. Расчырванелая Наташа і яе англійскі спадарожнік стаялі плячом к пляччу і дзвюма парамі вачэй гіпнатызавалі гаспадара на кватэраздачу.

Павісла няёмкае маўчанне. Гаспадар раздумваў. Парачка яго парадкам азадачыла: і мовы вывучаюць, і вучацца, і практыкуюцца немаведама ў чым. Ці будуць толькі грошы плаціць? Вось — пытанне…

— Так, ладна, засяляйцеся, — рашыўся ён нарэшце.

У гэты самы момант з Наташай адбылася метамарфоза. Нядаўна лапатаўшую языком з чырванню ў твары, сціплую, раз-

губленую Наташу як падмянілі. Пачуўшы патрэбныя ёй словы, адчуўшы, што гаспадар здаўся сам і вырашыў здаць ім кватэру, дзяўчына імгненна акрыяла.

— Толькі я хацела вам сказаць наступнае: мы не можам заплаціць за два месяцы. Мы заплацім толькі за адзін, — пачала гнуць сваю лінію, як і першы раз са зніжкай, напорыста і дзелавіта, з'явілася камандзірская асанка.

Наташа кідала позіркі на Джона, паказваючы, якая яна маладзец. На малым акуратным дзявочым носіку ружовыя тонкія храпкі драпежна надзімаліся. Майстрыца перамоваў.

— Што?! Я ж вам казаў яшчэ па тэлефоне пра папярэднюю аплату. Адзін месяц за пражыванне, другі — у заклад!

Вочы гаспадара акругліліся, здавалася, яшчэ імгненне і ён папросіць публіку вызваліць памяшканне. Постаць Наташы пачала скукожвацца.

— Мы не можам заплаціць за два месяцы літаральна цяпер, у гэту хвіліну, — зноў аднекуль вылузаўся мілы дзявочы голас. — У нас з сабой толькі за адзін месяц, а астатняе… нам трэба ўсяго паўгадзіны, зняць грошы з карткі, і я прынясу за другі месяц… Усё прынясу, — лапочачы, Наташа выцягнула з кішэні загадзя падрыхтаваныя складзеныя напалам зялёныя купюры і працягнула гаспадару, зазіраючы ў вочы, — вось вазьміце, тут роўна за месяц.

Гаспадар узяў аплату без асаблівай радасці. Доўгія высвятленні адносін з кватарантамі яго прытамілі. Наташа мітуслівa выйшла за дзверы, пацягнуўшы за сабой Джона. Наступілі цішыня і спакой. Гаспадар адзін застаўся ў апусцелай кватэры. Ён зняў запарыўшую яго куртку, кінуў на канапу і некаторы час хадзіў па пакою, заклаўшы рукі за спіну. Размераная хада яго супакойвала. Нервы — ні к чорту. Пахадзіўшы пару хвілін туды-сюды, ён прыхапіў з тумбачкі тэлевізійны пульт, трэснуты і залеплены скотчам, рэзкім рухам ціскануў кнопку і стомлена сеў на канапу побач з курткай. З экрана нешта бубнілі, а гаспадар глядзеў на гадзіннік, засякаў абяцаныя паўгадзіны. Паўгадзіны спакою.

Наташа з'явілася праз гадзіну. Хвастом за ёй прыйшоў Джон, ён заўсёды трымаўся крыху ззаду. Дзяўчына без лішніх фокусаў

перадала ўсю астатнюю суму. На сёння яна сябе вычарпала. Аднак у яе быў добры зменшчык. Джон выступіў наперад, горда расправіўшы сваё даўгаватае цела, і падкрэслена ўважліва сачыў за тым, як перадаюцца грошы, з выглядам чалавека, які фінансуе праект на буйную суму, строга падціскаў і без таго вузкія вусны і прыжмурваў вочы.

«Як вы мне ўсе дарагі», — пранікнёна падумаў гаспадар і перайшоў да другой часткі «марлезонскага балета» — папяровай творчасці, перапісаў пашпартныя даныя кватаранткі Наташы. Вобраз Джона, хто ён ёсць на сённяшні дзень, гаспадара кватэры не цікавіў. Джон — чалавек свету: сёння — тут, заўтра — там. Можа быць, ён заўтра з Беларусі надумаецца ехаць у Зімбабвэ… Практыкавацца… Шукай ветру ў полі.

— Мяне завуць Мікалай Пятровіч, — пад канец знаёмства прадставіўся гаспадар і падаў Наташы свой пашпарт. Наташа скрупулёзна вывучала пашпарт, павольна гартала старонку за старонкай, нават зверыла фотаздымак у дакуменце з арыгіналам. Для надзейнасці.

Мікалай Пятровіч перадаў у «надзейныя» Наташыны рукі два камплекты ключоў. Кватэра здадзена. Але палёгкі ад зробленай справы гаспадар кватэры не адчуў. Падхапіўшы з канапы куртку, ён апрануўся, засунуў у нагрудную глыбокую кішэню свой пашпарт і няўпэўненым голасам даў кватарантам дзяжурныя ўстаноўкі:

— Наташа, Джон, размяшчайцеся. Калі ўзнікнуць праблемы з сантэхнікай, з вадой, — тэлефон мой ведаеце, звaніце. Усё вырашым. Калі ласка, прашу вас, без самадзейнасці, усё ўзгадняць са мной.

Унутры ў Мікалая Пятровіча кратаўся і шамацеў чарвячок трывогі.

— Канечне, добра, абавязкова, — дзеля прылікі гаварыла Наташа, заціскаючы ў далоні ключы ад кватэры. Гаспадар ёй замінаў. Усё аплачана, чаго ён тут топчацца? Адчуўшы сябе трэцім лішнім, Мікалай Пятровіч заспяшаўся да дзвярэй.

— Званіце, калі што… — яшчэ раз нагадаў кватарантам на развітанне.

Званок не прымусіў сябе чакаць. Вечарам таго ж дня Мікалай Пятровіч сядзеў перад тэлеэкранам меланхалічны і паўсонны, глядзеў навіны дня. Канал БТ. Мікалай Пятровіч насамрэч любіў гэты канал. Пасля працоўнага дня трэба было расслабіцца і ён, нібыта на сеансе рэлаксацыі, слухаў галасы з тэлевізара: «Паспяхова завяршылася… Дабіліся высокіх паказчыкаў… Прайшло чароўнае свята…».

Паспяхова, чароўнае, высокіх паказчыкаў, — гэтыя словы прыемна лашчылі слых — калыханка для дарослых: «Збеглі воўкі ўсе ў лясы, змоўклі птушак галасы, ты таксама каля жонкі ціха-ціхенька ляжы»…На канапе, заціснуўшыся паміж Мікалаем Пятровічам і мяккім падлакотнікам, ляжаў кот. Тоўсты, вялікі, у шэрую палоску. Задаволены сабой і жыццём, ён утульна скруціўся ў футравы клубок і, прыкрыўшы галаву лапкай, ціхенька драмаў. Гаспадарская рука пяшчотна перабірала на каціным целе поўсць, пачосвала каціную спіну. Кот ледзь чутна мурлыкаў і сніў свае каціныя сны.

Прапіпікаў мабільны тэлефон. Мікалай Пятровіч працягнуў руку, нетаропка узяў мабільнік з журнальнага стала. На тэлефонным экране высвецілася імя «Наташа». Памятаючы нядаўняе засяленне кватарантаў, Мікалай Пятровіч напружыўся і прабурчаўшы: «Ну што там яшчэ?» — націснуў на кнопку злучэння.

— Слухаю вас, Наташа, — без уступнага «ало, добры вечар» сказаў у тэлефон.

Наташа нешта лапатала скорагаворкай. Жонка Мікалая Пятровіча сядзела побач на канапе і бачыла, як муж змяняецца ў твары і паўтарае:

— Не! На жаль, не атрымаецца… Я сказаў — не! Гэта — вашы праблемы, вырашайце самі… Ёсць спецыяльныя службы па перавозцы, таксі, нарэшце… Не! Наташа, я сказаў — не! Усё, да пабачэння!

Жонка запытальна глядзела мужу ў вочы. Мікалай Пятровіч адключыў тэлефон і з грукатам адправіў мабільнік на сваё месца на журнальным стале.

— Ты ведаеш, што наша кватарантка прыдумала?

— Не маю ніякага ўяўлення, — пацiснула плячамі жонка.

— Яна, бачыце, спакавала рэчы для пераезду, і я павінен перавезці іхнія рэчы на сваёй машыне.

— Нішто сабе заявачкі. Ну і кватарантаў ты знайшоў! Чаму б ім не наняць машыну па аб’яве? Перавозчыкаў — колькі хочаш.

— Я ёй тое самае казаў. Дык для яе гэта — дарага! А я, ёй так ўяўляецца, павінен перавезці яе рэчы задарма.

— Слухай, што гэта за Наташка? Дзе ты яе адкапаў?! Хто яна такая? Адкуль? Нейкія дзіўныя паводзіны. Дай-ка мне пачытаць яе дадзеныя, дзе яна нарадзілася?

Мікалай Пятровіч рэзка падняўся з канапы і перарваў каціны сон. Кот насцярожана падняў галаву і агледзеўся навокал, разматаў пухнаты віхлясты хвост і нервова пастукваў ім па канапе. Мікалай Пятровіч хутка пайшоў у пярэднюю па запісную кніжку. Дастаў з кішэні курткі блакнот, у якім кручкаватым неразборлівым почыркам былі выпісаны пашпартныя дадзеныя кватаранткі Наташы. Дакладна разабраць свой почырк мог толькі сам Мікалай Пятровіч. Вярнуўшыся назад у пакой, ён здзіўлена прачытаў услых жонцы, што нарадзілася і жыла Наташа ў вёсцы.

— У вёсцы?! Нешта не вяжацца, — жонка таксама была збіта з панталыку, — нічога не разумею.

Прытуліўшыся да мяккай спінкі канапы, яна скруціла перад сабой рукі і, закінуўшы нагу за нагу, пачала засяроджана думаць. Хістала закінутай зверху на калена нагой, стукаючы заднікам тапка аб пятку. Кот, натапырыўшы вушы, падазрона сачыў за ўзнікшай мітуснёй, а Мікалай Пятровіч цярпліва чакаў, што скажа жонка. Думала яна нядоўга, нешта прыпомніўшы, ўхмыльнулася.

— Б’юся аб заклад, яе бацькі ці настаўнікі, ці ўпраўленчы сельскі апарат, штосьці ў гэтым сэнсе. Ты спытай пры нагодзе. Не, не могуць быць у дачкі механізатара падобныя звычкі, не той фасон! Ты ўжо мне павер. Я да бабулі ў вёску дзесяць гадоў запар кожнае лета ездзіла… На школьныя канікулы. Па тры месяцы на ўлонні прыроды праводзіла. Мясцовых жыхароў і іх норавы ведаю. За ўсіх, канечне, не скажу, людзі розныя, але ж асобныя экзэмпляры сярод дзяцей начальства трапляюцца. Памятаю аднаго хлопца, у яго бацька быў дырэктар школы,

дык той сынуля ўвесь час любому і кожнаму задаваў адно і тое ж пытанне: «А вы ведаеце, хто мой бацька?» І гэта дзяўчына напрактыкаваная. Прыстасавалася даваць аднавяскоўцам «ганаровыя» даручэнні. Яна нават не арыентуецца, каму — можна, каму — не. Звыклася, што не адмаўлялі. Хто ж з вясковых жыхароў захоча з начальствам адносіны псаваць? Ну, Наташка, малайчына! Яна і ў Мінску па той жа схеме працуе. Толькі баюся я, ў сталіцы такія нумары не пройдуць, тут «вумных» і без яе хапае, — падсумавала жонка Мікалая Пятровіча, уздыхнуўшы і развёўшы рукамі.

Мікалай Пятровіч, яшчэ раз праглядаючы запіс у блакноце, мармычучы і кратаючы вуснамі, пачаў прысаджвацца на канапу побач з жонкай. Па пакоі разнёсся каціны енк.

— Мя-я-я-я-я-ў!

— Цьфу ты! Ката ледзь не раздушыў! — узляцеў Мікалай Пятровіч з канапы, спалохана і вінавата азіраючыся на пацярпелага ўкормленага гадаванца.

Кот грузна саскочыў на падлогу. Жонка кінулася да яго са словамі:

— Бедненькі, хадзі я цябе пажалею!

Але кот не хацеў каб яго шкадавалі. Ён ірвануў з-пад жончыных рук наўцёкі, пальцы толькі слізганулі па гладкай поўсці. Энергічна перабіраючы кароткімі лапамі пад тоўстым целам, паласаты даў дзёру з пакоя. Хуткасць была зайздросная…

Мікалай Пятровіч звычайна сустракаўся з кватарантамі пад канец пражытага месяцу і браў аплату за наступны. Аднак на гэты раз на душы ў яго было неспакойна. Прайшоў тыдзень, і ён не выцерпеў, вырашыў нанесці Наташы з Джонам незапланаваны візіт. Будучы па прыродзе чалавекам культурным і выхаваным, аб сваім візіце ён папярэдзіў загадзя.

У прызначаны час, вечарам Мікалай Пятровіч званіў у дзверы кватарантам. Наташа адчыніла яму з дрэнна схаваным незадавальненнем. Коратка павітаўшыся і сказаўшы традыцыйнае: «Як вы тут уладкаваліся?» — Мікалай Пятровіч уцёрся ў кватэру і прычыніўся да яе агляду. Калі б Мікалай Пятровіч быў

пачынаючы кватэраздатчык, яму б стала млосна, але ён меў некаторы вопыт і падрыхтоўку, кватарантаў розных пабачыў і быў гатовы да ўсяго. Аднак Наташа ў канкурэнтнай барацьбе перамагла ўсіх папярэднікаў. Яшчэ ніхто з былых кватарантаў так ліха жылплошчай не распараджаўся. Уся няхітрая мэбля была перацягнута з вугла ў вугал і з месца на месца, на вокнах віселі незнаёмыя Мікалаю Пятровічу шторы ў бабуліны кветкі. Гаспадарскі дыван, скручаны ў рулончык, коса запхнуўся пад канапу, замест дывана падлогу засцілалі тканыя палавікі. Тэлевізар чамусьці стаяў на падлозе, а трохстворчатая непад'ёмная шафа з антрэсолямі перамясцілася да супрацьлеглай сцяны. Па слядах перамяшчэння шафы цягнулася сцежка садранай з падлогі фарбы. Ніколі ў жыцці Мікалай Пятровіч не мог ўявіць, гледзячы на гэтых дваіх худзенькіх субтыльных інтэлігентаў-філолагаў, што яны напару маглі здзейсніць такое, — перасунуць шафу, якую грузчыкі ледзь уцягнулі ў кватэру. Здзейснілі!

— Н-да… — толькі і сказаў Мікалай Пятровіч, агледзеўшы шафу, якая карычневай прамавугольнай гаргарай узвышалася пад самую столь.

Але што больш за ўсё ўразіла Мікалая Пятровіча — гэта вялікі круглы, аплецены тонкімі карычневымі пруткамі, падобны на вароніна гняздо плафон-люстра. Плафон літаральна на сопляху вісеў пад столлю, па-над ім тырчалі абадраныя, перакручаныя электраправады. Так дасягалася ўтульнасць. Гаспадарская трохражковая люстра сіратліва валялася ў куце.

— Дзе шторы? — вымавіў як мага спакайней, каб не зараўці, гаспадар, убачыўшы, што яго маёмасць знікла з акна ў невядомым кірунку.

Наташа тут жа выцягнула з шафы пакет са скамечанымі, скручанымі і ўсунутымі абы-як усярэдзіну шторамі. З аднаго боку раздутага шторамі пакета красаваўся надпіс «З новым годам!». Новы год даўно мінуў, а Наташа захавала пакецік, і вось цяпер ён пайшоў па прызначэнні.

— Вазьміце, яны нам замінаюць, — штуршком уторкнула пакет са шторамі ў рукі гаспадару. — Люстру таксама забярыце і дыван забярыце. У диванах збіраецца пыл. Я гэтага не люблю.

Мікалай Пятровіч адчуў знаёмую нахрапістасць кватаранткі.

— Я падумаю, — стрымана адказаў ён, абдымаючы дзвюма рукамі аб'ёмісты пузаты пакет з навагоднім вітальным надпісам.

Кучаравы Джон стаяў ля пісьмовага стала ў дамашнім адзенні і тапачках, у прыўзнятай руцэ сціскаў за тонкую высокую ножку хрустальны бакал з нарэзаным у шкле штрыхамі-пырскамі малюнкам. На дне бакала зіхацела і пералівалася чырвонае, насычанага колеру віно. Рамантыка… Толькі цяпер Мікалай Пятровіч заўважыў на пісьмовым стале побач з камп'ютарам пачатую бутэльку чырвонага віна і бакалы.

Непадалёку ад бакалаў, на маленечкім кафейным блюдку нахілілася набок ружовая, напалову спаленая аплыўшая свечка… Позірк слізгануў далей і натыркнуўся яшчэ на адзін сюрпрыз: на сцяне, якраз насупраць бутэлькі чырвонага віна, тырчала пачарнелая абвугленая разетка. Двума чорнымі аплыўшымі вокамі яна задзірыста глядзела на Мікалая Пятровіча.

— Гэта што такое?! — змрачнеючы тварам, гаспадар паказаў пальцам на разетку.

— Я якраз хацела вам званіць. Разеткі нікуды не годныя.

Наташа павярнулася да Джона і па-нямецку яму, як мужчыну, патлумачыла: размова ідзе пра электрычнасць. Джон карцінна нахмурыў лоб і выказаў, як мужчына, сваю крытыку.

Мікалай Пятровіч правёў па кватэры агляд бытавой тэхнікі: прасік, СВЧ-печ на табурэтцы, электрачайнік, фен. Гэта яшчэ не ўлічваючы камп'ютар, халадзільнік і тэлевізар.

— Наташа, ты яму перакладзі, — з Мікалая Пятровіча здуло інтэлігентнасць і ён перайшоў на «ты», — перакладзі, як мужыку, што па пяць-сем электрычных прыбораў праз пяцернікі-дзесяцернікі ў адну разетку не тыцкаюць! Вы мне так усю праводку папаліце!

Наташа, нехаця падбіраючы патрэбныя словы, пераклала і данесла да Джона сэнс сказанага. Джон незадаволена насупіўся — ні ценю вінаватасці за сапсаванае гаспадарскае дабро. Пакруціўшы недапітае віно ў хрустальным бакале, ён закінуў назад галаву, зрабіў глыток і паставіў бакал на стол, засланіўшы ім ружовую кранальную свечачку. «Рамантыкі… каб вас… каб

вам…» — напаўнялася патрэбнымі думкамі галава Мікалая Пятровіча, а ўнутры ўсё кіпела.

— Наташа, я цябе прашу, сачы за сваім сябрам. У адну разетку ўключаць па два прыборы — не больш. Папаліце астатнія разеткі — будзеце сядзець без электрычнасці!

Наташа маўчала. Крытыка ўспрымалася з цяжкасцю. Ружовыя храпкі зноў надзімаліся.

Мікалай Пятровіч падняў з падлогі трохражковую люстру і закінуў яе ў высокую антрэсоль шафы. На кухню ён так і не зайшоў, не было ніякага жадання. Бярог нервы…

Дадому гаспадар кватэры вярнуўся позна, патрапіў у аўтамабільны затор. Жонка чакала з роспытамі. Выглянуўшы з кухні ў пярэднюю, дзе Мікалай Пятровіч стомлена скідаў абутак яна адразу спытала:

— Як там нашы кватаранты?

— Як заўсёды — абжываюцца, — абцякальна адказаў Мікалай Пятровіч, не хацелася размаўляць і яшчэ раз абмяркоўваць убачанае.

— Распранайся, ідзі вячэраць, — вырашана было спачатку накарміць мужа.

Мікалай Пятровіч хвіліну пасоўгаўся ў пярэдняй, зняў вопратку і зазірнуў на кухню. Адной рукой ён абапёрся аб дзвярны вушак, а ў другой, інтрыгуючы, круціў пакет.

— Што ў цябе за пакет у руках?

Жонка пакінула расстаўляць вячэру на кухонным стале і падышла да дзвярэй.

— Табе пакет. Навагодні падарунак, — Мікалай Пятровіч, карцінным жэстам, пяшчотна трымаючы раздзьмуты пакет у выцягнутай наперад руцэ, перадаў яго жонцы .

Супружніца ўзяла пакет, недаўменна пазіраючы на мужа. Той усміхнуўся.

— Распакоўвай, Вольга Анатольеўна, убачыш. Гэта сюрпрыз.

Жонка расхінула ручкі хрусткага, шамоцячага пакета і, убачыўшы там запхнутыя шторы, пачала іх выцягваць.

Штора змяёй вылазілі на волю, спускала атласны хвост на кухонную падлогу. Вольга Анатольеўна не ўтрымала яе і ўпу-

сціла пад ногі, і яна шырокай лужынай распаўзлася па кухні. Прыйшлося нахіляцца і падымаць. Падняўшы, разгарнула штору перад сабой і скептычна разглядала, у што яна ператварылася.

— Няможна было акуратна скласці?.. Та-а-к. Гняздзечка, значыць, сабе абсталёўваюць.

З навагоднім пакетам Вольга Анатольеўна атрымала адказ на ўсе свае пытанні без залішняй у гэтым выпадку мужавай справаздачы…

Прайшло яшчэ тры тыдні. Мікалай Пятровіч вечарам зайшоў да кватарантаў па аплату за чарговы месяц. Наташа сама прызначыла час сустрэчы, але па прыходзе Мікалай Пятровіч знайшоў, што ні Наташы, ні Джона на месцы няма. Патаптаўшыся ля дзвярэй кватэры і пазваніўшы безвынікова ў кватэрны званок некалькі разоў, ён спусціўся ўніз у двор і з вуліцы агледзеў вокны кватэры. Фортка ў акне была адчынена. З балкона праз фортку можна было лёгка залезці ў кватэру якому-небудзь выпадковаму злодзею. «Што за безалабернасць? — раздражнёна падумаў Мікалай Пятровіч. — Яшчэ абкрадуць кватэру».

Наташа са сваім сябрам Джонам спазніліся на паўгадзіны. Ішлі размеранай хадой, не спяшаліся. Мікалай Пятровіч, вызваліўшы з-пад рукава курткі напічканы функцыямі буйны гадзіннік на металічным браслеце, указальна пастукаў па яму пальцам, намякаючы на спазненне.

— Мы былі занятыя важнымі справамі, — спакойна адказала Наташа.

Хто б сумняваўся.

Апранутая і гэтым разам Наташа была ў сваім стылі ў мешкаватыя рэчы. Такое адчуванне, што дзяўчына ўвесь час рыхтавалася да паходу па далінах і гарах. Джон, як звычайна, стаяў закручаны ў шалік па самыя вушы. Праўда, шалік змяніў свой колер.

— Ну, як справы па вывучэнні рускай мовы? — паходу, падымаючыся па лесвіцы ў кватэру, падкавырыста спытаў Мікалай Пятровіч.

— Руская мова цяжкая для вывучэння,— удакладніла Наташа, яна заўсёды адказвала за Джона, была яго прэс-сакратаром.

— Як справы, Джон? — праігнараваўшы Наташын адказ, Мікалай Пятровіч звярнуўся наўпрост да яе англійскага сябра.

Джон, не разумеючы, лыпаў вачамі. За месяц не надта прасунуўся. Дзе ж яму тую мову вучыць? Наташа цягала яго паўсюль за сабой, аберагаючы ад шкоднага ўплыву мясцовых прыгажунь.

У кватэры выявілася ўсё тая ж абстаноўка. Гэтым разам Мікалаю Пятровічу візіт даўся лягчэй. Ён зміргыўся. Толькі сумна агледзеў пад нагамі крывую сцежку садранай фарбы і прыкінуў, што падлогу прыйдзецца падфарбаваць.

Наташа разбіралася з камуналкай. Трымаючы ў руках ЖЭСаўскія квітанцыі, доўга, нудна тлумачыла па-нямецку Джону кошты на паслугі. Ён засяроджана ўглядаўся ў паперку, робячы выгляд, што нешта разумее ў тых лічбах, коштах і кілакалорыях, ў якіх і беларусу без паўлітры не разабрацца. У пераліку набягала прыблізна дваццаць долараў. Джон выцягнуў з кашалька зацёртую хілую дваццацідоларавую купюру і важкім рухам худой далоні працягнуў Мікалаю Пятровічу, быццам даваў не дваццаць, а пяцьсот. У руках Джона кошт кожнага долара нймаверна ўзрастаў. Утваралася адчуванне, што ўпершыню долары ў нашай краіне з'явіліся з прыездам англічаніна Джона.

«Ну і парачка! — падумаў Мікалай Пятровіч. Спачатку засялення яны злавалі яго, а цяпер пачалі забаўляць. — Цуда ў пёрах!»

— А за арэнду? — спытаў гаспадар. — Дзе грошы за арэнду?

— За арэнду?.. — залапатала Наташа. — Ах да, яшчэ за арэнду, — быццам бы толькі што ўспомніла яна пра астатнюю аплату і дастала падрыхтаваныя купюры з кішэні.

Мікалай Пятровіч нават не раззлаваўся, чаго-небудзь прыблізна такога ён і чакаў.

— Чаму не закрываеце фортачку? — гаспадар перайшоў да бытавых пытанняў.

— Джон любіць свежае паветра, — патлумачыла Наташа.

Пачуўшы сваё імя, Джон асцярожна перапытаў, аб чым размова. Наташа хуткастрэльна пераклала. Джон заківаў нястрыжанай,

кучаравай галавой, тырчаўшай над любімым шалікам: ес, ес! Ён любіць свежае паветра.

— Глядзіце, а то залезе хто чужы праз фортку ў кватэру. Тады не жальцеся, што камп'ютар у вас быў ці яшчэ што скралі.

Наташа была непрабівальная. Пустымі вачамі яна глядзела на гаспадара. Мікалай Пятровіч зразумеў — фортка і надалей будзе адкрытая. Наташа ўсё будзе рабіць толькі так, як яна хоча і — не інакш.

Ужо адыходзячы з кватэры, Мікалай Пятровіч узгадаў сваю даўнюю размову з жонкай і, крута павярнуўшыся ад дзвярэй да Наташы, спытаў:

— Наташа, скажы, твае бацькі настаўнікі?

Мікалай Пятровіч, можа не агаломшыў Наташу сваім пытаннем, але блізка каля гэтага.

— А адкуль вы ведаеце?

— Ды так. Здагадаўся.

— У мяне, праўда, толькі мама — настаўніца. Бацька — галоўны аграном.

— Я так і думаў.

— А як вы здагадаліся? — дапытвалася Наташа.

— Ды гэта няважна.

— Не, вы скажыце, — Наташа настырна настойвала на сваім.

— Інтуіцыя, — абцякальна патлумачыў Мікалай Пятровіч.

Наташа так і не дамаглася ад яго адказу.

Развіталіся ненадоўга. Праз тры дні Наташа паведаміла, што яна сядзіць у кватэры без святла. Яшчэ да таго, як пачуць навіну, калі Мікалай Пятровіч убачыў на тэлефоне пазначанае імя «Наташа», у яго прыліла кроў да твару, падняўся ціск і пайшоў моцны выкід адрэналіну. Арганізм не памыляўся…

Прыехаўшы да кватарантаў, Мікалай Пятровіч убачыў круглы вялікі любімы Наташын плафон-гняздо на падлозе, а электраправодка, на якой ён раней матляўся і якая давала жаданае святло, была выгрызена пад самую столь.

— Ведаеце, у нас тут былі праблемы з лямпачкай, я знаёмага папрасіла, каб паправіў. Ён нам дапамагаў рамантаваць, — пачала Наташа здалёку апавядаць легенду. — Праводка нікуды не

годная, — гаварыла яна, падымаючы вочы пад столь туды, дзе некалі красавалася люстра.

Джона ў кватэры не было. Наташа старанна пераводзіла стрэлкі на нейкага міфічнага майстра-ламайстра. Аднак Мікалай Пятровіч падазраваў, што Джон прыклаў тут свае «залатыя» рукі. Каб ён быў на месцы, Мікалай Пятровіч напэўна ўзарваўся б. Але, на сваё шчасце, Наташа круцілася ў кватэры ля плафона-гнязда адна. Мікалай Пятровіч не ваяваў з жанчынамі, хаця некаторыя прасілі. Ён чарговы раз пашкадаваў Наташу і вырашыў даць жыльцам святло.

— Я выклікаў электрыка з ЖЭСа, за выклік аплаціце самі.

Пачуўшы словы гаспадара, Наташа стала строгая. У яе на гэты конт было сваё асабістае меркаванне.

— Вы павінны самі зрабіць нам люстру. Мы ж вам плацім за кватэру…

Наташа хацела яшчэ нешта дадаць, але абсеклася. Выгляд гаспадара не заахвочваў да дэбатаў.

— Добра, я заплачу, выклікайце электрыка.

Словы даліся Наташы з цяжкасцю. Плаціць не хацелася.

Электрык з’явіўся надзіва хутка. Пашанцавала. Якраз быў свабодны і адразу прыйшоў на выклік. У брудных ботах ён імкліва і бесцырымонна пайшоў па Наташыных палавіках, збіваючы ботамі іх прамалінейнасць. Кватарантка паморшчылася.

— Што здарылася ? Та-а-к, бачу, — электрык сам сабе задаў пытанне і сам адказаў. — Цягніце стол у цэнтр, — раздаваў спешныя каманды.

Ён бруіў энергіяй. Так паводзяць сябе людзі, у якіх на дзень запланавана дзесяць спраў і якім няма калі рассусольваць. У запале, падбухтораны электрычнай энергетыкай электрыка, Мікалай Пятровіч памкнуўся загадаць Наташы цягнуць разам з ім стол, але, агледзеўшы яе шчуплую танклявую постаць, гэтак жа хутка перадумаў. І наогул, неяк не па-джэнтльменску, маючы ў наяўнасці дваіх мужчын, прымушаць жанчыну цягаць мэблю.

— Давайце з вамі стол паднясём, — папрасіў гаспадар электрыка, падышоў збоку да стала і падклаў пальцы пад сталешніцу.

— А давайце!

Электрык згодна ўхапіўся за другі край. Мужчыны пацягнулі стол, блытаючыся ў палавіках. Падцягнулі ў сярэдзіну пакоя і паставілі пад дзіркай у столі. Электрык хацеў проста ў сваім працоўным абутку не першай свежасці залезці на стол. Наташа ўбачыла пагрозу.

— Стойце, стойце! Я газету падсцялю! — спыніла электрыка і хутка перамясцілася да шафы.

Парыўшыся па-крацінаму сярод рэчаў, кватарантка выцягнула на святло стос старых газет, запасліва прывезеных на кватэру разам з іншым скарбам. Электрык нехаця пачакаў, пакуль стол засцілаўся мінулагоднімі газетамі, цяжкавата на яго ўзлез і пачаў разбірацца з праводкай. Стоячы на стале і выкалупваючы з-пад столі кончыкі правадоў, ён брудна лаяўся і ўвесь час дапытваўся, які ёлупень гэта зрабіў. Мікалай Пятровіч і Наташа, задраўшы ўверх галовы, сачылі за рукамі электрыка. На твары Мікалая Пятровіча лунала ледзь заўважная задаволеная ўсмешка. Прыемна бывае часам чужымі вуснамі выказаць свае думкі. Ён паглядаў на Наташу, патаемна думаючы: «Ну што — атрымала». Наташа стаяла з каменным тварам, на якім нічога не адбівалася.

— Дык хто ўсё ж такі гэта сатварыў? — дамагаўся электрык праўды.

Мікалай Пятровіч зманіў, што кватаранты выклікалі спецыяліста. Ды вось не атрымалася.

— Спецыялісты! Я б такім спецыялістам рукі б паадкручваў і к ж… пріставіў, — не саромеўся ў выразах электрык.

Ён крактаў і пыхцеў, задраўшы над галавой рукі, калі рукі зацякалі, апускаў іх уніз, размінаў пальцы і зноў браўся за працу. Пад нагамі круціліся і камячыліся, шамацелі, прыціснутыя падэшвай, старонкі газет. Пры дапамозе інструментаў і нейкай «мацеры» электрык прымацаваў пад столлю родную трохражковую гаспадарскую люстру з трыма туманна-белага шкла плафонамі ў выглядзе пяціпялёсткавых кветак. Як толькі люстра стала на месца, у Мікалая Пятровіча паспакайнела на душы. Ён строга-настрага загадаў Наташы, каб яна разам з Джонам блізка не дакраналіся да асвятляльных прыбораў, а свой любімы плафончык-гняздо прыбрала з яго вачэй.

— Ну вось, парадак, — электрык саскочыў са стала, спрытна перамясціўся да выключальніка і шчоўкнуў ім туды-сюды, упэўніўся — люстра працуе. Самому не верылася, што ўдалося разабрацца з праблемай.

— Спецыяліст… трапіўся б мне той спецыяліст, я б яму сказаў… Плаціце за працу.

Электрык па чарзе глядзеў то на Наташу, то на Мікалая Пятровіча, не ведаючы, хто плацельшчык. Наташа, убачыўшы, што праблема вырашана, святло ёсць, нецярпліва праходзілася па кватэры. Ёй пачалі ўсе замінаць — і электрык, і гаспадар. Неахвотна дастала грошы з кашалька, разлічылася. Электрык учэпістай рукой ухапіў аплату, сунуў у кішэнь і вельмі хутка сышоў, нібыта выпарыўся. Мікалай Пятровіч, застаўшыся сам-насам з кватаранткай, хацеў ёй яшчэ нешта сказаць, але запнуўся.

Звычайная фраза «Званіце, калі што» таксама не падыходзіла. Менш за ўсё ён хацеў, каб яму званіла Наташа.

— Ладна. Я пайшоў. Да пабачэння, — развітаўся Мікалай Пятровіч і збег літаральна ўслед за электрыкам.

Наступіла зацішша. Амаль цэлы месяц спакою. Спачатку Мікалай Пятровіч нерваваўся, успамінаючы сустрэчы з кватарантамі і баючыся, што зноў нешта ўтвораць, але паступова ён супакоіўся і нават забыўся пра былое і стаў думаць, што ўсё нармальна, кватаранты як кватаранты і можа ў нечым сімпатычныя, і Наташа — нічога, і Джон —малайчына. Што толькі не зробіць з чалавекам месяц цішыні і спакою…

Намячалася новая сустрэча. Пад канец месяца Мікалай Пятровіч пазваніў Наташы і ўзгадніў час іхняга спаткання, трэба было забраць арэндную плату за наступны месяц. Прыехаў на кватэру ў прызначаны час. Наташы зноў не было, і фортка зноў была адчыненая. Сёння Мікалай Пятровіч прыехаў на сустрэчу з кватарантамі не адзін, а са сваёй палавінай — Вольгай Анатольеўнай. І цяпер яны ўдваіх сядзелі на лавачцы ля пад’езда і цярпліва чакалі.

Сонца садзілася за дах суседняга дома. Ціхі прыемны вечар, цёплае бязветранае надвор’е. Чыстае, ні хмурынкі, неба, аздобленае прамянямі заходзячага сонца, надавала вечару асаблівае

хараство. Дзень значна пабольшаў. Халодныя ранне-веснавыя дні адыходзілі, на вуліцы пацяплела. Тут, каля пад’езда, было зацішна і ўтульна.

У двары ў пясочніцы гуляў з цацачным самазвалам хлопчык гадоў трох у сінім камбінезончыку. Заняты перавозкай пясчаных грузаў, ён старанна загружаў пяском машыну. Крыху чарпануўшы пяску на край неглыбокага лялечнага шуфліка, падносіў шуфлік да кузава і высыпаў раўчуком пясок. З пагрузкай дапамагала бабуля. Нахіліўшыся над унукам, яна паказвала, як трэба працаваць, зачэрпвала запасным мініяцюрным шуфлікам поўна з каптуром пяску і высыпала ў самазвал, потым выпроствалася і папраўляла на носе споўзшыя акуляры. Малы, высыпаўшы чарговы няпоўны шуфлік, правіў грудок дзіцячай пухлай далонькай, прыплескваючы яго зверху.

У мітуслівым гарадскім жыцці рэдка выдаюцца дні, калі можна спакойна пасядзець каля пад’езда, паглядзець, як сонца садзіцца за суседні дом, а ў пясочніцы гуляюць дзеці. Кватарантка Наташа арганізавала Мікалаю Пятровічу з жонкай паўгадзіны рэлаксацыі — яна, як заўсёды, спазнялася…

З-за вугла дома, што хаваў за сабой сонца, вынырнулі два чалавекі і, прайшоўшы паўз крайні пад’езд, выйшлі на тратуарную сцяжынку. Джона Мікалай Пятровіч пазнаў адразу па нястрыжаных кучаравых валасах, а вось дзяўчына… Наташа, не Наташа? У кароткай спадніцы, аблягаючым танклявы стан прыталеным жакеце, туфлі на высокіх абцасах. Палавінка сонца над домам свяціла акурат у вочы Мікалаю Пятровічу, сляпіла і не давала як след разгледзець людзей, што крочылі пад промнямі. Пара падышла зусім блізка. Усё ж такі — Наташа, разгледзеў Мікалай Пятровіч. Што гэта з ёй сёння? Сама элегантнасць. Можа сонца падзейнічала, ці злодзеі скралі любімае скаўцкае адзенне. І толькі распушчаныя светлыя валасы засталіся нязменнымі… Німфа…

Падняліся ў кватэру. Мікалай Пятровіч з палёгкай адзначыў, што гаспадарская люстра вісіць на сваім месцы пад столлю. Усё астатняе таксама засталося без змен. Фу! Палягчэла!

Наташа знаходзілася пад уздзеяннем свайго новага вобразу, далікатна ступала вузкім абуткам на высокіх абцасах па падлозе і гэтак жа далікатна залезла ў Джонаў кашалёк, як толькі той выставіў яго перад сабой. Пашнарыўшы пальчыкамі, дастала долары са скуранога прадаўгаватага партманета, і перадала аплату гаспадару, чым нямала ўразіла Джона. Ён і рот адкрыць не паспеў, як купюры апынуліся ў Наташыных руках, а пасля ў руках гаспадара. Джон яшчэ раз зазірнуў у партманет, грошай там паменела.

Правёўшы Наташу абалдзеўшым, разгубленым позіркам, ён схаваў свой кашалёчак у кішэню пінжака ад граху падалей.

Вось і слаўна. Вечарок удаўся не бяды. Мікалая Пятровіча пацягнула на лірыку.

— А вы даўно знаёмы з Джонам? — спытаў у Наташы.

Пытанне выклікала ў яе лёгкае здзіўленне, але гэта тэма была для Наташы прыемнай і яна з гатоўнасцю адказала.

— Амаль паўтара года. Мы пазнаёміліся ў Германіі на моладзевым злёце.

— А сюды ў Мінск як ён трапіў?

— Таксама па моладзевым абмене.

Жонка Мікалая Пятровіча цішком разглядала кватарантаў. Да гэтага часу яна не вымавіла ніводнага слова, чакаючы, пакуль муж разбярэцца з фінансавымі справамі. Сёння Вольга Анатольеўна напрасілася паехаць разам з мужам, каб паглядзець, што творыцца ў кватэры. Па шчырасці, кватэра яе хвалявала мала. Больш карцела паглядзець на кватарантаў. Прыродная жаночая цікаўнасць не давала спакою. У Вольгі Анатольеўны падрасла дачка, вучаніца старэйшых класаў. У гэтым годзе заканчвала школу. Маці ўжо не раз рабіла ліслівыя захады адносна амурных спраў дачкі, падбіралася да яе з нязменным пытаннем: «Кацярынка, у цябе ёсць мальчык?». А тут такая нагода, паглядзець на Наташу і яе «мальчыка». У Вольгі Анатольеўны і Мікалая Пятровіча са старэйшым сынам усё неяк само сабой уладкавалася, бацькі маглі пахваліцца яго жанатасцю, у перспектыве чакаліся ўнукі. Цяпер на падыходзе ў нявесты была дачушка. Вольга Анатольеўна старанна вывучала гэты кірунак… Хаця

бытавая абстаноўка ў кватэры яе цікавіла мала, не за гэтым сюды прыехала, яна ўсё ж такі дзеля парадку пахадзіла па кватэры, паглядзела, як і што, і цяпер стаяла побач з мужам, чакаючы зручнага моманту для размовы, і ён, момант, надышоў. Без усялякай падрыхтоўкі проста ў лоб Вольга Анатольеўна задала кучараваму Джону для затраўкі, як ёй падалося, нейтральнае пытанне:

— Джон, як пажывае англійская каралева?

Джон паглядзеў на Наташу, поглядам пытаючыся пра што гаворка.

Вольга Анатольеўна дадаткова патлумачыла:

— У газетах і часопісах шмат пішуць пра англійскую каралеўскую сям'ю, пра прынцаў-спадкаемцаў.

Наташа залапатала па-нямецку, перакладаючы Джону. Яго веданне рускай, здаецца, так і не скранулася з месца. Джонавы бровы здзіўлена папаўзлі ўверх.

Вольга Анатольеўна чакала адказу. Нашто ёй была тая англійская каралева, каб хто папытаўся?

Не доўга думаючы, Джон адказаў, а Наташа пераклала:

— Яму няма ніякай справы да англійскай каралевы і прынцаў. У іх — сваё жыццё, у яго — сваё.

— Ясна, — расчаравана ўздыхнула Вольга Анатольеўна. — Калі вяселле? — наступнае пытанне адрасавалася Наташы.

Наташа ад нечаканасці сумялася. Чырвань шыбанула ў твар, дзяўчына стала пунсовая, нібы мак. Джон усё з тымі ж прыўзнятымі брывамі і недаўменным тварам глядзеў на пунсовую Наташу. Збітая Вольгай Анатольеўнай з панталыку, пераважна злабнаватая і дзелавая Наташа пакорліва выдавала адказы:

— Бацька яго ўжо цяпер зяцем называе.

— А Джон і бацьку твайго ведае? — на кароткай назе, быццам Наташа вырасла на яе вачах і была ёй як родная, вяла размову Вольга Анатольеўна.

— Так, канечне, ведае. Мы ездзілі некалькі разоў да мяне ў вёску.

— У нашу вёску?! Без падрыхтоўкі?! Наташа, ты рызыкавала, ён жа мог уцячы! — запалялася Вольга Анатольеўна.

— А што такога? У нас ў вёсцы асфальт на вуліцах ляжыць, катэджы.

— Багатая, значыць, вёска.

— Так. У нас прыгожа. І дом культуры ёсць.

— Дом культуры — гэта добра… І як твайму сябру ў гасцях спадабалася?

— Спадабалася. Бацька з ім у лазні парыўся, самагонкай частаваў. Мама ў мяне добра гатуе.

— А вёска ваша дзе знаходзіцца? — распытвала Вольга Анатольеўна, не даючы Наташы не хвіліны перадыхнуць.

— У Брэсцкай вобласці.

Мікалай Пятровіч з Джонам моўчкі стаялі ў кватэры дзеля мэблі. Жанчыны, захопленыя размовай пра сваё, жаночае, іх не заўважалі. Мікалай Пятровіч заўсёды дзівіўся сваёй жонцы. Як гэта людзі, з якімі яна размаўляла літаральна пару хвілін, выкладалі ёй усё пад чыстую і ніякіх намаганняў і хітрых захадаў пры гэтым яна не рабіла. Можа, справа была ў той непадробнай шчырасці, з якой Вольга Анатольеўна цікавілася чужым жыццём?

— А дзе ў Англіі Джон жыве, напэўна, у Лондане? — задушэўна працягваючы размову, выказала здагадку Вольга Анатольеўна.

— Ды не, не ў Лондане.

Наташа здагадку Вольгі Анатольеўны не пацвердзіла, прыйшлося высвятляць далей.

— Ты мне скажы, у якім горадзе, я дома вазьму карту і пагляджу на карце, у якім месцы гэты горад у Англіі знаходзіцца.

— Вы ведаеце, яго няма на карце. Гэта маленькі горад. Ён не пазначаны на карце.

Наташа за гэтымі словамі нешта хавала. Што ж гэта за такі маленькі горад, не пазначаны на карце? Вольга Анатольеўна задаволілася, нарэшце, няпоўнымі геаграфічнымі звесткамі з вуснаў Наташы і пераключылася на Джона.

— Я б хацела ў Джона спытаць, калі ён збіраецца афіцыйна жаніцца.

Наташа, як загіпнатызаваная, пераклала яму слова ў слова.

У Джона на твары не здрыгануўся ні адзін мускул, толькі ў вачах з’явіўся нейкі тупаваты выраз. Трымаўся ён добра. Моцны арэшак.

— Гэта сур’ёзная справа і патрабуе сур’ёзнага падыходу, — пераклала Наташа яго адказ.

— Само сабой, — сказала Вольга Анатольеўна, працяглым поглядам разглядаючы Джона.

Джон, падобна школьніку, які хоча збегчы з кантрольнай па фізіцы, адвёў позірк і пачаў вывучаць малюнак на шпалерах. Вольга Анатольеўна яшчэ некаторы час свідравала вачамі яго даўганосы профіль.

— Ну, добра. Забалбаталіся мы з вамі. Нам — пара. Мікалай, ты разабраўся з платай за кватэру? — успомніла Вольга Анатольеўна, чаго яны з мужам сюды прыехалі.

— Разабраўся. Усё нармальна.

— То пойдзем…

У машыне жонка мітынгавала.

— Ну ты бачыў гэтага Джона? Яго ўжо і ў лазні мылі, і самагонкай адпаівалі. А ён дурня з сябе курчыць! Як пра вяселле, то ён: «Мая твая не панімаць». І пра што толькі Наташа думае?! Гады ж ідуць!

— Наташа думае пра Джона. Мясцовы Пеця — ёй не па носе. Вось няхай і круціцца.

— О! Гэта яна ўмее, — падхапіла Вольга Анатольеўна. — Ты чуў, як яна мне расказвала, што Джон паходзіць з горада, якога няма на карце? Я думаю, што гэты горад называецца сяло. Сяло, яно і ў Афрыцы — сяло.

— Ты хацела сказаць у Англіі, — папраравіў жонку Мікалай Пятровіч.

— Няхай сабе ў Англіі. Сяло, яно і ў Англіі — сяло. І чым яму, скажы, Наташа не падыходзіць? Ён — з англійскага сяла. Яна — з беларускага. Чаго ён носам круціць?

— Табе што да гэтага? Няхай жывуць як хочуць. Кватэру бачыла? Разеткі папалілі, правады паабдзіралі. Я за краны баюся — каб чаго не ўтварылі, — Мікалай Пятровіч паспрабаваў вярнуць жонку да зямных спраў.

— А-а-а, краны. Я думаю ўсё будзе ў парадку, — Вольга Анатольеўна нехаця падтрымала нецікавую ёй тэму і зноў узялася за сваё. — Не разумею я сучасных дзяўчат. Нашто ім гэта марока. Нам у маладосці сваіх хлопцаў хапала. А гэтыя ўсё па злётах шастаюць. Замежных жаніхоў вышукваюць.

— Паслухай, дай спакою. Мне машыну весці трэба.

Мікалай Пятровіч вырульваў у шчыльнай плыні аўтамабіляў. Машыны ціснуліся адна ля адной, абганялі, пранырліва віхлялі з боку ў бок. Ездзіць у горадзе станавілася ўсё цяжэй і цяжэй. Мікалай Пятровіч стамляўся за рулём. Гэтая язда часам ператваралася ў суцэльную муку. Хацелася хутчэй дабрацца дадому. Спыніўшыся на чырвонае святло святлафора, Мікалай Пятровіч скарыстаў хвіліну перадышкі.

— Ты пра сваю дачку думай. Зараз у інстытут пастуціць і пачне ныць, каб адправілі на курорт у Еўропу: «Дзяўчынкі ўсе ездзяць, а я што — не магу?» Тады запяеш.

Вольга Анатольеўны прамаўчала. У глыбіні душы яна падзіцячаму верыла: яе Кацярынка — не такая.

Загарэлася зялёнае святло, і аўтамабільная плынь панесла аўтамабіль еўрапейскай вытворчасці, у якім сядзелі Вольга Анатольеўна з Мікалаем Пятровічам, у гарадскую мітусню…

Мінуў амаль месяц. Сёння ў апошні дзень працоўнага тыдня Мікалай Пятровіч прыйшоў дадому позна. Затрымаўся на працы. Трэба было падцягнуць такія-сякія справы. Жонка з дачкой яго не дачакаліся, павячэралі. Вольга Анатольеўна падала мужу на стол бульбянoе пюрэ з катлетамі і пабегла ў залу глядзець мастацкі фільм пра каханне. Гаспадар сядзеў на кухні адзін, жаваў гарачую катлетку і абдумваў планы на выходныя. Яму падабалася сённяшняя адзінокая вячэра. Размаўляць ні з кім не хацелася. За тыдзень так на працы наразмаўляўся, што язык не варочаўся. Мікалай Пятровіч працаваў начальнікам аддзела не важна чаго. Колькі такіх аддзелаў па ўсёй краіне — не злічыць: аддзел таго, аддзел сяго. І працаўнікі ў тых аддзелах абавязкова нечым занятыя: носяць паперы на подпіс, перакладаюць з месца на месца дакументы, зводзяць балансы, пішуць справаздачы. Прыбытку не маюць, затое — усе пры справе.

Мікалай Пятровіч налягаў на вячэру, уяўляючы, як ён заўтра адаспіцца, а потым зоймецца чым-небудзь прыемным. «Чым бы заняцца?» — разважаў Мікалай Пятровіч. На гэтай мажорнай ноце думкі яго нетактоўна перарваў званок мабільнага тэлефона. Мікалай Пятровіч нехаця падняўся з-за стала і пайшоў у пярэднюю, на хаду перажоўваючы катлету. У пярэдняй у кішэні пінжака намацаў мабільны тэлефон, выцягнуў яго на святло. На экране тэлефона зіхацеў «любімы» надпіс «Наташа».

— Наташа, радасць наша, — праглынуўшы пражаваную катлету, прабурчаў Мікалай Пятровіч сам сабе.

Мікалаю Пятровічу не хацелася размаўляць з Наташай. Ён памарудзіў, прапусціў некалькі званкоў. Званкі настырна паўтараліся.

— Слухаю цябе, Наташа, — Мікалай Пятровіч прыклаў мабільны тэлефон да вуха.

Па тым, як Наташа лапатала ў трубку, Мікалай Пятровіч здагадаўся: ім ёсць аб чым пагаварыць. У сваім уступным слове яна паведамляла, што іх з Джонам цэлы дзень не было дома, яны затрымаліся і толькі цяпер зайшлі ў кватэру…

— І што? — суха перапыніў Мікалай Пятровіч доўгую прадмову. — Наташа, давай па справе.

— Фортачка разбілася. Я толькі што сабрала шкло. Трэба нашкліць. Мы ж не можам жыць з разбітай фортачкай.

Мікалай Пятровіч папярхнуўся і глуха, адрывіста закашляўся, на вачах выступілі слёзы.

— Наташа, я цябе прасіў… кх… кх… каб зачыняла фортачку, — скрозь перахопліваючы дыханне кашаль нагадваў Мікалай Пятровіч зусім непатрэбную Наташы інфармацыю.

Наташа яго не чула. У яе была асаблівая ўласцівасць слыху — чуць толькі тое, што яна хоча пачуць.

— Калі вы прыедзеце нашкліць? Мы ж не можам жыць з разбітай фортачкай, — паўтарала Наташа.

— Сёння ж ноччу я не паеду да вас. Заткніце дзірку якой падушкай. Заўтра выхадны, прыеду з раніцы. Будзем разбірацца.

— У мяне няма чым заткнуць. Я не ведаю, як гэта зрабіць.

Мікалая Пятровіча падняло, ледзь стрымаўся. Каб Наташа была мужчынам, ён сказаў бы ёй, якім месцам заткнуць фортачку, але шматгадовая праца ў аддзеле навучыла быць стрыманым. Ён не мог такога сказаць жанчыне. Адкашляўшыся, сказаў зусім іншае:

— Калі няма чым заткнуць, пабудзьце нейкі час без шкла. Джон жа любіць свежае паветра, — Мікалаю Пятровічу не ўдалося да канца праявіць вытрымку, і ён уставіў шпільку аматарам свежага паветра.

Наташа маўчала і сапла ў трубку тэлефона. Мікалай Пятровіч уяўляў, як злосна надзімаюцца яе храпкі, і суцяшаў сябе тым, што хаця б не бачыць выразу яе твару.

— Я прыеду заўтра а дванаццатай гадзіне. Будзеце дома?

— Я буду на месцы, — цвёрда адказала Наташа.

— Цудоўна, значыць дамовіліся. Да пабачэння.

Мікалай Пятровіч адключыў тэлефон. Апетыт прапаў. Недаедзеная вячэра стыла на кухонным стале…

У суботу роўна ў дванаццаць гадзін Мікалай Пятровіч прыехаў да кватарантаў. Абодва галубы былі на месцы. Джон у сваім нязменным амплуа з маскай заклапочана-засяроджанага выгляду, зводзячы бровы к носу, сачыў за Наташай і гаспадаром кватэры. Наташа, хуткасна павітаўшыся, адразу павяла Мікалая Пятровіча да разбітай фортачкі. Па дарозе да месца здарэння Мікалай Пятровіч высвятляў сітуацыю.

— Так, расказвайце, як гэта адбылося, чаму шкло разбілася?

Наташа адкрыла рот, каб адказаць, але не паспела. Мікалай Пятровіч яе апярэдзіў.

— Хаця можаце не расказваць. Я вам сам раскажу, — стоячы ля акна, асветлены праз шыбу сонечнымі промнямі, пачаў ён апавядаць. — Вы прыйшлі дамоў, адчынілі ўваходныя дзверы, утварыўся скразняк, фортка з размаху стукнулася аб акно і шкло разбілася… Я вам колькі разоў казаў, каб не пакідалі на дзень адкрытую фортачку? — з дакорам глядзеў Мікалай Пятровіч на кватарантку.

Словы гаспадара заляцелі да Наташы ў адно вуха, а вылецелі праз другое, не пакінуўшы ніякага знаку ў свядомасці. Нявінным галаском яна расказала сваю гісторыю няшчаснай фортачкі:

— Ведаеце, шкло на фортачцы было вельмі дрэнна замацавана. Я толькі дакранулася да яе рукой, хацела закрыць, а шкло вывалілася проста мне пад ногі. Добра, што я не паранілася, — спрабавала выклікаць жаль гаротным голасам Наташа.

Гаспадар не паверыў. У мінулым годзе ён фарбаваў акно, усё на ім перагледзеў і замацаваў сваімі гаспадарскімі рукамі.

Джон, падтрымліваючы Наташыну хлусню, дастаў з форткі дэкаратыўную падушачку, крывячы вусны мацаў па перыметры пустую, без шкла фортачку, даючы зразумець, што яна нікуды нягодная, а з вуліцы свежа веяла вясной.

Калектыўныя захады мілай пары ўражання на Мікалая Пятровіча не зрабілі.

Чалавек бывалы ў кватэрных справах, ён падвёў вынік:

— Будзем выклікаць спецыяліста з ЖЭСа. Ён нашкліць, а вы заплаціце.

Наташа паморшчылася. Намёкі на тое, што бессаромная фортачка сама выскачыла з акна, не падзейнічалі, а плаціць яна не хацела. На слова «плаціць» дзяўчына мела стойкую алергію, затое мела вялікі талент да розных фантастычных апавяданняў. Мікалай Пятровіч не падазраваў, што яму давядзецца сёння пачуць яшчэ шмат неверагодных гісторый. Нейкая сіла падштурхнула яго да больш падрабязнага агляду кватэры. Мікалай Пятровіч пакруціў галавой, аглядаючы сцены і столь пакоя… Здаецца, усё на месцы. Зайшоў на кухню. Абвёў і яе позіркам. З’явілася адчуванне — чагосьці не хапае. Так і ёсць! На кухні адсутнічала люстра, дакладней — плафон. Белы паўкруглы плафон з жоўтым абадком па краю бясследна знік . Пад столлю тырчаў абрывак электрычнага проваду.

— Дзе плафон? — спакойна спытаў Мікалай Пятровіч. Яго вытрымцы ў гэты час мог пазайздросціць любы і кожны.

— Вы ведаеце, — пачала Наташа фразу сваімі любімымі ўступнымі словамі, — кухонная люстра была вельмі старэнькая. Яна сама ўпала і разбілася.

— А провад, на якім яна вісела, адгніў. Ці не, не так. Яго адгрызлі мышы, — дапоўніў Мікалай Пятровіч Наташына апавяданне. — Я вось аднаго не разумею, чым можна займацца на кухні, каб ададраць люстру са столі?

На гэты конт у Мікалая Пятровіча не было ніякіх версій. Ён проста губляўся ў здагадках.

— Я Вам кажу — люстра была старэнькая і сама ўпала, — паўтарыла Наташа другі раз для тых хто не разумее з першага.

Джон ад Наташы не адставаў, круціўся паблізу і глядзеў на гаспадара строгім позіркам, у якім было напісана: Мікалай Пятровіч павінен хутка аказваць высакаякасныя паслугі. За кватэру заплачаны аграмадныя грошы.

— Мне выклікаць сёння электрыка? Будзеце вешаць люстру? Але ж вы павінны спачатку яе купіць… Калі занятыя, можам перанесці на іншы дзень, — спрабаваў высветліць Мікалай Пятровіч планы кватарантаў на будучыню.

Наташа маўчала. Пытанне з люстрай на кухню яе абсалютна не займала. Яна цудоўна абыходзілася без яе два тыдні. Жарсцямі па прыгатаванні прысмакаў для каханага яна сябе не абцяжарвала, прыкормлівала яго салатамі з кулінарыі і замарожанай гатовай піцай з крамы, якую разагравала ў СВЧ-печы. Раструшчаныя карабкі ад піцы складзіраваліся ў стос пад кухонным сталом. На кухні Наташа была рэдкім госцем, амаль нічога не гатавала.

У мінулы свой прыход гаспадар, заняты разлікамі за кватэру, на кухню не зазірнуў і нічога не заўважыў, а люстра ўжо растварылася ў нябыце. Наташа думала, так і сыдзе. І вось сёння высветлілася, і зусім недарэчы, бо цяпер Наташу хвалявала іншае, больш важнае для яе пытанне. Усё, што датычылася менавіта яе, было вельмі важным, а што да іншых людзей, то — другасным і не вартым увагі. Не будзе яна забіваць галаву люстрамі ды плафонамі, непатрэбнымі ёй сёння. Пажыла, пакарысталася, паламала ды з’ехала, а там няхай гаспадар разбіраецца. За ўсё заплачана.

— Дык што… Выклікаць электрыка? — яшчэ раз спытаў Мікалай Пятровіч.

— Давайце на іншы дзень, — ухілiста адказала Наташа.

Яна не хацела сябе турбаваць, былі больш прыемныя планы на суботу.

— Як пажадаеце, — згадзіўся гаспадар. — Дамовімся на іншы дзень.

Мікалай Пятровіч усімі фібрамі сваёй душы адчуваў, Наташа нешта не дагаворвае. Яна старанна расцягвала ўніз рукавы спартыўнай кофты і была нешматслоўная.

— Давайце па люстры сазвонімся пасля. Сёння мы занятыя, — паўтарыла Наташа і нешта мільганула ў вачах.

— Іншым разам дык іншым разам. Я думаю, на сёння ўсё?

Мікалай Пятровіч зірнуў на Джона, пасля на Наташу, тая пачала ціскаць і мяць расцягнутыя рукавы пальцамі.

— Вы ведаеце, — рашылася Наталля, — так сталася, што вам выпішуць штраф.

— За што?!

Калі б ад позіркаў адбываліся ўзгаранні, Мікалай Пятровіч падпаліў бы Наташыну спартыўную кофту, пачынаючы з расцягнутых рукавоў.

— За Джона. Яму патрэбна рэгістрацыя.

— Ты ж казала, што не трэба… што ў яго ёсць рэгістрацыя!

— Так, казала, сапраўды ёсць. У інтэрнаце. У яго там ёсць месца, але яму больш падабаецца жыць у мяне… А ў інтэрнаце прайшла праверка, высветлілася, што ён там не пражывае.

— Мне якая да гэтага справа? Я за цябе плачу падаткі. Дамову заключаў з табой. А хто тут у цябе жыве, не жыве, у госці ходзіць… я што, за ўсімі сачыць павінен?! Можа яшчэ біяграфію тваю вывучыць? Накшталт гэтага? — лавінай паляцелі словы са стрыманага Мікалая Пятровіча.

Наташа не слухала і працягвала:

— Яго выклікалі… Я пайшла з ім і, каб яго не аштрафавалі, сказала што ён жыве са мной, і дала ваш адрас.

— І цяпер штраф дадуць мне. Цудоўна! Ты дзяўчына знаходлівая.

— Вы павінны Джона зарэгістраваць, нам так будзе зручней, — Наташа гаварыла аб гэтым, як аб вырашанай справе. Заставалася толькі ўдакладніць некаторыя тэхнічныя моманты.

— Так, сябры мае, усё — фініш! Мне здаецца, наша непрацяглае знаёмства сябе вычарпала. З гэтага дня вам трэба шукаць іншую кватэру.

Пасля сказаных слоў Мікалай Пятровіч адчуў сябе неверагодна лёгка, нібы выраслі крылы. У яго з'явіўся шанец на спакойнае жыццё. А вось на Наташу напала рашучасць. Гэтая рашучасць стаіць за вуглом і ў асноўным нападае на маладых і мала знаёмых з жыццём людзей.

— Мы заўтра ж з'едзем на іншую кватэру! — Наташа за кампанію з рашучасцю хацела ўцёрці гаспадару нос імгненным ад'ездам. — Вярніце заплачаныя за кватэру грошы!

Гаспадар змерыў Наташыну шчуплую фігуру крытычным позіркам. Ён не верыў у імгненныя ад'езды. Імгненна з'язджаюць, хіба што прыхапіўшы чужую касу, а тут трэба было вярнуць сваю.

— Вось калі з'едзеце — тады і атрымаеце назад свае грошы. Вы жадаеце заўтра з'ехаць, — са скепсісам у голасе сказаў гаспадар, — заўтра і разлічымся…

Заўтра не атрымалася. Новую кватэру прыйшлося шукаць больш тыдня. Мікалай Пятровіч цярпліва чакаў далейшага развіцця падзей. Ён быў спакойны, усё што трэба ўжо адрамантавана і зламана.

Толькі праз тыдзень пасля сказаных у гарачым запале слоў Наташа патэлефанавала гаспадару і паведаміла: кватэра — свабодна.

Надышоў дзень апошняй сустрэчы гаспадара з кватарантамі. Нядоўга доўжылася любоў, без смутку будзе і расстанне. У апусцелай кватэры Мікалай Пятровіч праводзіў разлікі.

— Так, вылічваю з вас за пражытыя дні, за разбітае шкло і за пабітую кухонную люстру.

— Мы за фортачку і люстру плаціць не будзем. Яно само пабілася, — не ўнімалася Наташа. Яна тут жа пераклала гэтыя словы Джону, каб ён далучаўся, — будуць адбівацца разам. Джон зразумеў Наташын сігнал і зрабіў кароткую лаканічную прамову па-нямецку. Наташа пераклала гаспадару кватэры, каб ён адчуў моц Джонавых слоў.

— Джон сказаў, што люстра была старэнькая і сама ўпала.

— Гэта ўсё? Нічога новага, — ураўнаважана сказаў Мікалай Пятровіч. — Няхай ён гэтыя казкі расказвае сваёй англійскай бабулі. Мне — не трэба.

Хаця Наташа не пераклала Джону, Мікалаю Пятровічу падалося, што яго зразумелі без перакладу.

Вылічыўшы за ўсе ўчыненыя шкоды, Мікалай Пятровіч вярнуў астатнія грошы кватарантам.

Джон узяў грошы ў рукі. Дасканальна пераглядзеў кожную купюру і працягнуў адну стодоларавую назад гаспадару. Бурклівым голасам сказаў штосьці па-нямецку.

— Памяняйце, яна падраная, — пераклала Наташа, злосна зыркнуўшы вачамі.

— Нармальная сотка, — адказаў Мікалай Пятровіч.

Ён разглядаў хрусткую купюру з усіх бакоў і не знаходзіў у ёй ніякіх недахопаў. Толькі пасярод на згібе яна была крыху надарваная. Джон хоць цяпер мог паказаць свой нораў. Адзінае, да чаго ён мог дачапіцца, — тыя няшчасныя сто долараў. Мікалай Пятровіч успомніў пакамечаную, зацёртую старую дваццатку, якой Джон месяц таму разлічыўся за камуналку і якую пасля нідзе не хацелі браць з-за яе затрапезнага выгляду, і пашкадаваў, што не вярнуў яе тады назад гэтаму валютнаму эксперту. Успамінаць былое не мела сэнсу. Мікалай Пятровіч палез у нагрудную кішэню і дастаў адтуль яшчэ адну сотку. Перадаючы Джону, сказаў:

— На, правярай, зусім новенькая. Учора ноччу намаляваў.

Джон мелькам агледзеў купюру і адправіў яе ў кішэню. Атрымаўшы грошы, кватаранты ціха пакінулі кватэру.

Мікалай Пятровіч выглянуў у акно. Пара сыходзіла ўдалячынь, узяўшыся пад ручку: даўгалыгі кучаравы Джон і Наташа, светлавалосая німфа ў нязменных мешкаватых штанах з кішэнямі. Гаспадар праводзіў былых кватарантаў позіркам, аж пакуль яны не схаваліся за вуглом суседняга дома. Хто ведае, можа Мікалаю Пятровічу давялося быць сведкам нараджэння новай сям'і.

# ЕЎРАТУР

Аўтобус у паездку па Еўропе адпраўляўся ночы, ад'язджаў з пляцоўкі з тыльнага боку чыгуначнага вакзала. У спадарожнікі мне кіраўніца групы прыладзіла мужчыну рабоча-сялянскага выгляду ўзростам гадоў пад сорак. Ён сеў побач на аўтобуснае сядзенне. Пры першым паглядзе на яго я ўявіў, што прыйдзецца мець справу з суровым, замкнутым чалавекам: падбародак цяжкімі рысамі выступаў наперад, бровы хмурыліся на карычневым, загарэлым, авеяным вятрамі працоўным твары. Мужчына сурова маўчаў, сканцэнтравана ўтаропіўшыся ў адну кропку. Апрануты ён быў у прасторны спартовы касцюм з шырокімі штанамі-парашутамі, на плячах па-баявому тапоршчылася кофта-масцерка, аздобленая каляровымі ўстаўкамі. Хвалістыя цёмныя валасы разбарсана закідваліся з ілба назад. Ён ніякім чынам не ўпісваўся ў кампанію прылізаных гарадскіх турыстаў, што напамаджаныя і адпрасаваныя чакалі адпраўкі за кардон. Сярод выкшталцонай сталічнай публікі, што паважна расселася ў аўтобусе па сваіх месцах, мой нахохлены спадарожнік глядзеўся як нястрыжаны куст сярод ландшафтнага дызайну.

У чатыры гадзіны раніцы па камандзе экскурсавода Лены, даволі рухавай, поўнай, мілавіднай жанчыны ў гадах, астатнія турысты, купкамі тапацеўшыя воддаль на пляцоўцы, занялі месцы і аўтобус выехаў з вуліцы Дружнай, што схавалася за чыгуначным вакзалам, накіраваўся ў бок літоўскай мяжы. Вырашана было ехаць праз Літву, бо на польскім памежжы сабраліся велізарныя чэргі.

Перадсвітальны час. Горад, агорнуты ў цемнату ночы, неверагодна пусты, выглядаў як у фантасмагарычным сне: бясконцыя шматпавярховыя дамы, дамы і бязлюдныя вуліцы з адзінокімі, выпадковымі мінакамі, што здаваліся прывіднымі

ценямі, узніклымі зніадкуль. Манатонна гудзеў аўтобусны рухавік, мяне пачало хіліць у сон. На некаторы час я праваліўся ў салодкую дрымоту, прыхінуўшыся ілбом да шкла. Не ведаю колькі прайшло часу, але калі я расплюшчыў вочы, ужо добра развіднела. Мы даўно выехалі за горад і імчалі па загараднай дарозе. Узыходзячае за лесам сонца распускала над дрэвамі арэол святла, ярка акрэслівала няроўныя, зубчастыя верхавіны, раптам прарывалася між пералескамі жоўтым дыскам над небасхілам і біла асляпляльным святлом па вачах. Майму спадарожніку не спалася. Пакуль я драмаў у неглыбокім, павярхоўным сне, ён агледзеўся, асвоіўся ў нязвыклых абставінах і, убачыўшы, што я прачнуўся, неспакойна заварушыўся ў крэсле, усім выглядам выказваючы жаданне пагаварыць. Пакрысе разгаварыліся. Яго звалі Гена. Гена неяк шквалiста, без утайкі абрынуў на мяне ўсю паднаготную свайго жыцця. Яго неймаверная адкрытасць была нязвыклай для мяне, для гараджаніна, прызвычаенага да паўтаноў, недагаворанасцей, ухілістых аповедаў, уласцівых сталічным жыхарам. Гена ж як на духу, шчыра і без утайкі, выклаў, што яму трыццаць восем гадоў, жыве ў вёсцы, жанаты, мае пятнаццацігадовага сына, матаецца з вёскі на заробкі ў Фаніпаль і… нядаўна пасварыўся з жонкай, бо яна грызла яго за малую зарплату ў дзевяць мільёнаў.

Дзевяць мільёнаў (шэсцьсот долараў) па цяперашнім крызісным часе і для Мінска неблагія грошы, не тое што для сяла, дзе зарабляюць удвая, а то і ўтрая меней.

Ад Генавай суровасці не засталося і знаку. Твар яго прасвятлеў, бровы выраўняліся, расправіліся на ілбе, згубіўшы хмарнасць. Яго ранейшая сканцэнтраванасць і зацятасць былі праявамі ўнутранага, заселага ў падсвядомасці страху перад паездкай у нязведаны, загадкавы свет: Гена першы раз ехаў у Еўропу. З сяла — наўпрост ў Еўропу. Гэтак ён помсціў жонцы. У яршыстасці, з якой ён коратка дакладаў мне пра сварку з жонкай, адчуваўся пакрыўджаны мужчынскі гонар. Гена ёй пакажа! Відаў ён такіх! Няхай сядзіць у вёсцы, а Гена будзе рассякаць па Еўропе… хай ведае, які яе Гена! Ужо праз некалькі хвілін размовы ў яго нястрыманасці, у парывістасці рухаў я пачаў

заўважаць нешта падлеткавае. Мы нябачна памяняліся месцамі, я адчуў сябе больш дарослым за яго, хоць быў на дзесяць гадоў маладзейшы…

Неўзабаве аўтобус прыбыў на літоўскую мяжу. Гена з няўрымслівай цікаўнасцю, як гусак выцягваючы шыю, разглядаў праз акно мытню і самавітых, вальяжных, з непрыветлівымі тварамі памежнікаў у форменным адзенні, узрушана прадчуваў сустрэчу з Еўропай. У ім бурліла кроў, падымалася хваля захаплення: яшчэ крыху і ён апынецца ў замежжы! Чакаць прыйшлося нядоўга. Мытню прайшлі даволі хутка, і турыстычны аўтобус заехаў на літоўскія землі. Недалёка ад памежжа зрабілі прыпынак, аўтобус запаволіў рух і, збочыўшы з дарогі, спыніўся ля невялікай крамы непрэзентабельнага сельскага выгляду з шыльдай на еўрапейскі манер «Міні-маркет». Гэта была бадай адзіная прыкмета Еўропы. Еўропай тут і не пахла. Літоўская глыбінка — тыя ж вясковыя краявіды са старымі хатамі, што і ў Беларусі. Турысты выйшлі з аўтобуса, разміналі ногі, няспешна расхаджваючы па пляцоўцы. Гена нецярпліва ірвануў з месца, скокнуў з аўтобуснай прыступкі і, праімчаўшы стралой між турыстаў, знік у «Міні-маркеце». Праз некалькі хвілін ён зноў паказаўся на парозе крамы. Твар яго прамяніўся шчанюковай радасцю. Шырокія калашыны штаноў заліхвацкі дыбіліся парашутамі, спартыўная масцерка, апранутая на голае цела, была расшпілена да пупа і расхрыстаная, расхінаючыся, адкрывала парослыя поўсцю, незагарэлыя, мучніста-белыя грудзі пад курадымным, карычневым ад загару тварам. У моцнай працоўнай руцэ з абскубанымі пазногцямі Гена трымаў літровую бутэльку літоўскага піва, а пад пахай — пакунак соку. У аўтобусе ён ёмкім рухам адкруціў корак піўной бутэлькі і са смакам прысмактаўся да бутэлечнага горла. Гена адзначаў прыезд у Еўропу. Аўтобус паехаў далей. Пахістваючыся ў такт руху, Гена прагавіта цягнуў піва. Дарога была перарыта, перакапана, ішоў рамонт, аўтобус час ад часу спыняўся на вузкіх участках і прапускаў сустрэчныя машыны. Літву праязджалі па краю кароткім маршрутам на Польшчу. Паабапал дарогі стаялі драўляныя, пацямнелыя ад часу бедныя хаты. Платоў не было. Гэта акалічнасць мяне здзівіла. У Беларусі любы двор абгаро-

джаны, часам касым, нягеглым, але ж плотам. Хтосьці з турыстаў пажартаваў, што літоўцы платы папалілі на дровы.

Гена аптымістычна паглядаў на наваколле, радуючыся, што ён — у Еўропе. Хутка пенны напой у бутэльцы скончыўся. Мой спадарожнік каўтануў апошні глыток і адправіў літровую бутэльку пад ногі. Я з асцярогай паглядаў на яго: шлях няблізкі, невядома, калі будзе прыпынак, так бяспечна накачвацца півам… Мінула гадзіна, і Гену зноў высмажыла. Ён выцягнуў з клунка прамавугольны пакунак соку і доўга смачна піў з яго, дрыгаючы кадыком на моцнай шыі, наталяў смагу. «Другі літр!» — палахліва падумаў я. Сок ён да канца не дапіў, не стоўпіўся напой у арганізме. Праз некаторы час я заўважыў, як трывога няўмольна пачала насоўвацца на Гену. Прыспічыла па патрэбе. Ён зрабіўся маўклівым, зашпіліў масцерку пад самае горла, напружана скурчыўся, нахіліўся наперад, заціскаючы напоўнены літрамі жывот. У гэтай позе яму стала лягчэй. Піва з сокам прасіліся з арганізма.

Аўтобус няспынна ляцеў наперад. Участкі дарогі з рамонтнымі працамі прамінулі, і кіроўцы разганялі аўтобус на добрай, роўнай трасе, наганяючы страчаны час. Я чакаў, што хутка будзе прыпынак, і там безумоўна — туалет, але што мае чаканні ў параўнанні з тым, як прыпынку прагнуў Гена. Мінула яшчэ гадзіна. На Генавым твары пасялілася і гаспадарыла цяжкая пакута. Высокі лоб яго пакрыўся буйнымі кроплямі поту, набрыняўшы, яны салёнай сцежкай сцякалі на твар.

— Гена, ты б падышоў да экскурсавода і папрасіў, каб спынілі аўтобус, — спачувальна параіў я.

— Нічога, нічога… Усё нармальна, — здушана адказаў Гена, сціскаючы жывот, і выцер кулаком салёны пот з ілба, пад нагамі качалася пустая пластмасавая бутэлька з-пад піва.

Гена мужна трымаўся. Нейкая неверагодная для сталага чалавека сціпласць не дазваляла Гену падысці да экскурсавода і папрасіцца ў туалет. На яго ж будуць глядзець астатнія турысты… не, ён на гэта ніколі не пойдзе, ён будзе цярпець. Гена цярпеў, пакрываючыся потам, баючыся зрабіць неасцярожны рух, каб пазбегнуць катастрофы, карчом застыў ён на сядзенні. Нарэшце жанчыны пачалі абурацца і патрабаваць прыпынку.

Прайшла яшчэ цэлая гадзіна, якая здалася вечнасцю, перш чым кіроўца, выбраўшы стаянку, спыніў аўтобус. Гена рэзка выпрастаў скурчанае цела і кінуўся да дзвярэй. Распіхаўшы ў аўтобусе паўставаўшых з месца турыстаў, тыграм выскачыў ён на вуліцу і панёсся па пляцоўцы. Уся яго істота імкнулася патрапіць у санвузел.

Праз колькі хвілін, бадзёры і вясёлы, нязмушанай хадой, уразвалачку ён ужо крочыў у прыдарожную польскую краму і выйшаў адтуль пеўнем у зноў расшпіленай да пупа масцерцы. Кішэні адтапырваліся пакетамі з сухарыкамі, цукеркамі накшталт чупачупса, вафелькамі ў каляровых абгортках. У рушыўшым далей па маршруту аўтобусе, ёрзаючы на сядзенні, Гена бесперапынна шамацеў абгорткамі і ўзасос смактаў цукеркі, пад зубамі хрумсцелі вафлі, абсыпаючы Генавы валасатыя белыя грудзі крошкамі. Прапаноўваў і мне пасмактаць цукерак, але я адмаўляўся. Не люблю есці ў дарозе.

Першы дзень падарожжа выдаўся нялёгкім. Доўгі пераезд: Беларусь, Літва, затым Польшча, Славакія і напрыканцы стамляючага шляху — Венгрыя. Кіроўцы гналі і гналі наперад запоўнены турыстамі аўтобус, набіраючы хуткасць у рызыкоўных абгонах. Мая спіна стала колам, немагчыма было выбраць зручную позу для сядзення, зацяклі ногі. Гена тым часам пад вухам бадзёра хрумкаў сухарыкі, не зважаючы на цяжкасці.

Пад вечар турыстычны аўтобус спыніўся ля ўтульнага трохпавярховага гатэля ў правінцыйным венгерскім гарадку. Я неверагодна стаміўся і хацеў толькі аднаго — хутчэй дабрацца да ложка і адпачыць. Адпачываць мне было наканавана ў адным нумары з Генам. Перш чым засяліць пастаяльцаў у нумары, на рэцэпцыі кожнаму з нас падалі бланкі і папрасілі запоўніць іх, пазначыўшы лацінскімі літарамі персанальныя дадзеныя. Працэдура не надта складаная. Гена трывожна ўзяў у рукі бланк, падазрона агледзеў яго з двух бакоў, азірнуўся навокал бездапаможнымі вачамі. Нікому да яго не было справы. У цесным фае гатэля тоўпіліся, нягучна перамаўляліся турысты, занятыя перасоўваннем валізаў. Гена з адчаем яшчэ раз зірнуў на ненавісны бланк. Лацінскія літары наводзілі на яго жах. Пот дробнымі густымі

кропкамі зноў выступіў на напружана зморшчаным ілбе, Гена ўвесь скукожыўся і непаслухмянымі, заскарузлымі пальцамі паставіў у пусты радок некалькі нязграбных каракуляў. Папера моршчылася пад націскам асадкі.

Пакуль Гена ўсхвалявана крэмзаў на бланку малазнаёмыя яму замежныя літары, я нязмушана балбатаў з адміністратаркай гатэля на англійскай мове. Пачуваўся ўпэўнена. Дадатковыя англійскія гадзіны ў школьнай праграме і муштраваўшыя мяне рэпетытары (якіх я, прызнацца, недалюбліваў), нанятыя клапатлівымі бацькамі, што ляпілі з дзіцяці высокаадукаванага чалавека, зрабілі сваю справу. Мая англійская была на прыстойным ўзроўні. Адміністратарка ветліва ўсміхалася.

Гена з прыціскам скрыгатнуў асадкай і прадраў паперу, бланк быў безнадзейна сапсаваны. Гена апынуўся на мяжы адчаю. Што рабіць?! Паніка нягучна насоўвалася, па-здрадніцку падпаўзала, гатовая з усёй моцы абрынуцца на няўдалага пісарчука. Ён палахліва азіраўся навокал. Прыйшлося браць над ім шэфства. Я папрасіў дадатковы бланк і запоўніў два экзэмпляры, свой і Генаў. Гена машынальна прайшоўся працоўнай, загрубелай далонню па ілбу, абцёр кроплі поту. Запоўнены мной бланк ён ніякавата перадаў адміністратарцы гатэля і атрымаў ключ ад нумара. Як толькі ключ апынуўся ў яго мазолістай руцэ з нягнуткімі, загрубелымі пальцамі, ён імгненна аднавіў звычайны стан бесклапотнасці, вачамі следапыта зірнуў з гатэльнага фае на вабячую вячэрнімі агнямі вуліцу. У яго позірку я выразна ўбачыў жаданне прашвырнуцца па венгерскім мястэчку з незнаёмымі завулкамі… без ведання мовы, у чужой мясцовасці, бесклапотна гэтак і нязмушана пашпацыраваць на ноч гледзячы, як у родным сяле. Стала зразумела, што Гену прыйдзецца вадзіць за руку, каб «дзіця» чаго не натварыла.

— Пайшлі ў нумар, — загадаў я Гену, перарваўшы яго трызненні аб вячэрнім шпацыры.

Гена падхапіў цяжкую дарожную сумку, у якую ён з палаючымі вачамі на кожным прыпынку запіхваў новыя набыткі з прыдарожных крамаў, і паслухмяна пацягнуўся за мной следам. Абцяжараныя багажом, мы падняліся па лесвіцы і ў доўгім га-

тэльным калідоры на другім паверсе знайшлі свой нумар. Ледзь Гена пераступіў парог, зараз жа брава шмякнуў сумку на падлогу, хутка расшпіліў яе і выцягнуў прамавугольны з выгляду падобны на сок пакунак, добразычліва расцягнуў вусны ў лагоднай усмешцы і па-сяброўску прапанаваў:

— Макс, давай па вінчыку!

У літровым пакунку плюхалася таннае віно, апыхтаранае Генам ў прыдарожнай краме. Ён па-вясковаму эканомна купляў уся самае таннае і найбольш аб'ёмнае. Маленькія пляшкі каньяку па дарагім кошце яго не цікавілі. У паглядзе добрых Генавых вачэй свяцілася няўмольнае жаданне пачаставаць мяне вінчыкам. Я не змог яму адмовіць.

— Па вінчыку, дык па вінчыку, — пагадзіўся я.

Гена замітусіўся, вочы яго забегалі ў пошуках куды б наліць, зрэнкі радасна блісканулі, заўважыўшы на стале дзве шклянкі. Пакунак з вінным напоем быў імкліва разадраны, і светлы струмень пацёк у посуд. Выпілі. Пасля першай шклянкі я адпрасіўся ў душ. Гена піраваў адзін. Прыняўшы душ, нібы нанава народжаны, з прылівам лёгкасці ў стомленым целе я з асалодай заваліўся ў ложак, у крухмальную свежасць пасцельнай бялізны. Гена, падзапраўлены вінчыкам, у прыўзнятым настроі пашкандыбаў за воднымі працэдурамі. Пад шум струменяў вады, манатонна далятаўшых з ваннага пакоя, я праваліўся ў глыбокі, моцны сон, як укладаўся спаць Гена, ужо не пабачыў.

Раніцай я прачнуўся, адчуваючы, што добра выспаўся, крыху паляжаў з закрытымі вачамі ў салодкай паўдрымоце і ціхенька прыадкрыў вейкі… Зусім блізка, літаральна ў кроку ад ложка драпежнымі, раз'ятранымі вачамі на мяне глядзеў… воўк, ваўчыная галава насоўвалася, жахліва ашчэрвалася клыкастай пашчай. Я зноў заплюшчыў вочы. Мабыць здалося, прывідзелася спрасоння.

— Макс, пад'ём! На сняданак пара, — выяўна пачуў я над сабой Генаў голас.

Я рэзка расплюшчыў вочы. Ля майго ложку стаяў Гена. Ён даўно прачнуўся, паспеў пагаліцца, скура на шчоках і квадратных цяжкіх сківіцах гладка сінела. Як звычайна непрычасаныя,

калматыя валасы неахайна разбарсаліся над ілбом. Шыракагруды Генаў торс пакрывала майка з кароткім рукаўчыкам… А на майцы ва ўсю шырыню грудзей красаваўся аддрукаваны малюнак ваўчынай галавы з ашчэранай пашчай. У такім выглядзе Гена збіраўся на экскурсію ў горад Будапешт… Не здалося. Ваўчыная галава існавала насамрэч. Я прысеў на ложку і агледзеў Гену з ног да галавы: «Чысты бандыт… калі не ведаць яго блізка». Гена расцягнуў у шчырай усмешцы вусны.

— Макс, хопіць спаць.

— Зараз, прывяду сябе ў парадак і пойдзем снедаць, — сонным голасам прамармытаў я.

Пасля сняданку турыстычны аўтобус накіраваўся ў Будапешт. Па дарозе суправаджаўшая нас экскурсавод Лена, гойдаючыся ў аўтобусным праходзе з мікрафонам у руках, ласкавым, ялейным голасам правяла заваблівваючую рэкламу дадатковых платных экскурсій. Платных экскурсій набралася штук пяцьшэсць, зашмат для аднаго дня… галопам па Еўропам… Аднак Лену гэта акалічнасць ніколькі не бянтэжыла, галоўнай для яе задачай было ўцюхаць як мага болей экскурсій і зрабіць грошы з паветра. Раскрывайце, любыя турысты, кашалёчак, паглыбленае знаёмства з Еўропай справа нетанная. Я раўнадушна праслухаў дадатковую праграму, якая нагадвала вымараньванне еўра з даверлівых разявак, адзінае, што мяне зацікавіла, была вячэрня прагулка на карабліку па Дунаю. Па шэрагах пусцілі спіс, і ў аўтобусе залунала ажыўленне, жадаючыя пазначалі ў спісе выбраныя імі экскурсіі. Гена ў радасным узбуджэнні запісаўся на ўсе магчымыя экскурсіі і выклаў за задавальненне сто пятнаццаць еўра. І гэта той чалавек, што ашчадна вышукваў у крамах вінчык па два еўра за літр!

У венгерскай сталіцы нас сустрэла маладая жанчына, экскурсавод па Будапешце, борзда заскочыўшы ў салон, коратка павіталася і гугнява, манатонна сыпячы шаблоннымі сказамі павяла агляднуюэкскурсію. Аўтобус рушыў гарадскімі вуліцамі, з вуснаў новапрыбыўшага экскурсавода гучаў аповед, насычаны гістарычнымі падрабязнасцямі: кароль першы, другі… пятыдзясяты, знакамітыя пабудовы, даты ўзнікнення… Спачатку

Гена добрасумленна прыслухоўваўся, крыху прыўзняўшы і нахіліўшы набок галаву, але хутка балбатня экскурсавода яму надакучыла і ён пачаў варочацца, ёрзаць у крэсле, разглядаючы горад праз акно.

Будапешт паўстаў у непаўторным харастве, адкрываючы перад намі безліч старадаўніх, авеяных таямнічым мінулым дамоў, што цесна з двух бакоў абступалі нешырокія вуліцы. Добра захаваныя будынкі незвычайнай, вытанчанай архітэктуры змянялі адзін аднаго, велічна ўзнікалі перад вачамі, выклікалі ў мяне белую зайздрасць да будапешцаў: яны маюць стары горад, з яго вулачкамі і завулкамі, з асаблівым духам даўніны, могуць адчуць містычнае дыханне мінулага, напаіць душу спакоем старых вуліц… Тым даражэй станавіліся крупінкі старадаўняй архітэктуры ў Мінску: утульнае Траецкае прадмесце з рознакаляровымі дамкамі, Верхні горад з крывымі спадзістымі вулкамі, збягаючымі ўніз з гары да берагоў Свіслачы, — малыя выспачкі, дзе можна рукой дакрануцца да сцен старажытных дамоў, адчуць мінуўшчыну… На кароткае імгненне я аддаўся ўспамінам аб родным горадзе. Голас экскурсавода вярнуў у Будапешт:

— А цяпер паглядзіце на правы бок, перад вамі велічны будынак… стагоддзя… Пачатак будоўлі датуецца… годам. Архітэктар выкарыстоўваў…

Я загледзеўся на ляпніну, густа цясніўшуюся на фасадах дамоў прыгожымі завіткамі, на высокія, гнутыя аркамі вокны… Узвышаны палёт маіх думак прызямлілі графіці, што, неахайна нанесеныя, з’яўляліся то тут, то там на мурах, і нямытыя бамжы, якія валачыліся па старадаўніх вулачках, чужародныя і недарэчныя сярод архітэктурнага пампезнага хараства. Аўтобус, праехаўшы вуліцамі Будапешта, зрабіў некалькі паваротаў і спыніўся на паркоўцы паблізу плошчы. Экскурсавод павярнулася да турыстаў і завучана прадалдоніла:

— Паўгадзіны вольнага часу…. Можаце прагуляцца, пафатаграфаваць, хто пажадае, можа набыць на памяць сувеніры. А зараз паглядзім на гадзіннікі, засякаем час. Роўна праз паўгадзіны ўсе павінны быць на месцы. Просьба не спазняцца.

Турысты высыпалі з аўтобуса і ўразнабой, тапочучы нагамі па нагрэтай сонцам брукаванцы, рушылі да шматлюднай плошчы. На плошчы разышліся, распусцілася сярод натоўпу. Душнае, застылае між дамамі, незакранутае нават лёгкім подыхам ветрыку паветра апанавала горад. Спякота захоплівала ў жаркія абдымкі цела, запаўзала пад адзенне. У небе ніводнай аблачыны. Змораныя духатой людзі цягаліся па плошчы і раз-пораз шчоўкалі фотаапаратамі. Я перасёк плошчу нацянькі, зазірнуў у бакавыя вулачкі з сувенірнымі, падобнымі адна на адну крамкамі, крыху адпачыў ў цені дома, назіраючы за сноўдаўшымі паўз мяне мінакамі, і зноў вярнуўся на плошчу. Сярод натоўпу, абкружаны з усіх бакоў турыстамі, мужчына цягнуў перад сабой правісаўшага тоўстым шлангам, пятністаскурага тлустага пітона. Цікаўны народ піхаўся локцямі, цясніўся вакол паўзучай тварыны, але як толькі мужчына прапаноўваў ускінуць пітона каму-небудзь на шыю і сфатаграфавацца, натоўп з вясёлым спалохам кідаўся прэч. Ад адной думкі, што пітон апынецца ў мяне на карку і слізкай змяінай скурай дакранецца да патыліцы, мне зрабілася гідка. Я паспяшаўся збегчы ад гэтай прапановы. Чарнаскуры, высокі афрыканец бясстрашна падступіў да пітона і спрытным рухам ускінуў яго на шырокія мускулістыя плечы. Голас афрыканскіх продкаў надаваў яму смеласці, хаця гэта быў цалкам еўрапейскага выгляду турыст у інтэлігенцкіх акулярах, зусім не пасуючых яго целу бодзібілдара, і размаўляў ён па-французску, выдаючы на-гара гартаннае французскае «р». Шчоўкнуў фотаапарат. Кадр гатовы: чарнаскуры француз з пітонам на шыі.

Маю ўвагу засяродзіла невялікая, незвычайнага выгляду вежка, стромка ўзлятаўшая ўвышыню з даху дома. Я выбраў удалы ракурс і ўвасобіў яе на фота ў мабільны тэлефон. За спінай пачуўся незадаволены жаночы голас. Жанчына гаварыла па-венгерску, гаварыла нястрымана на падвышаным тоне, словы парывіста, злосна ляцелі ў паветра. Запахла дробным скандалам. Я павярнуўся, углядаючыся, адкуль можа даносіцца голас. Недалёка ад мяне на плошчы стаяў крыты дэрмацінавым дахам невялікі гандлёвы шапік з усялякай драбязой на продаж. Крыклівы голас ляцеў з шапіка. Сухарлявая гандлярка, выставіўшы

наперад вузкі клінападобны падбародак, гыркала на пакупніка, забыўшы святое правіла гандлю: «Будзьце ветлівы і ўважлівы, пакупнік заўсёды мае рацыю». Гандлярка разышлася не на жарт, пуляла вочы і размахвала рукамі. Зненавіджаны ёй пакупнік быў… Гена. Ён стаяў ля шапіка, бездапаможна апусціўшы плечы, сціскаў у прыўзнятай руцэ грошы і няўцямна нешта тлумачыў. Ён неверагодна раздражняў гандлярку. Яна распалялася злосцю. На адно сказанае Генам слова нястрымана-скандальна выдавала тыраду незразумелых яму венгерскіх слоў і рабіла далонню рэзкія рухі ад сябе, адганяючы Гену ад шапіка.

— Еўра… вазьмі-і-це еўра, — прасіцельна і нудна цягнуў Гена.

Я надаў свайму твару ветлівы выраз і заспяшаўся да Гены на выручку.

— Прабачце! Што тут адбываецца? Я магу чым-небудзь дапамагчы? — па-англійску звярнуўся я да гандляркі, робячы стаўку на нядрэнную англійскую і бездакорныя манеры інтэлігента, што выгадна вылучалі мяне на фоне Гены.

Мая англійская не зрабіла на гандлярку ніякага ўражання. Яна абдала мяне ледзяным позіркам сярод спякотнага дня. Значэнне яе позірку я зразумеў без перакладчыка. «Чаго прыпёрся?!» — сказалі мне яе халодныя вочы. «Вочы — люстра душы, якія справядлівыя словы», — узвышана падумаў я сярод мітусні і сваркі.

— Макс, я хацеў вадзічкі купіць у дарогу… піць хочацца, — мямліў Гена і разгублена глядзеў на мяне. — Во даю ёй еўра… а яна — мне… гэта… ну гэта, як яго… гэта, а… вось успомніў… а яна мне — форынты! Форынты!

Венгерскіх форынтаў у Гены не было, не паспеў абмяняць у калаўроце пераездаў, і зараз ён намагаўся купіць вады за еўра. Вялікім, калматым, нязграбным цялём таптаўся ён ля шапіка, зазіраючы ў раззлаваныя вочы гандляркі, паказваў еўра і, прыводзячы яе ў шал, канькаў:

— Вадзічкі… Можна купіць вадзічкі?

Раз'ятранымі ў гэтай мізансцэне выглядалі два персанажы: венгерская гандлярка і воўк, намаляваны на Генавай майцы.

— Гена, яна не гандлюе за еўра… пайшлі, купім вады ў іншым месцы.

Я пачаў адыходзіць ад шапіка. Гена расчаравана агледзеў на прылаўку бутэлькі з халоднай вадой і паклыпаў за мной. Нечакана да нас наблізіўся, быццам вырас з-пад зямлі, каржакаваты мужчына і па-венгерску гартанна, груба, падвышаючы голас пачаў нешта ад мяне патрабаваць, нахабна гледзячы мне ў вочы. Гандлярка яму падтаквала, заахвочвала да спрэчкі, гэта быў яе памагаты, «ветліва» абслугоўвалі пакупнікоў разам. Тут я заўважыў, што трымаю ў руцэ бутэльку з вадой. Я не надаў гэтай акалічнасці ўвагі, паўлітровую бутэльку вады я купіў раней у прыдарожным шапіку і прыхапіў з аўтобуса на плошчу, час ад часу адпіваў па глытку, наталяў смагу ў гарадской спякоце. Вада з бутэлькі была на чацвярціну адпітая. Каржакаваты венгр тыцнуў пальцам на бутэльку ў маёй руцэ і па-змяінаму зашыпеў, бесталкова змешваючы англійскую і венгерскую мовы. Я здагадаўся: ён лічыць нас бандыцкай шайкай, пад прыкрыццём Гены я ўкраў бутэльку вады з шапіка.

— На… глядзі! — падсунуў я венгру бутэльку пад самы нос. — Тут на чвэрць адпіта! — рэзка чыркануў я пазногцем рыску на ўзроўні вады ў бутэльцы. — Гэта не твая вада… Зразумеў?! Гэту бутэльку я купіў у іншай краме!

Гандлярка і яе памагаты пачалі мяне раз’юшваць. Голас мой у парыве гневу змяніўся на жлобскі і нахабны, вочы палыхнулі злосцю і — о дзіва! — венгр раптоўна супакоіўся, рысы яго палагаднелі, ён вылепіў на твары нешта накшталт усмешкі і пайшоў на папятную.

— О’кей, о’кей!… Ноў проблем… — сказаў ён і прымірэнча развёў перад сабой рукі з адкрытымі далонямі.

— Ды ідзі ты… Ноў проблем, — стрымліваючыся, прабурчаў я. — Спачатку кідаюцца на людзей, а потым… Ноў про-о-облем… — перадражніў я венгра.

Бутэльку вады для Гены мы без праблем купілі за еўра ў невялікай краме, схаванай ў бакавым завулку, прымыкаючым да плошчы…

Пасля экскурсіі нас павезлі засяляцца ў будапешцкі гатэль. Турысты выгрузілі з аўтобуса багаж і пацягнулі ў нумары, шумна распаўзаючыся па паверхах, калаўрот перасяленняў з гатэля ў гатэль зараджаў падарожнікаў мітуслівасцю і азартным чаканнем новых эмоцый. Спехам размясціліся ў гатэлі, і аўтобус павёз гурт агаладалых турыстаў абедаць ў рэстаран.

Вялікі рэстаран на некалькі залаў размясціўся на адной з будапешцкіх вуліц у глыбіні ўтульнага дворыка. У дворык вялі драўляныя даволі высокія вароты. Перад уваходам у рэстаран на адкрытай пляцоўцы стаялі некалькі пустых сталоў. У спякотны дзень ніхто не хацеў абедаць на вуліцы, наведвальнікі імкнуліся ў кандыцыяніраваную прахалоду рэстарана. Рэстаран быў незвычайны. Пры ўваходзе з кожнага наведвальніка бралася плата ў 15 еўра, і можна есці і піць колькі пажадаеш. Вочы разбягаліся ад безлічы салатаў, напояў, свежапрыгатаваных гарачых страў. Падавалася віно, піва, салодкае на дэсерт. Гена паспешліва заплаціў 15 еўра і не марудзячы рынуўся ў рэстаранную залу. З ліхаманкавым бляскам у вачах ён лётаў ўздоўж раздатачных сталоў і накладваў, напіхваў у талерку стравы. Шырокая пляскатая талерка, моцна схопленая Генавай рукой, хутка запаўнялася, гара яды расла, расла, пашыралася і накрыла талерку з каптуром.

Я ўзяў некалькі разнастайных салатаў, адбіўную, шклянку соку і пайшоў па рэстараннай зале, шукаючы вольнае месца

— У вас свабодна? — спытаў я ў сталай сямейнай пары, што ўдваіх сядзелі за накрытым беласнежным абрусам сталом.

Гэтую сям’ю я запрыкмеціў у самым пачатку паездкі — паважныя, прыемныя, з адкрытымі тварамі людзі: высокі мужчына з сівымі, гладка зачасанымі валасамі і яго жонка, хударлявая кабета ў акулярах. Я ведаў, што яны — настаўнікі. Муж географ — залатазубы весялун. Які прадмет выкладае жонка, я не запомніў, аднак мела яна тыповы настаўніцкі выгляд, лаканічнае карэ ў прычосцы і манеру глядзець на суразмоўцу паверх шкельцаў акуляраў.

— Так, калі ласка, сядайце, — прыязна адказала настаўніца.

Я прысеў на вольнае месца, мы перакінуліся некалькімі нязначнымі фразамі.

Гена вачамі адшукаў мяне сярод наведвальнікаў і ўразвалачку рушыў да нашай кампаніі. Гружаная з каптуром, цяжкая талерка з яго рукі перакачавала на белы абрус стала. Настаўнікі агледзелі Генаву талерку і драпежнага ваўка на яго майцы, пераглянуліся. Я заўважыў на іх тварах паблажлівыя ўсмешкі. Гена рассеўся на стуле побач з намі без залішніх расшаркванняў і пытанняў накшталт: «Прабачце, гэта месца свабодна?» Дзіця лясоў і палёў, ён быў далёкі ад свецкіх гарадскіх умоўнасцей.

— Я зараз… пачакайце! — нешта ўспомніўшы, жвава прамовіў нам Гена як блізкім прыяцелям і зноў рынуўся да раздатачных сталоў.

Праз хвіліну ён вярнуўся з віном і, склаўшы над добрымі вачамі бровы домікам, зазыўна прамовіў:

— Макс, давай па вінчыку!

— Не, не, Гена… іншым разам, — адмовіўся я.

Піць віно ў спякотны дзень у мяне не было ніякага жадання. Без асаблівага шкадавання, што ў яго не будзе сабутэльніка, Гена вальяжна прызямліўся на стул і рашуча падсунуў да сябе перапоўненую стравамі талерку. Рука з абскубанымі пазногцямі спрытна ўторкнула відэлец у верхавіну пажыўнай гары, і Гена з вялікім апетытам прыступіў да прапезы. Нажом ён не карыстаўся, гэты інтэлігенцкі атрыбут быў залішнім, мяса трыбушыў на часткі відэльцам. Талеркі настаўнікаў і мая ў параўнанні з Генавай выглядалі пуставата. Я, пабліскваючы металам нажа, далікатна адпілоўваў кавалак адбіўной і краем вока назіраў, як Гена няўрымсліва запіхваў у сябе ўсё без разбору, запіваючы віном нібы кампотам. Паглынуўшы палову яды з талеркі, ён зрабіў кароткі перапынак і подбегам зганяў па піва, вярнуўся цалкам шчаслівы з бакалам жоўтага пеннага напою ў руцэ. Настаўнікі, пазбягаючы наўпрост бесцырымонна разглядаць сатрапезніка, усё ж спакваля, употайкі кідалі на Гену позіркі: незвычайны, каларытны тып. Генава талерка даволі хутка апусцела. Ён прыціх на стуле, надзьмуты як бурдзюк, у выразе твару з'явілася сытая атупеласць, крыху пасядзеў у задуменні над пустой талеркай, углядаючыся ў размазаныя на дне рэшткі соўсу, потым стрымана ікнуў, цяжкавата падняўся і пайшоў па дадатковую порцыю. За абед заплачана пятнаццаць еўра — трэба

есці ў запас, заклікала яго вясковая кемлівасць. Чарговая талерка з'явілася на стале поўнасцю нагружаная. Настаўнікі ажывіліся, цяпер яны не хаваючыся, адкрыта разглядалі вясковага цудзіка. Я не заўважыў у іх вачах ні каліва грэблівасці, ці незадаволенасці Генавымі неінтэлігентнымі паводзінамі, здаецца, ён быў ім вельмі сімпатычны менавіта сваёй неацёсанасцю. Сталая, паважная сямейная пара напоўнілася азартнай гумарной цікаўнасцю, яны пераглядваліся між сабой, быццам бы рабілі стаўкі: з'есць, не з'есць. Гена, пакрыўся потам, такое з ім заўжды адбывалася ў складаныя хвіліны жыцця, уважліва агледзеў змешчанае на талерцы і ўзяўся за відэлец… Калі абед нарэшце скончыўся, талерка была пустая, а сам Гена ледзь рухаўся. «З'еў! Ён усё з'еў! Гэта немагчыма!» — уражана крычалі, лыпалі паверх абсунутых на носе акуляраў вочы настаўніцы. Гена падняўся з-за стала і павольна, перавальваючыся як гусак, паплёўся да аўтобуса і там, асалавелы, у знямозе ўціснуў цела на сядзенне. Паабедаўшыя турысты падымаліся ў салон услед за ім, весела, бесклапотна гаманілі, рассаджваліся па месцах. Аўтобус рушыў да гатэля. Я закрыў цёмную шторку на аўтобуснай шыбе, каб на стомленага Гену не пякло сонца. Зверху з круглых адтулін кандыцыянера прыемна дзьмула ветрыкам. Да гатэля ехалі маўчком, ціхая санлівая пасляабедзенная часіна. Неўзабаве былі на месцы.

— Адпачываем гадзіну. Затым збіраемся ў аўтобусе і адпраўляемся на дадатковыя экскурсіі. У нас вельмі абшырная праграма… — загадна прамовіла экскурсавод Лена, паднёсшы да вуснаў мікрафон, у якім нешта трашчала і пыхкала. Паўнацелая, рухавая Лена, гучна забіваючы словы ў мікрафон, разагнала лянотную санлівасць, апанаваўшую турыстаў. — Просьба не затрымлівацца і быць у аўтобусе ў прызначаны час! Хто не едзе з намі на экскурсіі — самастойна праводзіць час… Для тых, хто едзе вечарам катацца на караблiку па Дунаю, нагадваю — збор ля гатэля а восьмай гадзіне!

Мікрафон пыхнуў, шыпнуў, адключыўся.

Мы выйшлі з аўтобуса. Паблізу гатэля знаходзіўся супермаркет, і я вырашыў скарыстацца вольнай гадзінай, схадзіць па пакупкі.

— Пайшлі ў супермаркет, — павярнуўся я да Гены.

— Не, не, я пакуль не пайду… мне трэба ў гатэль. Макс, ты ідзі, ідзі… я пазней прайду, — здушаным голасам упарта адмаўляўся Гена.

Звычайна ён бегаў па ўсіх знойдзеных на шляху крамах, скупляў рознае абы-што, як сарока западаючы на ўсё бліскучае і яркае. Дзіўна было бачыць, як ён катэгарычна адбрыкваўся ад шопінгу. Я заўважыў, што з Генам адбываецца нешта няладнае, ён напружыўся, трывожнасць прабегла зморшчынамі па потным ілбе.

— Гена, мо табе дрэнна?

— Нічога, нічога… усё нармальна… мне трэба ў нумар.

— Чаго ты там забыўся?

— Мне трэба! — выгукнуў Гена, вочы яго акругліліся, не раўнуючы як ў ваўка на майцы, ён рэзка крутнуся і прыпусціў у гатэль.

«У санвузел панёсся… яму тэрмінова трэба ў санвузел… нядрэнна ж папалуднаваў», — нарэшце здагадаўся я і ледзь стрымаў смех, што распіраў мяне, ірваўся вонкі.

У супермаркет я накіраваўся без Гены. Спакойна пагуляў між паліц з таварамі, пярэсціўшых разнастайнымі яркімі ўпакоўкамі, набыў кубак для гарбаты з відамі Будапешта. Гена тым часам адседжваўся ў гатэльным нумары. Яму яшчэ свяцілі экскурсіі па горадзе, поўны экскурсійны пакет. Мяне ж прыемна радавала тая акалічнасць, што я сам сабе гаспадар. Я аплаціў усяго адну экскурсію: вячэрняе катанне на караблiку па Дунаю. Я буду вольны да вечара. Адзін пагуляю па горадзе, няспешна, без мітусні. Узрушала, захаплівала магчымасць без дыктоўкі экскурсавода, самому дакрануцца да паўсядзённага жыцця незнаёмага горада, паназіраць за яго жыхарамі, пашпацыраваць старадаўнімі вуліцамі, разглядаючы шыльды і вітрыны крамаў, зазірнуць у вузкія завулкі, непрыкметныя і сціплыя, з абшарпанымі сценамі дамоў, куды не водзяць турыстаў, але яны могуць расказаць пра жыццё горада не менш, чым пампезныя цэнтральныя вуліцы… Я буду вольны да вечара…

Турысты з гатэля цягнуліся да аўтобуса. Сярод іх наканавана плёўся Гена, усё ніяк не мог апрытомнець пасля сытнага абеду,

па знешнім выглядзе яму было не да экскурсій, але ж грошы аплочаны. Паедзе і будзе спаць на сядзенні пад аповеды: «Гэты выбітны будынак быў закладзены ў тысяча гэткім-та годзе… а кароль нарадзіўся на пяць гадоў пазней… яго бацька паходзіў з манархічнай дынастыі». Хоць выспіцца чалавек. Мне здаецца, Гену што слухаць экскурсавода, што спаць пад яго аповед — невялікая розніца. Галоўнае сам факт, што ён ездзіў на ўсе магчымыя экскурсіі, раз ужо дабраўся да Еўропы. Дома аднавяскоўцам дасць справаздачу: «Быў на пяці экскурсіях ў Будапешце». А ім больш інфармацыі і не трэба. «Ого! — скажуць аднавяскоўцы. — Аж на пяці!» Хіба спытаюць яшчэ: «А які ён, Будапешт?». А Гена перад імі ганарліва… раз і выставіць мабільны тэлефон з фотагалерэяй і пралісне фотаздымкі. А каралі розныя, прынцы заморскія, іхнія біяграфія… каму яны трэба ў беларускім сяле?

Аўтобус з турыстамі з’ехаў, звозячы ад мяне Гену. А я зазірнуў у гатэль, пакінуў пакупкі з супермаркета ў нумары і ў прыўзнятым настроі пайшоў гуляць па гораду…

А дзясятай гадзіне вечара турысты гуртам спусціліся да прычала на рацэ Дунай. Цямнела. Цёплая летняя ноч, мякка наступаючы, пакрысе ахінала ўзбярэжжа, няўлоўна сцірала з вады дзённы блакіт, уздымалася ў нябесную вышыню, рассыпаючы зоры, пакуль невыяўныя, але хутка сцямнее, неба зробіцца чорным і зоры замігцяць яркімі агнямі. Ад шырокай ракі павявала прыемнай прахалодай. На пацямнелай, пярэсціўшай дробнымі, чашуйчатымі хвалямі вадзе замёрлі прышвартаваныя прагулачныя судны. Людскі натоўп разбарсана таптаўся на беразе ў чаканні пасадкі. І без нас ля прычала сабралася даволі шмат турыстаў. Штосьці ў іх абліччы мільгала знаёмае. Сярод людскога гоману я пачуў слова «Мінск» і зрабіў прыемнае адкрыццё: яны таксама прыехалі з Беларусі. Землякі. Свет і сапраўды цесны.

На прагулачны карабель мы зайшлі праз палубы трох суднаў. Плавучыя машыны стаялі роўным шэрагам, борт у борт, злучаныя трапам, падрыхтаваныя да старту і гатовыя ў любы момант адчаліць па камандзе капітана. Перасекшы ўпоперак тры

судны, мы ступілі на палубу нашага карабля. Аддаць швартовы! І карабель, пагойдваючыся на хвалях, паплыў у ноч па Дунаю.

Некаторы час я правёў на лаўцы ля карабельнага борта. Пазнаёміўся з дзвюма маладымі сямейнымі парамі з Мінска, што падарожнічалі са мной у адным аўтобусе: высокі з худымі прамымі плячамі бухгалтар Дзіма з жонкай і прараб-здаравяк Сяргей са сваёй палавінай. Пад мернае пакачванне судна на хвалях мы дзяліліся ўражаннямі ад паездкі. Паколькі знаёмства наша толькі пачыналася, размова была прэсная і нецікавая, пад агульныя фразы прыглядваліся адно да аднаго.

Уздоўж берага яркімі плямамі раскідалі святло агні ліхтароў. Выплываючы з цемені ночы, роўным, белым, люмінесцэнтным бляскам зіхацелі падсвечаныя сцены і вокны прыбярэжных дамоў. Велічны, вытанчаны будынак гатычнай архітэктуры, з высокімі вокнамі, аздобленымі вузкімі пілястрамі, вежамі на даху ўзлятаў пад неба ў снапах белага, струменячага знізу святла. Захапляльна.

Я прайшоў па палубе на нос карабля. Наперадзе, як на далоні, вачам адкрылася чароўная панарама: паўнаводная, магутная рака Дунай і горад ў водбліску агнёў. Чуўся нягучны плёскат хваляў. Нячутна да мяне падышоў Гена, прыладзіўся побач і зачаравана застыў, углядаючыся ў далячынь. Генавы ноздры з асалодай уцягвалі марское паветра, грубы, абветраны твар свяціўся замілаваннем і адухоўленасцю, якую я раней у ім не заўважаў. Пад заскарузлай абалонкай вясковага чалавека, занятага аднастайнай фізічнай працай, хавалася трапяткая душа рамантыка. Ён крыху пастаяў моўчкі, затым зрабіў некалькі крокаў на самы край карабельнага носа і ў рамантычнай самоце паплыў насустрач ночы. Вецер гуляў ў яго разбарсаных валасах. «Проста сам Леанарда Дзі Капрыа з фільма “Тытанік”… уласнай персонай», — весела падумаў я, гледзячы на Гену.

Карабель плыў і плыў, рассякаючы носам начную ваду, што здавалася чорнай і вязкай бы нафта, занырнуў пад мост, расквечаны круглымі шарыкамі-ліхтарамі ілюмінацыі, сабранымі над аркамі моста ў выгнутыя паўмесяцам ланцугі зіхоткіх лямпачак, зноў вальготна выплыў на прастору паўнаводнай ракі. Па левым

борце насустрач па вадзе плыў… аўтобус, самы што ні на ёсць сапраўдны. З расчыненых аўтобусных акон на раку і прыбярэжнае хараство пазіралі пасажыры. Аўтобус спрытна рухаўся па хвалях, аднак колаў не было бачна, ён корпусам мякка слізгаў па вадзе. Дзіва марской тэхнікі: карабель, стылізаваны пад звычайны гарадскі аўтобус. «Дзі Капрыа» адляпіўся ад карабельнага носа, імкліва кінуўся да левага борта і ў захапленні праводзіў поглядам плавучы аўтобус. Наш карабель, мерна пагойдваючыся, зрабіў разварот і паплыў у зваротным кірунку. Хутка раставаў, сплываў з марской вадой час, і неўзабаве судна збавіўшы абароты прышвартавалася да прычала. Усё чароўнае калі-небудзь заканчваецца. З адухоўленым налётам, заблукаўшым на тварах, пакідалі пасажыры палубу.

Пасля рачной прагулкі мне зусім не хацелася ехаць у гатэль спаць. Падобна, што ў гэтым жаданні я быў не адзінокі. Бухгалтар Дзіма і прараб Сяргей з жонкамі тапталіся ля прычала. Я спыніўся ля іх і адчуў за сабой «хвост»: у патыліцу мне дыхаў Гена.

— Не хочацца вяртацца ў гатэль, — прамовіў бухгалтар Дзіма, рукой намацаў і мякка ўзяў жончыну далонь.

Жонка Дзімы, гэткая ж доўгая, як і ён, шпала з вузкім тварам і выпуклымі, пульхнымі, ярка нафарбаванымі вуснамі, томна прыхінулася да яго пляча.

— Прагуляцца б па горадзе, — зрабіў крок да яго прараб Сяргей.

— А і праўда, давайце! — падхапіла жонка прараба, вяртлявая маладзіца з рудым пажарам валасоў на галаве.

— Можна прайсціся да гатэля пешкі, тут не вельмі далёка, — прыкінуў я адлегласць. — Экскурсавода толькі трэба папярэдзіць, што самі дабяромся.

Магчымасць пабадзяцца па начным горадзе ў прыемнай кампаніі заваблівала мяне і абяцала шмат цікавага.

— Я ёй зараз скажу, колькі нас збіраецца ісці да гатэля пешшу, — бухгалтар Дзіма заняўся падлікам. — Так… нас з жонкай двое, Сяргей з жонкай, Максім…

— І я!— паспешліва вытыркнуўся наперад Гена, хвалюючыся, каб яго не забыліся ўзяць з сабой.

— Так… яшчэ Гена, — працягваў Дзіма падлікі.

— Я таксама з вамі, — падляцела вандраваўшая ў адзіноце юная дзяўчына Аня, лёгкая, танклявая, у кароткай спадніцы паветранага шоўку.

— Так-с… сем чалавек. Добра.

Падлічыўшы турыстаў, жадаўшых начнога шпацыру, даўганогі бухгалтар Дзіма паджгаў да экскурсавода.

— Лена, мы вырашылі прагуляцца па горадзе, вы нас не чакайце ў аўтобусе, — дзелавіта сказаў ён экскурсаводу. — Нас сем чалавек, мы самі дабяромся да гатэля, дарогу знойдзем. Вы, Лена, за нас не перажывайцеся.

Дзіма называў экскурсавода, немаладую кабету, запраста па імені. Экскурсаводы імя па-бацьку не маюць, нават калі ім пад семдзесят, яны застаюцца проста Ленамі, Віктарамі, Іванамі…

— Воля ваша, як пажадаеце, — абыякава адказала Лена.

Стомленая за дзень экскурсіямі, яна марыла хутчэй дабрацца да пакоя ў гатэлі. Хараство начнога Будапешта яе не займала, бачыла горад дзясяткі разоў. Экскурсавод Лена ў баваўнянай блузцы-разлятайцы з шырокімі рукавамі, нагадваючымі апушчаныя крылы, разам з астатнімі турыстамі павольна пацягнулася да аўтобуса. Наша налаштаваная на прыгоды кампанія ад прычала рушыла ў горад пешшу, паднялася ўверх на набярэжную, перасекла яе нацянькі і выйшла на гарадскую вуліцу. Пасля рачной прахалоды гарадское паветра здалося застылым і душным. Дамы туліліся блізка да вуліцы, дыхалі цяплом нагрэтых за дзень цагляных тынкаваных сцен. Ветрык квола пралятаў у нешырокія праходы між дамамі. Мы ішлі будапешцкімі старадаўнімі вуліцамі, і я… лічыў бамжоў. Амаль на кожнай лаўцы ціхамірна адпачывалі асобы без пастаяннага месца жыхарства. Іх ніхто не чапаў, не цягнуў у пастарунак, ім хораша спалася цёплай ноччу на свежым паветры. На адной з лавак пад ліхтаром я разгледзеў лядашчае мужчынскае цела ў бруднай, страпанай вопратцы. Гадамі нястрыжаная галава небаракі зарасла калматымі доўгімі валасамі. Мужчына салодка спаў, падціснуўшы пад сябе худыя

калені. Голыя, без шкарпэтак ступні ног свабодна ўторкнуліся ў прастору растаптаных, падраных пантофляў. Абхапіўшы рукамі зашмальцаваную торбу, адзінае сваё багацце, ён шчыльна прыціскаў яе да грудзей. На другі бок вуліцы ў запоўненым людзьмі кафэ вiравала вясёлае жыццё. Горад аддаваўся начному, нястрыманаму разгулу. Кафэ, бары, рэстараны зазывалі наведвальнікаў, ля іх дзвярэй боўталіся падпітыя, крыклівыя гулякі. Мінакоў на гарадскіх вуліцах стала менш, а куражу — больш.

Бухгалтар Дзіма паглядваў на навігатар у мабільным тэлефоне і вёў нас наперад. Прамінуўшы квартал, выйшлі на шырокую запоўненую машынамі вуліцу і, каб перайсці на другі бок, па прыступках спусціліся ў падземны пераход. У вочы шыбанула яркае люмінесцэнтнае святло, што залівала кожны куток. Уздоўж сцяны на падлозе падземнага перахода з тузін бамжоў укладаліся на начлег. На іх ніхто не звяртаў увагі, будапештцы раўнадушна ішлі па сваіх справах. Адны мы, першы раз патрапіўшыя ў Будапешт турысты, пулялі на бамжацкую араву вочы. Падобна на тое, што бамжы з’яўляліся тут у пераходзе сталымі пастаяльцамі. Спрэс адны мужчыны. Гэта былі маладыя, поўныя сіл валацугі, самаму старэйшаму з іх не больш за трыццаць пяць гадоў. Чорнавалосыя, смуглявыя арабы, а мо туркі. Хіпстары. Бадзяжнікі. Нямытыя, у пакамячаным адзенні, рассцілалі яны падсцілкі ўздоўж сцяны, занятыя прыгатаваннем да сну, пачуваліся ўпэўнена, быццам ва ўласнай спальні. Кожны трымаў ля сябе клунак з няхітрым скарбам. З самага краю ўклаўся на падсцілку малады бадзяжнік, утульна скруціўся баранкам і як маленькі кранальна падсунуў пад азызлы ад п’янкі твар дзве счэпленыя далоні. Дзе цяпер яго мамка?

Уражаныя, мы выбраліся з падземнага перахода, стараліся не адставаць і трымацца побач. Пасля пераходу апынуліся на даволі шырокай, зусім пустой плошчы. Плошча ў цэнтры горада роўным прадаўгаватым полем разгарнулася перад вялікім пампезным будынкам, падобным на Дом Ураду. Пражэктары ярка асвятлялі фасад з калонамі. На ускрайку плошчы віднеўся лапік зяляніны: некалькі дрэў і разгалістае, кунатае кустоўе. Там у паўзмроку я заўважыў чалавечыя сілуэты: цыганская сям’я

ўладкоўвалася на плошчы пад кустамі на начлег. Двое дарослых цыганоў, муж і жонка, абодва сухарлявыя, невысокага росту, аб нечым нягучна размаўлялі. Ля іх круціліся пяць ці шэсць штук дзяцей, мурзатыя, з ускудлачанымі валасамі, жвава сноўдалі яны адзін перад адным, піхаліся, нешта выцягвалі з клункаў. Старэйшаму з іх, кучараваму ваўкаватаму хлапцу, на выгляд было гадоў чатырнаццаць, не болей. Астатнія дзеці — яшчэ меншыя, самы малы нядаўна пачаў хадзіць, няўпэўненымі нагамі тупаў ён па брукаванцы, сціскаючы ў дзіцячай руцэ абгрызены кавалак пячэння. З-за куста вызірнула яшчэ адна цыганка, таўставатая і прыземістая. Жанчыны расхаджвалі ў шырокіх, доўгіх да пят спадніцах і хустках, завязаных накалпак вакол галавы. Святло з плошчы ледзь далятала да кустоўя. Цыганская сям'я, хаваючыся ў прыцемку, рыхтавалася да начлегу пад адкрытым небам. Мы падышлі бліжэй. Дарослыя цыгане зыркнулі на нас нядобрымі паглядамі, і мы паспяшаліся пакінуць плошчу.

Начны Будапешт неверагодна змяніўся. Дзённыя натоўпы вальяжных, сытых турыстаў з фотаапаратамі і задаволенымі ўсмешкамі зніклі разам з сонечным святлом. Іх змянілі начныя падпітыя гулякі і валацугі, з закануркаў павыпаўзалі цьмяныя асобы, насельнікі гарадскога дна: бамжы, нелегальныя гастарбайтары, цыгане. Па гораду бадзяліся эмігранты, змешваючыся з падгуляўшымі, падвыпіўшымі венграмі, аматарамі пасядзець вечарам за куфлям піва і чаркай чаго-небудзь мацнейшага. Жанчын на вуліцах амаль не было, па большай частцы мужчыны запоўнілі начны горад, надаючы яму грубасці, агрэсіўнасці, зыходзячай ад мужчынскага пачатку.

За плошчай наша кампанія, нястройна крочучы і насцярожана трымаючыся гуртам, звярнула на старую вуліцу, і адразу ў вочы кінулася віна-гарэлачная крама.

— Трэба піўка купіць, — разахвоціўшыся ўнутраным напаўненнем крамы, аблізнуўшы вусны, сказаў бухгалтар Дзіма.

— І я так думаю, — падтрымаў прараб Сяргей.

Шырока адчыненыя шкляныя дзверы запрашалі пакупнікоў. Пры дзвярах, лянíва абапёршыся плячом аб сцяну, прыладзіўся пузаты ахоўнік. Тлусты жывот ахоўніка туга падпяразваў

скураны рэмень з буйной спражкай. На шчакастым твары нос прыплюснутай дзюбай навісаў над верхняй губой. Чорнымі пулятымі вачамі з-пад цяжкіх павекаў ён пільна разглядаў кожнага, хто заходзіў у краму. Ахоўнік зыркнуў на нашу ціхмяную, бясшкодную кампанію і напусціў на сябе пыхі. Вялікі палец засунуў за рэмень, а чатырма вольнымі пастукваў па пузе. Мы ціха пацягнуліся праз парог да крамных паліц, загрувашчаных напоямі. Я не паспеў агледзецца, як за намі ў краму ўвалілася паўп'яная мужчынская арава, чалавек дзесяць. Яны нястрымана галёкалі і рагаталі. Па падлозе, бразгаючы шкляным звонам, пад раскацісты рогат, пакаціліся бутэлькі. Падпітыя мужыкі перакрыкваліся між сабой. Я прыслухаўся да іх мовы. Падобна, гэта гулялі чэхі. Пыхлівы ахоўнік скукожыўся, прыязна ўсміхаўся і стараўся сваім выглядам развязных пакупнікоў не раздражняць.

Дзіма з Сяргеем выбралі піва і разлічваліся на касе. Дзяўчаты, я і прыляпіўшыся да мяне, прыгаломшаны відамі начнога Будапешта і на кароткі час зрабіўшыся асцярожным Гена выйшлі на вуліцу. А ў краме не сціхаў вэрхал. Дзясятак паўп'яных, адвязных мужыкоў шасталі па паліцах, звякаючы шклатарай, нагружалі скрынкі бутэлькамі. Ахоўнік у прыязнай, ліслівай позе добразычліўца чакаў, пакуль скончыцца нашэсце, з асцярогай пазіраў ў бок гоп-кампаніі. За пыхлівасць разагрэтыя спіртным мужыкі маглі яму і наваляць, і ён абачліва зрабіўся ягнёнкам. Перад грубай сілай віхляў ён хвастом, а перад ураўнаважанымі, спакойнымі пакупнікамі практыкаваўся ў фанабэрыі.

Хлопцы, разлічыўшыся за піва, выйшлі з крамы. Зусім блізка ля нас, наўмысна прыціскаючыся да тратуара, праехала машына. Праз расчыненыя вокны недаспелыя, бязвусыя юнакі з машыны развязна па-венгерску крычалі нам усялякія брыдкасці… а можа жадалі прыемна прабавіць час? Што, канечне, наўрад ці. Нагалёкаўшыся, юрлівая шпана прыбавіла ў машыне газу і, як шкадлівыя каты, дала драпака.

— Вясёленькі горад, — не крыўдуючы на юных хуліганаў, смяшліва падала голас рудавалосая жонка прараба Сяргея.

«Жанчынам тут адным хадзіць небяспечна, — падумаў я. — Ды і мужыкам лепш па двое».

У гатэль мы вярнуліся каля гадзіны ночы і змораныя разышліся па нумарах спаць. Прагулка была захапляльная…

Раніцай пасля сняданку турыстычная група адпраўлялася ў Аўстрыю. Гэтым разам Гена прыбраўся ў простую шэрую майку без малюнка. Пасля учарашняга шалёнага ваўка майка выглядала даволі сціпла, у падборы гардэроба Гена быў чалавек супярэчлівы і пераменлівы.

Наперадзе нас чакала знаёмства з аўстрыйскай сталіцай Венай. У Аўстрыі аўтобус ўвесь час ехаў па раўніне. Я расчаравана пазіраў у вакно на лугі і апрацаваныя, дагледжаныя палі, бязмерна шкадуючы, што не ўбачу аўстрыйскія Альпы, яны дзесьці далёка. Вельмі хацелася зірнуць на заснежаныя горныя верхавіны, адчуць моц і веліч горных хрыбтоў, пакруціцца на серпанціне гнутых, закручаных між гор петлямі дарог. А ў акне лугі і палі…

Вена сустрэла нас духатой. Зноў натоўпы турыстаў на вузкіх вулках і спякота. Пахла канямі. Не вельмі смуродна, аднак распечаны сонцам потны конскі душок напаўняў венскае паветра. Экіпажы, запрэжаныя парай коней, развозілі турыстаў па брукаваных вуліцах. Цокалі капыты, спорна перабіраючы па бруку, ускідваліся ўгару зацугляныя, грывастыя конскія пысы. Доўгая чарада пустых экіпажаў цягнулася ўздоўж тратуара, чакаючы ахвотных пакатацца. Застаялыя коні ў прыгожай збруі абмахваліся доўгімі, старанна расчасанымі хвастамі.

Перасычаны старадаўняй архітэктурай Будапешта, у Вене я млява цягаўся па спякотнай вуліцы за экскурсаводам, няўважліва слухаючы аповед. У аддаленні цокалі конскія капыты. Жанчынафурман, шыракаплечая і грудастая, ёмка трымаючы ў дужых руках з закасанымі рукавамі лейцы, кіравала запрэжанай парай коней павозкай. Магутныя, буйныя коні, выкідваючы калені, зладжана беглі наперад. Тройца вузкавокіх азіяцкіх турыстаў, невялікіх і драбнацелых, самазадаволена прыладзіліся ў экіпажы за шырокай спінай жанчыны-фурмана. Яны павольна круцілі галовамі, з вышыні экіпажа пазіралі на мінакоў, пачуваючыся грандперсонамі.

У духаце і спякоце беларуская група разбарсана цягнулася за экскурсаводам па старадаўніх вуліцах, часам спыняліся, каб, адкрыўшы рот і прымружыўшы пад палаючым сонцам вочы, агледзець чарговы шэдэўр архітэктуры. К палудню запланаваную частку шэдэўраў добрасумленна агледзелі, і экскурсавод адпусціла турыстаў на вольны шпацыр.

— Мне трэба купіць піўны бакал, — крутнуўшы галавой у пошуках сувенірнай лаўкі, задуменна сказаў прараб Сяргей і нецярпліва зрабіў да мяне некалькі крокаў. — Максім, ты не бачыў паблізу крамы з сувенірамі?.. Я калекцыяную піўныя куфлі. Трэба і ў Аўстрыі купіць для калекцыі, на памяць аб паездцы.

— Пачынаецца, — наканавана прамовіла прарабава жонка і ціха, нягучна ўздыхнула.

Сяргей азіраўся навокал шукаючым, стурбаваным паглядам, у постаці прабівалася нястрыманая азартнасць.

— Мы нядаўна прамінулі сувенірную краму, метраў дзвесце будзе да яе, — успомніў я. — Можам вярнуцца, калі хочаш.

— Класна! Пайшлі разам! І сабе што-небудзь купіш таксама! — загарэліся ў Сяргея вочы.

— Пайшлі, — пагадзіўся я.

Прараб Сяргей не марудзячы ні хвіліны панёсся да крамы. Мы з яго жонкай — наўздагон. У краме прараб прыціх і вопытным вокам паляўнічага за цікавосткамі агледзеў сувеніры. Піўныя куфлі стоўпіліся на верхняй паліцы ля акна. Сяргей рукой мацаў кубкі, абярэжна пагладжваў і прыдзірліва разглядаў кожны. Яго жонка спынілася ля ўвахода, неспакойна пагуляла рукой у капе рудых валасоў, скінула іх назад за плечы і застыла ў цярплівым, маўклівым чаканні. У краме акрамя нас больш нікога не было. У вязкай цішыні чуўся кожны шоргат. За касай стаілася прадавачка, маладая прывабная арабка. Галаву яе пакрывала атласнага бляску хустка-хіджаб, з двух бакоў ахоплівала выцягнуты авал твару і адмыслова завязвалася вакол шыі. Прадавачка-арабка забаўлялася мабільным тэлефонам, націскала кнопкі і разглядала выявы на экране, здавалася яна нас не заўважае. Ад няма чаго рабіць я пахадзіў сярод паліц, памацаў сувеніры, цацкі-забаўкі, амаль аднолькавыя ва ўсіх крамах. Сяргей ўхапіў у прарабскую

ўчэпістую руку вялікі піўны кубак. На яго вуснах заблукала ўсмешка.

— Нармальны кубак, — пахваліў я. — Такі, я б сказаў… неардынарны.

— І я прыкінуў, і адразу ацаніў… класная рэч! — Сяргей ў захапленні ўзняў кубак угару.

Па шчырасці, у чым палягала неардынарнасць выбранага сярод іншых кубка, я б патлумачыць не здолеў. Прарабава жонка з маўклівым скепсісам агледзела пасудзіну ў мужавых руках. Сяргей рашуча падступіўся да касы.

— Трыццаць пяць еўра, — сказала па-англійску арабка-прадавачка і з падробнай сціпласцю, нібы саромеючыся, зірнула з-пад чорных уразлёт броваў.

— Трыццаць пяць еўра?! — пульнула на яе маланкі з блакітных вачэй жонка прараба, абурана страсянула пажарам рудых валасоў. — За гэта?! — яна запнулася, не змагла падабраць патрэбнае слова, а можа, пасаромелася яго прамовіць. — Вы, пэўна, жартуеце?!

Арабка не зварухнулася, непрабівальна міла ўсміхалася яна ў адказ, крыху схіляючы набок твар, абкручаны хусткай.

Сяргей з некаторай разгубленасцю разглядаў кубак. На трыццаць пяць еўра гэта шклянка яўна не цягнула.

— Трэба зрабіць зніжку… вельмі дарага, — папрасіў я прадавачку па-англійску, капіруючы яе сціплую ўсмешку.

— Я не разумею, — паціснула плячамі арабка. Яна то апускала, то падымала вочы, гуляючы ў сарамлівасць і рабіла выгляд, што дрэнна мяне разумее. — Трыццаць пяць еўра, — настырна, з металам у голасе паўтарыла яна па-англійску.

Нейкім унутраным гандлярскім пачуццём яна ўлавіла, што можна за гэты кубак садраць з Сяргея добрыя грошы.

— Трыццаць пяць, — тужліва паглядзеў на жонку Сяргей.

Прадавачка-арабка данельга раздражняла жонку прараба, яна б даўно развярнулася і сышла з крамы нічога не купіўшы, але ж дзеля любімага мужа…

— Ды бяры ўжо, бяры! — махнула яна рукой і выйшла на вуліцу.

Да Сяргея вярнулася прарабская дзелавітасць. Ён вальяжна выцягнуў з пярэдняй кішэні джынсаў складзеныя напалам еўра, адлічыў трыццаць пяць і выклаў перад прадавачкай. Яна шпарка зграбла купюры ў маленькую сквапную далонь.

— Сэнкью, — сказала яна Сяргею, расквеціўшы вусны несапраўднай сціплай усмешкай, уторкнула піўны кубак у пакет і перадала ў прарабскую руку.

Сяргеева жонка чакала нас на вуліцы. Яна не жадала бачыць, як за простую шклянку аддаецца груд грошай.

З піўной кружкай у пакеце ўтраіх мы пацягнуліся па венскай вуліцы. Сяргей зіхацеў радасцю і часта пазіраў на пакет, што прыемна адцягваў руку сувенірным цяжарам. Гадзіны дзве мы боўталіся сярод натоўпу турыстаў па змораным спякотай горадзе і парадкам прытаміліся. Тэрмометр паказваў за трыццаць. Нарэшце група сабралася ля аўтобуса і нас павезлі абедаць у венскі рэстаран.

Рэстаран — гучала моцна. Хутчэй гэта было кафэ сярэдняй рукі, чысценькае і простае, без прэтэнзій. Сціплы інтэр’ер, лёгкія стулы з бліскучымі металічнымі трубчатымі ножкамі і гнутымі спінкамі. Сталы без абрусаў. Абед каштаваў 15 еўра, як і ў Будапешце, аднак будапешцкага раздолля з безліччу страў і напояў турысты тут не знайшлі. Кармілі парцыйна і ашчадна: першая страва, другая і салодкае на дэсерт. Афіцыянты, два дужыя, плячыстыя, спартыўнага целаскладу мужчыны, якіх па фізпадрыхтоўцы можна было смела залічваць у дэсантнікі, разносілі стравы па сталах. На-першае падалі суп, чачавіца з гарохам, даволі апетытны на смак, але ж нічога выбітнага, супчык як супчык. На другое — курыны шніцаль і гарнір з гародніны. На трэцяе — кавалак яблычнага пірага. Яблычная здоба не лезла ў горла, запіць не было чым, у кошт абеду напоі не ўваходзілі, давялося купіць шклянку кампоту за тры еўра. У выніку сціплы абед абышоуся ў 18 еўра. Нятанна, нават даражэй, чым у Венгрыі, дзе Гена ледзь не лопнуў ад з’едзенага. Экскурсавод Лена адабедала і няўлоўна знікла з рэстараннай залы ў падсобнае памяшканне. Яна вадзіла гешэфты з гаспадыняй рэстарана, кемлівая экскурсавод атрымлівала працэнт за тое, што даставіла

турыстаў на харчаванне менавіта ў гэту ўстанову. Камерцыя. Па чутках, што прайшлі сярод турыстаў, гаспадыняй венскага рэстарана была ўкраінка. Яе сын працаваў у рэстараннай зале. Зусім юны хлопец, увішны і руплівы, ён дапамагаў нетаропкім афіцыянтам-амбалам, стралой лётаў з талеркамі між сталоў, разносячы стравы. На выгляд яму было гадоў васямнаццаць. Чорныя падвіваючыяся валасы, кручкаваты нос, знешнасцю ён хутчэй нагадваў не украінца, а яўрэя. Але ж у хлопца быў тата, і ніхто не казаў, што ён таксама — украінец.

Я заўважыў, што Гена не абедаў з намі. Магчыма, ён сеў за іншы столік? Я прайшоўся вачамі па зале рэстарана, але не знайшоў яго. Я нават і не ведаў, куды ён падзеўся. Абед нам падалі смачны, аднак занадта дыетычны і без вінчыка. Відавочна, што Гену тут не было чаго рабіць і ён зэканоміў васямнаццаць еўра.…

У другой палове дня бліжэй да вечара мы з’ехалі ў Чэхію. Да гатэля ў невялікім чэшскім гарадку дабраліся пад ноч. Сонца знікла за небасхілам, і толькі невялікая светлая паласа наўздагон сонцу асвечвала край шарэючага неба з рэдкімі рванымі аблокамі. Ціхі і без таго правінцыйны гарадок засынаў, пагружаўся ў начны спакой. Аўтобус спыніўся ля гатэля. Турысты выгружалі рэчы з багажніка. Я выцягнуў сумку, прасунуўся між людзьмі, што напіралі за мной, імкнучыся хутчэй ухапіць свой багаж, адышоў убок, апусціў сумку на дол і агледзеўся. Даволі вялікі пяціпавярховы гатэль свяціўся вокнамі нумароў. Прасторная адкрытая тэрыторыя перад ім патанала ў зяляніне. Паўсюль раслі разнастайныя з густым кронамі маладыя моцныя дрэвы, роўнымі слупамі стаялі каланавідныя туі ля ўвахода, квітнелі клумбы з нізкімі фігурна высаджанымі кветкамі. Крыху паводдаль ля правага крыла гатэля дрэвы збіраліся ў купку, карагодам, пераплятаючыся галінамі, абкружалі невялікую штучную сажалку з застылай без адзінага плёскату вадой.

— Пасядзім вечаркам ля сажалкі? — спытаў у мяне бухгалтар Дзіма і расслаблена пераступіў доўгімі худымі нагамі.

Ён падышоў незаўважна і разам са мной разглядаў сажалку. За ім следам прытупала дробнымі крокамі жонка і ўслухоўвалася ў нашу размову.

— З задавальненнем, — адразу адгукнуўся я.

— То арганізуем кампанію… Дзе там Сяргей? — Бухгалтар азірнуўся, шукаючы праraба, яго вузкія бухгалтарскія плечы крутнуліся назад у паўабарота. — Сяргей, давай да нас! — прызыўна матнуў ён галавой.

Буйнацелы праraб Сяргей, падцягнуўся, грукочучы па асфальце чамаданам на колцах, расставіў шырока ногі ў пантофлях сорак пятага памеру і бадзёра запытаў:

— Якія планы на сённяшнюю ноч?

— Гуляць па горадзе не пойдзем, — хмыкнуў бухгалтар Дзіма, успамінаючы ўчарашні начны шпацыр па Будапешту. — Пасядзім пад дрэвамі на беразе возера, вунь яно рассцілаецца, — паказаў ён вачамі на малую сажалку між дрэў.

— Давайце праз гадзіну збяромся ля вады. Кожны штонебудзь прынясе выпіць і закусіць. Мы з Генам арганізуем наш членскі ўзнос. Так, Гена? — павярнуўся я да майго нязменнага таварыша.

Гена імгненна намаляваўся паблізу, нутром адчуваючы, што намячаецца гулянка. Дзве неверагодна раздзьмутыя сумкі паўсталі ля яго ног. Чаго толькі ён туды не запіхнуў, закупляючыся таварамі ў кожным горадзе.

— Арганізуем! — расправіў плечы Гена.

Заключыўшы дамову сустрэцца ля сажалкі, адзін за адным пашкандыбалі мы ў гатэль. Адміністратарка раздавала турыстам ключы, яны паспешліва іх забіралі і распаўзаліся з багажом па нумарах. Хутка фае апусцела. Я скеміў, што адміністратарка можа дапамагчы з арганізацыяй закускі, і пачаў па-англійску яе распытваць, дзе можна здабыць паесці з дастаўкай у гатэль. Заадно для мяне выдалася добрая нагода папрактыкавацца ў англійскай мове. Адміністратарка, маладая светлавалосая жанчына, ветлівая і словаахвотлівая, падтрымала размову і пачала разважаць, што б для нас прыдумаць, каб і смачна было паесці і нядорага. Нядрэнна ў яе атрымлівалася размаўляць на англійскай.

— Можа, піцу замовіць з дастаўкай? — прамовіла яна. — Ды не! — адразу перадумала.— Піца не вельмі ўдалы варыянт, дорага і нясмачна.

— Так, так, замовім піцу! — ўхапіўся я за прапанову.

«Якое там “смачна” на ноч гледзячы? — акінуў я вокам агаладалую каманду з чамаданамі і сумкамі, нецярпліва чакаўшую сканчэння перамоваў за маёй спінай. — Дзе я ім разнасолаў знайду? Было б выпіць і што-небудзь закусіць, і то добра».

— Бяром піцу? — спытаў я ў кампаньёнаў.

— Бяром, бяром! — дружнаazakівалі яны галовамі.

— Калі ласка, зрабіце нам замову.

— О’кей! — сказала адміністратарка, набрала нумар тэлефона і па-чэшску шпарка затарахцела ў трубку, выстрэльваючы словы роднай мовы як патроны з кулямётнай стужкі.

— Трэба крыху пачакаць, праз гадзіну піца будзе ў гатэлі, — вярнуўшыся да англійскай, стараючыся дасягнуць правільнага англійскага маўлення, каб казырнуць перада мной адукаванасцю, запаволена, нібы на паніжанай хуткасці паведаміла яна.

— Сэнкью, — падзякаваў я.

Можна было б і чэшска-беларускі дыялог зладзіць, абедзве мовы славянскага кораню, паразумеліся б, але ж мы з адміністратаркай пазабаўлялі сябе англійскай.

Прараб Сяргей з жонкай, Юра з жонкай і я з… Генам пацягнуліся ў нумары. Не паспелі пераступіць парог нумара, як Гена пляснуў раздзьмутыя сумкі на падлогу, растапыранай пяцярнёй закінуў калматую чупрыну назад і выдаў:

— Макс, давай па вінчыку!

Што ты будзеш з ім рабіць?

— Ладна, давай! — пагадзіўся я. — Толькі спачатку дай хоць у нумар усунуцца.

Я абмінуў Гену з яго валізамі, прызямліў маю кампактную невялікую сумку ля ложка і, прысеўшы на кукішкі, пачаў выцягваць з яе зубную пасту, шчотку, чыстую майку.

— Хоп-па! А вось і вінчык! — пачуўся энергічны вокліч за маёй спінай.

Я павярнуўся і стомлена прапоўз вачамі па Генавай бравай паставе. Гена заўзята перакідваў з рукі ў руку пакамечаную, спляжаную пластыкавую бутэльку з жаўтаватай вадкасцю ў сярэдзіне.

— Белае віно, — ганарыста патлумачыў ён.

«Дзе ён толькі здабывае гэтыя “шэдэўры” вінаробства?» — падумаў я.

Гена скруціў бутэлечны корак і борзда разліў віно па шклянках. Я ўзяў у руку шклянку з віном і з асцярогай зрабіў маленькі глыток. Віно апынулася надзіва смачным. Прыемны, крыху церпкі вінны водар крануў ноздры. Я выпіў не спяшаючыся, расцягваючы задавальненне. Гена махануў першую шклянку, потым другую і, павесялеўшы, бестурботна соўгаўся па нумару. «Мой пакет з прадуктамі застаўся ў аўтобусе, — успомніў я, паставіў пустую шклянку на тумбачку і паплёўся да дзвярэй. — Заспець бы кіроўцаў, калі іх не будзе ля аўтобуса, дзе я іх буду шукаць?»

Мне пашанцавала. На вуліцы насустрач джгаў адзін з двух, што рулілі ў дарозе па чарзе, кіроўцаў, доўгі як жэрдка хлопец з вузкім, аскетычным тварам.

— Добра, што я цябе заспеў, — перагарадзіў я яму шлях. — Адчыні аўтобус… разумееш, пакет у салоне забыўся… трэба забраць.

Кіроўца, без вялікай ахвоты, моўчкі развярнуўся і пайшоў да аўтобуса.

— Хадзі сюды, — паклікаў ён мяне да дзвярэй кабіны, адамкнуў іх ключом і расчыніў. — Залазь праз гэтыя дзверы… бо пасажырскія заблакаваныя.

Слова «заблакаваныя» падкрэслена важна прагучала з яго вуснаў.

Я няёмка палез па вадзіцельскім сядзенні, абмінуў рычагі каробкі перадач і апынуўся ў салоне. Двое ўваходных дзвярэй, якімі карысталіся пасажыры, былі туга счэпленыя вяроўкамі. Напятыя канцы вяровак цягнуліся ад дзвярэй упоперак салона да крэслаў і завязваліся за іх тугімі, моцнымі вузламі. Сістэма блакіроўкі. Занырваючы пад вяроўкамі, дабраўся я да свайго сядзення ў канцы аўтобуса, забраў пакунак з верхняй багажнай паліцы і тым жа шляхам вярнуўся назад. Пругка саскочыў з прыступкі на асфальт і спытаў у жардзяя:

— Навошта вы вяровак на дзверы панавязвалі?

— Ад злодзеяў, — коратка адказаў ён.

— А што, у Еўропе ёсць злодзеі? — іранічна спытаў я.
— Хапае…

У нумары я прывёў сябе ў парадак, прыняў душ, пераапрануўся. Гена з вільготнай пасля душа галавой сядзеў на ложку, закінуўшы нагу за нагу, і пацягваў вінчык.

— Бяры бутэльку, пайшлі да сажалкі, — скамандаваў я Гену.

Лёгкі на пад'ём, асабліва калі справа датычылася чаго-небудзь выпіць, закусіць, ён з гатоўнасцю падхапіўся з ложка і не марудзячы пашыбаваў з нумара, мне прыйшлося за ім пасяшацца.

Ля сажалкі на лаўках, размешчаных паўколам, сабралася гулянка, тут жа на лаўцы на міні-абрусіку, прыпасеным кімсьці з жанчын у дарогу, расклалі правіянт. І пляшка каньяку, і гарэлка, і бутэлька марачнага віна… і рэшткі Генавага таннага вінчыку ў напалову парожняй, спляжанай пластыкавай бутэльцы — выбар на любы густ. Бутэрброды з каўбасой і сырам, акуратна створаныя жаночымі рукамі жонак бухгалтара і прараба, гронка вінаграду, пячэнне, булачкі элегантна размясціліся вакол напояў, гэтакі фуршэт на вулічнай лаўцы «а-ля беларушан турыстс». Я прынёс са свайго загашніка нарэзаную вяндліну. Завяршала застольную кампазіцыю піца. Вялікі цёплы круг печанага цеста з мясной і памідорна-сырнай начынкай Сяргей разрэзаў на кавалкі, і яны астывалі на разадраным папяровым пакунку. Ля піцы гуртам цясніліся шклянкі, прыцягнутыя з гатэльных нумароў.

Па цёмнай, нерухомай вадзе ў сажалцы, уздымаючы над шэрымі грудкамі пляскатыя дзюбы, бязгучна плавала сямейства качак. Ціхая, летняя ноч. Вокны ў гатэлі патухлі. Далёкае святло ад ліхтароў далятала да лавак, да цёмнай сажалкі, дробнымі водбліскамі гуляла ў лісці дрэў і лёгкім паўсветам асвятляла наш банкет. Акрамя нас на вуліцы нікога не было. Задушэўна лілася нягучная бяседа. Прараб Сяргей час ад часу травіў анекдоты, і тады кампанія выбухала смехам.

— Цішэй, цішэй, — шыпелі на падпітых мужыкоў жанчыны і азіраліся на заснуўшы гатэль.

Гэтак мы прасядзелі да трох гадзін ночы. Гена добра наклюкаўся і напрыканцы гулянкі нёс поўную бязглуздзіцу:

урыўкі з жыцця ў сяле хаатычна перапляталіся з еўрапейскім падарожжам, бахвальствам і спробамі філасофстваваць. Сярод блытаных Генавых успамінаў нечакана ўрываліся згадкі пра начальніка, якога ён называў «гэты мудак», і тады Гена пачынаў буйна хвалявацца і нервова хадзіць узад-уперад.

— Вядзі Геніка спаць, пакуль чаго не адмачыў, — прабасіў да мяне прараб Сяргей.

Прыглядаць за Генікам зрабілася маім пачэсным абавязкам.

Сяргей роўненька падняўся з лаўкі, здавалася зусім не піў, моцна стаў на ногі, дужы і шыракаплечы. Хіба што яго выдавала залішняя балбатлівасць.

— А, во… яшчэ анекдот успомніў… — рагатнуў ён і ўзняў указальны палец.

— Хопіць ужо, — цыкнула на яго жонка. — Спаць пара.

— Хопіць дык хопіць, — адразу пагадзіўся Сяргей і схаваў указальны палец у далонь.

Усе паўставалі з лавак. Жанчыны прыбіралі пасля гулянкі, складалі ў пакет рэшткі былога піру і пляшкі з-пад спіртнога. Гена, хістаючыся, нешта няўцямнае плявузгаў у мяне пад вухам, а качкі ўсе гэтак жа ціха плавалі па сажалцы…

Раніцай адправіліся ў Прагу. Гена затаіўся на аўтобусным сядзенні, выгляд пасля ўчарашняга банкета меў пакамечаны. У мяне крыху балела галава. Ісці на ранішнюю экскурсію не было ніякага жадання, тым больш што экскурсія мелася адбыцца на ювелірным прадпрыемстве. Дыяменты, золата, срэбра, каштоўныя камяні і іх апрацоўка мяне не цікавілі. Я адмовіўся ад экскурсіі, і калі мы прыехалі ў мікрараён Прагі, дзе месцілася ювелірная вытворчасць, выйшаў з аўтобуса і адзін пайшоў гуляць па горадзе, а група паехала аглядаць золата і дыяменты.

Адзін у чужым горадзе — гэта пачуццё пакінула у мяне незабыўныя ўражанні. Напачатку некаторая насцярога да незнаёмага месца прымусіла сканцэнтравацца. Я прыглядаўся да наваколля вачамі разведчыка, нетаропка ішоў наперад, разглядаў мінакоў. Штосьці няўлоўна знаёмае бачылася мне. Пакрысе напруга адступала, і раптам мяне апанавала дзіўнае адчуванне, быццам я апынуўся ў хрушчоўскім раёне Мінска. Вакол стаялі адноль-

кавыя, нібы пад капірку зробленыя карабкі пяціпавярховікаў, а ў дварах раслі старыя дрэвы. Падобная на нашу забудова сацыялістычных часоў. «Квартал вуліцы Кнорына і Валгаградскай у Мінску», — падумалася мне. Было ў гэтым штосьці прыемнае і надзвычай роднае. Пазнавальны твар сацыялістычнага мінулага маёй радзімы, ты ўсміхнуўся мне за мяжой… Але гэта была ўсё ж такі Чэхія. Некаторы час я без мэты швэндаў па вуліцах. Прыпякала. Белы круг сонца высока над галавой плавіўся, распаляўся ў нябесным блакіце, духата падступала, захоплівала горад з самай раніцы. Па дарозе трапілася крама. Я зайшоў у аўтаматычна расчыненыя шкляныя дзверы пад шыльдай «Супермаркет», кандыцыянаванае паветра абдало прыемнай прахалодай. У глыбіні гандлёвай залы на паліцы, загрувашчанай напоямі, выбраў бутэльку вады без газу і няспешна паплёўся да касы, разглядаючы этыкетку. У маёй кішэні не мелася ніводнай чэшскай кроны, трэба было папытацца ў касіркі, ці возьме яна аплату ў еўра. Ля касы сабралася чарга з некалькіх чалавек. Я наблізіўся да чаргі, прыладзіўся ў хвасце і, выразна вымаўляючы словы, спытаў у касіркі па-англійску:

— Я магу заплаціць за бутэльку вады еўра?

Чэхі, што стаялі ў чарзе да касы, разам павярнуліся і паглядзелі на мяне. Відаць, англічане ў іх мікрараёне зроду не вадзіліся. Яны ўважліва разглядалі мае чарнявыя валасы, мускулістыя рукі пад кароткімі рукавамі майкі і нават летнія пантофлі на нагах. І я паглядзеў на мой абутак: нічога такія пантофлі, светлыя, са скурай ў дзірачку, каб ногі не пацелі. Касірка перапыніла пікаць касай і таксама пульнула ў мяне вачамі.

— Ес… о’кей, — прамовіла яна, пацвярджаючы, што возьме еўра, і павольна хітнула галавой, быццам не верачы, што дзіва яўлення англічаніна народу адбываецца ў краме.

Я, канечне, быў несапраўдны англічанін, але ж працягваў сябе за англічаніна выдаваць. Чарга расступілася, і мяне першым прапусцілі да касы.

— Сэнкью вэры матч, — ветліва падзякаваў я чэшскаму народу за тое, што прапусцілі без чаргі, аплаціў бутэльку вады і пашыбаваў да выхаду.

За маёй спінай адбывалася нямая сцэна. Я патыліцай і хрыбтом адчуваў на сабе праніклівыя пагляды месцічаў. «Хто гэта быў?!» — пыталася іх маўчанне…

Турыстычны аўтобус забраў мяне на тым самым месцы, дзе і высадзіў дзве гадзіны таму. Мы ехалі ў цэнтр Прагі, а Гена выхваляўся перада мной.

— Во глядзі, падарылі на ювелірным прадпрыемстве! — паказаў ён дробнае барвовае зярнятка гранатавага каменя, заціснутае між двух шурпатых пальцаў. — Каштоўны камень, бачыш… вось так, — задаволена прыцмокнуў ён языком. — Нам усім, хто быў на экскурсіі, раздалі задарма! — радаваўся Гена падарунку.

Кошт падарунка — максімум адзін еўра. Я адзіны застаўся неабдораным, аднак не вельмі сумаваў з той акалічнасці. Гена ж з задавальненнем разглядаў каменьчык.

— Што ты з гэтым каменем рабіць будзеш? — спытаў я.

— Жонцы падару, — летуценна прамовіў Гена і пакратаў зіхоткі каменьчык абскубаным пазногцем.

«Якіх тры дні таму чыхвосціў жонку, крыўдліва жаліўся мне, што грызла яго за “малую” зарплату ў дзевяць мільёнаў, а зараз упрыгожанні для яе нарыхтоўвае», — пасміхаўся я, гледзячы на танны каменьчык у яго руках.

Гена адшпіліў клапан накладной кішэні на штанах і ўкінуў унутр гранатавае зярнятка, адкінуўся на спінку крэсла і аддаўся меланхалічнаму задуменню. Укатаны доўгімі пераездамі падарожжа і штодзённым п’янствам, ён крыху звяў…

Экскурсія па Празе пачыналася з плошчы на ўзвышшы. Адсюль зверху, з абзорнай пляцоўкі адкрываўся захапляльны від на стары горад. Бясконцы россып чырвоных чашуйчатых чарапічных дахаў, яркіх у сонечным святле, рассцілаўся перад вачамі. Над дахамі то тут, то там узвышаліся вежы. Крывыя, вузкія брукаваныя вулачкі спускаліся ўніз з гары, заціснутыя між утульнымі старадаўнімі дамамі. Я стаяў на ўзвышшы і думаў, што гэты горад мне падабаецца, гэта той горад, куды б я хацеў вярнуцца. Голас экскурсавода далятаў да мяне нібы здалёк. Яна з імпэтам апавядала пра цяжкую, няпростую, напоўненую змаганнем гісторыю Чэхіі. Адтарабаніўшы курс па

чэшскай гісторыі, пражская экскурсавод, беларуска па паходжанні, з задавальненнем перайшла на тэму перапляцення ў вяках лёсаў беларускага і чэшскага народа: «Наш знакаміты зямляк, беларускі першадрукар Францыск Скарына са слаўнага горада Полацка ў Чэхіі больш вядомы як каралеўскі батанік. У канцы 1530-х гадоў ён прыняў пасаду каралеўскага батаніка чэшскага караля Фердынанда I Габсбурга…». Тут я зацікавіўся і даслухаў лекцыю да канца. Экскурсавод неўзабаве скончыла прамову на ўзвышшы і павяла турыстаў на дол, туды, дзе раскінуўся горад. Турысты раўчуком пацягнуліся за ёй. З гары, пакручаста спускаючыся ўніз, нас павяла вузкая вуліца. Зверху данізу ўздоўж вуліцы слаёным пірагом праглядаліся дамы, нібы накладаліся, навісалі адзін над адным каскадамі чырвоных дахаў. Старая няроўная брукаванка блішчэла пад нагамі гладкім адпаліраваным каменнем. Спусціліся на дол, і экскурсавод паскорыўшы крок, павяла нас у глыб старога горада.

Пасля экскурсіі турысты раздзяліліся. Невялікая купка склалася з аматараў самастойнага шпацыру, а нястомная бальшыня рынулася на дадатковыя платныя экскурсіі. Наўрад ці яны запомняць і дзясятую частку з таго, што пачуюць. У галаве ад бясконцых аповедаў зварыцца суцэльная каша. Вернуцца яны дамоў, спытай іх, што пачулі на экскурсіях, а ў адказ: «М-м-м… гэта… ну… там адзін кароль, не памятаю як яго звалі…» — Гена ішоў па веды ў першых шэрагах.

Група ўзначаленая экскурсаводам схлынула. Нас, вольных валацуг, засталося некалькі чалавек. Парачка з нашага аўтобуса, хлопец і дзяўчына, схаваліся ад сонца ў кароткі цень дома і азіраліся па баках, раздумваючы, у які бок накіравацца. Хлопец, паўнаваты, у кароткіх штанах-брыджах, высока падцягнутых на аб’ёмную талію, і ў майцы навыпуск, нагадваў Віні-Пуха. На яго круглым добразычлівым твары двума шкельцамі бліскалі акуляры. Віні-Пух у акулярах. Яго спадарожніцай была моцная, маладая дзяўчына, крыху няскладная, з вясковым тварам. З выгляду мае равеснікі і прыемныя людзі. Блукаць у адзіноце мне надакучыла, я накіраваўся да іх і на падыходзе прапанаваў:

— Рабяты, калі вы не супраць, давайце разам пашпацыруем па горадзе.

— Давай, канечне, за кампанію весялей! — адгукнуўся Віні-Пух. — Мяне завуць Юра.

— А мяне Света.

— А мяне — Максім, прыемна пазнаёміцца. І я падумваў дзе-небудзь перакусіць, — разважаў я услых.

— О! Так! Пара паабедаць, — круглы твар Юры асвяціла жаданне падсілкавацца.

— Тут можна па любой вуліцы пайсці і натрапіць на кафэ, кафэшак у гэтым горадзе поўна, — рэзонна заўважыў я.

Мы разам пакрочылі ўздоўж вуліцы, на хаду нязмушана балбочучы. Насустрач нам адзін за адным ішлі мінакі. Нягледзячы на спякоту, у цэнтры Прагі было поўна народу. Хутка дабраліся мы да скрыжавання, і з вуліцы праз арачны скразны праход я заўважыў адкрытае кафэ. Кафэ месцілася ў закрытым, цяністым дворыку. Праз арку мы праніклі ў дворык. Пад навесам стаялі шырокія, цяжкія, груба скроеныя, як у даўніну ў вясковых хатах, драўляныя сталы. Ад сталоў веяла духам старадаўняй Чэхіі. Па перыметры дворыка ля цагляных старых муроў зелянелі дрэвы, ствараючы атмасферу цяністага сада. Прыемна журчаў невялікі фантан, з тонкіх, высокіх струменяў распырскваючы дробныя, бліскучыя кроплі вады. Мы прыселі за драўляны стол, праз хвіліну з'явіўся афіцыянт, зрабілі замову чэшскіх нацыянальных страў. У хуткім часе перада мной на стале паўстала сапраўднае кулінарнае дзіва: на драўлянай дошцы, шырокай, дзесьці паўметра на паўметра, ляжала гара сакавітых, з кропелькамі тлушчу на падпечанай скарынцы, апетытна падрумяненых свіных скабак, пекныя акрайцы самапечанага хатняга хлеба і зеляніна. Побач на стол з рукі афіцыянта важка прызямліўся куфаль піва. Я зглынуў сліну. Шыкоўны абед! Юру са Светай прынеслі стравы, згатаваныя не менш каларытна.

У дворык зайшла сям'я настаўнікаў, географ з жонкай. Яны заўважылі нас і ўладкаваліся за суседнім столікам.

Я хутка апрыходаваў куфаль выдатнага чэшскага піва, бурштынам зіхацеўшага праз запацелае, празрыстае шкло. Мала-

вата. Замовіў яшчэ. Пад сытны, па-сялянску просты абед са свінымі скабкамі піва ішло за мілую душу. Напрыканцы абеду я прыкончыў трэці паўлітровы куфаль халоднага, гаркавата-салодкага пеннага напою. Шкада, з намі не было Гены, ён бы мной ганарыўся. Юра не адставаў і ёмка заліваў смачнае піўко ў аб'ёмны жывот Віні-Пуха. Света не змагла асіліць і палову куфаля. Нашай з Юрам любові да піва яна не падзяляла, зводзіла вусны ў кіслую складку і піла неахвотна, без смаку.

Пасля абеду настаўнікі падышлі да нашага стала і жонка географа, зірнуўшы паверх акуляраў, спытала:

— Пойдзеце рабіць аправу на гранатавы камень? Нам экскурсавод Лена сказала, дзе знаходзіцца ювелірная майстэрня. Рэкамендавала зайсці менавіта туды. Гэта дзесьці тут, непадалёку.

— Пойдзем, канечне! — з гатоўнасцю падхапілася з-за стала Света.

Я гранатавага каменя не меў, рабіць у ювелірнай майстэрні мне бадай не было чаго, але з цікаўнасці і за кампанію прыладзіўся да абдораных гранатавым каменнем турыстаў.

Ювелірная майстэрня сапраўды знаходзілася непадалёку. Мы даволі хутка яе знайшлі. Майстэрня ўяўляла сабой невялікі закануурак пры ўваходзе ў прасторную, напоўненую дзённым святлом ювелірную краму. У краме было надзвычай пуста і ціха. Усяго пара пакупнікоў моўчкі ўзіраліся ў вітрыну. Пад шклом вітрыны золатам і срэбрам зіхацелі разнастайныя пярсцёнкі, завушніцы, бранзалеты. Я налаштаваўся бліскануць англійскай мовай у размовах з ювелірамі, аднак не спатрэбілася. Усе як адзін супрацоўнікі крамы размаўлялі па-руску. Энергічная кабета ў кароткай цёмнай спадніцы і беласнежнай, вузкай, напятай на грудзях, глыбока расшпіленай для дэманстрацыі бюста блузцы нешта напаўголаса абмяркоўвала з ахоўнікам, і я заўважыў, што ў яе тыповае маскоўскае маўленне. Скончыўшы размову, яна павярнулася да нас і, нацягнуўшы вусны штучнай усмешкай, паведаміла:

— Рады вас вітаць, праходзьце, калі ласка! — і, спакваля зірнуўшы на гранатавы каменьчык у руках жонкі географа, аўтаматычна дадала: — Агранка каштуе пяць еўра, прайдзіце

ў гэтыя дзверы, — паказала рукой на ўваход у малы, бакавы пакойчык-заканурак у пачатку гандлёвай залы.

Географ з жонкай адразу адправіліся ў заканурак, Света з радаснымі вачамі, сціскаючы ў руцэ гранатавае зерне, мятлікам пырхнула за імі. Завяршаў працэсію Юра. Шаркаючы па падлозе шырокімі нібы лапці мужчынскімі басаножкамі, абутымі на босую нагу, пацягнуўся ён як за магнітам за Свецінай спадніцай у пакой да ювеліраў. Я прысеў на прадаўгаватую банкетку ля ўвахода. Амаль нячутнымі крокамі, нібы баючыся парушыць спакой над вітрынамі з каштоўнасцямі, перасекла залу, наблізілася да асавелага ад лайдачання ахоўніка другая супрацоўніца ювелірнай крамы і пачала ў яго нешта пытацца. Была яна бледнаскурая з бляклымі вейкамі і светлымі, дымнага адцення валасамі, яе рускае маўленне адрознівалася ад маскоўскай гаворкі папярэдняй энергічнай кабеты. Мне падумалася, можа быць, яна не з Расіі.

— Вы не з Расіі? — спытаў я з простай цікаўнасці.

Жанчына падазрона зыркнула на мяне і неахвотна, расцягваючы словы, адказала.

— Чаму не з Расіі? З Расіі я… З Чалябінска.

Чэшская ювелірная крама і майстэрня спрэс складалася з расіян. І з Масквы, і з Чалябінска.

У майстэрні-заканурку тым часам справы ішлі сваім парадкам. Літаральна за пару хвілін гранатавыя зярняты турыстам замянілі на гэткія ж каменьчыкі, але ўжо загадзя запаяныя ў танную агранку, стрэслі дваццаць еўра, па пяць еўра з кожнага, і адпрэчылі назад у залу.

— А астатнія з нашай групы… мы турысты з Мінска… астатнія да вас не прыходзілі рабіць агранку? — выпытваў я звесткі ў чалябінскай супрацоўніцы.

— А як жа… былі, былі… іх цэнтралізавана экскурсавод прыводзіла. Усім зрабілі агранку.

Экскурсавод Лена не губляла дарма часу, адзначылася і тут, атрымала свой працэнт за дастаўку турыстаў на апрацоўку да ювеліраў.

Я падсумаваў прыбытак майстэрні. Так званы «падарунак», бясплатны гранатавы каменьчык, быў звычайнай нажыўкай

і ў выніку кожнаму турысту абышоўся ў пяць еўра… за агранку, турыстаў каля сарака чалавек, кожны дзень пара-тройка такіх турыстычных груп з гранатавымі каменьчыкамі ў кулачках… перамнажаем, затым яшчэ раз перамнажаем на колькасць дзён у месяцы… Ваў! Нядрэнна атрымліваецца! Менеджарскія штучкі. Бясплатны сыр бывае толькі ў мышалоўцы. «Гэта бізнес, дзетка!» — дзе я чуў гэту фразу?

Рускія ювеліры ў чэшскай сталіцы падлічвалі выручку. Шчаслівыя турысты сціскалі ў руках аграненыя «бясплатныя» зярняты гранатавага каменя…

Увечары перад ад'ездам з чэшскай сталіцы ў Мінск турысты зрабілі налёт на шматпавярховы гандлёвы цэнтр, паўстаўшы пасярод Прагі на бойкім месцы. Слова «налёт» у поўнай меры адпавядала рэчаіснасці. Мінчане разляцеліся па паверхах вялікага заблытанага лабірынтам крамаў гандлёвага дома і з імпэтам закупляліся замежнымі таварамі. Шаленства закупаў. У мінскіх крамах тавараў удосталь, аднак, паддаўшыся агульнаму парыву, з асалодай і азартам набывалі яны рэчы, часам непатрэбныя, схопленыя з прылаўка пад гарачую руку, галоўнай і бадай адзінай адметнасцю якіх было тое, што яны прывезены з Еўропы. Для мяне ж паходы па крамах — найвялікшая нудота і стамляючая праца. Не маючы жарсці да пакупак і хваравітай маніі шапаголіка, я завітваю ў крамы з неахвотай, мяне напружваюць прадавачкі і ветлівыя, і абыякавыя, усе без разбору, стараюся хутчэй зрабіць пакупкі і выйсці на волю з палону рэчаў. У гандлёвым цэнтры я набыў некалькі бляшанак чэшскага піва і мініяцюрны кубак для кавы, размаляваны відамі прыгажуні Прагі. Рэшту часу правёў у чаканні астатніх турыстаў. Да прызначанага часу, закупіўшыся таварамі, народ гутарлівым натоўпам сабраўся вакол экскурсавода на плошчы перад гандлёвым цэнтрам.

— Здаецца, усе на месцы, — экскурсавод Лена стомлена і абыякава агледзела турыстаў, пад канец паездкі ўсе мы парадкам ёй надакучылі. — Прашу прайсці за мной да аўтобуса.

Аўтобус стаяў на паркоўцы на суседняй вуліцы.

— Гены няма! — выгукнуў я.

Турысты азірнуліся, шукаючы побач са мной Гену.

— Што будзем рабіць? Нам пара адпраўляцца, — заклапочана прамовіла экскурсавод.

— Давайце пачакаем, зараз прыйдзе, — прабасіў прараб Сяргей. — Некалькі хвілін і прыйдзе, куды ён дзенецца.

Ведаючы Гену, я не быў так аптымістычна налаштаваны.

Мінула паўгадзіны. Экскурсавод панура глядзела на гандлёвы цэнтр адкуль павінен быў з'явіцца зніклы турыст. Я непакоіўся, сам не ведаю чаму адчуваў унутраную адказнасць за гэтага вясковага цудзіка.

— Пайду ў гандлёвы цэнтр, пашукаю яго, — прамовіў я, не вельмі верачы ў поспех.

Экскурсавод згодна кіўнула:

— Ну што ж… схадзіце, пашукайце.

І я адзінока паплёўся да гандлёвага цэнтра. Як і прадчуваў, паход мой скончыўся нічым. Пасноўдаўся сярод натоўпу, угледаючыся ў твары, прайшоўся па гандлёвай зале, ад людзей пярэсціла ў вачах, яны ішлі, насоўваліся на мяне разнамаснай плынню, старыя і маладыя, мужчыны і жанчыны, худыя і падобныя на бачонкі з півам, з заклапочанымі тварамі і вясёлыя — розныя. Жэні сярод іх не было… З прыкрым, прыгнятаючым адчуваннем марнасці маіх намаганняў я вярнуўся назад у аўтобус.

— Яшчэ крыху пачакаем, — сказала экскурсавод, і я пачуў ноткі раздражнёнасці ў яе звычайна спакойным голасе… Мінула яшчэ паўгадзіны. Гаманіўшыя раней турысты прыціхлі ў чаканні. Экскурсавод зірнула на гадзіннік і голасам, уплятаючым у сябе адначасова і абурэнне і жаданне апраўдацца, сказала:

— Я маю поўнае права не чакаць больш. Было дакладна сказана, а якой гадзіне адпраўляецца аўтобус. Група не павінна выбівацца з графіка з-за аднаго чалавека. Не з'явіўся ў прызначаны час… што ж, будзе даганяць групу ці дабірацца дамоў сам.

Я ўявіў, як Гена будзе дабірацца сам, і мне бязмерна стала яго шкада. Я разумеў, што Гена не прапусціў час ад'езду па няўважлівасці, ён згубіўся ў бясконцых лабірынтах гандлёвага цэнтра.

— Можа, яшчэ раз пашукаем? — папрасіў я экскурсавода. — Давайце некалькі чалавек збяромся, разаб'ёмся на групы і прачэшам гандлёвы цэнтр.

— А як мы яго шукаць будзем? — прараб Сяргей скептычна прымружыў вочы і запытальна зірнуў на мяне.

— Ды лёгка! — ўсхвалявана успомніў я асабістыя прыкметы зніклага. — У яго на галаве чырвоная шапка з надпісам «Чэхія»!

Гэтую шапку Гена набыў адразу па прыездзе ў Прагу. Была яна нягеглая, высокім гаршком сядзела на галаве, аднак Гена шапкай захапляўся і вельмі цешыўся з пакупкі.

— Макс, я пайду з табой у гандлёвы цэнтр, — з гатоўнасцю рушыў да мяне бухгалтар Дзіма.

За ім пацягнуўся прараб Сяргей. Сумесная п'янка ў цесным калектыве яднае мужчын. Узгадаліся начныя пасядзелкі пад вокнамі гатэля ля сажалкі, дзе Гена быў цвіком праграмы.

Паправіўшы на круглым дабрадушным твары акуляры, да нас рашуча далучыўся Юра Віні-Пух. У сумеснай нашай з Генам папойцы ён не ўдзельнічаў, але ж быў спагадлівы і любіў дапамагаць.

Чацвёра мужчын-добраахвотнікаў згуртаванай камандай рушылі на пошукі зніклага турыста. Хуткім крокам мы наблізіліся да ўвахода ў гандлёвы цэнтр і там, пры ўваходзе, адчуўшы сябе пошукавай экспедыцыяй, склалі план дзеянняў. Было вырашана разбіцца на дзве групы па два чалавекі, разысціся ў розныя бакі, зрабіць як мага большы ахоп гандлёвых плошчаў, агледзець правае і левае крыло будынка і праз дваццаць хвілін зноў сустрэцца ля ўвахода. Папарна пашуравалі мы ў розныя бакі. Няўмольна бег час, я пазіраў на гадзіннік. Мінула пяць хвілін, дзесяць, пятнаццаць… Трэба было вяртацца і тут… сярод натоўпу мільганула чырвоная шапка. Я застыў на месцы, прыгледзеўся… Так і ёсць! Гена! Я сарваўся з месца і подбегам, віхляючы ў плыні наведвальнікаў гандлёвага цэнтра, прыпусціў да яго, баючыся, каб ён зноў не знік.

Гена ашалела азіраўся навокал, вочы, напоўненыя жахам, ліхаманкава блішчэлі, моцныя мужчынскія рукі дробна, перарывіста дрыжэлі, то заціхалі, то зноў пачыналі трусіцца. Зблізку

я ўбачыў, як трапечуць нягнуткія пальцы ў дробных чорных трэшчынах — адна рука бязвольна звісала ўздоўж цела, другой ён ледзь трымаў пакет, напоўнены пакупкамі, здавалася, пальцы вось-вось расціснуцца і пакет вываліцца з рукі. Казырок шапкі бездапаможна збіўся на бок над прыліплымі да вільготнага ілба валасамі. Па спалоханым, збялелым твары струменіў пот.

— Усё нармальна, Гена, не хвалюйся, зараз паедзем дадому, — як мага лагодней, каб яго супакоіць, сказаў я амаль непрытомнаму Гену.

— Я заблукаў… я заблукаў… я не ведаў, як адсюль выйсці! — здушана вырываліся з Гены словы, ён не да канца верыў, што жахі скончыліся і яго знайшлі, што побач людзі, якія дапамогуць, адвядуць яго да аўтобуса.

— Ідзём, — дакрануўся я да Генавага пляча.

Гена скрануўся з месца, зрабіў няўпэўнены крок. Спачатку ступаў павольна, перастаўляючы непаслухмяныя ногі нібы робат, потым хутчэй, хутчэй, нарэшце да яго вярнулася прытомнасць і ён віхурай прыпусціў наперад. Бадзёрай тройкай, Гена пад вартай целаахоўнікаў, выйшлі мы да дзвярэй гандлёвага цэнтра. Там нас чакалі астатнія двое пашукавікоў…

Спякотны, стамляючы дзень сыходзіў, забіраў з сабой расплаўленае сонца, сонечны круг няспешна спускаўся да небасхілу. Вечарэла. Кіроўцы курылі перад аўтобусным зашклёным фасадам, пускалі ў паветра дымныя сцежкі. Да аўтобуса купкамі падцягваліся турысты. Некаторыя ішлі з лёгкімі пакункамі, круцячы ў руцэ сувенірную забаўку, іншыя цягнулі нагружаныя пакупкамі цяжкія сумкі. Ля багажнага аддзялення было шматлюдна, у расчыненае зеўра запіхвалі набыткі з гандлёвага цэнтра.

— Так… усе сабраліся? Праз пяць хвілін адпраўляемся! — зычна, камандным голасам выгукнула экскурсавод Лена.

— Вунь яшчэ два чалавекі ідуць, — прамовіла адна з турыстак.

Дзве маладыя дзяўчыны прыспешылі хаду, задыханыя падляцелі да аўтобуса і запіхнулі ў багажнік сумку з набыткамі. Кіроўца ёмка пляснуў крышкай багажнага аддзела. Аўтобус гатовы да адпраўкі. Гуд бай, Еўропа!

Ноч, стамляючую і амаль бяссонную, правялі ў аўтобусе, затым ехалі цэлы дзень. Вярталіся на радзіму праз мяжу з Польшчай. На памежным пераходзе экскурсавод неабачліва прамовіла згадку аб бяспошлінным гандлі ў крамах «Д'юці Фры». Гену падняло з сядзення і панесла ў «Д'юці Фры». Назад ён вяртаўся з пакупкамі і храмы. Падвярнуў нагу.

Пасля палудня прамінулі брэсцкую мытню, прамінулі горад Брэст і выехалі на трасу. Родныя, знаёмыя пейзажы паплылі за аконнымі шыбамі. Здаецца і не былі ў Еўропе, але ж засталіся ўспаміны.

Бліжэй да вечара на гарызонце намаляваліся абрысы роднай сталіцы.

Гена падцягнуў калашыну штаноў пад самае калена і агледзеў валасатую лытку на храмой назе:

— Нага апухла… бляха, — прамармытаў заклапочана, лоб яго на імгненне спахмурнеў.

— Баліць? — спытаў я з цікаўнасцю доктара-траўматолага.

— Ат, нічога страшнага. Хутка загаіцца! — падбадзёрыўся Гена, апусціў калашыну на распухлую лытку, расслаблена адкінуўся на спінку крэсла і пачаў выбудоўваць планы на будучыню: — Трэба жонку з братам у Еўропу звазіць. Я цяпер Еўропу добра ведаю, — самаўпэўнена выхваляўся ён перада мной. — Што яны ў сяле бачылі?! Зважу іх за мяжу, хоць на свет паглядзяць. Са мной не прападуць!

Я зірнуў на майго вясковага сябра і ўявіў тройцу ў Еўропе: Гена, яго жонка і брат. Вясёленькае будзе падарожжа, але гэта зусім іншая гісторыя.

# ЗМЕСТ

*Літаратурна-мастацкае выданне*

**Доля** Зоя Уладзіміраўна

**АКНО Ў ЗАМЕЖЖА**

*Кніга прозы*

Адказны за выпуск *Генадзь Вінярскі*
Рэдактар *Віктар Іваноў*
Камп’ютарная вёрстка *Ларысы Гарадзецкай*
Карэктар *Віктар Іваноў*

Падпісана да друку 24.12.2015. Фармат 84x108 $^{1}/_{32}$.
Папера афсетная. Рызаграфія.
Ум. друк. арк. 14,49. Ул.-выд. арк. 12,67.
Наклад 350 ас. Зак. 548.

ПУП «Кнігазбор».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы, распаўсюдніка друкаваных выданняў № 1/377 ад 27.06.2014.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
**Тэл./факс (017) 207-62-33, тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.**
E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка ў ААТ «Аргбуд».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы, распаўсюдніка друкаваных выданняў № 2/167 ад 01.10.2014.
Вул. Берасцянская, 16, 220034, Мінск.